# ВЯЗЬМО

РОМАН

МІХАСЬ ЗАРЭЦКІ

Д.В.Б. ЛІМ 1932

МІХАСЬ ЗАРЭЦКІ

# ВЯЗЬМО

РОМАН



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ЛіМ МЕНСК—1932

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

1 Надвячоркам, як ужо добра зашарэла ў хацёнцы, Галілей бордзенька саскочыў з печы, увамкнуў сьвятло свае саматужнае электрычнасьці і вострым руплівым вокам азірнуў начыньне. Але зараз-жа, мабыць раптоўна наважыўшы нешта, ён зноў загасіў электрычнасьць, гукнуў Босага і вышаў на вуліцу. Па вуліцы ён, як зазвычай, ня йшоў, а бег трушком, дробна падкідаючы ўсё сваё хударлявае тулава. І так сама, як ён, дробна трусіўся сьледам за ім яго неразлучны калматы таварыш.

Так дабег Галілей да памяшканьня местачковае сямігодкі. Босага ён, не ўважаючы на яго жаласны протэст, пакінуў у цёмных халодных сенцах, а сам асьцярожна прачыніў дзьверы ў кватэру загадчыка сямігодкі.

Марына Паўлаўна стаяла, укленчыўшы на канапе, перад акном—роўна, нярухома, як на шчырым маленьні, і ўзіралася ў сіні вечаровы змрок. Як вайшоў Галілей, яна страпянулася, быццам спалохалася, каб ня ўступіў хто ў кола яе вольна раскінутых на самоце думак, саскочыла долу і села, стуліўшыся, у куточку канапы.

Галілей непакойна тупаў у парозе і раз-по-раз стрымана кашляў.

— Можа сьвятло запаліць, дзядзька Ахрэм?

— Кхе... кхе... вось зараз скончу сваю работу, дык зраблю электрычнасьць вам, Марына Паўлаўна... ветрачок, як у мяне...

— Пакуль што я запалю лямпу. Сядайце, калі ласка.

Галілей падышоў бліжэй, але астаўся стаяць—сядзець ён ня любіў.

Марына Паўлаўна запаліла сьвятло, і яно цьмяна азарыла твар яе, стараваты ўжо, зьбляклы, з бясьцьветнымі вачмі, у пустэчы якіх правальваліся ўсе захаваныя думкі яе і адчуваньні.

Галілеева барадзёнка затрэслася ў спагадлівай турбоце. І каб разьвеяць Марыне Паўлаўне яе глухую немарасьць, ён—аб чым-жа больш?—зачаў гаварыць аб сваім вынаходніцтве.

— Усё з печкай вэдзгаюся, Марына Паўлаўна... ага... Цыркулярная печка... цыркуляцыя, значыцца, духу... ага... Дый карціць мне, каб як бяз дыму. Дым цяплыню з хаты выносіць, дык каб затрымаць яе..

Марына Паўлаўна ледзь прыметна ўсьміхнулася.

— Як-жа гэта бяз дыму, дзядзька Ахрэм? Бяз дыму-ж агню ня бывае.

Галілей замітусіўся па хаце.

— Вось так... Вось гэтак... Адсюль—сюды... Адтуль—туды...

Марына Паўлаўна ўдалася ў свае патаемныя думы. Пад Галілееву мітусяніну думалася лягчэй і спакайней—думкі ішлі больш практычныя, хатнія.

— Ага... вось так... Зразумелі, Марына Паўлаўна?

Марына Паўлаўна не зразумела нічога, але троху супакоілася і, замест адказу, раптам загаварыла—зусім вольна, адкрыта—пра сваё.

— Што мне рабіць, дзядзька Ахрэм? Ці мне самой скончыць усё, ці чакаць, мо' ўладзіцца неяк, мо' мінецца гэта ў яго... Яму ўжо пад сорак, вы ведаеце? Унас-жа зусім дарослая дачка. Мы дзевятнаццаць год, як жанатыя... Як гэта разумець, дзядзька Ахрэм? Што рабіць?

Галілей стуліўся ў настарожанай гатоўнасьці разьвязаць цяжкую проблему Марыны Паўлаўны. Ён захапляўся кожнай проблемай, якая траплялася на ягоным жыцьцёвым шляху—усёроўна, ці мела яна непасрэднае да яго дачыненьне, ці не—і з роўнай стараннасьцю біўся над яе разьвязаньнем. Такі ўжо быў Галілееў характар! Цяпер ён бяз ніякага жалю кінуў свае разважаньні аб цыркулярнай бяздымнай печы і ўраз працяўся турботаю Марыны Паўлаўны.

— Кхе... кхе... Тут трэба памеркаваць, Марына Паўлаўна... Апошняе каханьне бывае моцнае, дужа моцнае... І дурное. Стары дурней за маладога хлопца кахае... ага... Ды яшчэ і сьвет цяпер лёгкі пашоў... Вальготны цяпер сьвет для чалавечай душы. Гэткім сьветам—няма чалавеку ніякага ўёму.

— Я-ж ня трымаю яго, дзядзька Ахрэм. Ён сам ня хоча кідаць мяне.

— Пэўна, што ня хоча. Тут трэба памеркаваць... Ня хоча, бо да старое ласкі прывык, да абыходу. А і новае загарэлася. Вось і ламаецца чалавек.

— Праўда, што цяжка яму бывае таксама.

Галілей раптам замуляўся, закхекаў, затупаў непакойна на месцы. Значыць, меў сказаць нешта для яе важнае, нясьцерпнае.

— Я мяркую так, Марына Паўлаўна. Усё ламаецца, дык і чалавек мусіць ламацца. Ня ў тым, дык ў тым... Раз ператруска ўсяму... ўсяму ператруска...

Ён ступіў крок наперад і ў нэрвовай пасьпешнасьці зашаптаў:

— Да душы-ж, усё ламаецца, Марына Паўлаўна. Нешта будзе, нешта будзе. Мажа новая рэволюцыя ідзе... Я яшчэ ня ведаю, ня ўцямлю ніяк. Думаю, думаю, а не надумаю нічагуткі. Як вы ўважаеце, Марына Паўлаўна? У які бок гэта пойдзе?

Марына Паўлаўна млява адмахнулася:

— Ня ведаю я, дзядзька Ахрэм. Пагаманіце з Сымонам, ён добра знаецца ў гэтым ува ўсім.

Галілей чамусьці спалохаўся.

— Добра, добра я пагаманю з ім, я пагаманю...

І адчужана змоўк. І Марына Паўлаўна сядзела моўчкі—неяк было ўзьнімаць зноў гутарку пра сваё. Галілей яшчэ троху патупаў ды пашоў на кухню аглядаць зробленую ім па адумысловай сыстэме спэцыяльна для Марыны Паўлаўны сушыльню.

Неўзабаве з надворку грукнулі дзьверы, па кухні разьляглiся шумныя мужчынскія крокі, і ў пакой увашоў муж Марыны Паўлаўны, загадчык сямігодкі Сымон Карызна. І зараз-жа зноў—ужо ціхенька—ляпнулі дзьверы і з сянец пачулася, як Галілей клікаў Босага.

Сымон Карызна скінуў на крэсла зашаранелую хутру і прайшоўся туды і сюды па пакою, тручы скалелыя рукі.

— Мароз аж трашчыць. Зусім адубеў.

— Я наставіла самавар—зараз будзе гатоў.

І замоўклі абое.

Карызна хадзіў ды хадзіў па пакою, удаючы, што ніяк ня можа сагрэцца. А Марына Паўлаўна ведала, прывёз ён з сабой з раёну нейкае новае ўзрушэньне, і карціць яму выказаць яго каму-небудзь, а ёй ня можа: цеперся ўжо парвалася паміж іх сяброўская блізкасьць. Хоць і ня злуюць адзін на аднаго, хоць і цёплая ласка ўзгарыцца, зацьмее часамі, а нутро адкрыць адно аднаму—нейкі прыкры, мулкі сорам.

У Марыны Паўлаўны сэрца зьнібіць тупым жалем. З якой-бы радасьцю падзяліла яна ягонае ўзрушэньне, ягоную радасьць ці смутак, усё роўна. А ён ня бачыць гэтага ў ёй—правалілася ўсё ў пустэчы бясьцьветных вачэй—і балазе, што ня бачыць: было-б, пэўна, цяжэй і яму і ёй

Карызна, п'ючы чай, відочна сьпяшаецца. І на твары ў яго адбіваецца ўжо добра знаёмае Марыне Паўлаўне турботнае замяшаньне: ён зараз устане, з удаванай злоснай рашучасьцю апранецца і пойдзе наўмысна гучнымі размашыстымі крокамі.

Марына Паўлаўна ведае, куды ён пойдзе. Яна тады ўкленчыць на сваёй аблюбёнай канапе і будзе доўга-доўга ўзірацца ў заваконную цемру.

## 2

Сымон Карызна, як сакратар сельсавецкае ячэйкі, езьдзіў у раён на пленум райкому партыі, і ўзрушэньне, якое панёс ён ад свае жонкі, было агульнае ўзрушэньне ўсяго колектыву—добрае, бадзёрае ўзрушэньне—імпульс да новае пладатворнае працы..

У вострай, троху бязладнай і троху ўрачыстай сумятні раёну, у неабыкла напружаным ходзе пасяджэньняў пленуму, у праявах па-баявому адкрытай дружнасьці паміж усіх партыйцаў—пачуў Карызна новы павеў нязгаснае рэволюцыі, якая праз

спакойныя гоні аднаўленчае працы падышла да апошняга штурму старога сьвету. І з сакавітаю свежасьцю ўзьнялося ў Карызны даўнейшае, астоенае карпатлівымі днямі апошніх гадоў: імклівае парываньне наперад, лёгкая ўзьнятасьць і ўпарты, троху гульлівы задор.

Ён чуў, што ў рэспубліцы зачынаецца новая баявая эра.

Сакратар райкому ў сваім дакладзе гаварыў пра вялікі пералом, пра рэконструкцыю, пра рэволюцыйную пераробку вёскі, пра героічны энтузыязм будаўніцтва. Сакратар райкому—з выгляду зусім нязначны чалавек, хударлявы, твар смарчкаваты, нос хоць і даўгі, але ня надта паважны. Вялікія словы ўзьнімалі сакратара райкому, надавалі яму больш сталасьці і разам з тым раскрывалі яго; нават троху дзіўна было, што ў нутры гэтага ціхага чалавека столькі стрыманае сілы, энэргіі і запалу.

Карызна памятае, як усяго месяцы з тры таму прыехаў быў у іхны раён таварыш Гайдук. Карызна сядзеў тады акурат у габінэце Рачкоўскага, старшыні РВК. Старшыня РВК, прысядзісты камляваты мужчына з размашыстымі рухамі і грымотным голасам, перш не зважаў зусім на несамавітага наведніка (даўгі пашарпаны кажух, маргелка на галаве, на нагах—грамоздныя боты), потым павёў па ім сярдзіта-дзелавым поглядам і прагрымеў:

— У вас якая справа, таварыш?

І калі той паказаў свае паперы, ён не схаваў свайго шчырага зьдзіўленьня:

— Дык значыць вы—Гайдук?

Гайдук прыехаў быў проста з партыйных курсаў, і ў яго ня было ніводнага чамадана, ніводнае скрыні. Той першы дзень ён аж да цямна праседзеў у габінэце старшыні РВК, і калі нарэшце старшыня запытаў у яго:

— Дзе-ж вашы рэчы?

Ён ціха і спакойна адказаў:

— Мае рэчы вось у портфэлі і ў гэтым клумку. А начаваць я, мабыць, пайду да цябе, старшыня.—Мы яшчэ сёе-тое абмяркуем сягоньня.

Рачкоўскі і Гайдук цалкам дапаўнялі адзін аднаго. Гайдук быў спакойна разважны, строга лёгічны, Рачкоўскі—адрыўчаты, інтуіцыйны. Гайдук быў паступовы і роўны, Рачкоўскі—напорны імклівы. Гайдук знаходзіў і цьвёрда трымаў лінію ў працы раёну, Рачкоўскі абарачаў яе у энэргійна ўдарнае дзеяньне. Заўсёды, як абмяркоўвалі тую ці іншую справу, праводзіў сваю думку Гайдук—так павялося ад першых дзён ягонага прыезду,—але Рачкоўскі скрозь быў упэўнены, што тон дае ён, што ўсё робіцца па ягонану меркаваньню. І кожны раз, як Гайдук рабіў якую трапную пропозыцыю, Рачкоўскі нязьменна ўзіраўся ў яго з шчырым зьдзіўленьнем, быццам казаў сам сабе:

— Бач ты, і ён часам можа людзкае нешта прыдумаць.

На гэтым пленуме лёгічна выразны, мерны (хоць і падкрэсьлены нутраным стрыманым агнём) даклад сакратара райкому

дапоўніў Рачкоўскі сваім, як зазвычай, нязграбным, важкім, насычаным грубою воляю выступленьнем. І цяжка сказаць, хто з іх больш узьняў у прысутных той непакойна імклівы настрой, які разам з іншымі захапіў і Карызну.

У перапынку астаўся быў неяк Карызна адзін-на-адзін у габінэце з Рачкоўскім. Той парыўчата прайшоўся разы са два па пакою (ідучы ён перавальваўся, як качка), потым стаў за сталом, пацёр энэргійна рукі, абапёрся імі аб стол і, нахіліўшы над сталом сваё цяжкое тулава, многазначна ўпяўся вачмі ў Карызну:

— Ну, браце, як?.. Кумекаеш, га?..

Карызну стала надзвычай лёгка і весела. Ён з маху лэпнуў Рачкоўскага па мясёным плячы і, радасна сьмяючыся, казаў:

— Разумею, браце, на ўсе сто процантаў.

— Прыдзецца нам, Сымонка, з табой бадай што ўвесь сьвет перавярнуць... га?.. Праўду я кажу, ці не?

— Ці дзіва, што перавернем. Аж затрашчыць.

І тады Рачкоўскі, важка адкінуўшыся назад, нечакана зарагатаў магутным раздольным сьмехам. Потым суняўся, падышоў да Карызны і самадавольна падміргнуў:

— Сакратара-б яшчэ мне... га?

І лёгенька тыркануў Карызну пад бок. Карызна прамычэў нешта нявыразнае. Ён ведаў, што Рачкоўскі гэта—так сабе, з форсу, што ён Гайдуком цалком здаволены.

Карызна падабаў Рачкоўскага і сябраваў з ім. Яны ці мала год працавалі разам з ім і тут, у гэтым раёне, і яшчэ там, дзе Карызна раней быў за настаўніка. Бадай што ў адну пару яны й пераехалі сюды, у гэты раён. Зьвязвала іх аднаго з адным, апроч спраў службовых ды партыйных, яшчэ многа чаго інтымнага, пра што ўспаміналі часам яны нібы з сарамлівай, але ў сутнасьці прыемнай і давольнай усьмешкай.

На пленуме райкому было некалькі новых незнаёмых таварышоў, што прыехалі з цэнтру дапамагаць мясцовым працаўніком перабудоўваць вёску. Адзін з гэтых брыгадзіраў чамусьці зьвярнуў асаблівую ўвагу на Карызну. Ён доўга прыглядаўся да яго, бадай што хадзіў сьледам за ім, а тады падышоў і запытаўся:

— Дык гэта вы—Сымон Карызна?

І адкрыта глядзеў на яго нято наіўнымі, нято хітраватымі вачмі.

Карызна зьдзівіўся.

— Чаму вы пытаецеся?

Замест адказу той загадкава ўсьміхнуўся і ня кідаў з цікавасьцю разглядаць Карызну. Карызна зноў запытаў:

— Мы можа дзе сустракаліся? Вы мяне знаеце?

Брыгадзір унікліва і нявыразна матнуў галавой (—можа й знаю, але ня будзем пра гэта гаварыць—) і, занядбаўшы Карызнава запытаньне, стаў дапытвацца пра стан работы ў Карызнавай ячэйцы.

Звалі брыгадзіра таго — Зелянюк, і быў ён зусім малады яшчэ хлопец, тонкі, драбнявы, але ня малы, з досыць прыгожым, толькі залішне бледым і рэзкім тварам.

Як Карызна садзіўся ўжо ехаць дахаты, Зелянюк гукнуў яго ад дзьвярэй раўкому вясёлым падзяцінаму звонкім голасам:

— Чакай, Карызна! чакай!

І падбегшы, з маху кінуўся ў розвальні.

— А я ўсё-ж такі да цябе еду, у тваю ячэйку. Папрацуем разам, га?

І вальготна пасунуўшыся на сядзеньні, ёмка штурхануў Карызну пад бок.

Дарогай яны многа аб чым перагаварылі, але Карызна, недаверлівы і сьцеражлівы, трымаў скрозь дзелавы, пагадліва-ласкавы тон, не ўпадаючы ў асаблівую гаварлівасьць. Нават сваё ўзрушэньне, узьнятае пленумам, ён чамусьці стараўся сьціскаць у сабе, не даваў яму выйсьця.

А Зелянюк аб усім дапытваўся, аб усім дазнаваўся, ані не хаваючы і не саромячыся свайго нязнайства ў драбніцах вясковага жыцьця. Што далей, то ўсё больш і больш ён браў да свайго спадарожніка заўзята пабрацімскі, нават троху нахабны тон. І паміж гутаркі ўсё разглядаў яго, раз-по-раз усьміхаючыся сваёй загадкавай усьмешкай.

Карызну гэта ня зусім падабалася.

## 3

Социяльнае паходжаньне ў Веры Засуліч было несамавітае: яна роджана была ў сям'і сядзельца з „казённой винной лавки". Гэта часам няпрыемна турбавала яе дасканала-шчырае сумленьне, але ў роспач з гэтага яна не ўпадала, а, наадварот, праціналася яшчэ мацнейшым імкненьнем да працы над сабой, да найглыбейшага ўкараненьня ў плодную глебу сучаснасьці. І трэба сказаць, што сярод усіх местачковых настаўніц яна лічылася за самую актыўную, палітычна пісьменную, энэргійную, спраўную і чулую да грамадзкага жыцьця працаўніцу.

Росту яна была сярэдняга (можа трошачку нават ніжэй), у фігуры — стройная, твар мела белы з вялікімі ня то цёмнакарымі, ня то чорнымі вачмі. Апранута была заўсёды чыста і сьціпла, без надужываньня спакусьлівымі аксэсуарамі местачковых мод. Таму ў жанчын і ў павярхоўных кавалераў аўторытэту ня мела, але сур'ёзным людзям падабалася і за два гады жыцьця ў мястэчку набыла ці мала па-рыцарску адданых прыхільнікаў, сярод якіх першае месца бясспрэчна займаў загадчык сямігодкі Сымон Карызна.

Галілей меў рацыю, як гаварыў, што стары кахае дурней за маладога. Сымон Карызна сапраўды кахаў Веру Засуліч дзівачным каханьнем хлапца-падлетка, топячы сваё бяз малага сорак год у сьвежых хвалях зусім юнацкага захапленьня. Таму мо' й чуў сябе ён так сьмела і незалежна перад Марынай

Паўлаўнай, што ў сваім пачуцьці да Веры бачыў нешта вышэйшае за звычайнага сьцёртага і забруджанага практыкай год поцягу да жанчыны.

Сымон Карызна ідэалізаваў Веру Засуліч. Ён лічыў яе за сучасную жанчыну ў праўдзівым разуменьні гэтага слова, за жанчыну-таварыша, мала што не за героя. І сьмех сказаць!— але ў гэтым грала пэўную ролю дзіўнае Верына прозьвішча, якое страшэнна імпонавала Сымону Карызну, быццам кідала яно нейкі романтычна-сьветлы сьлед на яе ад тае славутае рэволюцыянэркі.

Невялічкі пакой у новым будынку пачатковае школы— у будынку спраўным, чыстым і сьветлым, як сама Вера Засуліч, быў для Сымона Карызны месцам цудоўнагўа адпачынку. Сюды нёс ён заўсёды ўсе ўзрушэньні свае душы, сваю радасьць, свой смутак, свае надзеі і сумненьні. Тут перажываў ён хвіліны таго дзівоснага трымценьня нэрваў—лёгкага і мэлёдычнага, у слодычы якога раставалі яго бяз малага сорак год, адкрываючы ў ім юнацкую сьвежасьць.

Вядомая рэч, што ўсё гэта ён пільна хаваў у сабе ў нутры. Вядомая рэч, што гэтага звонку зусім ня відаць было. І вядомая рэч, што сама Вера Засуліч аб гэтым ані не дагадвалася.

...Вышаўшы з хаты ў наўмысна-распаленай злоснай рашучасьці і грукнуўшы нават дзьвярмі (як зразумела ўсё гэта Марыне Паўлаўне), Карызна перш-на-перш суняўся і з палёгкаю ўздыхнуў. Потым з хвіліну прыстоіўшы на месцы, задуменна схіліў галаву і спакваля пасунуў па вуліцы. Але зараз-жа крокі яго пашыбчэлі, і ён, неўзаметку для самога сябе, пачаў сьпяшацца.

У Веры людзі: Віктар—сакратар комсамольскай ячэйкі, аптэкар Плакс—ён-жа кіраўнік тутэйшага дармгуртка і мястачковы філёзоф,—яшчэ настаўнік адзін і настаўніца. Ля парогу муляецца Галілей.

Гэта добра, што людзі. Карызну трэба нарэшце выліць сваё ўзрушэньне, і таварыства тут надзвычай прыдатнае да гэтае мэты. Ён скарыстаў паўзу, якая занялася па ягоным уваходзе, і зьвярнуўся да Віктара ў стрыманым тоне, скрозь які, аднак, прабівалася нутраная напружанасьць:

— Заўтра, Віктар, зьбяры сваю комсамолію—паставім пытаньне пра колектывізацыю. Удзень будзе партыйны сход— ты свой прызначыш на вечар.

Ён габарыў бадай што сярдзіта, хоць унутры было ясна і радасна,

— Мы мала зважаем на гэта. У нас яно—так сабе: ідзе, дык і ідзе. Так далей быць ня можа.

У Віктара ў адкрытых дзяціных вачох загарэлася палкая цікавасьць: нешта новае і важнае прывёз сакратар з раёну, раз пачаў гаварыць у гэтакім тоне. І ён як мага супіў бровы, каб затуліць вясёлую бязрупатную ўсьмешку, сьлед перарванае Карызнам гутаркі.

— Добра, я зьбяру. У нас, праўда, з тыдзень таму стаяла гэта пытаньне.. Але...

— Але не на тэй назе стаяла.

Аптэкар Плакс спакойна канстатаваў:

— У кожнага пытаньня ёсьць дзьве нагі: правая і левая.

Карызна падсеў бліжэй да Віктара, але гаварыць пачаў, вядомая рэч, для ўсіх, хоць удаваў, нібы інструктуе Віктара:

— Ты разумееш, хлопча, што гэта—ня жартачкі? Тут—не бягучая якая кампанія, што сёньня зрабіў, а заўтра й забыўся на яе. Наш раён абвешчан раёнам суцэльнае колектывізацыі. Гэта значыць, наш раён цалкам перарабляецца на новы лад. Гэта значыць—усё жыцьцё мяняецца. Усё пераварочваецца, разумееш?

Аптэкар Плакс з свайго боку дадаў:

— Бо ў кожнае лахманіны ёсьць два бакі: верх і спод.

— Мы мусім узьняць масу, організаваць яе. Працаваць па-баявому, як рэволюцыянэры, а не як чыноўнікі, бюрократы.

І ў апошія словы Сымон Карызна ўклаў ладную порцыю свайго нездавальненьня шэрай будзёншчынай апошніх год. Вера Засуліч злавіла гэта і скарыстала, каб далучыцца да гутаркі:

— Гэта значыць, што дасюль мы ўсе працавалі, як чыноўнікі і бюрократы? Так?

Карызну падабаецца гэта заўвага: ён любіць часам пафігураваць сваімі романтычнымі настроямі.

— Пэўна, што мы ўсе гатовы парабіцца чыноўнікамі. Дзе той запал, энтузіязм, захапленьне, з якім мы ўвайшлі ў рэволюцыю, га? Дзе адвага тая, геройства, што было ў кожнага, хто йшоў на фронт за рэволюцыю? Няма ўжо—сацьмела, згасла. Трэба яго аднавіць, распаліць, а на гэта трэба вялікая і блізкая мэта. Яна—ёсьць цяпер. Рэволюцыя ня згасла, яна ўзьнімаецца з новаю сілай. Мы яшчэ паваюем!

Галілей ня ўрымсьціў: ступіў на два крокі наперад і запытаўся:

— А скажэце, тая рэволюцыя ці скончылася?

— Якая тая?

— Што была супроць паноў?

Карызна няўцямна паціснуў плячмі.

— Кожная рэволюцыя пераходзіць паступова праз колькі стадый—мы цяпер уступаем у новую стадыю тае самае рэволюцыі, што была супроць паноў.

— А цяпер супроць каго?

— І цяпер супроць паноў, супроць кулака, заўтрашняга пана. Кулак—зласьнейшы эксплёататар яшчэ, ніж сапраўдны пан. Наша мэта—зьнішчыць кулака і разам з ім, усякую эксплёатацыю чалавека чалавекам.

Галілей чамусьці перапытаў:

— Супроць кулака?

І зноў адступіўся ў свой куток.

І было ў тоне гэтага Галілеевага запытаньня нешта такое значнае і праканалае, што адразу адвяло ўсіхную ўвагу ад агуль-

ных разваг да конкрэтнага, блізкага, да непасрэдна датычнага мястэчка, бліжэйшых вёсак, жывых людзей—знаёмых, прыяцеляў, ворагаў. І бадай што толькі цяпер усё тое, аб чым красамоўна гаварыў Карызна, паўстала перад усімі ў жывой і яснай форме, з усёй сваёй важнасьцю і складанасьцю, з чорным пераплётам магчымых цяжкасьцяй і перашкод.

У Віктара вочы задыміліся шчырай турботай.

— Ведаеш што, Карызна? Ці ня варта паставіць нам заўтра яшчэ пытаньне аб комсамольскай дысцыпліне. Мне здаецца, што ў нас тут ня ўсё добра. Трэба падцягнуцца... Як ты ўважаеш?

— Добра, добра... І на вясковых комсамольцаў трэба ўвагу зьвярнуць... Асаблівую ўвагу.

І яны, працятыя дзелавым клопатам, пачалі снаваць пляны бліжэйшай работы.

Вера глядзела на іх з ціхай роўнай увагай, зрэдку ўстаўляючы і сваё меркаваньне. Іншыя ўсе пачулі сябе тут лішнімі.

Галілей у сенцах клікаў Босага. Плакс крыкнуў яму:

— Пачакай, разам пойдзем!

І пайшоў сьледам за ім. Ідучы ён з многазначнай спакойнасьцю запытаў:

— Чуў, Галілей, га?

Галілей дробна трусіўся побач з цьмяным мізэрным ценем. Верхняя палавіна яго хударлявага тулава была, як зазвычай, выцягнута наперад, нібы прыглядаўся ён да чаго, ці што вынюхваў перад сабой. Не зьмяняючы паставы, ён на хаду адказаў:

— Кхе... кхе... Трэба памеркаваць... ага .. Перш яно тое... якая гэта ёсьць рэволюцыя?.. Ці скончылася яна тая ці не?.. Можа гэта другая ўжо... ага...

Аптэкар Плакс, хоць і цёмна было, але зрабіў на твары сваім бязьмежна скэптычную міну.

— Ат, Галілей, навошта табе мудраваць? Навошта табе гэта канечна ведаць, ці тая яна ці другая! Кожная рэволюцыя ёсьць рэволюцыя... Нам з табой, людзям тэхнікі і навукі, з кожнае рэволюцыі будзе патроху цукру і патроху перцу... Соцыолёгія!

Галілей маўчаў. Галілей натрапіў у жыцьці сваім на вялікую і цікавую проблему. Яго не абыходзіць тое, ці датыча яна яго непасрэдна, ці не—ён усёроўна будзе з гарачай упартасьцю, як мяцежны юнак, ламаць над ёй галаву, пакуль ня дойдзе нейкага выніку.

Такі ўжо Галілееў характар!

...Карызна на колькі хвілін затрымаўся адзін у Веры Засуліч. Яна ня зьдзівілася—яна прывыкла ўжо да частых ягоных візытаў. А мо' яна нават дагадвалася пра яго пачуцьцё да яе? Мо' ён дарма толькі пяўся схаваць яго, ня даць яму выйсьця наповерх?

Ён сядзіць і моўчкі глядзіць на яе—балазе яна адвярнулася і не заўважае ягонага погляду. Ён дужа любіць так моўчкі сядзець і глядзець, і слухаць, як мяккімі хвалямі ўзмываецца ўнутры

добрая такая, салодкая пяшчотнасьць. Але хвалі растуць і растуць, займаюць ужо ўсю істоту і выліваюцца ў нявыразнае парываньне. Ён устае і пачынае хадзіць па пакою размашыстымі энэргічнымі крокамі. Але рухі не разбаўляюць настрою, і ён пачынае гаварыць—вядома, пра справы, пра што-ж ён больш будзе гаварыць з Верай Засуліч?

— У мяне, Вера, цэлы пераварот зрабіў гэты пленум. У раёне ўжо адчуваецца такая, ведаеш, бадзёрая, баявая напружанасьць, у якой чуецца, што нешта адбываецца вялікае, неабыклае. Сапраўды, я нібы вярнуўся на колькі год назад... Ты ня сьмейся, Вера, гэта ня пустыя словы, ня жарт. А як працаваць хочацца, якая энэргія, ахвота! Што больш відаць цяжкасьцяй наперадзе, то большы задор: а ўсё-ткі наша возьме, а ўсё-ткі мы, бальшавікі, пераможам. У гэтым сэнс змаганьня, Вера, у гэтым радасьць змаганьня.

Вера неадрыўна глядзіць на яго, і ў яе вялікіх—нято цёмнакарых, нято зусім чорных вачох застыла глыбокая ўвага. Гэта яшчэ больш акрыляе яго, надае яму натхненьня, і ён гаворыць далей:

— Як гэта дзіўна, Вера! Сёньня ў нас тут яшчэ ўсё ціха, спакойна—мы яшчэ сьпім, закалыханыя роўнаю плыньню будзёншчыны,—а заўтра ўсё завіхрыць, забурліць, вынырнуць наповерх усе прыхаваныя супярэчнасьці, пачнецца цэлы гармідар. І тут вось пакажа сябе чалавек, сваю сілу і здольнасьць. Паглядзім, хто чаго варты!

Гэта было троху падобна да пустой бравацыі, але Карызна ў пале сваім не заўважыў гэтага. Не заўважыла і Вера Засуліч—яе цалкам захапілі Карызнавы словы, і яна ўжо гарэла жаданьнем далучыцца да новага зруху, да новых грамадзкіх падзей, якія гатовы разгарнуцца ў мястэчку. О, яна-ж такая шчырая і такая чулая працаўніца!

Вера перапыняе Карызну, яго гарачую размову:

— Слухай, Карызна, ты вось нічога ня кажаш аб працы сярод жанчын. Ты ведаеш, якую ролю грае жанчына ў гаспадарцы! Пераход да колектыву многа залежыць ад жанчыны, папраўдзе. Ты-ж чуў, што іншыя колгасы толькі таму й разбурыліся, што бабы не захацелі жыць у колектыве. Мы заўтра зьбярэм свой актыў—ты праінструктуй нас. І потым з масавай працай. Мы з Плаксам хацелі п'еску ставіць, але яна не падыходзіць. Трэба пашукаць чаго-небудзь у раёне. Ты не паедзеш туды гэтымі днямі?

І Вера Засуліч уся ўдалася ўжо ў новыя клопаты. Калі яна так заклапочваецца, твар у яе робіцца дужа цікавы і троху сьмешны: вусны зьбіраюцца ў шчыльную складку і аддудырваюцца, як у дзіцяці; лоб моршчыцца да немагчымасьці, цудоўныя аксамітныя броўкі спаўзаюцца ўместа, як два таракáны.

Слаўная, шчырая дзяўчына гэта Вера Засуліч!

Карызна яшчэ сядзіць у яе з паўгадзіны і гутарыць аб працы сярод жанчын, аб масавай працы, аб Плаксавым спэктаклі. І неў-

заметку ўзіраецца, прыслухваючыся да мяккіх узмываў пяшчотнасьці, у прыгожыя вусны, у броўкі, у вялікія—нято цёмнакарыя, нято зусім чорныя вочы.

Як вярнуўся Карызна дахаты, Марына Палўаўна яшчэ ня спала. Яна сядзела ў сваім аблюбёным куточку на канапе і жвава гутарыла з брыгадзірам Зелянюком.

Зелянюк сустрэў Карызну тэй самай загадкавай, з нечым схаваным у ёй, усьмешкай. І цяпер раптам заўважыў Карызна, што, як усьміхаецца ён, левае вока ў яго трошку косіцца, і ўсьмешка ад гэтага—няпрыемна пустая, амярцьвелая.

Брыгадзір Зелянюк, выходзіць, прышоў да яго начаваць.

## 4

Фактычна, і мястэчка тое зусім не мястэчка—проста вялікае сяло, былая валасьць, з трыма прыватнымі дробнымі крамкамі, з аптэкай, больніцай, цэнтрасьпіртам, коопэрацыяй і кнігагрняй Беларускага дзяржаўнага выдавецтва. Ды і Галілей той зусім не Галілей, а звычайны селянін-бядняк, вызвалены нават ад сельгаспадатку, Ахрэм Данілавіч Пунцік. Галілеем ён стаў праз вечныя свае вынаходкі, і гэтую мянушку даў яму яго-ж добры прыяцель аптэкар Плакс—кіраўнік тутэйшага драмгуртка і мясцовы філёзоф. Гэтая мянушка яго не абразіла (а мо' нават і задаволіла, хто яго ведае) і шчытна да яго прыстала: ад таго часу бадай ніхто і ня зваў іначай яго, як Галілеем.

Найвыдатнейшая вынаходка ці, правільней, конструкцыя Галілеева, слава аб якой прагрымела на ўсю акругу, была „маджджэра“ (гармата), якую ён зрабіў быў у тысяча дзевяцьсот адзінаццатым годзе спэцыяльна да вялікадня, каб даць з яе салют пад час першага сьпеву „Хрыстос васкрэсе“. Трэба зазначыць, што ён самаручна зрабіў быў ня толькі самую агнястрэльную прыладу, а й порах, паводле рэцэпту старога паляўнічага Казіміра Залуцкага.

Эфэкт быў надзвычайны. Перапалохаліся ўсе страшэнна, а найбольш сам вынаходца, бо з першым стрэлам разарвалася ўшчэнт уся „маджджэра“, і аскёпкі яе разам з двума Галілеевымі пальцамі разьляцеліся ўва ўсе бакі бадай на цэлыя гоні. Назаўтрага падшывальцы-хлопцы цэлы дзень шукалі няшчасных Галілеевых пальцаў, але не знайшлі ніводнага.

Астаўшыся з куксаю, Галілей ня спыніў быў далейшых вынаходак, а, наадварот, узяўся за іх з яшчэ большым імпэтам і вёў іх аж да самае тае пары, калі ўвайшоў ён у гэтае апавяданьне. Астатнія ягоныя конструкцыі былі: саматужная электрычнасьць у мізэрнай яго хацёнцы і ўдасканаленая сушыльня, якую ён зрабіў, як было паказана вышэй, спэцыяльна для Марыны Паўлаўны. Цяпер працаваў ён, паводле ўласных ягоных слоў, над „цыркулярнай“ бяздымнаю печкай.

У той дзень, як быў прызначаны ў мястэчку першы сход па колектывізацыі, Галілей ужо загадзя ведаў, хто што будзе гава-

рыць і як хто будзе паводзіць сябе на гэтым сходзе. Ён ведаў, што сакратар ячэйкі Сымон Карызна будзе гаварыць горача й разумна, і яго будуць слухаць з вялікай павагай і ад гэтае залішне вялікае павагі ня ўнікнуць папросту ў ягоныя словы і не праканаюцца. Ён ведаў, што старшыня сельсавету—доўгі, як вочап, і калматы, як памяло, прозьвішчам Пацяроб—будзе крычаць больш бяз сэнсу і пускаць грубыя жарты: гэты разьвесяліць сялян, і некаторым ягоным словам дадуць веры, але шмат хто будзе падтакваць і сьмяяцца падлыжна, адно каб уладзіць начальству. Комсамолец Віктар пачне гаварыць ціха і сарамліва адылі разгаворыцца і—дармо, што малады—а слухаць яго будзе прыемна. Неадменна выйдзе з прамоваю Вера Засуліч—скажа многа добра вядомага ўсім, але будзе гаварыць гэта шчыра й старанна. Чарнявы і злы Прахор будзе ўтыкацца, дзе трэба й ня трэба, выступаць за і супроць, азартаваць, гарачыцца, хоць усім добра вядома, што ўсё гэта ў яго з нязбыўнае ягонае крыўды, а прычыны тэй крыўды ня ведае ніхто, у тым ліку і сам ён. Але паслухаць Прахора ўсё-ткі варта: вялікая злосьць яго часам родзіць вострыя і пякучыя думкі. Ну, яшчэ Цімахвей Міронавіч Гвардыян...

Цімахвей Міронавіч Гвардыян—менавіта Цімахвей Міронавіч, а ня проста Цімох, або, скажам, Цімка, Цёмка. Цімошка ці інакш. Гэта ня кулак, ці, праўдзівей, ня проста кулак, а былы кур'ер высачайшае комісіі па такіх-та і такіх-та справах. Год з дзесяць ён жыў у Маскве і, прыяжджаючы ўлетку дамоў на пабыўку, падвешваў на відным месцы перад хатай гамак і гойдаўся ў ім важна, глыбокадумна. І цяпер яшчэ Цімахвей Міронавіч любіў часам выказацца мудронаю мовай і накшталт таго, як усе сур'ёзныя прамоўцы ўжываюць спэцыяльныя словы—„так сказаць", „значыць", „разумеецца", „стала быць" ды інш.—Цімахвей Міронавіч таксама меў свае слова, але мудрэйшае і званчэйшае, чымся ў іншых: ён паміж гутаркі любіў устаўляць слова „будучы".

Да Цімахвея Міронавіча Гвардыяна Галілей—ня ўрымсьціў—заскочыў навертам перад сходам. Гвардыян сядзеў на прыпечку і поркаўся з нейкімі скуратамі. Галілей сьпехам прывітаўся і, ператрусіўшыся цераз хату, сеў на пярэдняй лаве, бадай не на пакуце: так рабіў ён выключна ў Гвардыяна, і была ў гэтым нейкая дзіўная, зразумелая толькі яму, дэмонстрацыя.

Гаспадар падкалупнуў:

— Сядайце, Ахрэм Данілавіч!

— Сяджу ўжо, Цімахвей Міронавіч!

— Як зямля круціцца, Ахрэм Данілавіч?

— Дзякую, Цімахвей Міронавіч! Дай бог усім добрым людзям... Памаўчалі.

— На сход ці пасунецеся, Цімахвей Міронавіч?

— Хто яго... Што мне там дужа рабіць, на тым на сходзе? Можа, будучы, якое дробнае пытаньне выраішаць і без мяне. Ахвоты нешта няма.

— Ня дужаеце, Цімахвей Міронавіч?

— Дзякую. Як самі, Ахрэм Данілавіч?

Зноў памаўчалі. Па якой хвіліне, зморшчыўшы твар, каб адкусіць нітку, Гвардыян запытаў:

— Мы вось сядзім, як прусы ў запечку. А вы-ж, будучы, сьветам перабываеце, Ахрэм Данілавіч! Што дзе чуваць такога пракраснага?

— Як чхнеш, так і пачуеш. Свой сквіл мілей за чужую песьню.

— Нашто той сквіл? Хто гэта будзе сквіліць?

— Дзе вясельле, там і музыка, Цімахвей Міронавіч!

Гвардыян самаўпэўнена ўсьміхнуўся.

— Аб чым, будучы, сход склікаюць, Ахрэм Данілавіч?

— Колектывізацыя, Цімахвей Міронавіч!

На колькі сэкунд занялося вострае напружанае маўчаньне. Пасьля Гвардыян сталым павольным рухам адсунуў у бок скураты, паклаў на калены рукі, і на голы пэргамінавы твар свой напусьціў выраз глыбокае развагі.

— А што-ж, і пойдуць. Чаму, будучы, не пайсьці, Ахрэм Данілавіч? Галоўнае, няма табе ніякага клопату—адпрацуй сваё, атрымай, што табе належыць. Ні заботы, ні турботы. Цябе й накормяць, будучы, і надзенуць, і другое і трэцяе... А гаспадарка—ёй трэба догляд. І ня ўсьпіш і не ўясі, не адпачнеш ніколі, як людзі. Гэта, браце мой, апарат...

Хітры чалавек Гвардыян! Гаворыць, дык проста—шчырай душою. Ня йначай, ён першы будзе стаяць за колгас.

— Вы, Цімахвей Міронавіч, пэўна, таксама ў колгас пераступіце

Гвардыян усхапіўся.

— А чаму-ж не? Што-ж вы думаеце? Ці-ж мне век, будучы, мардавацца на гаспадарцы? Баба з калёс—калёсам лягчэй... Хай кіруюць—божухна-бацюхна!—ці-ж нам шкода, ці што? Абы з сэнсам было, абы парадак!

Ён зноў завінуўся каля сваіх скуратоў, але ў руках яго ня было ўжо ранейшай павольнасьці—яны бегалі залішне дробна і, мабыць, бяз ладу. Ён яшчэ раз скрывіўся, хоць ніткі ўжо ня кусаў, працягнуў фальцэтам:

— Пойдуць усе, даражэнькі мой, пойдуць...

І пастараўся ўсьміхнуцца як мага бязуважна:

— Хе-хе... А хто ня схоча—к ліхой долі, таго на бок. Ці праўда, Ахрэм Данілавіч?

— Пужаецеся, Цімахвей Міронавіч?

Гвардыян аж падскочыў.

— Я? Баюся? Чаго мне баяцца? Каго мне баяцца? Што, я ўкраў у каго? Што, я забіў каго, абрабаваў? Што са мной зробяць? га? Што са мною зробяць?

Галілей раптам устаў і борзьдзенька пабег да дзьвярэй, нахаду выгаварваючы:

— Чатыры чатыркі, дзьве растапыркі, адзін махтын, два вухтаркі...

Гвардыян, як апантаны, закрычаў яму ўсьлед:

— Гэта—карова! Ту, Галілей! Го-го-го!..

І не спазнаць было, ці гэта ён так засьмяяўся, ці агатукаў у шалёнай злосьці.

Галілей ужо добра ведаў, што Цімахвей Міронавіч канечна прыбяжыць на сход, што ён чуе сілу сваю, але троху пабойваецца, і што за гаспадарку сваю, за жыцьцё сваё сытае будзе трымацца зубамі аж да астатняга дыху.

Галілей загадзя ведаў, хто што будзе гаварыць і як хто будзе паводзіць сябе на сходзе, аднак адзін з першых прытрусіўся ў зусім пусты яшчэ нардом і заняў у куточку сабе стратэгічна выгоднае месца.

І вышла-ж так, што Галілей цалкам памыліўся.

Першае, што ашукала яго, гэта—склад сходу. Сышліся бадай адны бабы. Ніхто з галоўных местачковых верхаводаў не зьявіўся. Прахор і той прыбег толькі з палавіны сходу. Нават Цімахвей Міронавіч (заўважце гэта), нават Цімахвей Міронавіч Гвардыян астаўся ў хаце. З прычыны гэткага непаразуменьня зайшло было пытаньне аб тым, ці ня варта адкласьці сход, і стары ненавісьнік і вораг жаночага роду дзед Піліп з нясусьветнай пагардай зазначыў:

— Які-ж гэта сход? Гэта-ж бабы!..

Але дзеду Піліпу дала добрага чосу Вера Засуліч—што, бабы хіба ня гэткія самыя людзі і грамадзяне?—дык дзед Піліп змоўк і з дэмонстрацыйнай бязуважнасьцю закурыў сваю вялізную старасьвецкую піпку.

Сход адкрылі. Даклад рабіў (зноў Галілей памыліўся) не Карызна, а малады рабочы-брыгадзір з Менску. Пачаў ён гаварыць зусім ціха, спакойна, нібы й не на сходзе. Таму адразу-ж з бабскае гурмы вылецела спагадлівая рэпліка:

— Бедненькі! Як перад сьмерцю...

Але Зелянюка гэтым ня ймеш! Не зьвярнуўшы ўвагі на рэпліку, ён гаварыў далей тым-жа тонам, толькі насыціў словы свае большаю нутранаю напружанасьцю. І бабы мусілі скарыцца—сунялі свой пчаліны гуд, сталі слухаць з належнай увагай.

Галілей з свайго стратэгічнага пункту пільна ўзіраецца ў дакладчыка, вывучае яго.

Што-ж, гаворыць ён з сэнсам. Пачаў зусім здалеку—дзе тая колектывізацыя, няма ніякай колектывізацыі, ані слоўца пра яе, ані зыку!—можна слухаць зусім спакойна: от, расказаў пра буржуазію, пра замежныя дзяржавы, успомніў паноў, окупацыю, тое, другое. Галілею гэта дужа падабаецца. Ён ведае, да чаго ўсё яно прыдзе, але-ж трэба падвесьці так, падвярнуць, каб і ня зьмецілі, як яно тое галоўнае наповерх высьлізьне. О, гэта хлопец-зух, няма чаго казаць!

Ну вось, цяпер пра гаспадарку. Пэўна, што гаспадарка—дрэнь. Ува ўсіх—дрэнь. Дзе-ж тут дужа разгонішся на гэткіх істужках ды з гэткім начыньнем, з гэткай худобай... У Гвардыяна?.. Ён ужо

знае Цімахвея Міронавіча Гвардыяна? Ого, ён нават ведае ўсё пра яго мінулае, нібы жыў разам з ім, нібы разам з ім гойдаўся ў тым высачайшым гамаку!

Во, гэта хвацка! Чыкрыжыць, як рэпу грызе...

Яно што праўда, то праўда: гуртам рабіць ямчэй, гэта табе нават хто-хаця пацьвердзіць. Буйная гаспадарка—пэўна, што: машыны, угнаеньне, севазварот, адным словам—тэхніка. Тут табе такога можна намудраваць, што ого-го! Але што-ж ты паробіш з гэтымі квактухамі, якім нічога няма мілей за іхняга старога гнязда!

Божухна-бацюхна! Дзе яны панабіраліся гэткага спрыту! Не раўнуючы, як тыя галкі, калі спудзяць, іх з іхнага седала. Крычаць, лемантуюць, адна адну перапыняюць адна адну ня слухаюць і кожная крычыць сваё, аб сваім, кожная толькі сама сябе й чуе.

Ну, тут ужо Пацяробу работа. Ён як бач суніме ўвесь гэты гармідар, на гэта ён майстра.

— Ціху, бабкі! Бабачкі, родныя, ціху! Ціху, бабачкі, каб вас пярун пасмаліў. Ціху вы, ну!

І гэтага апошняга „ну“ бабачкі ўсё-ткі паслухалі—скомчылі, сьціснулі гоман свой і памалу змоўклі.

— Хто хоча гаварыць, прасі слова. Гаварыць па адным, а ня ўсе разам.

Бабы маўчаць. Бабы ня ўмеюць прасіць слова, ня прывыклі гаварыць па рэгляманту.

— Ну, хто хоча слова, чаго маўчыцё? Гаварыце!

І праўда, загаварыла бабылка Аксіньня. Аб чым-жа больш?—загаварыла аб сваім гаротным жыцьці, аб тым, што ёй ходу няма, што ўсе яе крыўдзяць, што няма ёй ніякае дапамогі ад савецкае ўлады. І ці толькі пусьціла яна першую сваю бабскую сьлязу, як грымнулі ўсе, загарлалі, зноў узьнялі нясусьветны вэрхал.

І так—скрозь.

А мужчыны, якія і ёсьць тут, маўчаць. У мужчын палітыка—хай яны пакрычаць, што з іх возьмеш, ведама—бабы!—а тым часам можа пасьвятлее троху, відней стане, як там і што. Нават заядлы Прахор і той толькі махае нешта рукамі адзаду, нешта злосна даводзіць гуртку маўклівых сялян, а на людзі выходзіць ня важыцца.

Так і прайшоў гэты сход. Гаварыў яшчэ і Карызна і Пацяроб, і Віктар, і Вера Засуліч, але вынік быў адзін: крычалі бабы, выліваючы ў тлумны гармідар сваё бяспрычыннае ці можа многапрычыннае абурэньне, і маўчалі мужчыны, ці то цішком згаджаючыся з бабскім крыкам, ці то проста чакаючы нейкага далейшага выясьненьня.

Пастановы на тым сходзе не ўхвалілі ніякай, і Галілей пайшоў дахаты яшчэ больш заклапочаны, з яшчэ большым неўразуменьнем у сваёй непакойнай істоце.

Ідучы паўз вялікі чысты дом Цімахвея Міронавіча Гвардыяна, ён на момант суняўся, нібы хацеў быў зайсьці туды, але падаўся

далей. І дзіўнае пачуцьце зьявілася тут у Галілея да Цімахвея Міронавіча: ня то жаль нейкі, ня то агіда, ня то страх перад нечым няўхільным і жудасным. Адно зусім ясна было Галілею: сёньня стаў Гвардыян новы, інакшы не такі, як быў—сёньня прылюдна паказаў на яго пальцам нехта вялікі і грозны, паказаў і пакінуў яго ў страшнай адкрытасьці.

...Якая гэта ідзе рэволюцыя? Ці тая яна, ці нейкая іншая, новая. Куды яна пойдзе?

У Галілея гэтулькі клопату! Галілеева сухенькая галава проста трашчыць ад турботных думак.

...Ішлі разам са сходу: Карызна, Пацяроб, Віктар і брыгадзір Зелянюк. У Карызны асталося цьмянае нездавальненьне: сход быў відочна няўдалы. Пацяроб лаяўся і ўсё даводзіў, што трэба больш рашуча, што трэба „закруціць, каб"... і г. д. Зелянюк весела сьмяяўся, успамінаючы асобныя сцэнкі са сходу. Ён быў цалком здаволены.

— Пачатак добры... Трудна было чакаць лепшае ўдачы.

Карызна зьдзіўлена і троху дасадліва запытаў:

— У чым тая ўдача?

— Як у чым? Гэта-ж зусім зразумела... Галоўнае нам—разварушыць сялянскую думку. А ці-ж гэтага няма? Бабскі гармідар—гэта-ж знадворнае выяўленьне патрэбнага нам разварушэньня. Мужчыны бязумоўна такога самага настрою, як бабы, толькі дыплёматычна маўчаць. Дармо! Хай памаўчаць, хай пакумекаюць. Раз узрушыліся, раз злуюць, крычаць, значыць—дадзела, узяло за жывое, значыць, добра, глыбока падумаюць над усім гэтым. І вось—найлепшая глеба да далейшае працы. Разумееш, дружа?

І ён весела падміргнуў Карызну сваім касаватым вокам.

...Што-ж, можа, ён і мае рацыю. Можа і сапраўды гэта добра. Ды Карызна таксама ня надта ўдаецца ў роспач. Хай-бы сабе і няўдача была тут—дармо, яго гэта ня спыніць: ён умее змагацца з перашкодамі.

У Карызны таксама зусім добры, бадзёры настрой.

## 5

Мястэчка, у якім разгортваецца дзея гэтага апавяданьня, хоць нічым бадай ня розьніцца ад звычайнага сяла, але-ж сяло тое вялікае. Яно рассыпаўшыся па двух узгорках, паміж якіх цячэ невялікая рэчка Сівец (гэткую-ж назву мае й мястэчка). На Сіўцы стаіць млын. Гады з два таму тут пабудавалі новы, высокі ды моцны мост.

Такім чынам мястэчка дзеліцца на дзьве часткі. Адна чысьцейшая, дзебялейшая,—там адміністрацыйны, гаспадарчы і культурны цэнтр: сельсавет, каапэрацыя, школы (пачатковая і сямігодка), аптэка ды інш. Гэта—уласна Сівец, бо другая частка, хоць у паперах таксама Сіўцом азначаецца, але ў простым народзе за-звычай завецца пагардлівай назваю—Сівалапы. Тут ужо—праўдзівая вёска. Ды яшчэ якая вёска: убогая, брудная, закаржавелая ў сярэднявечным побыце. Адзін менскі этнограф

перабыў тут неяк аж цэлае лега—дык быў у цудоўным захапленьні ад непарушнае сівалапаўскае цаліны і, адʼяжджаючы, мілосна кулдыячыў:

— Я пачуў тут сапраўдны дух Беларусі!

У Сіўцы (уласна Сіўцы) хоць таксама няма камяніц ці нават гарадзкога тыпу драўляных будынкаў, але ёсьць ці мала добрых, раскошных і чыстых пяцісьценак. У Сівалапах-жа ўсяго адна людзкая пяцісьценка, праўда, з разьбяным ганкам і фарбаванымі вокнамі. У пяцісьценцы ў той жыве селянін-серадняк Малах Тодараў Загароўскі.

І акурат у гэтай у пяцісьценцы, акурат у гэтага ў селянінасерадняка, у Малаха Загароўскага жыве прыгожая—бадай першая на ўсе Сівалапы, а моʻ й на Сівец—дачка Аўгінька. А за тэй за дачкой, як кажуць, троху ўлягае недалёкі сусед і таксама хлопец ня зломак—комсамолец Віктар, сакратар савецкае комсамольскае ячэйкі.

Надвячоркам—толькі-толькі сядзе за Сівец гультаяватае зімовае сонца—Аўгінька пачынае турбавацца. Ёй канечна трэба знайсьці нейкую прычыну, каб кінуць сваё бясконцае, да краю абрыдлае прадзіва і выбегчы на вуліцу. Ну пэўна-ж, ёй трэба зьбегаць да суседак даведацца, ці зьбіраюцца сёньня ў супрадкі, дый газы няма ўжо, трэба пазычыць дзе каліва, дый малыя некуды зьбеглі—моʻ пайшлі на каўзель, яшчэ патопяцца ў прыцёмку,—ці мала ёй рознага клопату?

А вышаўшы на вуліцу, яна нікуды ня йдзе, а стаіць перад форткай, схаваўшы рукі ў рукаўкі свайго чырвоненькага з чорнай смушковай аблямоўкай кажушка. З захаду яшчэ плыве лёгкая ружаватая яснасьць зары—яна насычае Аўгіньчын твар і ўсю яе празрыста-мяккаю цяплынёй, і Аўгінька цяпер яшчэ прыгажэйшая, яшчэ мілейшая, чымся заўсёды. Ці дзіва, што Віктар, яшчэ здалеку ўбачыўшы яе, скаланецца ўсім сваім комсамольскім нутром ад раптоўнае хвалі глыбокае нястрымнае пяшчотнасьці.

Аўгінька добра ведае, што Віктар зараз будзе ісьці ў Сівец, на вечную сваю працу, на нейкі там сход ці пасяджэньне, яна і вышла наўмысьля. каб пабачыцца з ім, але яна і ў той бок не глядзіць—у яе зусім іншы клопат, яна старанна жмурыць вочы, пільна ўглядаючыся туды, пад Сівец, яе цікавіць нешта ў тым баку. І будзе стаяць так і глядзець, аж пакуль не падыйдзе Віктар, не аклікне яе:

— Добры вечар, Аўгінька! Вочы папсуеш, так узіраючыся!

Тады Аўгінька паволі абернецца да яго, нібы цяжка ёй адарвацца ад свайго выглядваньня, і адкажа троху няўважна, каб паказаць, што яна папраўдзе занята нейкаю справай.

— Здароў, Віця! Куды гэта ты разагнаўся?

— От, пацягнуўся ў Сівец. Як маешся, Аўгінька?

— Дзякую. Ты малых там дзе нашых ня бачыў?

Віктар хоць і бачыў, дык скажа, што не. Аўгінька тады задуменная мяркуе:

— Ці не пайшлі яны—чаго добрага—на каўзель?
Віктар з рашучай праканаласьцю пацьвярджае:
— Пэўна што там. Наш Юзік таксама пабег туды.
Гэта значыць, што Аўгінька пойдзе з ім аж да млыну. Гэта-ж ня менш, як гоняў з пяцёра!
Ідзе Віктар наўмысьля марудна, ледзьве пераступаючы нагамі, каб як даўжэй працягнуць дарогу. Вось Сівалапы асталіся ззаду, іх захінула старая разгатая вярба, абвешаная сівымі пасмамі шэрані. У Віктара сэрца пачынае біцца яшчэ мацней, чымся дагэтуль, і ў грудзёх узмываецца дужа салодкае і дужа пякучая хваля. Ён клапатліва азірае дарогу—ці ня відаць там каго?— і, упэўніўшыся, што ніхто іх ня бачыць, неўзаметку, на хаду абнімае аднэй рукой Аўгіньку і пяшчотна туліць яе да сябе. Яна не вырываецца, і ў гэтай любай пакорлівасьці яе самая радасьць Віктару. Ён мацней прыціскае яе, і яму здаецца, што праз халодную паверхню кажушка да яго рукі даходзіць мяккая цяплыня яе ўтульна схаванага цела. Гэта мабыць яшчэ больш распаляе Віктарава пачуцьце, і мабыць ён яшчэ мацней сьціскае Аўгіньку ў сваіх абнімках, бо яна раптам хапае яго за руку і шэпча з ласкавым дакорам:
— Віця! Што ты?
Але рукі ягонае не адрывае, а толькі ціха, нясьмела сьціскае яе сваімі сагрэтымі ў рукаўках пальцамі.
Так падыходзяць яны пад самы млын. Тут яшчэ стаяць некалькі хвілін і на разьвітаньне Віктар абавязкова запрашае яе прысьці ўвечары ў нардом. Яна за-звычай адмаўляецца, і Віктар ідзе ад яе з адчуваньнем свае глыбокае віны, што ня можа, ня здольны ўвесьці яе ў грамадзкае жыцьцё мястэчка, ліквідаваць яе культурную і палітычную адсталасьць.
Аўгінька-ж кідае ўсьлед яму спакойны ласкавы погляд і пасьпешна варочаецца дахаты, добра ведаючы, што малыя знойдуцца і бяз яе.
Так бывае ў іх бадай штодня, і, як заўсёды ў маладых каханкаў, такая аднастайная паўторнасьць ня толькі не дакучае ім, а, наадварот, падкрэсьлівае цёплую інтымнасьць іхных мімалётных сустрэч.
...Сёньня Віктар падышоў чамусьці асабліва сьмелы і нават, як здалося Аўгіньцы, троху паважны. Спачатку ўсё ішло, як належыць: прывіталіся, пагаварылі пра малых, і ўжо Аўгінька гатова была ўспомніць пра каўзель, як раптам Віктар запытаў у яе:
— Аўгінька, ці ў хаце твой бацька? Я маю да яго інтэрас.
Ого! Віктар мае інтэрас да яё бацькі! Віктар гатоў пайсьці ў іхную хату! Ці ня воўк за гарой здох, што гэткае прысьпела? Дасюль-жа ён ніякім чынам туда не залучаў: баяўся, сароміўся, ці мо' так меў якую прычыну.
Бацька, вядома, у хаце—дзе-ж ён будзе яшчэ?
— Калі хочаш, зайдзі—тата там.

І з дзелавым выразам на твары, а ў нутры з радасным зьдзіўленьнем ідзе сьледам за ім, уваходзіць у хату, і, астаўшыся ля парогу, моўчкі, заціяўшы дух, сочыць за тым, што будзе дзеецца.
Віктар зважна сядае на лаўку і заводзіць гаворку.
— Як, дзядзька Малах, падскакваеце?
— От, як той пень гнілы, не раўнуючы. Гэта вам, маладым, скокі-падскокі...
— Мусіць, у колгас ужо запісаліся, дзядзька Малах?
— Пэўна што. Яшчэ з восені торбы нарыхтаваў.
І, каб загладзіць свой няпрыязны жарт, зараз-жа дадае:
— Дзе-ж той колгас? Яшчэ ніякага ў нас колгасу няма. Яшчэ і гутаркі сур'ёзнае ня было.
— А мы, дзядзька Малах, бяз гутаркі яго арганізуем. Ураз пабальшавіцку.
Малах замест адказу ўздыхае працяжным чатырохпавярховым уздыхам:
— Эх-хе-хе-хе-е-е...
Зрабіўшы належны ўступ, Віктар падходзіць да справы.
— Як вы з драўмі, дзядзька Малах?
Малах ажыўляецца:
— Кепска, браточак мой даражэнькі! Лічаныя паленцы ўжо асталіся.
— Тую палавіну ня паліце?
— Які яе чорт будзе паліць? Ці нам гэтае мала?
Віктар яшчэ з хвіліну маўчыць і нарэшце пытае.
— Ці ня пусьцілі-б вы ў яе хлопца аднаго на які месяц ці два. Дроў мы неяк прыдбаем.
Малах троху думае, але больш дзеля прылікі. Чаму-ж ня пусьціць чалавека ў пустую хату, а злашча калі ён з драўмі?
— Хто яго... Так ад людзей мы не ўцякаем, хай-бы жыў сабе... Адно хлопату троху. А хто ён, гэты твой хлопец?
— З гораду што... Брыгадзір.
Малаху гэта зусім да ўпадобы. Хто-ж адмовіцца пусьціць да сябе начальства? Можа яшчэ якая і палёгка будзе... І Малах ураз канчае:
— Хай прыходзіць. Сёньня мы неяк сваімі прапалім.
— Дык я скажу яму. Бывайце, дзядзька Малах!
І ён ідзе да дзьвярэй—зважна, спакойна—ведама, сур'ёзны такі чалавек. І ідучы паўз Аўгіньку, ловіць яе вясёлы ўдзячны погляд.
Аўгінька надзвычайна рада. Гэта-ж ня інакай Віктар з ім таварышуе, з гэтым гарадзкім. Ён што дня будзе хадзіць да яго і бачыцца з ёю. І вясёлая Аўгінька гатова ўжо з радасьці пабегчы ўсьлед за Віктарам, але парой сунімаецца: адразу кінецца ўвочы!
І яна астаецца ў хаце.
А Віктар рады яшчэ больш за яе—дармо, што там, у хаце, трымаў такі зважны, сур'ёзны выгляд. Гэта-ж ён сам і падстроіў усё, сам нараіў Зелянюку закватаравацца тут, у Сівалапах.

З першых дзён Зелянюковага прыезду ў Сівец у іх завялася з Віктарам цёплая дружба. Віктар адразу прыхінуўся да Зелянюка з шчырай дзяцінай адданасьцю. Малады рабочы з гораду— такі разумны, разважны, такі дасканалы знаўца ўва ўсіх палітычных пытаньнях—стаў для Віктара жывым увасабленьнем ідэалу грамадзкага чалавека. Ён скрозь прыглядаўся да яго, сачыў за кожным ягоным рухам і зусім сьвядома пераймаў ад яго тыя звычкі, якімі асабліва захапляўся, якія лічыў за ўзорныя для кожнага грамадзкага працаўніка. Праўда, яны ў яго адпаведным чынам трансформаваліся, набываючы большую мяккасьць і сьціпласьць, уласьцівыя ягонаму характару.

Зелянюк бачыў гэтую прыхільнасьць да яго вясковага хлопца, яна яму імпанавала, і ён з свайго боку адчуваў да яго сымпатыю і даверлівасьць. У вялікім бязладным Сіўцы, куды закінула яго партыйная мобілізацыя, адарваўшы і ад работы на заводзе, і ад вучобы (Зелянюк ужо трэці год, як вучыўся ў завочным комвузе), комсамолец Віктар быў першы чалавек, якому ён мог вольна адкрываць свае маладыя думкі—столькі-ж гарачыя імклівыя, сколькі цьвярозыя, пэўныя.

Пераход Зелянюка на кватэру да Малаха яшчэ больш замацаваў іхнае сяброўства з Віктарам.

...І павялося так ад самага таго дня ці, праўдзівей, ад вечара, калі перабраўся Зелянюк у Сівалапы, што Малахава чыстая палавіна памалу зрабілася неофіцыйным цэнтрам, дзе завязваўся клубочак дружнага актыву, адкуль пачынала кусьціцца сьвежая рунь новага сівецкага бытаваньня.

Ужо тады, у першы вечар, падышлі былі пасуседзку да Зелянюка: былы партызан і чырвонагвардзеец Якуб Лакота, некалі дужы мужчына, а цяпер чэзлы і хваравіты—сьлед белагвардзейскага катаваньня; Малахаў сваяк—паджылы, але здаровы, камляваты мужык, увес у густой паклычанай барадзе; малады, спраўны гаспадар Мікіта, які калісь троху ўчыўся на агронома і якога ў Сівалапах вельмі паважалі за ягоную стараннасьць і за практычныя досьледы ды паляпшэньні ў гаспадарцы. Прыцягнуўся нарэшце і Паўлюк Гвардыян, старэйшы брат Ц махвея Міронавіча Гвардыяна, але—не ў пару яму—зусім нікчэмны, шалапутны мужык—вялікі гультай і п'янюга.

Усе яны перш сышліся ў гаспадара—там сядзелі і сьціху гаманілі аб сім аб тым, з чаканьнем пазіраючы на дзьверы ў другую палавіну. Зелянюк пачуў гамонку, вышаў пацікавіцца, паслухаць, разгаманіўся сам і, нарэшце, перацягнуў усіх да сябе. А тады ўжо да позьняй начы ішла жвавая нясьціханая гутарка, у якой памалу, слова-па-слове, раскрываўся вялікі сэнс будаўніцтва, што стаяла на парозе непарушнае сівецкае старасьвеччыны.

Увайшоў быў потым, сьціху прачыніўшы дзьверы, Малах, абапёрся аб вушак і стаяў так чорным нярухомым ценем— слухаў толькі, а сам праз увесь вечар ні сказаў ніводнага слова.

Мабыць найбольш гаваркі, вясёлы і спрытны на слова быў сёньня Віктар, які адразу ўжо стаў тут у Зелянюковай кватэры, за свайго чалавека. Ад яго звычайнае сарамлівасьці не асталося і сьледу. Адно перашкаджала яму, што вельмі часта хацелася піць, і ён, кідаючы гутарку, выходзіў на гаспадарову палавіну. Праўда, ён іншы раз забываўся і напіцца, але ніводнага разу не забываўся сказаць колькі слоў Аўгіньцы і атрымаць ад яе вельмі выразную і мілосную ўсьмешку. Нават разы са два, здаецца, ці тры яму пашчасьціла засьпець яе ў хаце адну—дык там справа даходзіла ўжо і да пацалункаў.

Ведама, маладосьць!

6

Усё ішло, як мае быць. У Сымона Карызны ня было ніякіх сумненьняў аб тым, што той зрух, тая вялікая рэволюцыйна-ператворная работа, якая бурна разгарнулася ў рэспубліцы, якую несла на сваім баявым сьцягу партыя, ёсьць сапраўды адзіна-правільны, пэўны і няўхільны шлях далейшага поступу рэволюцыі. Ён з поўнай шчырасьцю галасаваў супроць усялякіх выступленьняў опортуністых, якія сеялі ў масах бязьверыцу, страх перад нямінучымі цяжкасьцямі і перашкодамі, якія фактычна клалі палкі ў колы рэволюцыі. Ён лічыў іх за здраднікаў, за трусоў, і заўсёды вымагаў большага ім пакараньня, чымся было запрапанована. Ён нават адчуваў да іх чыста-асабістую варожасьць,бо ў глыбіні душы, недзе на мяжы сьвядомасьці, насіў нявыразную думку ці нават адчуваньне, што перелом гэты пэўным чынам вынікае з яго глухога інстынктыўнага нездаволеньня нэпаўскаю будзёншчынай і азначае зварот да романтычна-баявых традыцый мінулых дзён. Гэта—зноў кажу—было больш адчуваньне, чымся думка, бо інакшай Сымон Карызна бязумоўна знайшоў-бы ў сабе патрэбную сілу і здольнасьць да самакрытыкі і зразумеў-бы шкодную памылковасьць гэтай тэндэнцыі.

Карызнава захапленьне, энэргія яго і парываньне ня толькі не згасалі з цягам дзён, а распаляліся з большаю сілай. Пасьля першага сходу ў мястэчку ён пабыў бадай ува ўсіх вёсках свайго сельсавету і канчаткова пераканаўся, што пад знадворным нездаволеньнем, недавер'ем, боязьню, пад бабскімі гістэрычнымі крыкамі і сьцеражліва-разважным маўчаньнем мужыкоў, хаваецца ўсё-ткі глыбокая гатоўнасьць да нейкае рашучае, яшчэ не асазнанае, зьмены жыцьця, поўнага дзікіх супярэчнасьцяй і нясуладзьдзя. Трэба выявіць гэту гатоўнасьць, памагчы асазнаць яе і даць ей належны кірунак.

Так, Зелянюк праўду казаў: перш-на-перш—разварушыць. Гэта—галоўнае.

І Сымон Карызна, упэўнены ў нямінучай удачы, даў сабе слова намагчыся ўсімі сіламі і колектывізаваць свой сельсавет раней ад усіх у раёне.

Трэба пачынаць з Сіўца. За Сіўцом пойдуць іншыя вёскі Але пакуль што тут справа яшчэ ня рушыла з месца—усё асталося застыўшы на тым пункце, да якога прывёў першы, па Зеляноковаму вельмі ўдалы, сход. Але тут нешта робіць сам Зелянюк. Гэта добра—браць зьнізу, спакваля раскалупваць каржаватую глебу сялянскае псыхікі. Добра і тое, што ён узяў на рэмус комсамольцаў, прыцягнуў іх да гэтае напружанае штодзённае пропагандысцкае работы. Яны сапраўды „разварушваюць“, і вынікі гэтага „разварушэньня“ ўжо добра відаць, невялічкі, але дружны бядняцка-серадняцкі актыў гатоў выступіць першым баявым атрадам ў змаганьні за колектывізацыю мастэчка. А тады шырокае організаванае наступленьне, масавая агітацыя, масавае „разварушэньне“, уздым энтузыязму—і поўнае завяршэньне ўсяе работы.

Адным словам—усё ідзе, як мае быць.

Як і заўсёды, зладнасьць у працы настройвае Карызну на зладнасьць і ў асабістым жыцьці. На свае сямейныя справы ён пачынае глядзець з пагадлівай спакойнасьцю. Фактычна, аб чым жа тут справа? Ці ёсьць які сэнс і прычына да тых згрызот і душэўнага мятушэньня, што апанавалі былі яго апошнімі часамі?

Праўда, жонкі свае, Марыны Паўлаўны, ён не кахае. Ён ужо дасканала праверыў свае цяперашнія адносіны, свае пачуцьці да яе і зрабіў гэтую рашучую канчатковую выснову. Але ці-ж гэта сталася толькі цяпер? Ці ня мінула ўжо колькі год з таго часу, як згасла ў ім цікавасьць да яе, як да жанчыны, і іхнае сужыцьцё абярнулася ў простае—праўда, нуднаватае троху, бледнае таварышаваньне? Ні ён, ні яна не наракалі—мабыць лічылі гэта за няўхільны закон усемагутнага часу (яму-ж ужо бяз малага сорак гадоў!) і абое моцна трымаліся за рэштку свае шлюбнае сувязі, што ўвасаблялася ў іхнай адзінай дачцэ, якую любілі яны бязьмежна. Нават пасьля таго, як выправілі дачку ў Менск на вучобу, адсутнсьць яе, пастаяныя думкі і турботы аб ёй яшчэ больш былі зблізілі іх.

Ці вінаваты ён перад Марынай Паўлаўнай?

Ён, мабыць, кахае Веру Засуліч. Жонка ведае гэта—яна за дзевятнаццаць год супольнага жыцьця навучылася адгадваць усе яго перажываньні. Але-ж ён сам абмяжоўвае свае пачуцьцё, хавае яго нават ад самое Веры. Нават Вера—ён упэўнены ў гэтым—нічога ня ведае. Што ён часта ходзіць да яе? Ён ходзіць, як да таварыша ў рабоце, ён і гаворыць з ёй больш аб розных справах—яна ўмее разумець яго і нават памагае яму разважыць тыя ці іншыя—выключна дзелавыя—сумненьні.

Чым-жа ён вінаваты? За што-ж Марына Паўлаўна злуе на яго? А яна злуе, ён добра бачыць, ды і яна надта гэтага не хавае. Ня йначай—тут нейкае непаразуменьне.

І Сымон Карызна бярэцца за ліквідацыю гэтага непаразуменьня.

Ён прычакаў зручнага моманту і неяк раз, як былі абое ў добрым гуморы, запытаў яе:

— Марына! ці ня думала ты калі-небудзь, што ў нас з табой нейкая недарэчнасьць выходзіць. Ня так мы жывём адзін з адным... дрэнна жывём... га?

Марына Паўлаўна адгукнулася на гэта з гарачай гатоўнасьцю.

— Сеня! нам-же даўно трэба было пагаварыць пра гэта. І я чакала ўсё, я ня важылася першая пачаць.

Яе пасьпешная гатоўнасьць і тое, што яна яго раптам назвала „Сеня“ (гэтага ня было ўжо даўно), троху ахаладзіла Карызну, але раз пачаў, дык трэба канчаць.

— Ты ўсё злуеш на мяне, Марына. Заўсёды нейкая нездаволеная, чураешся мяне.

Марына Паўлаўна ціха ўсьміхнулася.

— Ці-ж гэта я?

І ў ціхім асьцярожным дакоры яе чулася глыбокая пакорная адданасьць жанчыны, якая гатова ўсё даравадь. Карызна ня ведаў, як далей павесьці гаворку, і яна памагла яму.

— Ты усё гавары, Сеня, аб усім. Нам няма чаго сароміцца адзін аднаго. І я ведаю ўсё..

Карызна настаражыўся.

— Гэта ты пра Веру? Ну, я буду зусім адкрыта... Вера мне падабаецца, я часта хаджу да яе, мы гутарым, абмяркоўваем нашыя справы...

Марына Паўлаўна ў тахт гаворцы яго з ласкава-іронічнай сьмешкайківала галавой.

— Я ўсё гэта ведаю. Дзіўны ты, Сеня! Ці-ж аб гэтым клопат? Ці-ж гэта мучыць мяне? Помніш, мы ужо гаварылі... Я не зайздрошчу... Але—ты чужы стаў нейкі... быццам няма цябе зусім... ці мяне няма... Ты ніколі ня скажаш ні слова мне, не пагаворыш са мной, не парайшся...

Карызна разумеў, што яна кажа чыстую праўду. Але што-ж ён зробіць? Ён ня можа перамагчы ў сабе таго пачуцьця ня то сораму, ня то прыкрае няёмкасьці, якое заўсёды абуджаецца ў ім, калі ён спрабуе зноў завязаць з ёй былую блізкасьць. Можа гэта—часовае, можа яно потым мінецца, Можа яна й сама вінавата, што сваёй падазронасьцю, сваёй вечнай настарожанасьцю перагараджае яму да сябе дарогу. З цягам часу гэта напэўна сатрэцца, і іхныя адносіны стануць зусім нормальныя. Вось сёньня яны ўжо гавораць усё адкрыта, не саромяцца адзін аднаго і вераць адзін аднаму.

Марына Паўлаўна з тэй-жа ласкава-іронічнай усьмешкай слухала ягоныя тлумачэньні. А як скончыў, ціха і проста запытала:

— Сеня! чаму ты ўжо не канчаеш?

Карызна сумеўся.

— Што не канчаю?

— Усё... Мы ня зьвязаны, Сеня, нічым. Нашто нам адно аднаму замінаць?

Карызна дасадліва зморшчыўся.

— Я ня маю ў гэтым патрэбы. Я ня ведаю, чаго ты хочаш; Я гаварыў усё адкрыта сёньня, дык і ты кажы...

І Марына Паўлаўна сказала. Яна ня мела на ўвазе гэтага гаварыць—прынамсі, ніколі ня думала, што так скажа. Але мабыць жыло гэта доўга ў нутры ў яе і настойна шукала выйсьця, бо цяпер, як прышла магчымасьць сказаць, яна ўжо ня мела сілы стрымацца.

— Я ня хочу, Сеня, каб было так далей. Я ня хочу, каб ты жыў так... надвая... Або яна—або я...

Вось і ўсё... Цяпер ужо кончана усё—яна сама закрыла дарогу далейшым шчырым размовам. Вось ён няўцямна пацiснуў плячмі, устаў, пачаў хадзіць па пакою. Ён ужо зноў—чужы, ад яго ўжо больш не пачуеш жаднага слова.

Нашто яна сказала гэтае наіўнае дзяцінае глупства? Бач ты як у драме ўсё роўна. Трагічная героіня... Першая палюбоўніца.. „Або я—або яна"!..

Ён, вядомая рэч, не чакаў ад яе гэткае дурасьці, ён цяпер пагарджае ёй.

Усё кончана. Вось ён ужо бязуважна пазірае ў акно, ён ужо думае пра другое. Ясная справа: ён падыходзіць да стала і заклапочана выбірае нейкія паперкі—гэта ўдае, што некуды трэба йсьці яму з пільнымі справамі. Як заўсёды. Зараз напусьціць на твар сярдзіта-дзелавую, злосна-рашучую міну, пройдзецца яшчэ разы са два па пакою размашыста-цьвёрдымі крокамі, схопіць портфэль і грукне дзьвярмі... Марына Паўлаўна ведае, куды ён пойдзе.

Але-ж ён не сказаў нічога? Ён-жа мусіць сказаць яшчэ нейкае слова?

І Карызна гаворыць, на момант суняўшыся ў дзьвярох і не абарачваючыся:

— Напішы ліст дачцэ—нешта нічога ад яе ня чуваць...

Марына Паўлаўна доўга сядзіць нярухома, упяўшы некуды ў нявідную кропку свае блеклыя бясьцветныя вочы. І ў пустэчы гэтых вачэй яшчэ глыбей правальваюцца ўсё захаваныя, думкі яе і адчуваньні.

Але вось раптам па яе твары ледзь прыметна разьліваецца палахліва-радаснае зьдзіўленьне—яна ўспомніла апошнія Карызнавы словы.

Чаму ён менавіта цяпер памянуў пра дачку? Што хацеў ён сказаць гэтым напамінаньнем?

Марына Паўлаўна асьцярожна ўсьміхаецца, і гэтая ўсьмешка доўга астаецца ў яе на твары. Яна падыходзіць да Карызнавага стала, бярэ адтуль фотографію ў стрыкатай чарапашкавай асадцы і доўга-доўга ўзіраецца ў прыгожы вясёлы твар маладой дзяўчыны. З вачэй у яе бягуць дзьве дробныя жвавыя сьлязінкі. Яна глыбока ўздыхае і, становячы на месца дочыну фотографію, заспакоена шэпча:

— Добра ўсё-ткі, што я так сказала...

## 7

Выслухаўшы блытаныя Паўлюковы паведамленьні, Цімахвей Міронавіч Гвардыян моўчкі падышоў да кутавой шафкі, дастаў адтуль адпалавіненую паўлітроўку, выліў рэшту гарэлк і ў вялікую чайную шклянку і падаў брату.

— На, выпі.

Паўлюк ішоў да гарэлкі паволі, сьцеражліва, як па кладцы і ўжо з паўдарогі выцягнуў наперад сваю няпрыгожую хваравіта-чырвоную руку. Узяўшы шклянку, ён з момант трымаў яе ў нейкім зачарованым аслупяненьні, і тады ўжо пачаў хапліва піць, гулка чоўкаючы рухавым горлам. Выпіўшы, страшэнна скрывіўся і моўчкі пашоў да дзьвярэй, упарта ня спускаючы з твару свае крывое міны, у якой сабралася ў агідны скрутак— і пякучая горкасьць гарэлкі, і пагарда да самаго сябе, і нянавісьць да брата, і глыбокае ўсеагульнае расчараваньне.

Гвардыян глядзеў яму ўсьлед роўным застылым поглядам, і на жорсткім пэргамінавым твары ў яго ня мігнула ні спагады, ні асуджэньня, ні нават пагарды. Як зачыніліся за Паўлюком дзьверы, ён так-жа застыла паглядзеў на пустую пляшку, пакруціў яе ў руцэ і паставіў у шафу.

Фактычна, нічога такога асабліва новага Паўлюк не сказаў— мо' ня варта было й глуміць столькі гарэлкі. Але Гвардыян заўсёды мяркуе наперад. Ад яго не пяройдзе: стары п'янюга яшчэ будзе ў прыгодзе—хай ведае братаву ласку. Цяперашнім сьветам з кожным трэба мець сякую-такую політыку.

Прышоўшы да гэтае лёгічнае высновы, Гвардыян адышоўся ад шафкі і паволі пасунуўся ў чыстую палавіну хаты: тут ён можа спачыць душой і аб усім падумаць,

У чыстай палавіне сабраны ўвесь бляск Гвардыянавага багацьця і культуры. Увесь гэты пакой пазастаўлены мэбляй розных гатункаў і рознае вартасьці, сярод якіх ёсьць і самотныя адзінкі сапраўды шыкоўных дарагіх гарнітураў і ўбогія прадстаўнікі мясцовага саматужнага майстэрства. Усё стаіць ў дасканалым парадку, які дужа цешыць гаспадара і якім гаспадар дужа ганарыцца. Крэслы ўсе выстаўлены шнурам паўз сьцяну— перш маленькія, потым большыя яшчэ большыя і г. д. Шафы таксама пляча ў пляча прыхінуліся да другое сьцяны, але аднэй не хапіла месца, дык яна стала бокам, пакрыўджана адвярнуўшыся ад сваіх суседак. У двух процілежных кутох стаіць па вялізным трумо, а ў трэцім куту, што супроць абразоў,—наймілейшая Гвардыянава рэч—шырокае і глыбокае спружынавае крэсла. На гэтым троне любіў часам пасядзець Цімахвей Міронавіч, аддаўшыся глыбокаму адчуваньню сваіх шматгадовых здабыткаў, станавіта разьмешчаных перад яго вачыма. Тут ён на самоце абмяркоўваў свае мудроныя гаспадарчыя справы, тут-жа ўдаваўся ён і ў самадавольнае філёзофаваньне на тэму аб тым, што вось ня кожны чалавек патрапіць жыцьцё сабе чыста наладзіць, што ня кожнаму чалавеку дадзена на гэта сіла і здольнасьць.

У гэтае старасьвецкае крэсла асьцярожна спусьціў цяпер Гвардыян сваё недалужнае цела і, цяжка ўздыхнуўшы, стаў думаць свае непакойныя думы.

Усё, аб чым сёньня казаў Паўлюк, ён ўжо ведаў раней, але з гэтага веданьня малую меў сабе ўцеху: ён ані нічога не разумеў.

Што ім трэба? Якая ў іх праўдзівая мэта?

Гвардыян за сваё багатае і дабром і ліхам жыцьцё прызвычаіўся ў кожным дзеяньні людзей пад знадворным яго выяўленьнем знаходзіць просты матэрыяльны сэнс, які часамі быў зусім розны ад тых мэт, што паказвалі людзі, і які заўсёды—ён ўжо добра ў гэтым пераканаўся—круціўся недалёка ад таго, самага, любага ўсім, як і яму, Гвардыяну, рубля. І цяпер ён, адкінуўшы ўсякія там палітычныя гутаркі ды агітацыі, стараўся знайсьці просты матэрыяльны эквівалент небясьпекі, што насуваецца на яго грознай навалай.

Можа будзе абрэзка зямлі? Можа прыдзецца заплаціць нейкі асаблівы падатак?

І, каб напужаць сябе, каб загадзя прыўчыць сябе да страшной магчымасьці, ён бярэ найбольшае:

— Няўжо цэлую тысячу?

Ён шырока расплюшчвае вочы і стараецца самога сябе падманіць, што сапраўды яму страшна, што горшага ўжо быць ня можа. Але дарма! Нейкі ліхамысны нутраны голас падказвае, што гэта ня страх, а ўцеха, што ідзе нешта куды вялікшае і страшнейшае. І ў тым, што цёмнае яно, невядомае—самая турбота Цімахвею Міронавічу Гвардыяну.

Па мястэчку—Гвардыян ведае—часта памінаюць ягонае імя. У Малаха, дзе кватаруе таварыш рабочы з гораду,—Паўлюк казаў—маюць яго ўжо за першага ворага. А тут яшчэ круціцца—сыскаўся са сьвету—гэты зладзюга Шыбянок. Што ён мае да яго? Чаго ён гару верне на бязьвіннага чалавека? За што ён імсьціцца яму?

Гвардыян, праўда, ведае добра, за што імсьціцца яму „зладзюга Шыбянок“, ён не забыўся яшчэ, што гэта з яго лёгкай рукі пайшоў той—голы, як бізун—у невядомы сьвет шукаць невядомае долі. Дый баіцца ён гэтага чорнага чалавека горш, як агня, але ніколі сам сабе ня прызнаецца ў гэтым і свой страх хавае за ўтульную заслону формальнае законнасьці.

— Я нічога супроць законаў савецкае ўлады не рабіў. Я ні ў кога ня ўкраў і нікога не абрабаваў. Я сам жыў і дзяржаве даваў. А што наймаў, дык на гэта таксама быў закон ад дзяржавы. Дзе-ж мне, век служачаму чалавеку, ды яшчэ, будучы, сямейна - бязьдзетнаму, з ўсёй гаспадаркай самому ўправіцца!

І ў Гвардыянаву сьвядомасьць адзін па адным плывуць самыя пэўныя, самыя рашучыя аргументы, якія даводзяць поўную ягоную лёяльнасьць. Ён паступова сьмялее, і непакой яго зьмяняецца на абурэньне.

— Што я мяшаў яму катораму абжывацца? Што я яму катораму сьвет завязаў? Гэтак ня то, што Шыбянок, а і родны брат гатоў сказаць, што я разарыў яго, гаспадаркі рашыў?

Праўда, братава Паўлюкова гаспадарка, як і таго, Шыбянка, таксама ў ягоныя рукі перайшла, але-ж ён сплаціў яму ў добрай згодзе па закону, і мае права цяпер з шляхетным абурэньнем сустрэць усякую з яго боку прэтэнзію.

Што яны да яго маюць? Што яны ладзяць там на ягоную галаву?

У Гвардыяна гэтае „там" ужо канчаткова лёкалізавалася ў Сівалапах—адтуль, бязумоўна, ідзе ўвесь чмур, а першыя паджыгайлы супроць яго—чорны Шыбянок ды гэты, з гораду. Яшчэ Віктар комсамолец памагае ім, блазьнюк паганы. Але што яны прымеюць зрабіць? Нічога ня выйдзе з ўсяе гэтае іхнае турбацыі, дарэмны клопат! Гвардыян знае сівецкіх людзей—зьвекаваў з імі, можна сказаць,—ня пойдуць яны на гэтае ашуканства, не дадуць сябе абкруціць!

Цімахвей Міронавіч ужо усьміхаецца шырокаю, застылаю, як у жабы, усьмешкаю. Ён заспакоены ўжо, ён цалкам упэўнены ў добрым канцы. І ён трыумфальна-здаволеным поглядам абводзіць сваю хатнюю маемасьць, нібы ўбіраючы ў сябе грунтоўную моц і станавітасьць усяго гэтага багацьця.

— Хай-тку панажываюць столькі!

Потым да ягонага вуха далятае гаспадарчы бразгат з чорнае палавіны. Яго сьвядомасьць раптам варочваецца да абыдзёншчыны, і ён перш-на-перш успамінае, што сёньня—нядзеля. Ён устае з крэсла і, стоячы ля яго ў важна нахіленай наперад падставе, гукае:

— Матрона!

Уваходзіць жонка—невялічкая молепадобная жанчына з дробнымі і рэдкімі, нібы высеянымі вачмі. Гвардыян, ня гледзячы на яе, выгалашае;

— Дай мне той добры пінджах, трэба, будучы, схадзіць да аб'ежчыка.

Цэрамонія надзяваньня „добрага пінжака" праходзіць з адмысловай урачыстасьцю. Хоць „пінжак" вісіць тут-жа, у першай ад Гвардыянавага трону шафе, але бярэ яго канечна „Матруна" і, трымаючы на выцягнутых уперад руках, падносіць да Гвардыяна з напружанай, блізка да спалоху, павагай. Гвардыян ужо загадзя абярнуўся сьпіной на сустрэчу „добраму пінжаку" і выставіў назад скачарэжаныя рукі. „Матруна", заціўшы дух, напінае на гэтыя рукі няслухмяныя рукавы.

Хутру Гвардыян апранае сам і без цэрамоніі. Потым, узяўшы за клямку, ён па неадменнаму свайму звычаю абарочваецца напаўзварота ад дзьвярэй і дае апошні загад жонцы:

— Як прыдзе Панас—хай ідзе струшанку трэсьці.

І тады ўжо здаволены, што ўсё ў яго цалкам палюдзку, выходзіць на вуліцу.

Аб'ежчык жыве на водшыбе. гоняў з пяцёра ад Сіўца, на ўзьлесьсі. Гвардыяну трэба прыйсьці, ідучы да яго, бадай палавіну мястэчка. Сёньня праходка гэта чамусьці ня цешыць яго, як зазвычай не дае яму салодкага адчуваньня ягонае сілы і паважнасьці. Праўда, кожны, хто стрэнецца па дарозе, выяўляе да яго звычайную далікатнасьць, але ў гэтай далікатнасьці чуецца цяпер Гвардыяну нейкая прыкрая падкрэсьленасьць, а іншы раз нават тонка схаваная насьмешка. Ліха ведае, што гэта сталася з гэтымі людзьмі.

На самым канцы мястэчка кідаецца ў вочы сьмешная хацёнка Галілея. Яна стаіць адна сярод пустога прагалу—ні двара пры ёй, ні плоту, нічым-чагенічка. Стаіць, самотная, нудная, засыпаная сумётамі сьнегу, і толькі, як дзікі недарэчны ўбор на галаве ў вар'ята, узносяцца над страхой непамерна-валікія, грамоздныя крылы ветрака.

Гвардыян пагардліва ўсьміхнуўся.

— Электрычнасьць!...

І ўжо гатоў быў пранесьці далей на сваіх тонкіх вуснах гэтую самадавольна-пагардлівую ўсьмешку, аж раптам нейкая нечаканая думка працяла яго галаву, і ён збочыў на вузенькую у адзін сьлед—сьцежачку да Галілеевай хаты.

Дзьверы былі завалены з сярэдзіны. Гвардыян паляпаў. Перш загурчэў сабака, потым пабыло троху ціха, і нарэшце дзьверы самі па сабе расчыніліся і, упусьціўшы Гвардыяна, зноў-жа самі па сабе зачыніліся за ім.

У хаце было пуста. Гвардыян асалапела азірнуўся наўкола шукаючы гаспадара. Нарэшце ён углядзеў клок Галілеевай барадзёнкі, які тырчэў з высокіх—на ўзровень печы—палацяй. Потым над барадзёнкай ён заўважыў яшчэ пранізьлівае Галілеева вока, якое ня міргаючы глядзела на неспадзяванага госьця, не паказваючы аднак ні асаблівае радасьці, ні зьдзіўленьня.

Гвардыян палічыў за патрэбнае засьмяяцца.

— Хе-хе-хе! Ну й мэханізацыя ў вас, Ахрап Данілавіч! Самі дзьверы адчыняюцца і зачыняюцца. Як у той казцы, усёроўна.

Галілей спакойна растлумачыў:

— Гэта я адчыніў за вяровачку, а зачыняецца вагою... ага... Ніякае асабліва мэханікі.

Гвардыян стаяў сярод хаты—Галілей і ня думаў запрашаць яго сесьці: ён, як раней, ляжаў на палацях, не мяняючы свае паставы. Аднекуль (Гвардыяну здалося, што з гары) сьціху пагіркваў нявідны сабака. Гвардыяна затурбавала думка, чаго ён прышоў сюды, і ён натужна шукаў, аб чым завесьці гаворку.

— Як маецеся, Ахрэм Данілавіч?

— Баюся, Цімахвей Міронавіч.

— Чаго-ж вы баіцеся, Ахрэм Данілавіч?

— Таго, чаго й вы Цімахвей Міронавіч.

Гвардыян хацеў быў зьвярнуць на жарт, а далей зьмеркаваў, што мо' выгадней будзе ўзяць больш сур'ёзны тон ды дапытацца чаго ў хітрага Галілея.

— Я дык што-ж, пэўная справа: кулак, хе-хе-хе... А чаго-ж вам, будучы, баяцца?

Галілей непакойна паварушыўся.

— Кхе... кхе... Каб ведаў, дык не баяўся-б. Чалавек таго баіцца, чаго ня бачыць ці не разумее.

Гвардыян працягнуў разважна:

— Што праўда, то праўда... Каб гэта ведаў усё, што наперадзе, дык які страх!.. Хе-хе... Каб ведаў дзе павалішся, дык-бы лёг там спакойненька.

Ён ня верыў, што Галілей папраўдзе баіцца, але наўважыўся ісьці напрасьцень.

— Што-ж яны, будучы, зробяць вам, Ахрэм Данілавіч?

— Яны мне нічога ня могуць зрабіць... Ці аб адным чалавеку страх?.. Вам, Цімахвей Міронавіч, будзе канец... ага... А ці варты вы таго ці ня варты?

Ён сеў, спусьціўшы ногі, на палацях, абапёрся аб калені рукамі і ўпяў у Гвардыяна спакойны задуменна-дапытлівы погляд, ад якога таму стала мутарна:

— Трэба памеркаваць... ага... Рэволюцыя ідзе... Рэволюцыя заўсёды шукае чые-небудзь пагібелі. З гэтай пагібелі—іншым шчасьце... Так і з вашай пагібелі будзе некаму шчасьце... ага... Я ня ведаю... не разумею... Нічога не разумею...

— Не разумееце?

— І нічога я вам не скажу.

— Ня скажаце?

Гвардыян раптам адчуў, што сапраўды яму страшна. Каб схаваць ад Галілея сваё пачуцьцё, ён пяўся зрабіць на сваім твары бязуважна-гіронічную ўсьмешку, але замест яе дрыготныя вусны расьцягваліся ў нейкую ўбогую, разгубленую грымасу. І нястрыманы нутраны імпэт прымушаў яго мімаволі рабіць наіўныя недарэчныя запытаньні.

— Можа, скажаце, зямлю адбяруць?

— Кхе... кхе... адбяруць.

— Можа, скажаце, гаспадарку рашаць.

— Кхе... кхе... і рашаць.

— Можа і хату?.. І тое, што ў хаце? Га? І тое што ў хаце? Можа скрыні пачысьцяць, кішэні павыварачваюць? Можа сарочку зьдзяруць? Ну? Кажы! Ну? Кажы!..

Ён падступіў пад палаці і ашчэрыўся на Галілея сваёй дзікай грымасай, у якой перамяшаўся страх з агіднай нястрымнай злосьцю.

— А можа ты брэшаш, га? Брэшаш, Галілей, во што... Брэшаш! Брэшаш! Не загубяць бязьвіннага чалавека! Няма такога закону! Закону няма!

Галілей замятусіўся на палацях, закхекаў, затрос сваёй мізэрнаю барадзёнкай. Падняўшы пад столь правую руку, ён таргануў за нейкую вяровачку, і раптам палаці плаўна пасунуліся ўніз і спусьцілі Галілея на падлогу.

Гвардыян стаяў, аслупянелы, разьзявіўшы рот ад зьдзіўленьня. А Галілей ужо трусіўся па хаце, поўны дзівоснае пакойнасьці, і лапатаў ня то Гвардыяну, ня то самому сабе:

— А ўчора я трактар бачыў... ага... Ішоў некуды праз наша мястэчка... Тах-тах-тах-тах-тах... І жук поўз па дарозе. (Галілей відочна зманіў. Які ўзімку мог жук паўзьці па дарозе? Ды й трактара пэўнага ніякага ня было). Жучок... Проста — чорны жучок... Кхе... кхе... Дык трактар пайшоў, а жучок астаўся... раструшчыў трактар жучка... І ніхто не шкадаваў... Раструшчыў, Цімахвей Міронавіч, ага... разумееце?

Гвардыян, якога троху ахаладзіў цудоўны сход на зямлю Галілея, слухаў яго з падазроннаю настарожнасьцю.

— А што гэта па-твойму--трактар?

Галілей трыумфаў.

— Ага... Вось ня зедаю... кхе... кхе... Не разумею, Цімахвей Міронавіч, не разумею... І нічога не скажу... ага...

У гэты час зноў нібыта недзе ўгары азваўся сабака—заскавытаў жаласна і нецярпліва. Галілей зайшоў на другі бок печкі, таргануў за другую вяровачку і такім-жа спосабам, як і ён сам, спусьціўся на дол ягоны сабака. Галілей зараз-жа растлумачыў:

— Кхе... хке... Сьцюдзёна ў мяне. На доле ніжэй за нуля тэмпэратура. Кожнае стварэньне цяплынёй ажыўляецца... Босы, не чапай Цімахвея Міронавіча!

Мабыць па праўдзе было сьцюдзёна ў Галілеевай хацёнцы, бо Гвардыян калаціўся, як у трасцы, хоць і быў апрануты ў добрую хутру. Наогул, ён адчуваў сябе, як акунуўшыся ў праламку. Прыкрая ледзяная золь ела нутро, падтачваючы цёплую заслону душэўнае роўнавагі. Ён мацней захінуўся ў хутру і няпэўную ступою пасунуўся да дзьвярэй

— Бывайце, Ахрэм Данілавіч!

— Таго й вам, Цімахвей Міронавіч... Кхе... кхе... Усяк бывае ага... усяк бывае..

Гвардыян напружыў усе сілы і выходзячы крыкнуў з задорнай бязрупатнасьцю:

— Дармо! Ці тое бачылі на белым сьвеце! Жывём і жыць будзем... ого-го!..

Узышоўшы на вуліцу, Гвардыян раптам завярнуў назад, пад сваю хату: ён ня мог у гэткім настрої ісьці да аб'ежчыка. Ідучы па мястэчку, ён, мабыць, упяршыню за ўвесь час свайго Сівецкага дабрабыту забыўся трымаць знадворную станавітасьць: ён сігаў шпаркімі нэрвовымі крокамі, выцягнуўшы наперад худую сваю, жылаватую шыю.

У галаве білася тлумнай навалай:

— Разбой... Гэта—чысты разбой... Сярод белага дня рабаваць чалавека! Што-ж гэта будзе?

Страх і разгубленасьць памалу пераходзілі ў злосьць, і Гвардыян сьціскаў кулакі.

Чакайце-ж, браточкі! Ён ня дасца так лёгка! Нічога ня выйдзе! Не адзін-жа ён гэткі! Усіх ня імеш—няпраўда ваша! Чакайце, ён таксама ня будзе сядзець, склаўшы рукі, нешта будзе рабіць і ён, чакайце, даражэнькія!

# 8

Колькі гэтае працы, колькі вечнага клопату ў Веры Засуліч! Зранку—у клясе. Праз чатыры, пяць, а часам і шэсьць гадзін няўпыннае тлуманіны галава азеліцца так, што, прышоўшы нарэшце ў свой чысьценькі прытульны пакойчык і адчуўшы ўсім нутром навакол сябе чароўную доўгачаканую ціхасьць, Вера доўга, мо' хвілін з дзесяць ці болей, стаіць нярухома на адным месцы, млява апусьціўшы рукі і ўпяўшы некуды ў прасьцяг нявідушчы погляд вялых вачэй. Яе стройная фігура тады недалужна сутуліцца і разам з панурым выразам твару можа нават зрабіць уражаньне, што Вера Засуліч зусім няшчасны чалавек.

Але гэта—чыстае непаразуменьне. Вера цалкам счасьлівая. Яна любіць працу і сквапна шукае яе, яна ня можа жыць бяз працы, бяз клопату. Вось пастаіць яна так хвілін з дзесяць (проста адпачывае, змарыўшыся) і зноў ажывіцца, і, яшчэ ня ўправіўшыся згатаваць сабе чаго-небудзь на ўбогі дзявоцкі полудзень, будзе ўжо гарэць новымі турботамі.

Увечары (гэта-ж праз якіх дзьве ці тры гадзіны, ведама—зімовы дзень) зьбяруцца бабы на „кройку-шыцьцё"—яна кіруе імі, перадае ім сваю прымітыўную практыку, вынесеную яшчэ з дзяцінства, з сацыяльна-несамавітае сям'і сядзельца ў „казеннай виннай лавке". Але-ж да вечера яна мусіць яшчэ забегчы на адчынены сход ячэйкі, бо хоць яна й беспартыйная, а партыйным жыцьцём цікавіцца надзвычайна. І вось, насьпех перахапіўшы сяго-таго, яна ўжо бяжыць на ячэйку і, бягучы, успамінае, што пасьля „кройкі-шыцьця" адразу будзе рэпэтыцыя новае п'есы. Хоць драмгуртком яна ня кіруе, але як і ўва ўсім, у чым даводзіцца ёй браць удзел, адчувае адказнасьць за гэтую інсты туцыю мабыць больш за самага аптэкара Плакса, чалавека ў значнай меры флегматычнага. Дык, бягучы, яна ўспамінае, што яшчэ не расьпісаны ролі, што трэба канечна гэта арганізаваць, бо без расьпісаных роляй „з нашымі аматарамі" адна цяганіна.

І вось яна забягае ў аптэку.

Аптэкар Плакс з-за свае стойкі, якая падобна да прафэсарскае катэдры, сустракае яе, як зазвычай, стэрэотыпным запытаньнем:

— Цытра-ваніліну ці пірамідону?

Вера дасадліва адмахваецца.

— Адкасьніцеся вы з сваім пірамідонам! У мяне не баліць галава...

Плакс навучальна тлумачыць:

— Галава заўсёды можа забалець. Кожнай галаве ўласьцівы два працэсы: думаць і балець, і гэтыя працэсы ўзаемна абумоўлены: хто больш думае, у таго і больш баліць галава.

— Дык я анічога ня думаю... Плаксік, мне дужа некалі. Як у нас з ролямі?

Але аптэкар Плакс ня можа дапусьціць у сваёй справе лёгкамыснай пасьпешнасьці; ён перакананы, што жыцьцё ў чалавека бяз меры доўгае, і яго хопіць на тое, каб рабіць усё спахваля. Перш, чым распачаць справу, ён мые рукі, старанна выцірае іх ручнікам, выходзіць з-за свае катэдры і здароўкаецца з Верай, доўга і мякка трымаючы яе невялічкую ручку. Вера церпіць гэта без асаблівай прыкрасьці: ёй, папраўдзе сказаць, Плаксава асьцярожная сымпатыя куды мілей за абажаньне большасьці (ня ўсіх, вядома) сівецкіх рыцараў. Узаемнага пачуцьця да яго яна, мабыць, ня чуе, але паважае яго і за драматычныя таленты і за мяккае абыходжаньне.

Але-ж ёй страшэнна некалі, і яна ўсё-такі адбірае ў Плакса сваю руку.

— Дык як-жа з ролямі? Гэта-ж пільная пастаноўка, нам за тыдзень трэба даць яе.

Цяпер Плакс можа гаварыць і аб справе. Ён варочаецца за сваю катэдру, поркаецца нечага ў сваіх рэцэптах і, нарэшце, падае Веры сьпісаны сшытак.

— Палавіну роляй я ўжо сам расьпісаў. Ды і рэшту, мабыць, зраблю.

Вера ня ведае, як і радавацца гэтай неспадзяванай Плаксавай рупнасьцю. Цяпер яна спакойная, яна можа бегчы далей. Але Плакс яшчэ хоча нешта сказаць, і яна не сьпех моршчыць лоб у шчырай уважнасьці.

Плакс выгалашае свой аўтарытэтны прысуд:

— П'еса дрэнная, але цалком адпавядае палітычным задачам сёньняшняга дня; пусьцім на-дармавую...

— А як-жа выдаткі?

Плакс пагардліва крывіцца і робіць рукой лёгкі жэст, нібы далікатна адпіхвае ад сябе якую брыдкую рэч.

— Навошта пэцкаць мастацтва ў бруд матэрыяльных рахункаў. Мастацтва даражэй за грошы...

Вера кідае яму адвітальную ўсьмешку і, здаволеная, выбягае з аптэкі.

На адчыненым сходзе ячэйкі Вера Засуліч сядзіць, застыўшы ў глыбокай напружанасьці. Ад яе ўвагі можа й не хаваецца тое, што сакратар ячэйкі Сымон Карызна па яе прыходзе відочна ажыўляецца, весялее, робіцца больш гаворкі і красамоўны. Можа гэта нават і цешыць яе жаночы гонар, але яна ня робіць з гэтага ніякіх высноў і нават, больш таго, стараецца гэтага зусім не заўважыць. Пытаньні, што абмяркоўвае сход, цалкам захапляюць яе. Ды й ці дзіва! У гэтых пытаньнях так

многа новага, жывога, глыбоказначнага. Гэта ня дробныя справы бягучага дня—гэта справы эпохальных маштабаў, гэта—гістарычна вялікі зрух, які павінен даць новы кірунак усяму жыцьцю краіны.

Так прыўчыў яе глядзець на колектывізацыю Сымон Карызна, і гэты погляд яна засвоіла з шчырай гатоўнасьцю сумленнага спраўнага працаўніка. На загану ёй трэба сказаць, што веліч гэтага гістарычнага процэсу яна ўспрымала троху абстрактна, і захапленьне яе фактычна складалася з двух зьлітых у адно пачуцьцяў: з чыста дзяцінага страху перад грознаю невядомасьцю і такой-жа дзяцінай радасьці, што вось дзеецца нешта надзвычайнае, нешта сьмелае, рашучае, баявое. Адвелі гэта не перашкаджала ёй заўсёды быць у дзейнай бадзёрасьці і перадаваць гэту бадзёрасьць усім, хто з ёю стыкаўся.

Вера Засуліч у значнай меры натура романтычная. Таму ёй падабаецца ўсё яскравае, барвістае, выдатнае. Таму ёй больш да ўпадобы гарачыя, багата насычаныя эмоцыяй, выказваньні Сымона Карызны, чымся спакойна-дзелавыя, нават трошачку ўсьмешлівыя заўвагі (менавіта—заўвагі) брыгадзіра Зелянюка. Наогул Карызна гаворыць лепш за ўсіх і, бязумоўна, лепш за ўсіх разумеё сутнасьць усіх гэтых спраў. Вера спачывае душой, як слухае ягоныя прамовы. Адно прыкра турбуе яе, што Карызна надта ўжо зважае на гэтага блазьнюка брыгадзіра. Гаворачы ёй раз по-раз кідае ў яго бок асьцярожны дапытлівы погляд, нібы чакае ягонае ўхвалы. Гэты погляд страшэнна назаляе Веры—ён надае ўражаньне, нібы Карызна баіцца Зелянюка, высьцерагаецца яго, ці мо' ўважае яго за нейкі для сябе аўтарытэт. Навошта гэта? Наогул, Вера заўважыла, што паміж гэтых двух партыйцаў часам мільгае нешта падобнае да захаванага спаборніцтва. А можа гэтак лепей для справы? Хто яго ведае.

Але-ткі давялося на тым сходзе і Веры Засуліч зазнаць хвіліны пякучае прыкрасьці.

Гаварылі пра сівецкія справы. Выходзіць, што колектывізацыя ў Сіўцы ня рушыць з месца, бо побач з упартай работай па пропагандзе ідэй перабудовы вёскі ідзе ня менш упартая агітацыя супроць колгасу. Разам з тым, як расьце і мацнее дружны актыў перадавікоў, цэнтр якога ў Сівалапах, у хаце дзьдзькі Малаха, адначасна зьбіваецца і другі, ня менш дружны актыў, гатовы да астатніх сіл змагацца за старую вёску, за старое жыцьцё, вякамі ўсталяванае, прырослае да каржаватага мужычага нутра. А фактычна—гэта была зграя кулакоў і падкулачнікаў, першым заводцам у якой быў, вядомая рэч, Цімахвей Міронавіч Гвардыян.

І вось Вера Засуліч успомніла невялічкую молепадобную жанчыну, з дрбонымі высеянымі вачмі.

Справа ў тым, што ў Веры Засуліч былі вэльмі блізкія і прыязныя адносіны з Матрунай Іванаўнай, Гвардыянавай жонкай. З першых дзён прыезду свайго ў Сівец Вера нейкі час кватаравала

ў Гвардыянаў і там пасябравала з ціхай малапрыметнай гаспадыняй, пакорна адданай свайму жорсткаму мужу—ды ня толькі мужу, а кожнаму, з кім даводзілася ёй заводзіць больш-менш блізкія дачыненьні. Што й казаць—да Веры Засуліч яна з першага-ж дня паставілася з глыбокай, чыста набожнай пашанай.

І, ня гледзячы на сваю малапрыметнасьць, Матруна Іванаўна была цікавая жанчына. У ёй дзівосна перамяшаўшыся была шэрая абмежаванасьць забітае вясковае жанчыны з рэшткамі калішняй — праўда, убогай, страшэнна блытанай культурнасьці. Так-так, Матруна Іванаўна вучылася нават калісьці ў гімназіі! Яна была зусім шляхетная паненка—тонка гаварыла з кавалерамі пра каханьне, грала на гітары і кволым галаском выводзіла журботны напеўчык.

> Ветер пранесся над речкою сонною.
> Тихо шумит очерет...
> Там, на ваде, между тиной зеленою
> Мертвое тело плывет...

Грубая неўвароткая мужава воля жорстка прыгбала ўсе яе поэтычныя нахілы, і цяпер толькі калі-ні-калі яны прабіваліся скрозь закаржэлы пласт тупога жыцьця раптоўнымі недарэчнымі парасткамі, якія дужа цешылі Веру Засуліч. То яна, жаласна скуксіўшы маленькую сваю фізыяномію, запяе напоўзабыты романс, то ўспомніць што-небудзь романтычнае-прычулае з свае неверагоднае мінуўшчыны, то пачне разважаць пра мілосныя пачуцьці, пра каханьне. Усё гэта так дзіка, так прарэзьліва дысонавала з ўсёй ёй, цяперашняй Матронай Іванаўнай, што сьміхатлівы настрой у Веры часам мімаволі зьмяняўся на пачуцьцё раптоўнае жудасьці.

У глыбіні душы Вера, бязумоўна, толькі сьмяялася з Матроны Іванаўны, але разам з тым адчувала да яе найшчырэйшую сымпатыю і да апошняй пары ня кідала вадзіць з ёю сяброўства, карыстаючы сяды-тады з яе дабраахвотных дробных паслуг.

І вось цяпер толькі, пачуўшы пра кулацкія махінацыі Гвардыяна, Вера зразумела раптам, што гэтая невялічкая сьмешная жанчына—зацяты вораг партыі і савецкай ўлады. Пэўна, што вораг, бо Вера-ж добра ведае яе рабскую адданасьць мужу, ягоным інтарэсам, ягоным думкам, пачуцьцям і настроям.

І яна з гэтай жанчынай сябруе. Яна, палітычна сьвядомая блізкая да партыі працаўніца, першае на ўвесь Сівец актывістка.

Вера Засуліч гарыць уся ад нутранога сораму, а можа і страху. Кожны напамінак пра Гвардыяна востра падколвае яе, напінае нэрвы, не дае спакойна ўсядзець на месцы.

Яна вінавата! Яна страшэнна вінавата! Але яна загладзіць сваю віну, сваю мімавольную заблуду! Яна яшчэ з большай шчырасьцю, яшчэ з большым імпэтам возьмецца за працу, і ў справе колектывізацыі Сіўца, у барацьбе з кулакамі, з тымі самымі Гвардыянамі, яна адыграе не апошнюю ролю!

Вера выступае ў спрэчках (яна-ж хоць і беспартыйная, але партыйнымі справамі цікавіцца) і ў гарачыя запальныя словы ўкладае сваё глыбокае абурэньне супроць тых, хто ставіць палкі ў кола вялікага будаўніцтва. Яна патрабуе найлюцейшае барацьбы з імі, яна заклікае да гэтае барацьбы ўсіх партыйцаў і беспартыйных. Яе словы робяць уражаньне, яе настрой перадаецца прысутным. Яна чуе гэта і яшчэ больш запаляецца.

Дармо, што ўсьміхаецца гэты блазьнюк брыгадзір! Мо' ён ня верыць у яе шчырасьць? Мо' ён думае, што яна толькі гавора, што ў яе ня хопіць сілы самой рабіць тое, да чаго яна заклікае?

Пабачым, хто чаго варты!..

... Вера Засуліч ідзе з партыйнага сходу ўзрушаная, але пэўная ў сабе. Дарогай яна цьвёрда пастанаўляе ад гэтага-ж дня спыніць усякія зносіны з Гвардыянамі.

Яна варочаецца дамоў пасьпешна, прыбежкам,—пэўна, сышліся ўжо бабы на „кройку-шыцьцё". Яна адразу бяжыць у клясу, дзе старожка ўжо запаліла сьвятло, але там ўсяго тры жанчыны Наказаўшы ім чакаць, Вера бяжыць ў сваю кватэру, каб хвілін з дзесяць якіх адпачыць на самоце.

На кухні гарыць газовачка—старожка нешта поркаецца каля печы. А на ўслончыку ў кутку сядзіць невялічкая молепадобная жанчына і зьзяе на сустрэчу настаўніцы салодкаю, наскрозь прасякнутаю ласкай, усьмешачкаю. Яе куксачка-твар увесь сабраўся ў камочак дробных прыветных маршчынак.

— Я вас чакаю чакаю, Вера Міхайлаўна!

Вера аслупянела. Што ёй рабіць? Ёй трэба канечна выгнаць яе, гэтую кулацкую гідру, сказаць, каб яе духу-паху тут ня было. Яна павінна гэта зрабіць, гэта яе абавязак. І яна зробіць абавязкова зробіць. Вось зараз, адразу, каб доўга ня думаць.

Вера раскрывае рот, каб сказаць першае жорсткае слова, і рот яе сам па сабе складаецца ў ветлую ўсьмешку.

— Добры вечар, Матруна Іванаўна! Вы даўно прышлі?

— А ўжо, любачка мая, хвілін з дзесяць, чэснае слова...

Вера злуе на сябе і сьпехам мяркуе, ці яшчэ ня позна выгнаць яе, гэтую кулацкую погань, пасьля тых слоў, якія яна ёй сказала. І наважвае, што можна яшчэ, бо першыя словы былі звычайнае прывітаньне, якога вымагае простая абычайлівасьць. А цяпер ужо яна скажа адразу, усутыч, бяз ніякіх там абыходаў. Каб надаць сабе сьмеласьці, яна супіць бровы, набірае суровага выгляду.

— Матруна Іванаўна!

Але тут на момант запыняецца і, расхмурыўшы твар, канчае:

— Зойдзем да мяне ў пакой...

— Дзякую, Вера Міхайлаўна. Толькі на адну хвіліначку, чэснае слова...

Вера Засуліч у думках з шалёнаю злосьцю дзярэ сябе кіпцюрамі і мала што ня плача. А тым часам адмыкае пакой і далікатна прапускае наперад маленькую, молепадобную жанчыну.

Матруна Іванаўна борзьдзенька, мышкаю, забягае ў свой абзвычаены куточак—паміж дзьвярэй і грубкі—і зачынае дробненька ўздыхаць:

— Божачка мілы, што гэта дзеецца. Любачка мая, гэта ж як сьвет стаіць гэткага ня чуваць было, чэснае слова. Што хто працаваў, стараўся, не даядаў, не дапіваў—цяпер аддай усё няма ведама каму. Чысты разбой, чэснае слова...

Вера сядзіць бледая, здранцьвелая—яна нават не дабірае сэнсу Матруніных слоў, а ўспрымае іх, як балючыя жорсткія ўдары, ад якіх муціцца ў галаве, і сэрца заходзіцца з тупога. зьвярынага страху. Што ёй трэба? Чаго яна прышла сюды? Як ёй сказаць, што ёй тут ня месца, што яны—ворагі, што яна і на парог яе ня хоча пускаць?

Матруна Іванаўна пачынае жаласна хліпаць.

— Кажуць... адбяруць усё... пазаганяюць усіх у колектыў у гэты... Усіх чысьценька, як на прыгон, усёроўна. Столькі гаварылі, столькі мэнчыліся, чэснае слова...

Сьлёзы Матруніны выклікаюць у Веры дзіўнуую мешаніну жалю і злосьці. Яна рашуча ўскаквае з месца і крычыць:

— Матруна Іванаўна!

І зноў запыняецца і канчае зусім ня тым, што мела сказаць:

— Кіньце плакаць. Неяк абыдзецца...

Як, што яна сказала? Неяк абыдзецца? Што гэта „неяк абыдзецца"? Колектывізацыя? Перабудова жыцьця? Рэволюцыя? Рэволюцыя „неяк абыдзецца"?

О, яна гэтага сабе не даруе! Опортуністка! Абывателька! Кулацкае падпявала! Здрадніца!

Яна, як няпрытомная, кідаецца на ложак і як мага сьціскае зубы, каб не заплакаць. Гвардыяніха ўраз выбягае з свайго куточка і сьпяшаецца.

— Ой, заседзелася я, чэснае слова... Трэба бегчы.

У руках у яе раптам—няма ведама адкуль—зьяўляецца скрутак. Яна кароткімі і пасьпешнымі рухамі, нібы спадкрадня, кладзе яго на стол.

— Скаромінкі крошка... Усёроўна, пойдзе ўсё ў глум. Чорту лысаму дастанецца. Ежце на здароўе, мая любачка... Бывайце здаровенькі!

Вера шалёна зрываецца з ложку, кідаецца ўсьлед за кулацкай гідрай і—праводзячы яе да дзьвярэй, запрашае:

— Можа-б пасядзелі яшчэ, Матруна Іванаўна?

— Не ўжо, мая любачка. Заходзьце вы калі да нас, чэснае слова...

Нарэшце пайшла. Цяпер ужо Вера дае волю сваім пачуцьцям. Яна зноў кідаецца на ложак, упіваецца зубамі ў падушку, трапечацца ўсім целам, як у прыпадку, і гістэрычна плача.

У дзьвэры ляпаюць.

— Вера Міхайлаўна! Ужо ўсе пазьбіраліся.

І Вера Засуліч надлюдзкаю патугаю волі сунімае свой дзікі плач: няма часу, трэба ісьці на „кройку-шыцьцё“. Прыдзецца хіба паплакаць потым ужо, кладучыся спаць.

Праходзячы паўз стол, Вера сьцеражліва абыходзіць яго зводдаль, з жудасьцю ўзіраючыся ў страшны Гвардыяніхін скрутак.

## 9

Жыла пад гэту пару ў Сіўцы адна досыць цікавая фамілія. Складалася яна з двух асоб: брата і сястры Шыбянковых. Брат — гэта і быў той самы „зладзюга Шыбянок“, што наганяў найбольшы непакой, трывогу і страх на Цімахвея Міронавіча Гвардыяна. Ён незадоўга перад гэтым вярнуўся ў Сівец, адкуль адсутны быў праз цэлых сем год. А незадоўга перад ім вярнулася з няўдалага замужжа яго-ная сястра — маладая вясёлая і растаропная жанчына, моцная спакуса ўсіх сівецкіх аматараў мілосных уцех. І вось пахілы сьлепаваты дамок у глухім закавулку, што ўжо цеперся стаяў з шчытна пазабіванымі вокнамі, зноў акрыяў, засьвяціўся хоць і ня надта гучным, але жвавым бадзёрым жыцьцём.

Шыбянковы жылі адно з адным у лагодзе. Нават больш таго, у іх былі надзіва цёплыя пяшчотныя стасункі, якія рэдка бываюць паміж дарослымі братам і сястрой. Тацяна дык проста ўбагаўляла свайго прыгожага, спрытнага, разумнага і шырока дасьведчанага брата, і атуляла яго чыста матчынскай ласкай, хоць была на колькі год маладзейшая за яго. Андрэй-жа глядзеў на яе нібы трохі звысака, з жартлівай паблажлівасьцю, але фактычна пад гэтым хаваў такую самую цёплую і глыбокую прыязнасьць, як і яна. Проста ён больш быў скрыты ў сабе (жыцьцё навучыла), дык ня мог паказваць свайго пачуцьця, як яно ёсьць. Ён патворыў ёй, глядзеў пагадліва на яе частыя мімалётныя романы, нават здаецца, яны імпонавалі яму, але любіў таксама і добра пажкеліць з яе, падражніцца.

Тацяна ня была распусьніца. З свайго нядоўгатрывалага замужжа яна вынесла добрую практыку, і ўмела як сьлед шанаваць сваю жаноцкую годнасьць — таму ў стасунках з мужчынамі перавага была скрозь на яе баку. Ніхто ў цэлым Сіўцы ня мог пахваліцца, ці, прынамсі, ніхто не хваліўся, што змусьціў яе на салодкі грэх, затое яна магла дзесяткамі налічыць мужчын, якія да яе так ці іначай заляцаліся.

Была гэтая Тацяна здаровая, сьвежая маладзіца, з спакусьліва мяккімі павольнымі рухамі, з чыстым, адкрытым і досыць прыгожым тварам, з якога ніколі ня сходзіла спакойная цяплыня. Заўсёды вясёлая, гаворкая — яна ўсюды, дзе-б ні была, узьнімала вакол сябе жартаўлівы-легкі настрой, у значнай меры падагрэты вострым аганьком юрлівасьці. Бабскага кампанства яна ня любіла — больш аціралася паміж мужчын і жыла інтарэсамі зусім ня бабскімі. Адно, што прыхіляла яе да жанчын, уцягвала яе на

нейкі час у неразлучную дружбу з імі, гэта—няўдача ў сямейных ці сардэчных справах. На ўвесь Сівец яна была першы абаронца і спацяшальнік жанчын, што абшаснуліся на сьлізкай амурнай дарозе. Гэта, мабыць, таксама быў вынік яе ўласнае ў гэтым кірунку няўдачы.

Апошнім кліентам Тацяніным была Марына Паўлаўна, Карызнава жонка. Дзіва-дзіўнае, як маглі пасябраваць (ды і моцна пасябраваць!) гэтыя дзьве жанчыны, такія розныя, далёкія адна ад аднае: глуха замкнёная, гордая ў сваім няшчасьці Марына Паўлава, якую балюча ўражала нават найменшая праява чужой спагады, і адкрытая, простая, у значнай меры бесцарамонная Тацяна! І — пэўная рэч — ніколі-б гэтае дружбы і ня было-б, каб ня спрычыніўся тут верны паж Марыны Паўлаўны — Галілей.

Завязлася справа гэтая ад Галілеевае візыты да Шыбянковых, якая, праўда, мела зусім іншую мэту: апанаваны сваімі ўнівэрсальнымі турботамі і непакоем, Галілей пайшоў быў да Андрэя Шыбянкова даведацца, як ён ненавідзе Гвардыяна, свайго ворага, і як гэтая нянавісьць спалучаецца з тэю агульнаю завірухаю, што ўзьнімаецца наўкола і нясе з сабой вялікую, яшчэ не асазнаную Галілеем, ператруску.

Як за-звычай, прыцюпаў Галілей да Шыбянковых раптоўна, з разгону, але сваім зьяўленьнем ня зьдзівіў нікога, бо добра вядомы быў ягоны характар, і даўно ўсе да яго прызвычаіліся. У дзьвярох ён затрымаўся на нейкі час, бо старыя расківаныя дзьверы ніяк не хацелі зачыняцца. Тацяна, сьмяючыся, гукала яго:

— Кіньце, дзядзька Ахрэм! Кіньце! Яны гэткія з роду. Заходзьце ў хату.

Але Галілей не зважаў на запрашэньне, а такі тоўкся ля дзьвярэй аж датуль, пакуль ня даў ім рады, прыладзіўшы да іх нейкую тэхніку.

— Дзень добры, людцы! Мароз на дварэ, і ў хаце ня цёпла... Босы, ідзі ў сенцы...

Тацяна сустракала яго сваёй роўнай сьветлай усьмешкай.

— Во, каб дзядзька часьцей да нас залучаў! Мо'-б хату нам папрвіў хаця, а то ўся відзьма раскідаецца. Сядайце, дзядзечка, у нас!

Андрэй ляжаў на лаве за сталом і чытаў газэту. Як увайшоў Галілей, ён паволі ўзьняўся і, каб прывесьці сябе да ладу, раскудлычыў пальцамі і так добра раскудлычаную чорную, як смоль, шэвэлюру.

— А я прылёг па абедзе... Млявасьць нейкая, ліха ведае... Сядайце-ж, чаго стаіце там!

Галілей прытрусіўся бліжей, але па свойму звычаю ня сеў, а стаяў, непакойна тупаючы на месцы.

— Акалелі, дзядзька Ахрэм?

Тацяна ня ўрымсьціма, каб не пажартаваць.

— Ідзі ты! Гэта дзядзька тупае з вясёласьці—кроў гуляе.
Галілей строга зірнуў на яе (ня любіў стары жартаў) і спакойна растлумачыў:
— Я ў Гвардыяна чай піў, дык добра сагрэўся... ага...
І бязуважна зірнуў у маленькае зашаранелае акенца.
А зманіў-жа стары хітрун, ніколі ён у Гвардыяна ня піў таго чаю і ня ўзяў-бы ніколі, хай там няма ведама што!
Шыбянкоў пусьціў у свае чорныя вусы дамысную ўсьмешку, якую Галілей схапіў на ляту.
— Яно добра маразком пагрэцца. Няма вось у нас самавару, на яго ліха.
— А ў Гвардыяна аж тры... ага... І ўсе розныя... Во гэткі, гэткі і гэткі... ага...
(Стары ніколі ніякіх самавараў у Гвардыяна ў вочы ня бачыў).
Андрэй прабурчэў скрозь зубы:
— Багатыр.
Тады Галілей борзьдзенька перакінуў свой погляд з акна на печку.
— Добры чалавек, гэты Гвардыян... ага... Душэўны ён чалавек...
І ўвесь напружыўся ў пільнай увазе. Андрэй усьміхнуўся тэй самай дамыснай самаўпэўненай ўсьмешкай.
— Гэтаму добраму чалавеку добрую пятлю на шыю, дык-бы сама пад пару было...
— Дык яно можа да гэтага і дойдзе? Ага... Мусіць-жа будзе нешта ім, гэткім? Га?..
І мізэрная барадзёнка ў старога затрэслася ад заціснутага ў сярэдзіне ўзрушэньня. Во зараз, во тут нешта скажа. Андрэй—тое, што патрэбна яму, за чым ён прышоў сюды, узброены тонкай сваёй дыплёматыяй. І праз Андрэева раскрытае нутро, як праз маленькую шчэлачку, ён убачыць зараз тое вялікае, страшное, што нясе Гвардыянам новая завіруха, і ясьней яму стане тады—якая гэта ёсьць рэволюцыя, супроць каго яна ідзе і ў які бок мае павярнуць людзкое жыцьцё.
Адылі ня выходзіць так, як стары меркаваў. Андрэй Шыбянкоў, мабыць, добра шануе сваю старую, закаранелую ў сэрцы нянавісьць і ня хоча марна растрасаць яе ў пустых выпадковых словах. Ён данясе яе да патрэбнай пары цэлую, некранутую, клапатліва выпешчаную ў патаемных сховах душы.
І Андрэй Шыбянкоў проста не адказвае ні слова на пада ступнае Галілеева запытаньне. Ён адно хмурыць твар і злосна страсае на лоб кучму бязладных сваіх валасоў. Галілею робіцц- дужа ніякава, і ён пачынае дробненька кхехаць, нібы просячы прабачэньня.
— Кхе... кхе... Хто яго... Усё можа быць... ага... усё можа быць...
Тады Таццяна падыходзіць да яго і таемна, пазмоўніцку крагае яго за рукаў.

— Чуеце, дзядзька Ахрэм, а баіцца ён, га? Дужа баіцца?

— Кхе... кхе... Баіцца... Дужа баіцца...

Тацяна сьмяецца, здаволеная, і, цёпла зазіраючы ў твар Галілею, гаворыць ласкава, нібы суцяшаючы:

— Хто баіцца, той сам сабе прысуд дае... Ведаеце, дзядька, як кажуць: хто парася ўкраў, у таго ў вушшу пішчыць. Мы вось не баімся, ані не баімся. Хай хоць што будзе, хоць уся зямля перавернецца, дык мы нічогачка не баімся. Ага?

— А я баюся, кхе... кхе... Я баюся вось... ага... баюся...

Тацяна сьмяецца—весела, жартліва.

— Дзядзька чай піў у Гвардыяна!

Андрэй дасадліва махнуў на яе.

— Ат, дзе ён піў! Слухай ты яго... Галілей будзе піць чай у Гвардыяна! Сьмех!..

Дашчэнту выкрыты Галілей бяжыць да дзьвярэй з відовічным замерам уцячы, але, ужо ўзяўшыся за клямку, раптам сунімаецца, з хвіліну раздумляе аб нечым і, вярнуўшыся, падбягае да Тацяны:

— Ну, Тацяначка, а хто-ж судзіць будзе яго, а хто-ж адказ будзе браць ў яго? А хто прысуд накладаць?

Тацяна троху зьдзіўлена, а троху распацешана глядзіць, як сударгава трасецца Галілеева барадзёнка. Яна перш жартліва адмахваецца:

— Пэўна, што ня мы з вамі, дзядзечка.

Адылі бачыць настойлівае, да болю напятае чаканьне на Галілеевым твары і кажа ўжо больш сур'ёзна.

— Знойдзецца нейкі судзьдзя. У нас толькі на гэтага злосьць на аднаго, а судзіць будзе хто на ўсіх на іх злосьць мае...

Андрэй мычыць і зрываецца з лаўкі. Але не гаворыць ні слова. Толькі перайшоў тугімі крокамі цераз хату ды вярнуўся на месца. Галілей добра разумее, што гэта значыць. Андрэй Шыбянкоў нікому ня хоча здаць права судзіць свайго злосьніка. О не! Ён ня згодзен на гэта! Не на гэта насіў ён у сабе праз столькі год лютую нянавісьць сваю, каб нехта другі за яго расквітаўся! Ён сам будзе судзьдзя!

Тады адразу згасае ў Галілея ўсякая цікавасьць да Андрэя Шыбянкова—ён бачыць, што нічога не дастане ў яго, ніякага сабе праясьненьня, бо не чалавек тут кіруе злосьцьцю сваёй, а злосьць кіруе ім. Галілей не зважае больш на Андрэя. Але ад Тацяны не адстае. Нават прысеў, стары дзівак, да маладзіцы, пільна ўглядаецца ў яе сваімі маленькімі пранізлівымі вачмі. І раптам—ні з таго ні з сяго—пытаецца:

— А вось як, Тацяна... ага... Ці гэта ты кінула свайго мужыка, ці ён прагнаў цябе?

Тацяне няўцям, навошта гэта старому, і, каб часам не ашукацца, яна зводзіць на сьмех.

— Авой, дзядзька! Ці ня сватаць маеце, што дапытваецеся...

Галілей строгім позіркам сунімае яе жартаўлівасьць. Тады яна адказвае такім тонам, які выяўна паказвае, што яна маніць.

— Мужык прагнаў. Дадушы, мужык прагнаў...

Галілей насупар адказу яе пытае далей:

— Чаму ты кінула яго?

Тады, пераможаная яго настойлівасьцю, Таццяна шчыра і проста расказала яму:

— Убачыла, што ён не кахае мяне. А як жыць так, без каханьня, ды чакаць, пакуль ён набярэ розуму, каб прагнаць цябе, дык лепш-жа самой пайсьці загадзьдзя. Нечага жыцьця лабачыш, ды за маладыя гады яшчэ і знойдзеш сабе каго пад пару. Ці праўда, дзядзька Ахрэм?

Галілей паціху мыркаў сабе пад нос, нешта вымяркоўваючы. Так пасядзеў—яшчэ з хвіліну, а тады страпянуўся і патрусіў да дзьвярэй, буркнуўшы нешта-нявыразнае на разьвітаньне.

У той самы дзень увечары Галілей тупаў на кухні ў Карызнаў. Марына Паўлава мыла бялізну, і ў кухні поўна было густое душнае пары. У гэтай пары яны адно аднаму былі няясныя, расплыўчастыя, нібы ня людзі, а туманныя сілуэты людзей. І з-за гэтае няяснасьці, як аднекуль здалёку-здалёку, голас Марыны Паўлаўны, гучэў глуха, адчужана, нібы гаварыла яна з нейкім іншым, а Галілей неўзаметку падслухваў:

— Дзьве сястры нас было. Ліда была год на тры старэйшая за мяне. Яна і больш адукаваная была, чым я—шэсьць клясаў гімназіі скончыла. Усе думалі, што гэта ён дзеля яе, дзеля Лідкі ходзіць. А ў мяне і падумкі ня было, каб гэта як іначай. Бывала, пасяджу-пасяджу троху ды ўцяку. Сорамна мне неяк і крыўдна і няма ведама што. Здаецца, што замінаю ім абаім. І доўга вялося так, пакуль не паехала была Лідка да цёткі на нейкі час. Ну, я ўжо думала, цяпер наш Сымонка і не паткнецца да нас, бо ўжо прычыны няма. Так сабе думаю, а тым часам пазіраю ў акно, а мо' як заблудзіцца. І маркотна так стала крыўдна, а чаго—няма ведама. Аж ён назаўтра і прышоў, ды такі вясёлы, здаволены, нібы рад, што Лідка паехала. Мне дык добра, а мамцы не ўпадабалася—мамка ўжо мела свае пэўныя пляны. Ён гэта заўважыў і ня прыходзіў больш, а назначыў мне потым сустрэчу, ды дзе-ж?—на магільніку! Перадаў неяк запіску праз малых. Я яшчэ думала, што гэта ён нешта на онт Лідкі, мо' перадаць ёй што хоча ці як,—дык пайшла. А так не адважылася-б мусіць, каб ведала... Магільнік у нас быў у лесе, паблізу сяла—туды часта гуляць хадзілі. Але ў той вечар хоць-бы хто—пуста-пусьценька... Сяджу я, калачуся ўся чыста, і страшна мне, і трывожна і сумна-сумна чамусьці. Хацела ўжо была ўцякаць, аж ён падышоў. Ды такі сьмешны—ціхі такі, палахлівы, як малы. Хоча нешта сказаць і ня важыцца, усё—бачу я—не пра тое гаворыць. А як сказаў нарэшце, што гэта дзеля мяне ён хадзіў,

што кахае, і тое, другое, дык я, дурная, схапілася з месца ды ўцякаць, ашалеўшы. Як злавіў ён, дык нават крычаць хацела, ледзьзе ўгаварыў тады... Сьмешны ён быў, пацешны такі...

Марына Паўлаўна сьціхла і ў глыбокай задуме, у бяздоннай углыблённасьці ў сабе стаяла над начоўкамі, кінуўшы церці бялізну, але не мяняючы паставы, нібы раптам сярод работы закамянела, абярнулася ў нярухомую статую.

Галілей стаяў, заціяўшы дух, каб не парушыць яе дзіўнае самаўглыблёнасьці, і толькі пільна-пільна ўзіраўся ў яе, нават пасунуўся троху наперад, нібы ўбіраў у сябе вобраз яе смутнае ціхасьці.

Марына Паўлаўна выпрасталася, адхінула з ілба валасы.

— Замарылася дужа. Паназьбіралася гэтага рызьзя... Трэба-б паклікаць каго памагчы, дык сама ня ведаю, каго...

І, цяжка ўздыхнуўшы, зноў схілілася над начоўкамі і працавала нейкі час моўчкі, упартым напружаньнем адганяючы ад сябе ўсякія—і добрыя і дрэнныя—думкі. Адылі твар яе праясьніўся мяккаю лятуценнасьцю, і кволая ўсьмешка кранула яе туга сашчэмленныя вусны. Яна абярнулася да Галілея, маючы сказаць нешта цікавае яму і прыемнае, аж там дзе стаяў Галілей, адно плавалі густыя клубы пары. Пакуль яна дзівавала гэтаму няпрыкметнаму яго зьнікненьню, дзьверы раптам адчыніліся, і ў іх паказаліся перш вялізные начоўкі, а за начоўкамі ружовая з марозу, уся прасякнутая яснаю вясёласьцю жанчына.

— Авой, туман які! Аж ня відаць нічагутка. Дзе тая тут гаспадыня? Ці возьме яна да сябе ў талаку?

За плячмі ў яе цёрся ў замяшаньні Галілей.

Марына Паўлаўна знала Таццяну толькі з твару, так ніколі не стыкалася з ёй, але ўсёроўна сустрэла яе ветла, радасна—такі ўжо быў у маладзіцы адкрыты прывабны выгляд.

— Заходзьце, зрабіце ласку! Але нашто гэта тўрбацыя? Гэта ўсё дзядзька Ахрэм—вечна ён што-небудзь выгадае... Як вам ня сорам, дзядзька Ахрэм!

Але Галілей ужо змыўся—жанчыны асталіся адны. Роўна, спакойна гамонячы, нібы працягваючы старую няскончаную гутарку, Таццяна прыладзіла свае начоўкі і ўзялася за бялізну. Закіпела дружная спорная праца, у якой Марына Паўлаўна ня толькі не тамілася больш, а нібы адпачывала ад ранейшае зморы. Гаворкая Таццяна без канцу апавядала ёй разныя цікавыя гісторыі ці з свайго ці з чужога жыцьця, падаючы ўсё ў такім тоне, які мімаволі настрайваў на лёгкія жартліва-гіронічныя адносіны да жыцьця і будзіў сьмелы бязрупатны сьмех, якога даўно ўжо ня знала Марына Паўлаўна. Расказала Таццяна ўсю гісторыю свайго замужжа, і хоць шмат чаго тут знайшла Марына Паўлаўна блізкага сабе, балюча пережытага, але ў сьвятле пацешнага Таццявінага апавяданьня здалося яно куды прасьцейшым, звычайным і ня толькі не раструіла незагоеных ран, а ў значнай меры падбадзёрыла Марыну Паўлаўну.

Гадзіне а дзесятай прышоў Сымон Карызна. Ён хацеў быў ужо, насупіўшыся, прайсьці моўчкі праз кухню (Марына Паўлаўна, ці толькі ляпнулі дзьверы, ураз спахмурнела, настаражылася), дык Тацяна зачапіла яго:

— Недзе позна ходзіць наш гаспадар—ня варта-б і пускаць яго, хай-бы пакалеў на марозе.

Карызна зірнуў на яе ў сярдзітым зьдзіўленьні, адылі ўбачыў яе сьмелую задорную ўсьмешку і памякчэў.

— Раз дзьве гаспадыні ў хаце, дык гаспадару няма чаго баяцца: каторая-каторая ды пашкадуе, упусьціць.

— А мо' ніводная?

Карызна зьвярнуўся да жонкі.

— Марына! Можа-б вы тут як-небудзь самавар нам зарганізавалі, зараз прыдзе Зелянюк—мы абодва пакалелі, як цюцькі.

І праўда, праз якіх хвілін пяць зьявіўся Зелянюк. Ён доўга тупаў на кухні, адаграючы ногі, вохаў і гутарыў з жанчынамі.

— Балазе, што хоць трапіў нарэшце да цёплага месца. Каля цётак можа і адыйду троху. Як маешся! Тацяна? Ня думаеш яшчэ назад да мужыка вярнуцца?

Тацяна аж расплылася ад здаволеньня.

— Авой, усё-ж ён ведае, пралаза. Нашто мне той мужык, калі хлопцаў даволі. Ды яшчэ з гораду панаехалі—пэўна да маладзіц да нашых, бо свае, гарадзкія, ужо надакучылі.

— А што-ж ты думала! На тое і ў колгас вас цягнем. Пазаганяем усіх у колгас,дык тады ўжо й рады не дасьцё, бо агульныя, усіхныя, ня маеце права і адбівацца.

— А можа, дасьць бог, ніхто і не спазрыцца на нас, на старых. Ці маладзейшых ды харашэйшых няма?

Зелянюк падміргвае ёй сваім касаватым вокам.

— Бач ты, перастарак які знайшоўся.

І здаволеная Тацяна дражліва сьмяецца, адчуваючы сваю маладосьць, і нязбыўную сілу свайго гарачага жаноцтва.

Гэты вечар даў многа спакою Марыне Паўлаўне. Так ішло ўсё ціхамірна і разам з тым весела, жвава, што здавалася, нібы нічога і ня было ў іх з Сымонам, нібы па ранейшаму жывуць яны непарушным сямейшым ладам—без асаблівае, праўда, пачуцьцёвае блізкасьці, але дружна, спакойна. Сымон таксама адчуваў гэта і таксама быў здаволены, і абое яны з ласкавай удзячнасьцю пазіралі на гэту простую вясёлую жанчыну, што патрапіла ўнесьці ў іхнюю хату даўно патрачаную тут роўнавагу.

Як адыходзіла Тацяна, Марына Паўлаўна неўзаметку адвяла яе ў бок і, нэрвова сьціснуўшы яе за руку, шаптала:

— Вы-ж прыходзьце, Тацяначка! Абавязкова прыходзьце... Часьцей... заўтра прыходзьце, абавязкова...

Разам з Тацянай пайшоў і Зелянюк.

## 10

Па мястэчку ў глуха-застылай цемры шастаў мароз сваёй прытоенай лёгкай хадою, у драпежнай хцівасьці шукаючы сабе ахвяры. Як пачуў на вуліцы Зелянюка з Тацянаю, адразу кінуўся на сьвежых людзей і ў шалёнай корці ўгрызься ў іхнія твары. Тацяна аж сунялася.

— Ой, кусаецца! Зьесьць нас мароз, дадушы, зьесьць.

Зелянюк абхапіў яе рукою за плечы ды так і павёў па вуліцы.

— Нам, здаецца, аднэю дарогаю? Ты-ж на тым канцы жывеш? У маленькай крывенькай хацёнцы?

— У маленькай крывенькай хацёнцы. Усё ты ведаеш. Якіх два тыдні пажыў, а быццам і вырас тут, у мястэчку. Хітры ты чалавек!

Зелянюк раптам узяў сур'ёзны і шчыры тон.

— Трэба быць хітраму, Тацяна. Як ня будзеш хітры, дык нехта іншы знойдзецца на цябе хітры, і ты дурнем будзеш яму. А мы ўжо ці малы час былі дурнямі...

— Цяпер вы ўжо хітрыя, а мы яшчэ дурні.

— Хто гэта—мы і вы?

Тацяна троху замяшалася.

— Ну, вы... гарадзкія

Зелянюк памаўчаў.

— Ты таксама хітрая, Тацяна. Каб ня была ты хітрая, дык-бы дасюль мардавалася ў свайго нялюбага мужыка, а то дык жывеш вось, як вольная птушка, водзіш за нос сівецкіх мужчын. Разумная ты баба, Тацяна.

— Авой, пахваліў. Каб адно не перараніўся з хвальбою, бо яшчэ ня знаеш мяне, што я за птушка.

Ішлі нейкі час моўчкі. Тацяна раптам зьняла ягоную руку з сваіх плеч—і Зелянюк адчуў, што ў гэтым—не фігураваньне, ня гульня ў удаваную незачэпнасьць, а павага да яго, да Зелянюка, да іхнае гутаркі. І па-праўдзе, прайшоўшы яшчэ некалькі крокаў, Тацяна сур'ёзна запытала яго:

— Скажы, Зелянюк, што гэта вы робіце тут?

Ён адказаў, не задумляючыся:

— Робім вас усіх хітрымі.

Тацяна шчыра папрасіла яго:

— Скажы неяк так, каб зразумела я... На сходзе я чула, ды нічога ня ўцямлю я там, хоць і словы, здаецца, простыя... Ведама, гавораць адразу ўсім, дык па колькі там каму прыдзецца! А ты так скажы, каб усё мне аднэй...

— Добра, скажу табе ўсё аднэй...

І Зелянюк на хвіліну задумаўся, шукаючы трапных слоў.

— Людзі таўкуцца, як вар'яты, у чорным, у брудным катуху, куды не зазірае ніколі сонца, дзе скрозь—цемра і смурод, адкуль ня відаць, што дзеецца навакол, за сьценамі гэтага катуха. А за сьценамі—сонца зьзяе, і сьветла там, і чыста, і раскошна, і краска скрозь, зеляніна. Ды і сьцены ў катуху ў гэтым ужо патрупехлі

даўно, ледзьве ліпяць, а трымаюцца толькі таму, што дурныя гэтыя людзі ня хочуць быць хітрымі. Каб яны былі хітрыя, яны б не мясьціліся, не таўкліся адзін за адным у брудным катуху, ня лезьлі-б адзін аднаму на галаву (пэўна, што таму вальгатней, хто на другога ўсьсядзе), а напёрлі-б усе разам, разламалі сьцены і вышлі на сьвет. Вышлі зусім-зусім вольныя, бо і тыя, хто ўправіўся ўсьсесьці на карак ім, ураз паляцеў-бы дагары нагамі ад магутнага гэтага зруху. Разумееш, Тацяна, што мы робім тут і чаго дамагаемся?

— Ты прыгожа гаворыш, ня так, як на сходзе. Але-ж тое яшчэ, ці па праўдзе там сьвет той ёсьць за сьцяной? Каб ня выламаць сьцяны на мароз? Тады пакуль ты заткнеш яе нанова! Трэба добра паверыць у гэта.

— Нашто верыць, Тацяна? Гэта можна знаць.

Яны вышлі край вёскі.

— Ну, вунь твая хата, Тацяна. Маленькая, крывенькая. Андрэй сьпіць ужо, пэўна.

Яны суняліся, але не разьвіталіся. Зелянюк узіраўся ў глыбіню цемры, што цяжкім масывам залягла паміж Сіўцом і Сівалапамі. Унізе, на дне лагчыны, туркатаў, трасучыся ад холаду, млын і спрабаваў змагацца з чорнаю навалаю цемры кволымі пасмамі сівога трапяткога сьвятла.

На гары, за млыном, там, дзе пачыналіся Сівалапы, вострае Зелянюкова вока зглядзела маленькі хліпучы агенчык, які здаваўся далёкаю зоркаю. Тады ён парыўчата абярнуўся да Тацяны і запытаў яе:

— Ты дужа хочаш спаць, Тацяна?

— Уга! За гэткую ноч два разы можна выспацца!

— Ты пойдзеш са мною? Не збаішся?

Тацяна адказала працяжна, з усьмешкай у голасе:

— Пайду... Не баюся...

Зелянюк узяў яе за руку, як малую, і павёў за Сівец у чорную прорву лагчыны. Яна зразумела, што ён вядзе ў Сівалапы, але не гаварыла нічога, ішла моўчкі, паклаўшыся на яго правадніцтва.

Абмінулі млын—у расчыненыя дзьверы ўбачылі фантастычныя ў змроку й мучаным тумане фігуры людзей. Перайшлі цераз мост, пад якім хліпала ледзянымі сьлязьмі гвалтам затрыманая ў сваім вольным бягу рака.

І скрозь абое маўчалі. Толькі як ішлі ўжо пад гару, набліжаючыся да Сівалапаў, Зелянюк сказаў:

— Адзін чалавек ня сьпіць яшчэ ў Сівалапах.

Тацяне было трывожна і сьмешна. Куды ён вядзе? Што гэта ён сабе выдумаў?

Зорка, якую зглядзеў быў Зелянюк ад Сіўца, вырасла ў сьветлы квадрат акна ў аднэй з канцавых хат. Зелянюк зьвярнуў да гэтае хаты. Тацяна сунялася.

— Гэта-ж Якуб тут Лакота жыве. Куды ты вядзеш мяне?

Ён настойна пацягнуў яе за руку.

— Ты сказала, што пойдзеш, што не баішся.

Тацяна скарылася. Зелянюк паляпаў у асьветленае акно і праз хвіліну ім, не папытаўшыся—хто, адчынілі.

Якуб меў сабе ў хаце адбітую дошкамі каморку, якую сябры ягоныя сьмехам звалі—габінэт. Там сядзеў ён за вялікім сталом, скрозь заваленым кнігамі ды паперамі і асьветленым невялічкай лямпачкай—пятым нумарам—з папяровым абажуром. Упусьціўшы позьніх гасьцей, ён шапарнуў ім:

— Туды, да мяне!

І заваліўшы дзьверы, пайшоў сьледам за імі.

Па хаце разьлягалася заўзятае, смачнае сапеньне і хропат сонных людзей. Гэтыя ціхамірныя хатнія гукі нагадалі Тацяне пра позьнюю пару і згнялі той жартаўліва-гарэзны настрой, які фактычна штурхнуў яе на гэту начную праходку. Тацяне стала сорамна. Яна ўвайшла ў „габінэт“ і стала ля дзьвярэй, прыхінуўшыся плячыма да пераборкі. Няўцямна пазірала наўкола і чакала, што будзе далей.

Зелянюк з пяшчотнай ласкай палэпаў Якуба па плячы.

— Ты ўсё ня сьпіш, Яша? А мы з Тацянай вось гуляем па начы. Ішлі міма, убачылі сьвятло і зайшлі. Чаму ты ня сядзеш, Тацяна?

Якуб схапянуўся.

— Праўда, што... Сядай, Тацяна, на табе крэсла.

Тацяна села і зірнула на Зелянюка настойным поглядам, нібы патрабуючы ад яго нейкага вытлумачэньня. Зелянюк усьміхаўся весела і загадкава, і гэта дэтанавала Тацяну: яна ўжо баялася, каб ня скончылася ўсё гэта нейкай насьмешкай.

Якуб упяў у Зелянюка цупкі погляд сваіх хваравіта-бліскучых вачэй і зрабіў патугу ўсьміхнуцца.

— Ну, а ты-ж яшчэ менш за мяне сьпіш, па праўдзе. У мяне дык бяссоньне хаця, а ты ўсё з клопатамі. Ну, як у нас, добра, здаецца?

Зелянюк ураз кінуў усьміхацца, працяўся дзелавітай сур'ёзнасьцю.

— Тут, у Сівалапах, усё гатова. Актыў перарос ужо ў масавы зрух. Можна-б рабіць сход ды й афармляць колектыў. Але трэба разам з Сіўцом. Там будзе бой. Дббры будзе бой...

— Гвардыян там баламуціць?

— Гвардыян—політык. Ён нідзе не паказваецца, ні з кім не размаўляе, а тым часам усе канцы ў яго сыходзяцца. Гэтае кодла трэба з сярэдзіны калупнуць. Мне ўсё назаляе Паўлюк, Гвардыянаў брат. Дзіўны чалавек! Страшэнна ненавідзе брата і баіцца яго, Гатоў, здаецца, разарваць яго, а тым часам ходзіць ды апавядае яму, дзе што пачуе пра яго на сяле.

— Гарэлка... Непатрэбны ён чалавёк, ня варта з ім займацца..

Як завялі гаворку пра Гвардыяна, Тацяна адразу ўспомніла, як прыходзіў да іх Галілей, і ў яе зьявілася прыкрая турбота,

нібы ведала яна і хавала нейкі ня добры сакрэт. Мо‘ той Галі-лей з якой мэтай прыходзіў? Мо‘ і гэта — штукі хітрага Гвардыяна?

Якуб раптам выцяў кулаком аб стол і гукнуў троху ў жартлівай злосьці:

— Бабы, ліха на іх! Іх сама лёгка забаламуціць! Найдурнейшае якое выдумства ўраз ім галовы ачмурыць. А мужыкі слухаюць іх. Ой, хітры наш мўжык! Ён ведае, калі слухаць бабы. Пагавары з ім з каторым, дык рукі расставіць, пысу зробіць бязьвінную, як у навараджэнца, і нібы і сам страшэнна шкадуе:—рады-бы душой, ды калі-ж баба праклятая: уцялася, хоць ты што хочаш... А як паўлітра ўзяць, ці яшчэ што, дык—куды тая баба!

Скончыўшы сваю тыраду, Якуб кінуў ускосны зірк на Тацяну, нібы чакаючы ад яе нейкага водгуку на свае словы. Тацяна моўчкі ўсьміхнулася. А Зелянюк тым часам аб нечым меркаваў, упарта зморшчыўшы бледы свой лоб, падцяты зьнізу вострым кантам тонкіх брывей.

— Та-ак... Жанчыны ў гэтай справе нам заступаюць дарогу... З імі неяк трэба па-інакшаму, па-асабліваму. За іх у нас бадай што ня браліся, і гэта кепска...

— Ён яшчэ памеркаваў нешта сам з сабой і раптам сказаў рашуча і проста, нібы пра гэта ўжо многа гаворана, і ўсё ўжо ясна, адно трэба скончыць нейкаю пастановаю:

— Так... З жанчынамі трэба павесьці работу. Гэта—справа Тацяны, за гэта ёй трэба ўзяцца.

І ўраз павярнуўшыся да Тацяны, Зелянюк растлумачыў ёй (і вокам ня зьміргнуў, шэльма!), як трэба рабіць.

Разумееш, Тацяна? Ня трэба галасу—ніякіх там сходаў ці чаго. З аднэй пагаманіла, з другой, з трэцяй. Як бачыш, што каторая троху прыхільна да нашае справы, дык ужо і трымай на воку яе. Пяць-шэсьць гэткіх назьбіралася—тады ўжо і разам усім пагаманіць, абмеркаваць добра, усьвядоміць глыбей, аб чым тут справа, каб ужо грунт нейкі быў... Ды ці мне цябе вучыць? З бабамі ты лепш за нас за ўсіх патрапіш...

Тацяна асалапела ад неспадзеўкі. Хацела перш засьмяяцца, на жарт гэта зьвесьці, але стыкнулася з напружана-сур‘ёзным поглядам Зелянюка, і на сьмех не адважылася. Рада была-б уцячы, але таксама не выпадае. Што-ж ёй рабіць? Як паставіцца да гэтага? Яны ўжо лічаць яе за сваю супольніцу, яны нават ня пыталіся ў яе, як яна на гэта глядзіць, ці згодна яна на тое, што яны робяць. Яны, значыць, пэўныя ў ёй, яны перакананы, што яна будзе, што яна мусіць ім памагаць. Яны цалком зьвяраюцца на яе. Што-ж ёй рабіць? Мо‘ адмовіцца, сказаць, што яна ня згодна з імі, што яна супроць гэтых няшчасных колгасаў? Але-ж ці будзе гэта праўда? Ці ня зманіць яна ім і сама сабе?

Зелянюк дапытліва глядзіць на яе сваймі вострымі быстрымі вачмі, нібы чакае, дамагаецца, просіць у яе нейкага слова. А Якуб разьвінае далей ягоныя меркаваньні:

— Такіх, як Тацяна, у нас знойдзецца ці мала: будзе з каго зьбіць бабскі актыў. Сабраць усіх бядачак, усіх пакрыўджацых, усіх бяздольных. Яны за Тацянай пойдуць! Каму-каму, а Тацяне дадуць веры, бо сама яна зазнала ўсяго на сваім вяку.

І вось чуе небарака Тацяна, што ёй астаецца адно: узяць на сябе гэтую неспадзяваную адказнасьць, далучыцца да гэтых людзй, што намагаюцца нешта зрабіць новае ў Сіўцы—яна не ўяўляе яшчэ выразна—што, але чуе нутром, што ня дрэннае, раз становяць яны на першае такіх вось, як яна, бедакоў. А ці толькі заняўся ў Тацяны гэты новы настрой, як адразу з чыста жаночаю непасрэднасьцю ўдалася яна і ў новыя турботы.

— Бабам трэба, каб з вядомага, з практыкі паказаць. Ля нас там, дзе я пашоўшы была, зусім поплеч комунаю працавалі. І добра жылі, дужа добра жылі. Я-ткі раскажу нашым бабам. Я сама была прыглядалася, каб перайсьці туды ад мужыка. Але што блізка...

Зелянюк быў страшэнна здаволены.

— Правільна, Тацяна, з вядомага, з практыкі. Пустымі ўгаворамі іх ня ймеш,—не павераць. Ты—я-ж казаў табе—хітрая баба...

Ён весела падміргнуў Тацяне і зьвярнуўся да Якуба:

— Ну як твае пляны, Яша? Працуеш усё?

Якуб раптам ажывіўся. Цяжкія марудлівыя вочы яго заблішчэлі падзяцінаму чыстым сьвятлом, а на худых, жудасна запалых шчоках замігцела ледзь прыметная чырвань. Ён сарамліва ўсьміхнуўся і адказаў больш для Тацяны, бо Зелянюку было гэта добра вядома:

— Тут-жа ня пэўныя якія пляны, бо я мяркую на тое, што ўвесь Сівец і ўсе Сівалапы будуць у колектыве. А як яно будзе яшчэ—няма ведама. Проста, цікава самому, ці на многа будзе лягчэй і выгадней мужыку. Мы разам з Мікітам—ён жа ў агрономіі троху кумекае. Ды-ткі, праўду сказаць, і добра чаго разумее, дармо што мала павучыўся...

Зелянюк падсеў да стала і весела кіўнуў галавой.

— Ну-ткі, Яша, пакажы нам, што ў цябе ёсьць. Сядай, Тацяна, бліжэй, во сюды.

Тацяна села побач з ім, з цікавасьцю пазіраючы на стол. Ранейшае замяшаньне яе разьвеялася бяз сьледу—яна была дзелавіта спакойная і, як за-звычай—пэўная ў сабе, вясёлая сваёй роўнамернай весялосьцю: яна ўжо адчувала сябе пры месцы.

І Якуб Лакота, былы партызан і чырвонагвардзеец, а цяпер няўздольны хворы бядак (сьлед белагвардзійскага катаваньня), ня сціраючы з твару свае мілае сарамлівае ўсьмешкі, распасьцёр на стале шырокія аркушы паперы з плянамі, рысункамі, табліцамі, зробленымі нbackspace неспрактыкаванай, але шчырай рукой фанатычна адданага новай справе чалавека.

Ноч-у-ноч сядзеў Якуб над сваімі цудоўнымі плянамі, аддаючы ім увесь найбагатшы запас свайго душэўнага запалу і ўсе ўбогія рэшткі свайго згасаючага здароўя. Можа таму, што была гэта яму, нязвыкламу у ёй, цяжкая непасільная праца, можа таму, што ляпіў ён яе па каліву з уласнае крыві, з уласных разьбітых нэрваў—была яна яму даражэй за гаспадарку, за сям'ю, за самога сябе. Гэта была неадрыўная частка яго нутра, гэта было, яго другое сэрца.

Ці верыў ён у практычнае значэньне гэтае свае працы? Ён сам адмаўляў гэта, а тым часам—хто яго ведае?—мо' і грэла яго часам надзея, што людзі, многа людзей, цэлы вялізны колектыў будзе будаваць сваё жыцьцё паводле яго плянаў, паводле сьмелых, гарачых думак яго і лятуценьняў? А пакуль што ён сам праз свае гэтыя пляны кроўна ўрастаў у будучыню, пазнаваў яе ў жывых яскрава акрэсьленых формах і вёў у яе разам з сабой сваіх таварышоў, суседзяў, усіх, хто меў цаквольную гадзінку, каб пасядзець над яго шырокімі красамоўнымі аркушамі ці проста паслухаць ягоных меркаваньняў.

Тацяна вышла з Якубавае хаты, як зачараваная. У яе ня было выразнае яснасьці—многа чаго пераблыталася, а многа чаго і зусім не зьмясьцілася ў яе галаве,—але ў ваччу мігцела, пералівалася цудоўнымі фарбамі агульная карціна новага жыцьця—прыгожага, як у казцы.

Зелянюк узяў яе пад пашку і моцна сьціснуў яе тугую руку.

— Ну, што, Тацяна? Ці верыць трэба, ці можна і знаць?

Тацяна парывістым рухам рукі адказала на яго поціск. А загаварыла не адразу—замінала ёй яе глыбокае ўзрушэньне. Адылі крыкнула задорна, звонка на ўсю сонную сівалапаўскую вуліцу:

— Дадушы, мы нешта зробім у Сіўцы.

Яна не хацела, адмаўлялася, але Зелянюк усё роўна павёў яе да хаты.

— Мне гэтую ноч наканавана так прашлындаць. Мне дык весела, я здаволен, што так у нас сёньня вышла. А ты як, Тацяна, га?

Тацяна замест адказу моцна прыціснула да сябе яго руку.

Млын усё туркатаў, неўгамоны, але, здавалася, цішэй ужо і лагодней. Ці не сагрэўся-ткі троху стары, тупаючы не месцы?

На Сіўцы ўжо ў іншых хатах бліішчэлі агеньчыкі. Сьлявалі няма ведама каторыя пеўні.

— Авой, гэта-ж раньне ўжо. Цалюткую ноч прабадзяліся. І спаць-жа ня хочацца, ані-ні...

І Тацяна ў дзяцінай радасьці засьмяялася.

Яны падышлі да маленькае крывенькае Тацянінае хаты.

— Ну, дабранач, Тацяна. Заўтра ўбачымся.

Ён аднэй рукой сьціснуў яе халодную шорсткую далоню, а другой ціха абняў, прытуліў да сябе.

Як ён пайшоў, Тацяна з хвіліну стаяла на месцы і глядзела яму ўсьлед—зьбянтэжаная і радасная.

## II

І вось разгойдвалася ды разгойдвалася жыцьцёвае мора, бушавала новаю бурай, гудзела новымі вятрамі—жорсткімі і жыватворнымі. Мізэрнымі аскёпкамі мітусіліся па мору напоўразьбітыя шалюпкі старога гнілога дабрабыту. Расхіналіся прорвы бяздоннае глыбіні, адкрывалі цёмныя, захаваныя ў людзях супярэчнасьці, і ўзмываліся шалёнаю пенай на грэбні хваль апантаныя людзкія пачуцьці.

Па разгойданаму бурліваму мору ішоў горды ў сьмелым поступе сваім карабель, трымаючы курс на далёкае яснае сонца. Яго сустракалі радаснымі прывітальнымі крыкамі і імкнуліся разам з ім наперад, напружваючы сілы ў цяжкім напорным руху. Яго сустракалі енкамі дзікага жаху, стогнамі непазбыўнае роспачы, і кідаліся ад яго безвач, каб, ратуючыся, згінуць у чорным прадоньні мора.

Гэта ішла сваім трыумфальным паходам непераможная Рэволюцыя.

Гора таму, хто станавіўся перад ёй у марных патугах суняць ці затрымаць яе рух!

Гора таму, хто, зьняверany, пакідаў яе, спадзяючыся на шчасьлівы супакой у мяккіх абнімках невядомага штылю!

Гора таму, хто, трапіўшы ў бурна-пеністы сьлед яе, хмялеў ад вірлівага шуму, ад разгоннага мятушэньня і траціў прытомнасьць!

Бо рэволюцыя заўсёды жорсткая і няўмольная ў сваёй гістарычнай вялікай справядлівасьці...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэта—агульны, троху напышаны, але ў грунце правільны вобраз тэй пары, што апісваецца ў нашым апавяданьні. А ў паасобных скалках жыцьця адбівалася яно так: разьюшаныя са страху і роспачы кулакі ушчарэпіліся былі аберуч у свой паскудны, складзены з адабраных у суседзяў кавалкаў, добрабыт і, ашчэрыўшы зубы, гырчэлі, гатовыя ўсьцервіцца ў кожнага, хто паткнецца да іхнага дабра. А-такі й патыкаліся, сьмяючыся з іхнае лютасьці, і ёмкімі ўдарамі зьбівалі іхныя атрутныя іклы. Гледзячы на кулакоў, трымаліся часам і няшчасныя галадранцы за свае драныя бэбахі ды крычэлі, асапелыя, пакуль не паказвалі катораму, за што ён, дурань, трымаецца і каму ўтуруе сваім пранрэзлівым крыкам.

І, мінаючы перашкоды, ішла пэўным крокам грандыёзная, нябачаная ў сьвеце, перабудова вёскі.

Траплялася, што й станавіліся на дарозе. Траплялася, што адыходзілі, зьняверaныя, слабыя духам. Траплялася, што і шалелі, ахмеленыя бурна-пеністаю завірухаю.

Рэволюцыя была жорсткая і няўмольная.

Так было ўва ўсіх рэспубліках, ува ўсіх акругах, ува ўсіх раёнах, ува ўсіх сельсаветах.

Так было і ў Сіўцы, дзе за старшыню сельсавета быў тады даўгі, як вочап, і калматы, як памяло, Пацяроб, а за сакратара партыйнай ячэйкі загадчык сямігодкі Сымон Карызна.

Пацяроб быў наскрозь чалавек адміністрацыйны і ня любіў малімоніцца. Першая ягоная акцыя, чым ён адгукнуўся на шырокі рух рэканструкцыі, была тая, што ён на раменчыку цераз левае плячо начапіў на сябе наган. Хадзіў ён скрозь з адчайна зморшчанаю аж да плаксівасьці мінаю, якая азначала разам і пагарду да людзей, што яго абкружалі, і горкую муку за іхную безнадзейную нягегласьць. Глядзеў ён на кожнага так, нібы хацеў сказаць яму:

— Ну, што ты, братачка, за чалавек? Попел ты, а не чалавек. Шкада мне цябе, братачка, а то-б узяў ды расьцёр цябе нагой, як чорнага жука.

Гэтага ён, вядомая рэч, не гаварыў, а мо' й ня думаў, але аблічча ягонае т'кі папраўдзе насіла на сабе жывыя абрысы падобнай сэнтэнцыі.

Пацяроб адчуваў сябе ніякава: яму не давалі разыйсьціся. Ён адразу засвоіў сабе цалкам закончаны і надзвычай просты пагляд на сытуацыю: ён лічыў, што вярнуўся дзевятнаццаты год, і адно дзіваваўся, як гэта іншыя яшчэ да гэтага не даўміліся. Праўда, начальства пра гэта адкрыта ня кажа, на тое-ж яна і палітыка, але-ж з усяго відаць, што сама цяпер і разгарнуцца, каб аж затрашчэла ўсё навакол. Ну, але хай пацацкаюцца!

Ён быў пэўны, што так ці іначай, а давядзецца ўсё-ткі яму ўзяцца за гэтую справу, што яна ад яго не ўцячэ, і пакуль што з пагардлівай цярплівасьцю назіраў за карпатлівай працаю Зелянюка, да якога з першых дзён адчуваў моцную няпрыязнасьць. У груньце гэтае няпрыязнасьці ляжала пачуцьцё зайздрасьці. Ён ня мог пагадзіцца з тым, што гэты падшывалец нібы як зьяўляецца ў іх, у Сіўцы, монопольным прадстаўніком гарадзкога пролетарыяту, тым часам як яго, Пацяроба, хоць ён мо' ня менш за гэтага блазьнюка працаваў у свой час на фабрыцы, ніхто і ня лічыць за рабочага.

Ну, але там будзе відаць, хто з іх лепш патрапіць загнуць пролетарскую лінію!

І Пацяроб чакаў да пары, пацяшаючы сябе ўспамінамі аб калішніх сваіх баявых опэрацыях ды пераносячы яскравыя карціны іх у блізкую будучыню. Цікава, што ў вочы да Зелянюка ён ставіўся з такой страшэннай далікатнасьцю, ветласьцю і нават паслужнасьцю, што таму аж сьмешна рабілася. Так спрытна ўмеў хаваць ён свае сапраўдныя пачуцьці да людзей!

Адзін, каму выказаў Пацяроб свае настроі, на каго цалком зьвяраўся, быў Сымон Карызна. Часамі, як аставаліся яны сам-насам, Пацяроб падыходзіў да яго, моршчыўся яшчэ больш, чым звычайна, гатовы, здаецца, заплакаць, панура ківаў галавой, а тады раптам усьміхаўся, сплятаючы гэтую сваю бязьмежна-пагардлівую ўсьмешку з ранейшаю плаксіваю мінаю ў нешта дэмонічнае і дужа сьмешнае.

— Смаркачы! Я вам за тры дні ўвесь сельсавет у колгас увапхну. Прасіцца будуць, маліцца, каб прынялі... А ня-то, што... Сьлізьнюкі, а ня людзі... Цьфу!

Карызна з гіронічнаю ўсьмешкаю сунімаў яго:

— Ня плюй, Пацяроб. І без таго ведаем, што ты—ваяка. Але тут не наваюеш. Тут так ня можна—бах-церабах, і гатова...

Пацяроб аставаўся вялічна-непарушны ў сваіх пераконаньнях.

А тым часам у сельсавеце справа колектывізацыі мала што не стаяла на мёртвым пункце. Вёскі пазіралі на Сівец, чакалі ад яго першага прыкладу, а Савец усё ваўтузіўся на месцы, усё бушаваў сам у сабе, як добра расчыненае цеста.

Карызна пачынаў трывожыцца і з большай увагай прыслухоўвацца да Пацяробавых філіпік. А тут падасьпелі яму раптоўныя ўзрушэньні, якія яшчэ больш здэтанавалі яго, моцна ўскаланулі яго душэўную роўнавагу.

Езьдзіў ён неяк па колектывізацыі ў сама дальшую вёску іхнага сельсавету, якая аднак першая ўзялася, як сьлед, за новую справу. Там ён праводзіў сход—не пачатковы сход, з лямантам, спрэчкамі, з разьюшанымі выступленьнямі кулацкіх паплечнікаў, з бабскім віскам ды плачам, а сход організацыйны, дзе ўжо ў спакойна-разважлівай дзелавітасьці абмяркоўваліся першыя крокі нованароджанага колектыву.

Карызна спачыў душой на гэтым сходзе. Тут ён убачыў, што цяжка толькі зрабіць першы зрух, цяжка сьпіхнуць з месца неўвароткую камлыгу закаржэлае сялянскае псыхікі, а далей яна возьме самы патрэбны ход і пакажа тое, чаго нават трудна было чакаць. На месца тупой зацятай упартасьці зьявіцца лёгкая гнуткая ініцыятыва, на месцы дзікага консэрватызму—здаровая гаспадарчая кемкасьць, абачлівасьць. Яшчэ тыдзень таму нязрушная інэртная маса людзей раптам робіцца сьвядомым творцаю свайго новага жыцьця.

На тым сходзе было разьвязана і найдалікатнейшае, найбальнейшае селяніну пытаньне—абагуленьне жывёлы. На дзіва Карызну, прайшло яно проста, бяз спрэчак—адно спахмурнелі троху колгасьнікі, пацішэлі ў тлумнай сваёй гаварні. Ня ўцяміў адразу Карызна, што даўно ўжо, яшчэ тады, як у самым гарце першапачатковых спрэчак, у блытаніне сумненьняў пачалі былі завязвацца першыя вузельчыкі колектыўнае лучнасьці, ужо тады хто падыходзіў да стала і нязграбна крэмзаў на протоколе сваё прозьвішча, быў разьвязаў ў сябе гэта пытаньне. Бо-ж і ўсе тыя спрэчкі і ўсе сумненьні, чаго-б яны ні датыкаліся, куды-б ні былі яны накіраваны—ўсёроўна у выходным пункце сваім, у сваім корані мелі таго самага коніка, тую самую кароўку. Троху пазьней зразумеў гэта Карызна, і яго ня зьдзівіла больш лёгкасьць з якою ўхвалілі колгасьнікі пастанову пра абагуленьне жывёлы. І ня толькі гэта ён зразумеў, а шмат чаго адкрылася тады яму, чаго ён раней ня бачыў, ці на што ня зьвяртаў быў увагі. І тады акурат зачалося ягонае мятушэньне.

Было гэта тэй самай начы. Сымон Карызна—было позна—дык заначаваў ў той далёкай вёсцы, у чыстай хаце аднаго серадняка-селяніна, цяперашняга колгасьніка.

Яны разам з ім ішлі са сходу. Гэта быў даўгі маўклівы мужык з апатычным выразам беднага на расьлінасьць твару. Як даручылі яму нанач Карызну, ён не паказаў ні радасьці ні нездаволеньня, адразу падышоў да яго і запытаў высокім глухаватым голасам:

— Пойдзем ужо, ці яшчэ пагамоніце троху?

Усю дарогу ішлі моўчкі. Карызна бушаваў новымі уражаньнямі, і яму карцела згаварыць, але сунімаў яго пануры выгляд спадарожніка. Той сігаў поплеч, плаўна махаючыся на хаду, як вялізны бусел.

Ля форткі аднаго двара стаяла жанчына,Карызна хацеў абмінуць яе, але пачуў знаёмы голас:—Сюды, да нас, дзядзька Карызна.

Гэта была гаспадарава дачка зусім маладзенькая яшчэ дзяўчына. На сходзе яна нешта была гаварыла і прыцягнула да сябе Карызнаву увагу сваёй сьмеласьцю, быстрым позіркам маленькіх чорненькіх вочак і звонкім яшчэ дзяцінным голасам.

Карызну аддалі чыстую палавіну хаты, дзе стаяў караткавы бяз меры шырокі ложак з вялізнаю гарою падушак—доччыным пасагом. Гэта й ложак быў доччын, але, як Карызна выказаў быў свой непакой з прычыны таго, што высялялі яе, яна з поўнай шчырасьцю яму растлумачыла, што сьпіць на ім вельмі рэдка толькі ў якое вялікае сьвята.

Ува ўсёй гэтай палавіне была застыўшы халодная чысьціня, пазбаўленая цёплага людзкога бязладзьдзя, што цалкам пацьвярджала дзяўчыніны словы.

Пакуль дачка парадкавала ў сьвятліцы, ладзіла Карызну ложак, пакуль давалі вячэраць, гаспадар скрозь сядзеў на парозе, што з аднае хаты ў другую, смактаў піпку і маўчаў. Карызна быў-ткі паспрабаваў завесьці з ім гаворку, дык ён адказаў нешта каротка і, як здалося Карызну, зьнехаця. Больш яго Карызна не турбаваў. Затое з дачкой яны праз цэлы вечар вялі вясёлую гутарку, якая Карызну давала вялікае здаволеньне, узмацоўваючы той добры настрой, у якім ён вышаў са сходу.

Дзяўчына ўся жыла новымі нязвыклымі для яе інтарэсамі. Карыстаючы з таго, што Карызна з відочнаю ахвотаю удаваўся ў гутарку, яна рабіла яму безьліч самых рознастайных, часамі дужа дзівосных і сьмешных запытаньняў. Карызна ледзьве упраўляўся тлумачыць ёй, як будуць працаваць у колгасе, хто будзе загадваць, хто будзе плаціць, як будуць плаціць, ці будуць сьвяточныя дні, ці будуць адпачынкі, ці праўда, што калі каторая жанчына раджаць будзе, дык ёй аж на чатыры месяцы дадуць звальненьне. Гэтае запытаньне яна дала, цудоўна усьміхаючыся сарамліваю усьмешкаю, і, як сказаў Карызна, што ў добра організаваным колгасе так і будзе, яна крыкнула з мілай бесцарамоннасьцю:

— Авой! Гэта-ж у нас усе бабы тады захочуць раджаць!

Карызна цешыўся з гэтае маладзенькае жвавае дзяўчыны, з яе наіўнага захапленьня, якое магчыма, у вялікай меры тлу-

мачылася чыста дзяцінаю яшчэ цікавасьцю да ўсяго новага, яскравага, шумнага. Як Карызна запытаў быў яе, ці здаволена яна наогул, што бацькі пашлі ў колгас, яна адказала з раптоўнаю сталасьцю:

— Нам, маладым, пэўна, што лепей. Ніякага клопату. Пайшоў, адпрацаваў свае гадзіны ды й гуляй. Як у горадзе...

Гэтае „як у горадзе" было для дзяўчыны апошнім краем яе лятуценьняў пра лепшае жыцьцё.

Пакладіся спаць позна. Дый усё роўна Карызна доўга ня спаў—бясконца варочаўся на сваім вельмі пышным і вельмі нявыгодным ложы і ніяк ня мог пазбыцца нэрвовага напружаньня, якое бязьлітасна вырывала яго з утульных лоняў жаданага сну.

На тэй палавіне, чуваць было, ня спаў гаспадар. Ён мусіць і ня клаўся зусім, бо раз-по-раз разьлягаліся па хаце яго цяжкія і да няпрыемнасьці марудныя крокі. Як ступіць раз, дык чакаеш не дачакаешся, калі ён нарэшце перанясе і паставіць сваю другую нагу. Здавалася, што перастаўляе ён свае ногі ня проста, а падымаючы іх па чарзе рукамі. І ўсё ён соп нешта, крактаў цмокаў бесьперастаньня піпкаю.

Карызну чамусьці страшэнна назаляла гаспадарова шарпаніна. Чулася у ёй нешта нявыказанае чалавекам і балюча захраслае ў яго нутры. Мучыць яно яго, варочаецца рагаватым ражном у сярэдзіне, шчэміць сэрца. І ня можа чалавек знайсьці сабе месца.

Карызна спрабуе адагнаць, адштурхнуць ад сябе дакучныя гукі, але рады ня дасьць: паўзуць, падцікаюцца,лезуць, як жывыя істоты, і ўядаюцца ў нутро, пераносячы з сабой тую невядомую але цяжкую турбаніну маўклівага чалавека. Так і задрамаў быў Карызна ў змаганьні з едкімі назольлівымі гукамі.

Разбудзіў яго асьцярожны бразгат дзьвярэй: нехта—пэўна гаспадар—вышаў з хаты на двор. Прачнуўся Карызна у нейкай дзіўнай настарожанасьці і адразу пачаў пільна прыслухоўвацца да вакольнай цішы, якая здавалася яму асабліва напружанай і жывой. Ён ніяк ня мог уцяміць, ці гэта ён толькі вось задрамаў, ці мо' праспаў ужо палавіну начы.

Раптам, здалося яму, пад самым яґоным акном зарыпеў сьнег. Пачуліся асьцярожныя і страшэнна марудныя крокі. Карызна, надзіва самому сабе, працінаўся трывогай. Нейкі час ён сьціскаў у сабе гэтае пачуцьцё, адылі не саўладаў з ім і, паціху устаўшы з ложка, падышоў да акна.

Ноч была досыць відная, каб можна было згледзець, што дзеецца на дварэ, і Карызна адразу убачыў вялізную, фантанстычна-распасьцёртую ў цёмна-шызым змроку, фігуру гаспадара. Ён стаяў якраз па сярэдзіне двара, нярухома застылы на месцы, як статуй. Ня відаць было, ці ён куды гэтак пільна ўзіраецца, ці проста закамянеў у дзіўным аслупянененьні. Так стаяў ён мо' хвілін з пяць, і Карызна ня мог адарваць яго ад вачэй, прыкуты да яго пачуцьцём вострай цікавасьці, перамяшанай з незразу-

мелай трывогай. Потым гаспадар крануўся з месца і паплыў па двару хісткім расплыўчастым ценем. Падыйшоў да варот, памацаў нечага завалу, мо' паправіў яе, падыйшоў да форткі і, прыгнуўшыся, паглядзеў у шчэлку над ёй, хоць наўдачу, каб мог ён што згледзець у густым змроку. А тады больш пэўным і шыбчэйшым крокам падаўся пад хлеў і там ізноў з хвіліну стаяў ля варот нярухома і ня то прызіраўся наўксла сябе, ня то прыслухваўся да нечага. Пастаяўшы так ціхенька, нібы з падкрадня прачыніў вароты і, яшчэ раз азірнуўшыся, схаваўся ў хляве. Адтуль пачулася радаснае бадзёрае ірзаньне.

— Пайшоў прыгледзець скаціну.

І Карызна, заспакоены, хацеў быў ужо пакласьціся спаць, аж раптам, як маланкай, працяло яму галаву:

— Заўтра абагуленьне жывёлы.

У ім зьявілася няяснае, але настойнае падазрэньне. Ён ведаў пра выпадкі, калі некаторыя зламысныя колгасьнікі, у душы зацятыя ворагі колектывізацыі, рабілі ўсеякія штукі, абы не здаваць у колгас сваё жывёлы. Ён спалучыў гэта з таемнымі сьцеражлівымі рухамі гаспадара і амаль ня сумняваўся, што тут пахне нейкім злачынствам.

Тады з ліхаманкавай пасьпешнасьцю узапнуў на ногі боты, напрануў паліто і цмыгнуў да дзьвярэй. Дзьверы на шчасьце адчыніліся бадай бяз ніякага гуку. Карызна цішком перабег цераз двор і спыніўся перад варотам і хлеву, пільна прыслухоўваючыся да таго, што дзеецца там, у сярэдзіне.

Ён пачуў голас. Маўклівы гаспадар вёў з некім досыць жвавую гутарку. Карызна напяў як мага свой слых і пачаў разьбіраць кожнае слова. Гаспадар размаўляў з сваім канём.

— Касютка... Касютка... мой... мой, касютка.. Добры мой коська... Я-ж цябе выгадаваў, я-ж цябе вырасьціў. Ты-ж быў маленькае зусім жарабётка, я цябе насіў на руках... Ты-ж бегаў за мной, як сабачка, прасіў у мяне хлебца кавалак. Матка ў цябе была добрая, прыгожая кабыла, але старая. Адслужыла яна мне свой век, адпакутвала разам са мной. Слабая ужо стала была, прыставала. А ты-ж добры крэпкі канёк. Ты стараешся, шчыра працуеш, не натурышся, любіш свайго гаспадара. Касютка мой... коська... Ты ужо будзеш ня мой. Паедуць на табе чужыя людзі не дагледзяць цябе, не накормяць цябе, не напояць. Будуць біць цябе, пасякуць тваю гладкую скуру. Ня будзеш ты ўжо падбрыкваць, як у мяне... Аддам я цябе свайго коську... Аддам, касютка, аддам... Ня будзе у мяне майго касюткі... Ня будзе...

Гаспадар раптам сьціх, і ў адказ яму зарзаў ласкава, нібы з шчырай удзячнасьцю, конь. Потым колькі сэкунд стаяла поўная цішыня і раптам пачуў Карызна новыя дзіўныя гукі, нібы квактала там курыца, склікаючы да сябе сваіх пісклянят. Карызна не адразу зразумеў, што гэта дзіка, нязвыкла, мо' ў пяршыню ад далёкіх дзіцячых год плача даўгі маўклівы мужчына.

Дзіўнае, незразумелае пачуцьцё, падобнае да страху, апанавала тады Карызну, і ён кумільгам кінуўся цераз двор у хату, з сударгавай пасьпешнасьцю скінуў боты, паліто і схаваўся пад коўдру.

Так, гэта быў-ткі сапраўдны страх. Гэта страх быў самога сябе, сваіх пачуцьцяў, бо Карызна пачуў быў там, ля варот, што гатоў сам заплакаць разам з дурным сэнтымэнтальным гаспадаром.

Спаць... Трэба спаць... Сон разьвее гэтую праклятую мару, а заўтра ён адно будзе сьмяяцца з дурного свайго утрапеньня.

Але-ж які там сон? Сон і блізка ня йдзе да яго. Ён тужыцца з усіх сіл, каб скупчыць думкі на якім-небудзь староньнім прадмеце стараецца заняць якім-небудзь староньнім вобразам сваё ўяўленьне, а ў гэтым уяўленьні, замест усяго, зьяўляецца вясёленькі палавенькі канёк, якога ён помніць з даўных дзён свайго дзяцінства. Гэта быў цудоўны канёк. У яго сьпіна была кругленькая, як жбанок, і праз яе праходзіў уздоўж роўненькі аксамітны шнурочак. На ім было мякка і небясьпечна езьдзіць. Кожнага разу, вядучы пасьвіць, Сымон валіўся з яго—ён спрытна умеў скідаць з сябе, гэты канёк!—але ніколі не наракаў Сымон на свайго улюбенца, бо той заўсёды спыняўся, як чуў на сабе пустое месца, варочаўся да нешчасьлівага яздуна і, стаўшы над ім, ірзаў у вясёлым спачуваньні. І пакорна згінаў сваю шыю, каб па ёй паленькі гаспадар мог узглабацца на яго круглую, як жбанок, сьпіну.

Карызна помніць, як прадаваў бацька гэтага канька. Колькі наплакаўся тады маленькі Сымон, колькі нагараваўся, колькі начэй не паспаў, усё думаючы аб сваім таварышу...

І ў гэты момант Сымон Карызна, сакратар партыйнае ячэйкі ловіць сябе на тым самым мяккім жаласьлівым пачуцьці, якое калісьці было у дзяцінстве. Толькі трудна азначыць, ці яго нарадзіў успамін пра тое даўнае, дзяцінскае, ці мо' падслуханы плач дурнога гаспадара. Але ён з страхам, з жудасьцю чуе, як горла яму сьціскаюць спазмы.

Карызна ўпадае у шалёную злосьць. Ён шумна варочаецца на ложку, скрыгае зубамі і шэпча, каб заглушыць самога сябе:

— Гэта—рабства. Гэта праклятыя ідыётызм патрыярхальнае вёскі. Трэба зьнішчыць гэта, трэба сьмяяцца з гэтага. Так, трэба сьмяяцца.

Ён уяўлае сабе даўгога нязграбнага гаспадара, як стаіць ён, абняўшы маленкага калматага канька і цалуе яго у мяккую пысу. Так, пэўна, што ён цалаваў яго. Вядома, што цалаваў. Цалаваў... хі-хі-хі...

Але сьмех ня сьмешны зусім. Фальшывы сьмех. Даўгалыгая постаць гаспадара над мізэрным каньком настойна, неперsuch можна выклікае спагаду.

Карызна ўдаецца тады ў развважаньні, даводзіць самому сабе:

— Трэба ламаць сябе, трэба выкрышваць з сябе гэтыя закамянелыя нарасьці дробна-буржуазнае псыхікі, якія ляжаць

цішком унутры і якіх ня чуеш зусім, пакуль не растопяцца яны ў цяплыні агіднае сэнтымэнтальнасьці і не зальлюць нутро млявым бясьсільлем.

— Трэба быць жорсткім. І перш-на-перш—да самога сябе.

У гэтую ноч адкрылася Сымону Карызну ўся глыбіня перабудовы вёскі, увесь нявідны нутраны бок гэтага вялікага гістарычнага процэсу. Ён зразумеў, што ня толькі справа тут ідзе аб зьмене способу гаспадараваньня, аб пераходзе да больш дасканалае гаспадарчае сыстэмы, што тут становіцца задача найглыбейшае пераробкі самаго чалавека, вызваленьне яго з-пад жудаснага гнёту уласнае рабскае псыхікі. І гэтая грандыёзная задача мусіць быць разьвязана не старымі аблуднымі мэтодамі нёдалужнага культуртрэгерства, а рашучым рэволюцыйным ударам.

— Трэба быць жорсткім. І перш-на-перш да самога сябе.

Прачнуўся ўраньні Карызна ад звонкага дзяцінага голасу гаспадарскае дачкі. Яна нешта рабіла тут, у сьвятліцы, і, забыўшыся, мусіць, на яго, а мо' й сумысьля, каб разбудзіць, голасна загаманіла з некім праз акно. Потым схапянулася, зірнула на яго сваімі быстрымі чорненькімі вочкамі, засаромілася і ўцякла.

Карызна ясна усьміхнуўся. Устаўшы з ложку, ён перш-на-перш падышоў да акна і зірнуў на двор. Там маўклівы гаспадар спакойна запрагаў у сані чыстага гладкага каньaccount, рыхтуючыся весьці яго на зборны пункт. На санках ляжала акуратна складзеная запасная збруя.

Карызну хацелася, каб тое, што перажыў ён уначы, было звычайным, троху няпрыемным сном.

## 12

Прыехаў ён у Сівец гадзіне аб адзінаццатай. Лекцыі ягоныя былі зраньня—ён спазьніўся на іх. Не заходзячы ў клясы, ён адразу пашоў да сябе на кватэру.

Жонкі у хаце ня было. Гэта троху зьдзівіла яго і троху суцешыла.

На стале ляжаў нерасьпячатаны ліст. Ён падумаў адразу, што ад дачкі, але ўбачыў на конвэрце зусім незнаёмае няпрыветна-крывое пісьмо. Разадраў конвэрт і здрыгануўся ніто ад зьдзіўленьня, ніто ад прыкрасьці. Ліст быў ад бацькоў. У ім пісалася:

„Даражэнькі сынок Сымонка!

Даўно ужо ня мелі ад цябе ліста і ня ведаем, ці жыў ты там, ці здароў. А цяперашнім сьветам ці мала што можа здарыцца з чалавекам. Бывае—каторы богу душой не вінават, а тым часам зробяць яго на няма ведама што. У нас жыцьцё, Сымонка, дрэннае. Жывем і самі ня ведаем, да чаго дажывемся. Ці давядзецца ўжо і ўбачыцца калі з табой, наш даражэнькі сынок. Абклалі нас усім-усякім, як жывадзёраў якіх, запісалі ўжо ў кулакі і кажуць, што будуць

раскулачваць, а мо' й сашлюць куды на пагібель. А ты-ж сам ведаеш, Сымонка, якія мы багатыры. За вашай-жа, дзеткі, дапамогаю і абжыліся сяк-так, а то-ж сьвету божага ня бачылі. І вось ня ведаем самі, што тут рабіць. Прадаваць што—баімся, каб не засудзілі, а грошай няма, ты-ж ведаеш усё у гаспадарку клалі. Як ня дай божа вышлюць, дык прыдзецца ехаць і голым і без капейкі. Парай ты нам, даражэнькі сыночак, што рабіць, куды кінуцца. Ты-ж ткі сам партыйны і добра знаешся ў гэтых справах. Матка зусім слабая, ледзьве ступае па хаце: а бацька троху трывае. Лаўрэн паехаў да цесьця разам з Арынаю—можа там якую раду парадзяць. А мы адны з дзяцьмі асталіся. Напішы, сынок, парай, даражэнькі, можа яшчэ як і можна перакруціцца"...

Далей Карызна ня чытаў. Склаў скоранька ліст і усунуў назад у конвэрт, а конвэрт паклаў пад цяжкі груд кніжок. Зусім мімаволі, інстыктыўна азірнуўся на бакі, як злодзей.

Кулакі... За вашаю, дзеткі, дапамогаю...

Ён даваў і грошы і парады. Ён пісаў, каб разьвіналі гаспадарку, каб не баяліся, наймалі, калі спатрэбіцца, бо гэта савецкая ўлада не забараняе. Ён раіў ім адыйсьці на хутар ці, прынамсі, на пасёлак, бо лягчэй будзе тады паставіць на ногі гаспадарку...

Кулакі... Хто кулакі? Яны ці ён? Іх, старых, хворых, гатовы выслаць з межаў раёну, а мо' акругі, а мо' рэспублікі... А ён? Што мусіць рабіць ён? Як ён паглядзіць людзям у вочы? Што ён скажа сваім тут, што скажа партыі?

Гэта быў па-праўдзе страшэнны ўдар. Захоплены цалкам работай, клопатамі, Карызна да гэтага часу ня ўправіўся неяк падумаць пра свае асабістыя справы (а мабыць было ў іх яшчэ ці мала чаго ня зусім чыстага?), ён забыўся на асабістае.

Сама што і забыцца тады на асабістае, калі яно ня зусім чыстае! Самаадданасьць, ха-ха!

Ну, вось і ўсё. Падышло нямінучае. Ён—кулак. Не яны, а ён кулак, бо-ж ён зрабіў іх і сябе—так-так, і сябе—кулакамі, сьвядома зрабіў, прынцыпова, так, як рабіў і шмат каго іншых. О, было і гэта! Некалькі вёсак выключна за яго дапамогаю пашлі на пасёлкі. Гэта было, праўда, ня тут, гэта было там, дзе працаваў ён перад гэтым.

А цяпер ён крычыць пра бязьлітаснае змаганьне з кулакамі, пра ліквідацыю кулацтва, як клясы! Ён крычыць пра зьнішчэньне дробна-ўласьніцкае гаспадаркі, якую сам пашыраў!

Сымон Карызна! супроць каго ты змагаешся?

Ён раптам успомніў мінулую ноч і заскрыгаў зубамі ў зларадасьці.

— А... Пашкадаваў... Сьлязу пусьціў.. Няшчасны мужычок! Трэба каня ў колгас аддаваць яму, небараку. Уласнага каня! Сам выгадаваў!..

Кулак... Гэта гаварыла ў ім кулацкая псыхолёгія... Яе ня выкінеш, яе не задушыш...

Сымон Карызна, сам таго не заўважаючы, бегаў, як апантаны, па хаце, сьціскаючы кулакі ў нястрыманай злосьці. Перш злосьць была толькі да самога сябе—ён бязьлітасна лаяў сябе і гатоў быў уцупіцца сам сабе у валасы, а потым зачаў лаяць і пагражаць некаму іншаму.

— Я вам пакажу! Я пакажу вам яшчэ! Пачакайце!...

Каб хто тады спытаў у Сымона Карызны, каму гэта ён меўся „паказаць", ён-бы напэўна не патрапіў адказаць. Проста—шукала злосьць яго нейкага убочнага выйсьця.

Раптам ляпнулі дзьверы, і Карызна, спалоханы, замітусіўся па хаце, як злоўлены злодзей.

Увайшла жонка. Ён напружыў усе сілы, каб быць спакойнаму, і бязуважна яе запытаў:

— Дзе ты была, Марына?

Жонка чамусьці замяшалася, адвярнулася, каб ня стрэцца з ім поглядам.

— Я... хадзіла да Тацяны...

Карызна настаражыўся. Чаго яна сумелася? Чаму не глядзіць яму ў вочы? Ага, яна ўжо ведае! Мо' без яго тут расьпячатала ліст? Мо' шукала якога сакрэту ў ім?

Ён упяў у жонку цупкі, дапытлівы погляд, поўны нядобрага падазрэньня. Яна адчула яго і яшчэ больш замяшалася.

— Я хадзіла... прасіла, каб прышла памагла мне падлогу мыць. Ніколі ня была яна такая чужая, такая нялюбая Карызну, як цяпер. Ён ня мог цярпець яе прысутнасьці, ён пачынаў баяцца яе—дрэнным агідным страхам злачынцы, што баіцца, каб яго ня выкрылі. Марына Паўлаўна, нібы зразумеўшы яго, моўчкі завярнулася і пасьпешна вышла з пакою. Карызна вольна ўздыхнуў.

Што-ж рабіць цяпер?

Ён сеў на канапу і пачаў разважаць. Першае ашаламеньне мінулася. і ён ужо мог сяк-так прыбраць да ладу свае зьмітушоныя думкі.

Ці ведае тут хто-небудзь пра яго сямейныя справы?

Ён паволі, з мэтодычнаю дакладнасьцю перабраў у памяці людзей, што яго атачалі, і з прыемнасьцю пераканаўся, што бадай ніхто нават ня ведае дасканала, адкуль ён родам. Таксама ніхто мабыць ня ведае і пра яго ранейшую працу, апрача...

Карызна раптам успомніў Рачкоўскага, старшыню райвыканкому, і спакойна усьміхнуўся. Яны разам там працавалі і разам рабілі ўсё, што цяпер турбуе Карызну. Але ня тое спацешыла Карызну, што знайшоў ён супольніка, знайшоў, з кім падзяліць сваю застарэлую віну, ня проста паўстала ў ваччу ў яго крэпкая камляватая постаць гэтага чалавека, заўсёды пэўнага ў сябе рашучага, энэргійнага, і тхнула на Карызну сьвежаю бадзёрасьцю.

Ён раптам разьвязаў сваё цяжкае неўразуменьне.

— Трэба працаваць! Трэба працаваць з падвойнаю энэргіяй, з падвойным запалам. Трэба давесьці сваёй самааданай працаю, што ўсё гэта было выпадковае, што ён быў і ёсьць праўдзівы сумленны сябра свае партыі.

Трэба ўзмацніць тэмпы, рашуча штурхнуць з месца работу. Кожная хвіліна забаўкі пакажа ягоны опортунізм і ўдзесяцярыць адказнасьць яго за старыя грахі.

Ён мусіць першы ў раёне скончыць суцэльную колектывізацыю свайго сельсавету.

І гэтак будзе!

Сымон Карызна ўстае, апранаецца і выходзіць з хаты, гатовы да нейкіх пільных, яшчэ невядомых самому захадаў.

Ён ідзе ў сельсавет. Уваходзячы, ён адчувае ўсё-ткі трывожнае замяшаньне (а мо, якім-небудзь чынам тут ужо ведаюць усё, але першая-ж хвіліна дае яму поўнае заспакаеньне.

У сельсавеце ўсё ідзе звыклым парадкам.Пацяроб, раскапусьціўшыся за сталом і выцягнуўшы амаль не на сярэдзіну пакоя свае бясконцыя ногі, ушчувае нейкага серадням. Не разабраць ці ён лаецца, ці ў роспачы жалкуе з ягонае някемкасьці За другім сталом сядзіць маленькі дзядок у старых, ужо на нітачцы, акулярах, чалавек выразна пісьменнага выгляду. Гэта— сакратар сельсавету і непераможны шашачнік, чампіон Сіўца і ваколіц Цівунчык. Пры тэлефоне безнадзейна надсаджваецца, мардуючы і тэлефон і сябе, сівецкі коопэратыўшчык. А ля вакна у гуртку моладзі Зелянюк з Віктарам.

Усе заняты сваёю справаю, і ніхто не зварачае на яго на Карызну, асаблівае, звыш тае, што належыць увагі. Значыць— усё добра. Ён падыходзіць да Зелянюка.

— Дзень добры, хлопцы! Як маецеся? Што новага ў вас?

Яго сустракаюць з вясёлай прыветнасьцю. Зелянюк роўна глядзіць на яго. і ўсьміхаецца загадкаваю сваёю ўсьмешкаю. Яна адразу коліць Карызну тонкай голачкай трывогі, адылі гэта ўраз мінаецца: ён ужо прывык да Зелянюковае ўсьмешкі, і яна цяпер так ня турбуе яго, як у першыя дні іхнага знаёмства. Мо' гэта проста ў яго з юнацкай амбіцыі? Мо' ён хоча паказаць ёй, усьмешкай, нейкую сваю перавагу над ім?

Карызна нават не глядзіць на Зелянюка. Ён зьвяртаецца да ўсяе кампаніі і агалашае з наўмыснай гучнасьцю:

— Гэтымі днямі, хлопцы, склікаем агульны сход у Сіўцы. Канчаткова і рашуча становім пытаньне пра колектыў. Трэба нарэшце рабіць тут нейкі лад.

Хлопцы згаджаюцца, што ўжо пара. Ад старшыньскага стала чуваць жаласны і пагардліва-цягучы голас Пацяроба:

— Даўно ўжо трэба было рабіць, мае даражэнькія. Менш слоў, а больш дзела. Пабальшавіцку трэба, а не пабабску. Працаўнікі...

У плаксівым Пацяробавым тоне гучэлі стрыманыя ноткі трыумфу. Ці не пачуў ён, што набліжаецца кірмаш на ягоную вуліцу?

Зелянюк спакойна зазначыў:

— У нас яшчэ неарганізавана як належыць бедната. Мы ня здолеем выступіць адзіным фронтам.

У гэтай спакойнай заўвазе мабыць было залішне цьвёрдасьці і катэгорычнасьці, бо пільна настарожанаму да яго Карызьне нібы нешта кальнула. Але ня ўправіўся ён што адказаць, як шумна ўстаў ад стала і грамозна насунуўся на іх Пацяроб.

А мой-жа ты залаценькі! Гэта-ж ты будзеш да налецьця тут організоўвацца. Ну да душы-ж да налецьця... Любачка мая! Ці ведаеш ты, што гэта—селянін? Што больш ты марудзіш з ім, то ты менш чаго зробіш. Раз-двай ў дамкі. Ці праўда, Цівунчык?

Дзядок пэўна, звыклы да гэткіх раптоўных зваротаў начальства, спакойна паківаў галавой, не адрываючы погляду ад паперы, і ўжо потым ускінуў паверх акуляраў зьдзіўлёныя вочы, каб паглядзець, аб чым там справа.

Зелянюк неяк пуста зірнуў на Пацяроба і нічога яму не адказаў. Ён стаў сур'ёзны і заклапочаны. На вялікае дзіва Карызны ён зьвярнуўся да яго раптам з простай таварыскай шчырасьцю.

— Мы, Карызна, яшчэ ўправімся сёе-тое зрабіць з беднатой. Усёткі актыў у нас ёсьць і добры актыў. Ты канчаткова наважыў рабіць гэтымі днямі сход?

Карызна памеркаваў.

— Зробім давай у нядзелю. Праз два дні... Добра?

У гэты момант Пацяроб закрычаўў, як апантаны:

— А бабачкі, а любачкі! Ня пускайце марозу да нас! Родненькія, акалеем!...

У сельсавеце ўзьняўся амбарас—ўвайшла цэлая гурма баб на чале з Тацянаю і Верай Засуліч. Усе былі ружовыя з марозу, сьвежыя, вясёлыя крэпкай, здаровай весялосьцю. Вера Засуліч—меншая сярод усіх і зграбнейшая—проста зьзяла ўся маладой нясутрымнай радасьцю. Яна адразу знайшла вачмі Сымона Карызну і паслала яму такую слаўную ўсьмешку, што ў яго зайшлося сэрца ад прыемнасьці.

Тацяна, хукаючы ў прыгоршчы, падышла да Зелянюка і пачала дакладваць:

— Вось мы ўжо й сход свой сёньня зрабілі. Каб ты толькі бачыў, што гэта быў за сход—пацеха адна. Сышліся бабы ды давай сварыцца, лаяць адна адну. Чысты сьмех! Больш і ня было нічога, ніякіх пытаньняў. Палаяліся, ды разышліся. Папраўдзе...

Зелянюк глядзеў на яе з ласкай і захапленьнем.

— Маладзец, Тацяна! Як ты добра ўмееш рабіць! Ты ўдалы сход організавала.

— Дык ты-ж чуеш... (Яна з выглядам змоўніцы кранула яго за рукаў) Прышлі вось прасіць, каб спэцыяльна ім, бабам, хто-небудзь расказаў пра колектывы... А пайшлі ўсе з нашага сходу ў лагодзе, вясёлыя... Дадушы...

Зелянюк неўзаметку паціснўў яе халодную руку, і яна расьцьвіла сарамліваю чырваньню.

— Ты да нас прыдзеш, добра? Ты ўмееш лаяцца з бабамі?

Зелянюк засьмяяўся.

Я умею і лаяцца і мірыцца... Ня ведаю, каго вылучыць ячэйка. У нядзелю Тацяна сход будзе. Глядзі, каб твае бабы менш гвалтавалі.

— Хай гвалтуюць. Бабе трэба выкрычацца. Калі будуць маўчаць, дык горш будзе. Па-праўдзе...

Тацяну гукнулі, і яна замяшалася ў бабскую грамаду.

У сельсавеце гармідар стаяў, як на кірмашы.

## 13

Спакой і ўпэўненасьць не пакідалі Сымона Карызну акурат датуль, пакуль не пераступіў ён парог свае кватэры. На кухні аб нечым гаманілі Марына Паўлаўну з Галілеем. Як увайшоў Карызна, адразу сьціхлі, і жонка ізноў, як тады, замяшалася, глядзела ў бок у засьнежанае вакно. Галілей зарупіўся ісьці, але Карызна затрымаў яго, гукнуўшы з дрэнна схаваным раздражненьнем:

— Чаго-ж вы ўцякаеце, дзядзька Ахрэм? Нешта ці толькі я ў хату, дык вы і ходу. Чакайце пагамонім хаця...

Галілей закруціўся, як падсквараны.

— Кхе.. кхе. Ня ўмею я гаманіць... ага.. Зусім ня ўмею...

Але-ж гаманілі вы з жонкаю?

— Кхе... кхе... Тлумачыў я... пра печку, пра цыркулярную...

— Ну дык растлумачце мне пра цыркулярную печку, дзядзька Ахрэм!

Галілей, прыпёрты да сьцяны, з момант ня ведаў, што яму рабіць, разгублена трос сваёю барадзёнкаю, адылі цмыгнуў у дзьверы і зьнік, нібы й ня было яго тут.

— Дзівак!

І канцом раззлаваны Карызна рэзка абярнуўся да жонкі, нібы патрабуючы ад яе тлумачэньня. Марына Паўлаўна стаяла нярухома і ўсё глядзела ў акно пустымі нявідушчымі вачмі. На твары ў яе, па-ранейшаму замкнёным у сухой безуважнасьці, аднак калола вочы Карызну нешта назойліва новае, зацята схаванае ад яго. Ён злаваў і, баяўся.

Нічога не сказаўшы жонцы, ён рвучка завярнуўся і пашоў у пакой, грукнуўшы дзьвярмі. І яму здалося, нібы пачуў ён ,як вольна ўздыхнула ўсьлед яму Марына Паўлаўна.

Да самага вечару кідаўся Сымон Карызна ў сумятні раструшаных пачуцьцёў, Бязьлітасна мардавалі яго крутыя пераходы ад ціхага заспакаеньня да раптоўнага страху і роспачы. То яму здавалася, што ўсё гэта—глупства, што ўсе турботы яго дарэмныя. Усё абыйдзецца добра, ніхто ні аб чым не даведаецца, ён будзе працаваць шчыра, не шкадуючы сіл. Ён стане вышэй за ўсякіх падазрэньняў, вышэй за ўсякіх судоў. І ён, уціхаміраны строіў пляны бліжэйшай работы, і ўсё выходзіла ў яго на дзіва

зладна, проста, дасягальна. А то раптам сьляпучай маланкай бліскала перад ім агнявая здань небясьпекі, і ў балюча-яскравым сьвятле у пачварнай яснасьці выступалі яго даўнейшыя ўчынкі. Усё тады ўраз пераварочвалася, набывала новыя фарбы, новыя вобразы. Ён бачыў сябе абкружанага з усіх бакоў атрутнымі падазрэньнямі, недаверлівасьцю, ён успамінаў кожны незразумелы жэст, кожную неразгаданую ім усьмешку, усё роўна, у каго-б ён яе ні заўважыў, і ўсяму надаваў асаблівыя, страшныя для яго тлумачэньні. Яго ахапляла чорная немарасьць, усё наперадзе затулялася таемнай падступнай цемрай

Пад вечар з усяго гэтага тлуму пачуцьцёў вылучылася адна няясная, дакучная турбота. Ён інстыктыўна чуў, што нешта павінен зрабіць дужа пільнае, неабходнае і ніяк ня мог уздумаць, што гэта такое. Перабіраў усе свае абавязкі па школе, па ячэйцы, успамінаў, якія каму даваў абяцаньні нават праверыў свае вельмі абмежаваныя сямейныя абавязкі—і нідзе не знаходзіў таго, што гняло яго няясным напамінкам аб няспраўленым абавязку. Нарэшце, выпадкова погляд яго спыніўся на пісьмовым стале, на цяжкім грудзе кніг, пад якім схаваў ён нешчасьлівы ліст ад бацькоў. Тады ўспомніў: трэба нешта адказаць старым.

І раптам працяла яго новая цудоўная думка. Яшчэ-ж ня позна, яшчэ можна што-небудзь зрабіць там, неяк рэабілітаваць бацькоў і разам з тым самога сябе. Як гэта дасюль не натрапіў ён на такую простую і такую трапную думку!

Сымон Карызна ў нэрвовым парываньні кідаецца да стала, сударгава хапае паперу, чарніла і піша шпарка, ня думаючы, абы каб схапіць і зафіксаваць хутчэй на паперы сама патрэбнае.

„Дарагія бацькі!

Ліст Ваш атрымаў: і ён даў мне многа прыкрасьці. Ня тым, што вам пагражаюць адабраць маемасьць, а тым, што вы дайшлі да гэтага праклятага ганебнага стану, зрабіліся кулакамі. Вы пытаецеся мае рады? Мая рада такая. Кідайце ўсё. Прадавайце, аддавайце, проста выкідайце вон, аставайцеся голыя, але бяз гэтае ганебнае пячаткі. Неяк пражывем. Запісвайцеся, калі прымуць, у колгас, і працуйце шчыра, старанна, як працавалі на сваёй гаспадарцы. Калі што-якое, дык дапамогу ад мяне заўсёды дастанеце“...

Ён на момант суняўся, раздумляючы, што яшчэ дапісаць. Але першы запал ужо выліўся, і далышыя словы ня ішлі на пяро. Ён устаў, прайшоўся па пакою. Потым падышоў, перачытаў уважна напісанае (яно ўспрымалася цяпер суха і нова, нібы чужое) і раптам зарагатаў дзікім зларадасным сьмехам:

Ха-ха-ха!... Во гэта так!.. Гэта зусім лёгічна, таварыш кулак Што-ж ты мог параіць яшчэ бацьком, як не самараскулачваньне? Ратуйце, пакуль ня позна, сваю і маю скуру! Ха-ха-ха!..

Ён хапіў паперку і падраў яе на дробныя мэтлухі. Перакуліў са стала груд кніг, схапіў бацькоўскі ліст і зрабіў з ім тое

самае. Потым з хвіліну пастаяў нярухома, паволі падышоў да канапы і сеў на яе—вялы, зьнясілены, прыгбаны глыбокай дэпрэсіяй.

Яму стала сумна-сумна. Адляцелі раптам усе турботы, уся душэўная сумятня, пакінуўшы шчымлівы жаль і глыбокае пачуцьцё адзіноты. Усе супроць яго, усе—жорсткія, бязьлітасныя. Нават родная жонка і тая носіць у сабе нейкую таемную да яго варожасьць. Ён адзін, зусім адзін. Няма каму сказаць шчырага слова, няма з кім парадзіцца...

Пакой заліваўся цяжкім каламутным змрокам. Усё паплыло ў таемна-расплыўчастай плыні, усё набракла нейкім мёртвым закамянелым рухам, які закалыхваў, акунаў усяго ў салодкае аслупяненьне.

Карызна доўга не паліў сьвятла. Ён сядзеў цішком, стуліўшыся на канапе, і старанна раструйваў свой смутак, маючы з гэтага дзівосную асалоду.

У кватэры ціха-ціха, як у магіле. Перш чуваць было, як нечага поркалася на кухні жонка, а цяпер сьціхла і там. Некуды мабыць пайшла Што ёй да яго? Хіба яна яму спагадае?

І ён гатоў быў крыўдзіцца на сваю жонку, якую сам адштурхнуў ад сябе, адвучыў ад усякага выяўленьня сваяцкай блізкасьці. Ён ужо гатоў быў наракаць на яе за яе сухую замкнёнасьць. Ці дзіва! Ён-жа ня ведаў таго, што яна цеперся стаіць за дзьвярмі, закамянеўшы ў нявымоўным болю, і сочыць праз маленькую шчэлачку за незразумелым ёй, але, мабыць страшэнна цяжкім мятушэньнем свайго мужа.

Увечары пайшоў Карызна да Веры Засуліч. Яшчэ тады, адразу як агарнуў яго цяжкі смутак, залунаў быў уваччу ў яго бліскучы маладосьцю і радасьцю твар з любай прыветнай усьмешкай і вабіў да сябе, абяцаючы цудоўную слодыч спацяшэньня. Але ён перш і гэты вобраз адштурхваў, каб не разбаўляць ім так патрэбнага яму ў тую часіну болю. Таму і ня ішоў так доўга да яе, хоць і ведаў пэўна, што ўсё роўна пойдзе.. Сьмешны часам бывае чалавек з сваймі недарэчнымі перажываньнямі

Веры ў хаце ня было: сказалі, што пайшла ў нардом на рэпэтыцыю. Карызна пайшоў туды.

Заля нардому панура грамазьдзілася ссунутымі змрокам кутамі, была нудная, старая і чорная, як царква. А на сцэне мітусіліся людзі ў вясёлай нязграбнай сумятні, як звычайна на аматарскіх рэпэтыцыях. Карызна нейкі час стаяў у змроку, нікім не заўважаны, і дзіваваўся з аптэкара Плакса. Тут быў фактычна нейкі другі Плакс —не пэдантычны аптэкар і не флегматык філёзоф, а энэргічны рухавы чалавек, з плаўнай быстрынёй у рухах і ўладнаю цьвёрдасьцю ў голасе. Што найдзіўней, дык ён гаварыў тут выключна тое, што было патрэбна, і акторы лавілі кожнае слова яго з такой увагаю, з якой ніколі ніхто ў жыцьці ня слухаў ягоных філёзофскіх сэнтэнцый.

Аптэкар Плакс быў цудоўны кіраўнік драмгуртка, хоць рабіў сваю справу выключна па інтуіцыі, бо сам на сцэне ніколі ня

іграў ды і мала дзе бачыў ігру сапраўдных артыстых. Праз гэта ён яшчэ больш цаніў сваю работу і лічыў, што драматычны нюх, як і нахіл да філёзофіі, ёсьць яго ураджоныя, але зацёртыя недамысным жыцьцём таленты.

Вера Засуліч надзвычай міла адзьвінела нешта звонкім галас-с свае ролі і адышлася ўбок. Тады Карызна падышоў бліжэй у сфэру сьвятла. Усе заўважылі яго і ўсе зрабіліся больш старанныя і крыклівыя, адзін Плакс адзначыў ягоны прыход вялікаю бязуважнасьцю: мастацтва—вышэй за ўсё.

Вера ціхенька нырнула за кулісы і зараз-жа зьявілася ў залі падбегла да Карызны.

— Добрая драма трапілася. А Плаксік перш казаў, што дрэнь. Пра колектывізацыю. Ведаеш, Карызна, мы можам нават у нядзелю па сходзе паставіць яе. Яна бадай, што гатова...

Карызна ўсьміхнуўся.

— У нядзелю, Вера, бяз вашае драмы будзе драматызму больш, як трэба.

— Ну дык ня трэба.

Яна ўраз перайшла на імтынны тон і запытала скорагаворкаю.

— Ты да мяне заходзіў?

— Заходзіў.

— Я зараз кончу сваю ролю. Ну, можа якіх сама больш—дзесяць хвілін. Тады пойдзем разам. Добра?

— Не, я потым прыду. Мне яшчэ трэба схадзіць у адно месца.

— Ну, добра.

Яна ўжо памкнулася бегчы, але ён затрымаў яе за руку, нібы хацеў нешта сказаць. Яна нахілілася да яго, слухаючы, але ён ня ўправіўся нічога прыдумаць і толькі зірнуў на яе ў раптоўным да болю глыбокім і палкім захапленьні. Яна шчасьліва засьмяялася і пабегла.

Карызна вышаў на вуліцу. Яму, вядома, нікуды ня трэба было ісьці, ён проста не хацеў чакаць у нардоме. Бяз мэты, абы змарнаваць час, ён пацягнуўся па простай і даўгой сівецкай вуліцы.

Была золка. Азызлы вечар хутаўся ў скрыдлы густога волкага ветру, але ня мог сагрэцца і дрыжэў, абцякаючы халодным потам дробнае парасі. У мілай пакорнасьці плакалі абапал вуліцы ціхія аганькі ў сялянскіх хатах, выстаўленыя на халодную варту гаспадарскага спакою. Мінаючы іх, Карызна пераносіўся ўяўленьнем туды, за невялічкія падсьлепаватыя вокны, і бачыў скрозь адно:

Цьмяныя, закураныя дымам і часам сьцены з вялізнымі шчэлкамі ў іх. Над сталом у куце, на цудоўна несымэтрычнай высакосьці вісіць лямпа, прыбраная ў дробныя махры выразанай паперы—пажоўклай, замушанай. Над ёй недалужна ківаецца пакарабачаная талерачка, аброслая копатам—не падабаецца ёй вечнае падкурваньне, і яна круціцца, нездаволеная, але рады ня дасьць; бо навязана на дроціку. Каб адчапіць, пэўна-б пырхнула і паляцела, як мятлік.

На лаўцы пры стале сядзіць панурыўшыся гаспадар. Ён нічога ня робіць і нічога не гаворыць; ён глыбока маўкліва адпачывае. Так можа адпачываць адно чалавек, які страшэнна многа працуе, якому пасядзець у тупой бязьдзейнасьці—асалода. На прыпечку змардаваная гаспадыня, вуркаючы верацяном, цягне бясконцую, як жыцьцёвая нягода, нітку. Побач з ёй—суседка ў такой самай паставе і такая самая, як яна, бо роўная доля, ці, праўдзівей роўная нядоля зрабіла іх бяз меры падобнымі адна да аднае. Ціхім, эпічна-спакойным цурочкам цячэ ў іх бясконцая, як і прадзіва іхняе, гутарка. А яшчэ далей за імі, у самым куточку заўзята сьлюмачыць пальцы падлетак-дзяўчынка. Божа мой, гэта-ж вы ня бачыце,—яна-ж зусім вялікая дзеўка, яна ўжо мала не спраўляецца з маткай! Прыгледзьцеся-тку, як цягне яна кудзелю, як ходзіць ў яе ў меру адстаўлены локаць, як брынчыць верацяно. А як зважна сьлюмачыць яна свае маленькія пальчыкі. А як пасьлюмачыўшы, замамыльвае яна сваю сур'ёзную пысачку! Дарма, што ёй толькі дванаццаць год,—яна ўжо зусім вялікая дзеўка. Яна ўжо ў пару з маткай сядзіць за верацяном праз цэлыя зімовыя вечары—і нішто. Толькі ломіць троху сярэдзіну потым, ды пальцы нейкія сьмешныя робяцца, як нежывыя. Але-ж гэта глупства.

А на печы ў цёплым таварыстве кошкі і тараканаў ваўтузяцца і шэпчуць малыя. Чаго ў іх толькі няма там? І вялізныя будынкі-камяніцы, як у горадзе, і каўзель, і ліха ведае колькі зайцаў, лісіц, і школа, і піонэрскі атрад і дзядзькава іскрыпка, і нават колгас. У іх там такая раскоша, што мімаволі прыслухваецца да іх з таемнай зайздрасьцю шчырая дванаццацігадовая папрадуха. Адылі гэта яе ня цікавіць, ані ня цікавіць, бо яна-ж вялікая ўжо.

І дрэмле ў хацёнцы спрадвечная, горам прыгбаная ціхасьць.

Дзе гэта бачыў Карызна такую карціну? Ба, ён ня так пытаецца—дзе ён ня бачыў гэтае карціны?

Гэта—вобраз яго дзяцінства. Такі ўрос ён у ягоную памяць такі, ён цешыць часам нутро балюча-салодкімі ўспамінамі. Далёкія, шчасьлівыя гады! Іх трэба праклясьці, іх трэба вырваць з сэрца, іх трэба згнесьці, растаптаць у пух і прах. Любіць іх—значыць любіць сваё гора, сваё няшчасьце, сваё беспрасветнае рабства. Супроць іх-жа ён змагаецца цяпер разам з сваёй партыяй, супроць іх ён гартуе сваю вялікую нянавісьць. І дармо, што аплятаюць яны яму ногі ліпучым багавіньнем гнілых пачуцьцёў,—ён парве гэтыя путы, будзе вольным.

Раптам ён нібы падштурхнуты кім' азірнуўся. Ён ішоў паўз вялікі Гвардыянаў дом. У вокнах чыстае палавіны мігцела няроўнае брудна-чырвонае сьвятло. Ня іначай гарыць там адна лямпадка. Ці гэта з кулацкае скнарасьці, ці з набожнасьці?

Карызну працінае вострая зларадпасьць.

— Ага! молішся? Чуеш небясьпеку? Дажыўся нарэшце? Чакай, яшчэ будзе табе. Яшчэ ў кроў абярнецца табе людзкі пот, з якога ты спажываў! Кулак праклята...

Ён сьціснуў зубы і вышукваў, як найлюцейшую, як найбальнейшую лаянку. Адылі і сам добра цяміў, што лае ня толькі Гвардыяна, а і самаго сябе.

Ужо ішло да яго трывожна-назойлівае, як бразгат у вокны душэўнае мятушэньне.

Неўзаметку ён вышаў аж у самы канец Сіўца. Тут разьнявolены вецер ужо на ўсю сваю сілу, на ўвесь разгон махаў чорнымі волкімі скрыдламі, і махрастыя канцы іх сьцёбалі па твары едкім макроцьцем. Была доўгая адлега, і млын у лагчыне паміж Сіўцом ды Сівалапамі шумеў з трыумфальным задорам, юрліва захлынаючыся ў збытку вады. Мабыць укляпаўся стары, падумаў, што прышла да яго вясёлая гарачая маладзіца-вясна, дык шалеў у старэчым пела сваім. Але да вясны было яшчэ далёка.

Карызна стаў у жорсткім абвеве ветру, і вецер, здавалася, разганяў яго цяжкія думкі. Было лёгка стаяць пад яго ўдарамі, акунуўшыся ў пустую бяздумнасьць.

Раптам з ветрам уляцеў у самае вуха яму знаёмы голас:

— Карызна! што ты тут робіш?

За плячмі ў яго стаяў Зелянюк. Карызна ня бачыў твару ягонага, але адчуваў, што на ім трымціць ужо тая загадкавая, а цяпер яшчэ пэўна і здаволеная ўсьмешка. Злавіў на месцы злачынства.

Карызна адказаў бязуважным тонам.

— Проста прайшоўся вось па вуліцы. Нешта галава троху баліць, дык вышаў праветрыцца. Мокра стала на дварэ. Адлега.

— А я быў у нардоме, глядзеў на рэпэтыцыю новае п'есы. Нішто п'еска, акурат пад пару. Добра грае гэта настаўніца, Вера Засуліч. Мы ішлі разам з ёй, я праводзіў яе да хаты. Слаўная дзяўчына!..

Ну ён-жа сьмяецца, ён-жа відочна кпіць з яго, гэты блазьнюк! Што яму такое сказаць, каб назаўсёды адбіць ахвоту ад гэтых кпінаў?

Але не ўпраўляецца ён прыдумаць што-небудзь, як Зелянюк, кінуўшы свой падчэплівы тон, прыхіляецца да яго і таемна шэпча, ня стрымліваючы свайго гарачага, чыста юнацкага захапленьня.

— Ці ведаеш, Карызна, што робіцца цяпер у нашым ціхім сонным Сіўцы? Га? Ня ведаеш? Дык вось.. Няма тае хаты, дзе-б не бушавала цяпер, як у катле. Мяркуюць, спрачаюцца, даводзяць адзін аднаму, лаюцца. Ужо ўсе ведаюць, што ў нядзелю будзе сход, што сход будзе рашучы, канчатковы, і ўсе рыхтуюцца да яго. Прайсьці так па вуліцы—усё здаецца спакойна-ціха, як і ўчора, заўчора, як і год таму... Праўда? А тым часам наўдачу, каб перажываў калі стары Сівец гэткае ўзрушэньне...

Карызна недаверліва маўчыць. Адкуль ён ведае? Ня іначай вымудрае ўсё гэта яго маладая жвавая фантазія. І Зелянюк, нібы чуючы яго сумненьні, тлумачыць яму.

— Сёньня ад поўдня ўсе нашыя комсамольцы, усе актывісты працуюць па хатах. Пайшлі да дзядзек, да цётак, да суседзяў,

да знаёмых. І скрозь баламуцяць... ха-ха... Тым і ня ў голаве, што іхны, каторага пляменьнік ці брат, ці сват спраўляе ў яго у хаце плянавае заданьне. Як, здорава, га?

Карызна згодзен, што гэта „здорава“, а тым часам у нутры ў яго точыцца едкае нездаволеньне. Усё робяць без яго, нават не парадзіўшыся з ім, нібы ён не адказвае за ўсю тут работу. І зноў, пэўна ўгадаўшы ягоны настрой, Зелянюк тлумачыць яму, нібы просіць прабачэньня.

Гэта неяк само па сабе зьявілася ў нас. Як ішлі тады з сельсавету... Віктар прыдумаў і загадаў па сваёй комсамольскай лініі. Ну і наш актыў далучыўся. Як ты ўважаеш, добра зрабілі?

Карызна халаднавата пацьвердзіў:

— Чаму-ж не. Гэта значна дапаможа нам. Ну, я пайшоў. Бывай здароў... Заўтра падыйдзі—пагамонім.

Зелянюк пайшоў пад Сівалапы, высьвістваючы вясёлую песеньку.

Карызна сігаў пасьпешна і злосна. Яго турбаваў той першы Зелянюкоў сказ. Ён гаварыў так, нібы ведае, што Карызна быў там у нардоме, што ён мае пайсьці да Веры. Нават паведаміў, што яна дома. Што гэта тонкі закід? Дакор? У той час, як яны ўсе працуюць, стараюцца, ён, сакратар ячэйкі, кіраўнік іхны, улагоджвае свае сардэчныя справы?

Глупства! Ці ў гэтым сэнс? Адно аднаму ня шкодзіць... Ды і нічога ня ведае ён. Адкуль ён можа ведаць?

А мо' яна сама сказала? Мо' пахвалілася, што прыходзіў у нардом, шукаў яе сакратар ячэйкі Сымон Карызна, але яна была занятая, дык сказала, каб прышоў пасьля, як скончыць яна сваю ролю?

Крокі Карызнавы робяцца яшчэ шыбчэйшыя і яшчэ злосьнейшыя.

Вось і школа. У знаёмым акне гарыць прыветны агеньчык. Карызна спыняецца перад ім і з хвіліну стаіць, жыва ўяўляючы прытульны куточак, сагрэты ціхім недасяжна-чыстым харавтвом Веры Засуліч. Яму робіцца шкода сябе. Ён ступае некалькі крокаў у кірунку да ганкаў, потым ураз, павайсковаму, заварачваецца і йдзе—ня йдзе, а бяжыць назад, сашчаміўшы зубы, каб не заплакаць.

Што яму трэба ад яго, гэтаму падшывальцу?

У той вечар шчырая, слаўная Вера Засуліч, доўга і марна прачакаўшы Карызну, паклалася спаць вельмі зьдзіўленая і засмучоная.

## 14

На сход склікалі старадаўным звычаем—пастуховай трубой. Выходзіў за Сівец стары спрадвечны пастух Аніська, станавіўся на ўзгорку ў гордай рыцарскай паставе і накіроўваў на Сівалапы сваю даўгую берасьцяную трубу. Было нешта пагардлівае ў гэтым гучным выкліку да цёмных маўклівых Сівалапаў. Нібы выкрыквала труба задзірліва, ганарыста:

— Гэй вы, дурні сівалапыя! Выпаўзайце ўжо, ліха на вас... Мо' ня варта было-б і пускаць вас сюды, галадранцаў, у чыстую

кампанію, але ўжо маеце нашу ласку. Ну-ну, выпаўзайце, задрыпы! Ну-ну! Гэй-гэй!..

Дзіўна, неабыкла гучэла звонка-пявучая пастухова труба ў халодным зімовым змроку. У глухую сьнегавую немарач упляталася ясная ружовая летняя раніца. Рабілася весела, сьвяточна.

Народ сыходзіўся тлумнымі гаварлівымі купкамі. Мабыць сыходзіліся так калісьці на звон старадаўнага веча нашыя дзікія продкі.

...Сымон Карызна вышаў наперад, на самы край сцэны. Заля была добра асьветлена, і Карызну відаць была ўся грамоздная, цяжка-зьбітая гушча сялян. Сьпераду ў суцэльны рухлівы клубок спляліся жанчыны—гэта было новае, нябачанае на даўнейшых сялянскіх сходах. Самыя верхаводы стаялі з-заду—панурыя ў маўклівым сваім чаканьні, поўныя адчуваньня ўласнае годнасьці. У вольных прахонах—паміж ног, над галовамі—шнырылі падшывальцы. Іх старанна адусюль праганялі.

Гаварылася лёгка. Падахвочвала напружаная, цьвёрдая, нібы каменная ўвага ўсяе паўнюткае залі. Здавалася, што такая ўвага гарантуе найвялікшы посьпех. Гаворачы, Карызна разглядаў публіку і, неўзаметку для самога сябе, выбраў з усяе залі некалькі апорных пунктаў, да якіх зварачаўся ў адпаведных момантах свайго дакладу. Гэтыя пункты давалі яму пэўную моральную дапамогу. Калі ён удаваўся ў спакойныя лёгічныя разважаньні, дык упінаў погляд у высока вытыркнуты над публікай твар даўгога нейкага селяніна, на якім тырчэў застылы, мабыць ураджоны, выраз зьдзіўленьня, і Карызну здавалася, што даўгі селянін дзівіцца з сталёвае непарушнасьці ягоных довадаў. Калі яму трэба было ўцяць у сэрца, разварушыць пачуцьці, ён зварачаўся да маленькае бабулькі, што незнарок выперлася на самы перад, склала лагодненька на грудзёх рукі, плаксіва зрмамыліла твар, і ўсё ківала галавой у ціхім жалі. Калі запаляўся ён бадзёрым энтузыязмам і хацеў як найглыбей перадаць яго ў масу, ён узьнімаў погляд на высокага зграбнага хлопца, што нейкім незразумелым спосабам узьнёсься над публікай усёй сваёй масыўнай фігурай (можа на стол там стаў на які?) і закамянеў у гордым адчуваньні свае высокасьці. Калі-ж кідаў ён гучныя праклёны ворагам рэволюцыі, ён махаў рукамі ў дальны кут, дзе, на яго думку, скупчыўшыся была галоўная кулацкая небясьпека. І, нарэшце, калі ўдавалася яму асабліва спрытнае дасьціпнае слоўца, ён дазваляў сабе зачапіць крайком вока мілы, быццам зьдзіўлены кроху погляд ня то цёмна-карых, ня то зусім чорных вачэй Веры Засуліч.

А быў адзін пункт у залі, якога Сымон Карызна старанна ўвікаў праз цэлы час свайго дакладу, хоць меў ён там мабыць найжывейшае і найшчырэйшае спачуваньне: гэта была яго ўласная жонка. Ён заўважыў быў яе нечакана, ён ня думаў, што яна прыдзе на сход. Яна сядзела недалёка ад Веры, і вышла так, што, стрэўшыся з ясным поглядам Веры, ён зьнецейкі перанёс

мяккую цяплыню яе погляду на сухі нявыразны жончын твар, і на гэтым твары адразу занялося тое незразумелае замяшаньне, якое ён заўважыў быў у яе ў хаце. Ён здрыгануўся, нібы акунуўшыся ў ледзяную ваду. Стала прыкра й трывожна. І ўжо далей ён стараўся зусім не глядзець у тое месца, дзе сядзела жонка.

Пра што гаварыў у сваім дакладзе Сымон Карызна?

Даклад быў бясспрэчна добры і поўны—у ім было ўсё, што трэба было, каб зрабіць яснай, як дзень, і няўхільнай справу колектывізацыі. Ён гаварыў пра анархічную неорганізаванасьць, нядатнасьць дробнае гаспадаркі, пра жорсткую кулацкую эксплёатацыю, пра тупы ідыётызм дзікага вясковага бытаваньня, пра спрадвечную нядолю бедняка-селяніна. Ён разгортваў маляўнічую карціну жыцьця ў колгасе, паказваў усе перавагі яго над дробнаю індывідуальнаю гаспадаркаю, даводзіў гэта жывымі прыкладамі, цікавымі вылічэньнямі. Ён перадаваў заклік партыі і ўлады да перабудовы жыцьця, да зьнішчэньня кулацкае эксплёатацыі, да дружнага колектыўнага руху наперад, у яснае царства соцыялізму. Пад канец прамовы ён распаліўся, упаў у энтузыязм і скончыў гарачымі гучнымі лёзунгамі.

Гэтыя гучныя лёзунгі недалужна захрасьлі ў ледзяным маўчаньні.

Карызна зьдэтанаваўся. Ён не чакаў гэтага. У яго было адчуваньне дужа падобнае да таго, якое часам бывае ўва сьне, калі трэба крыкнуць чаго-небудзь, і крычыш, напружыўшы ўсе свае сілы, а тымчасам з жудасьцю чуеш наўкола адну мёртвую цішыню. У Карызны адзін караценькі момант было нават дзівоснае сумненьне, ці сапраўды ён сказаў свае апошнія словы, ці мо“ толькі хацеў іх сказаць, мо‘ толькі падумаў.

Якуб Лакота, які быў за старшыню, некалькі раз зьвярнуўся да сходу, выклікаючы на прамовы ці запытаньні—заля адказвала цяжкім непарушным маўчаньнем. Гэта пачынала здавацца ненатуральным. Ці ня змова тут якая?

Карызна ўсё гэта браў на сябе, на сваю няўдачу, страшэнна хваляваўся і злаваў. Чаму не пачне хто з сваіх? Многа-ж хто меўся выступаць. Чаго яны маўчаць? Гэта-ж няма ведама што, гэта-ж злачынства!

Але раптам настрой разарваўся самым неспадзяваным чынам. На ўсю залю, закамянелую ў цішыні, балесна ўздыхнула тая маленькая бабулька, якую старанна расчульваў пад час прамовы Карызна.

Нехта пырснуў, нехта перадражніў яе, і раптам завіхраваў у натоўпе рэзкі нэрвовы сьмех.

Атмосфэра разрадзілася.

Цяпер пайшло другое: усе чыста разам, як па камандзе, закрычалі бабы. Аб чым яна катораякрычала, чаго дамагалася, гэта было вядома толькі ёй самой, бо нават адна адну яны не ўпраўляліся слухаць. Уговоры з прэзыдыі толькі падгарачвалі іх,

падлівалі масла ў агонь. Іншыя пераходзілі ў гістэрычны крык, іншыя спрабавалі плакаць.

Карызна кінуў нецярплівы погляд на прэзыдыю. Няўжо яны ня могуць суняць гэты гармідар? У вочы яму адразу кінуўся Зелянюк: ён сядзеў на краю лаўкі, падаўшыся наперад усім тулавам, шчыра сьмяяўся, падміргваў і нешта паказваў на мігі ў бабскую гурму. Карызна паглядзеў сьледам за ягоным зіркам і ўбачыў Тацяну. Яна стаяла сярод баб распаленая, вясёлая, прыгожая і ўсьміхалася Зелянюку цямкай усьмешкай. Потым вышла неяк троху дзіўна. Яна пачала нешта гаварыць яму, Зелянюку. Карызна добра бачыў гэта—адылі голас яе, перш задушаны бабскім лямантам, набіраў што далей большую і большую сілу, стаў гучэць упэўнена, уладна, падбіраючы пад сябе расьцярушаныя галасы бабскага бязладнага хору. Яшчэ хвіліна—і ўжо добра чуваць было, што яна гаворыць сваім густым, нізкаватым, цёпла расьцягнутым голасам.

— ...Самі ня ведаюць, чаго і што... Ці-ж мала ты каторая пагаравала, пабедавала? Ці-ж у цябе было калі шчасьце ў жыцьці, ці ты калі сьвету яснага забачыла? Або! Каб мне столькі радасьці, сколькі кожная сьлёз папаліла за свой век. Дурныя, і больш нічога. Замест таго, каб падумаць, памеркаваць, можа нейкую прасьветласьць знайсьці ў жыцьці, дык яны—няма ведама што.—Як была быдлам у свайго мужыка, так і будзеш давеку. А тут што—не ягонай гэта злосьцю крычыш, ня ён гэта нацкаваў цябе каторую? Вунь яны стаяць, маўчаць, як вады набраўшы. Хай дурныя бабы крычаць, хай апастыляюцца, а мы, разумненькія, памаўчым, пачакаем, паглядзім, як яно куды... Што, няпраўда? Га? Мо' няпраўду кажу? Сьвіньні вы, а ня людзі..

У мужчынах штучна і рэдзенька засьмяяліся. А бабы—мабыць за іх ужо, за мужыкоў—дружна накінуліся на Тацяну, закрычалі яшчэ горш, чым дасюль...

— А твой дзе? Куды ён цябе вучыць?

— Сама скруцілася ад свайго, дык ужо вычварае!..

— Распусьніца!

— Табе толькі колгасу і трэба. Там многа будзе...

Тацяна стаяла моўчкі, глядзела на разьюшаных баб ня то зьдзіўлена, ня то пагардліва. Кінула неўзаметку погляд на Зелянюка, і толькі адзін ён пабачыў праз гэты погляд цяжкую, блізкую да роспачы крыўду, якую яна старалася схаваць пад знадворнаю бязуважнасьцю. І разам з крыўдай выліўся на яго з гэтых добрых чыстых вачэй ціхі несьвядомы дакор ці мо' маўклівая просьба аб дапамозе.

Зелянюк парыўчата ўстаў, вышаў на край сцэны і падняў руку, што хоча гаварыць. Яго, як сьвежага чалавека, паслухалі—прыціхлі ў падазронай цікавасьці, гатовыя, калі што ня ў лад, даць добрага гасу і яму—дармо, што з гораду прыехаў. Ён загаварыў спакойна, але тонкія вусны ў яго дробна дрыжэлі, ды левае вока стала зусім косае і зрабіла твар пустым, адчужаным.

— Хто з вас, цётачкі, хоча сказаць што дрэннае пра Тацяну? Хто яе ведае добра... Ну, кажы першая... Хто? Ты?

Ён наўдагад тыркнуў у нейкую бабу, і гэтым ёмка адбіў магчымасьць новага агульнага выбуху. Баба спалохана адшаснулася. Зелянюк пратрымаў усіх у нясьцерпна-доўгай жорсткай паўзе і закончыў:

— Нашто дарма языком малоць. Крыкам ніякага сэнсу ня дойдзеш... Будзем гаварыць спакойна. Хто хоча гаварыць—прасі слова ў старшыні сходу.

І махнуўшы рукой на прэзыдыю, пайшоў памалу, сеў на месца. і толькі потым ужо, як перасталі глядзець на яго, ён з палёгкаю ўздыхнуў, нібы зрабіўшы цяжкую работу, і здаволена ўсьміхнуўся.

Сход пайшоў добрым ладам. Узяў слова Андрэй Шыбянкоў, Тацянін брат. Ён вышаў да сцэны зважна, упэўнена і перш, чым гаварыць, з лёгенькай усьмешачкай на прыгожым чарнявым твары азірнуў спакваля ўсю залю. З гэтага зразумелі, што праз нямалыя гады бадзяньня свайго па сьвеце ён ня раз выходзіў з прамовамі, ды й не з абыякімі. Можа нават быў дзе за комісара? Хто яго ведае? Многа ляжыць цёмнага на яго смуглым, як у мурына, абліччы.

І праўда, Шыбянкоў загаварыў гучна, размашыста, гонка кідаючы перад сабой выразныя цьвёрдыя словы. Гэтыя словы білі і сваім зьместам і сваёй мэталёвай паверхняй. Гаварыў ён пра тое, як кулакі—гэтыя найлюцейшыя, найгрубейшыя эксплёататары, пілі кроў з селянскае беднаты, як яны абдзіралі яе, ня спыняючыся перад астатняй сарочкай, як даводзілі да жудаснага ўбоства, мала не да галоднае сьмерці. Ён гаварыў аб помсьце, аб расплаце за зьдзек, за пакуту, ён пагражаў блізкай расправай.

Усё, што гаварыў Андрэй Шыбянкоў, сяляне ўжо чулі ці адзін раз, нічога ня было тут новага, нават словы былі абыклыя, многа раз чутыя, але сама страшное было ў тым, што Шыбянкоў—усе гэта ведалі і адчувалі—мае на ўвазе пэўнага, усім вядомага чалавека. І калі ён, злосна бліскаючы вачмі, пагражаў кулакамі ў задні куток, дзе сярод блізкіх сваіх прыхільнікаў сядзеў Тімахвей Міронавіч Гвардыян, усім рабілася троху жудасна, бо зусім-жа блізка, усутыч, падступала яго справядлівая нянавісьць. Здавалася, што во зараз, во тут і пачнецца тая невядомая страшная расправа.

Адылі ўсё абышлося спакойна. Шыбянкоў адкрычаўся і сеў на месца. Лакота запытаў сваім ціхім няроўным голасам:

— Хто яшчэ хоча слова?

Адразу нехта азваўся едка, вісклівa, нібы не чалавек гэта гаварыў, а ўся, з цэлага мястэчка сабраная, злосьць:

— Што там слова? Якое там слова? Каму тут трэба канечна гаварыць? Што я буду табе гаварыць, га? Што я буду гаварыць?..

І местачковая злосьць аж захліпнулася.

Гэта пачаў гаварыць чарнявы і злы Прахор, селянін маламожны, увесь сатканы з дзіўнае ўсеагульнае крыўды. Наўдачу, каб гаварыў ён сьвядома з кулацкае думкі, каб яны загадзя падгаварылі яго. Яго цяжка было нацкаваць—ён быў ня толькі злы, а і ўпарты. Проста быў у яго ўжо такі абычай—выступаць заўсёды і ўсюды супроць.

— ...Ці прышлі яны паглядзець, як я пні карчаваў на лядзе, як сваімі крывавымі пальцамі раскалупваў кожны во гэткі каваланак, каб пасеяць каліва збожжа? Ці прышлі яны, га? Ці памаглі яны мне? Добрадзеі вялікія! За чужым каркам усе разумненькія! Ого!..

Гэта была іскра ў бочку пораху. Цяпер ужо грымнулі з задніх куткоў мужчыны, загарлалі ня горш за баб бязладным тлумным хорам:

— Нам добра й так!

— Хай свае аддаюць гаспадаркі!

— Жылі без колгасаў і будзем жыць!

І вось выступіў наперад Тімахвей Міронавіч Гвардыян. Падняў руку, папрасіў слова. І пайшоў наперад, як Шыбянкоў, да самае сцэны. На голым пэргамінавым твары сваім нёс дзелавітую заклапочанасьць, нават пакутна зморшчыў гузаваты лоб, што мела азначаць прыблізна такое:

— Ну ці-ж гэта мне дужа трэба было ісьці гаварыць, турбавацца, каб не такое ліха. А то-ж—крычаць, галёкаюць, як шалёныя... Трэба-ж даць нейкае рады...

І ён завёў станавіта, мудрона, як-ткі й належыць сур'ёзнаму разважліваму чалавеку:

— Яжэлі ўсё натуральна і нефкасьніцельна праналізіраваць, дык яно, будучы, няма чаго, мужчынкі, крычаць. Таварышы, каторыя зноў-жа з гораду (далікатны зірк у бок Зелянюка), і каторыя, будучы, таксама нашы свае месныя працаўнікі (поўны пашаны жэст да Карызны) яны-ж ня так сабе гэта, як яно выражаецца, цапу-лапу. Кожны, будучы, з свайго розуму аб'ясьняецца. І нам здаецца, што крычаць ня трэба зусім, а трэба, будучы, паслухаць усе іхныя прадлажэньні, пракрасна абдумаць іх і, будучы, абмеркаваць. А можа хто й пойдзе ў гэты колгас, што вы думаеце? Можа й будуць ахвотнікі... Ты-ж людзям не закажаш—калі ён, будучы, хоча пайсьці, дык ён і пойдзе. Мы канечна не нафпроціў колгасу, але-ж трэба паслухаць людзей, раз яны спэцыяльна на гэта прыстаўлены...

Ён яшчэ пагаварыў троху ў гэткім самым тоне і спакваля пасунуўся на месца, з ног да галавы напханы здаволеньнем ад свае „будучы, пракраснае“ прамовы.

Ніхто ня слухаў з такой увагай яго на першы погляд сьмяхотную і пустую гаварню, як Зелянюк. Ён упяршыню ўбачыў гэтага славутага зубра і пераканаўся, што зьвер ён люты і хітры. Цішыня і насьмешлівая стрыманасьць, якую выклікалі ягоныя словы, наяўна сьведчылі, што яго пакуль што слухаюць і разумеюць.

Зелянюк страпянуўся. На бледым твары ў яго заіграла задорная самаўпэўненая ўсьмешка. Ён быў страшэнна здаволены сходам. Усё ішло як мае быць. Аудыторыя акурат дайшла да такога пункту, калі сама раз выводзіць свае сілы. Ён быстрым вокам азірнуў залю. З усіх бакоў з гушчы натоўпу на яго глядзелі знаёмыя твары, усьміхаліся хітра і ўпэўнена, чакаючы сыгналу. Яшчэ хвіліна, і загаворыць іначай сход, інакшымі, новымі словамі, і не пазнаць будзе гэтага зьбітага ў тупой упартасьці натоўпу. Ха-ха! Ці не памылішся ты, Тімахвей Міронавіч Гвардыян?

Тацяна настойна, мала ня сілком злавіла Зелянюкоў погляд і, радая, весела яму падміргнула. Яна яшчэ будзе сёньня ў прыгодзе, хай ён будзе спакойны аб ёй, яна яшчэ пакажа сваё!

Першы павінен пачаць Віктар. Так было ўмоўлена. Ягонае выступленьне будзе ўсім за сыгнал. Дзе-ж Віктар? Дзе той Віктар? Трэба яму знак даць, каб выступаў.

Але вышла зусім ня так, як меркаваў Зелянюк. Пакуль ён шукаў вачмі Віктара, панура ўзьняўся са свайго месца даўгі калматы Пацяроб, прыдыбаў да Карызны і, бачком схіліўшы да яго галаву, жаласна запытаў:

— Сымонка! Лупсянуць?

— Смалі, браток, толькі ня надта.

Пацяроб зрабіў адпаведны жэст, які азначаў, што „мы разумеем усё дасканала“, і адразу, з месца, нават не папрасіўшы слова ў старшыні сходу, загаласіў:

— Любачкі мае! Залаценькія! Што гэта вы сабе думаеце?..

Ён зрабіў многазначную паузу, пад час якой дакорліва ківаў галавой, упяўшы погляд пад ногі сабе, усё ў тую няшчасную бабульку. Потым ураз узьняў вочы і зірнуў цераз усіх у дальні кут.

— Гвардыян! Ты нас за дурняў маеш, ці што? (Пауза.) За дурняў маеш, кажу, га? (Гэтае „га“ гучэла зусім ужо грозна.) Ты няфпроціф (ён вельмі трапна перадражніў Гвардыяна) колгасу? Можа хто і пойдзе? Га? Дазваляеш?..

Ён зноў многазначна памаўчаў і раптам завёў тонка, пранізьліва, падчэпліва:

— Ты, любачка, ведаеш, хто гэта праводзіць колектывізацыю? Ты ведаеш, супроць каго ты йдзеш? Колектывізацыю праводзіць партыя і савецкая ўлада. Улада!..

Ён нахіліўся наперад і ціхенька, нават ласкава неяк, запытаў:

— Ты супроць савецкай улады?

Гвардыян нешта азваўся ў сваім кутку, протэстуючы, але Пацяроб ня слухаў яго. Ён рашуча сігануў на два ступні ўбок, нібы мяняючы ўстаноўку свае прамовы, і зьвярнуўся ўжо да ўсіх:

— Таварышы! Ці-ж мы ня сумленныя грамадзяне? Ці-ж мы ня лілі кроў за нашу родную савецкую ўладу? Няўжо мы пойдзем супроць таго, што праводзіць улада, каб нам-жа, цёмным, дурным мужыкам было лепей? Хто адважыцца—я пытаю, хто адважыцца з нас пайсьці насупроць гэтага мерапрыемства, га? Хто пойдзе насупроць, я пытаю?

У мёртвай цішыні пачуўся самотны голас:

— Дык навошта нас на сходы цягаюць? Вывесілі-б загад, ды й па тым.

Пацяроба ўцяло ў жывое.

— А!.. Нашто на сходы? Табе сходаў ня трэба, ты супроць сходаў? Таварышы, гэта гаворыць клясавы вораг, гэта—контррэволюцыянэр! Я ведаю цябе, залаценькі, я патраплю даць табе рады! Ня бойся, любачка, ня бойся!

З публікі пачулася ўжо некалькі протэстанцкіх галасоў, якія яшчэ горш раздражнілі Пацяроба.

— Прашу мяне не перапыняць! Я не дазволю зрываць сходу! Я вас ведаю, кулацкія падпявалы! Ворагі клясавыя—во хто вы!

З публікі зноў прагучэў выразны голас:

— Як ворагі, дык нашто-ж з намі гаманіць!

І цяпер ужо гэты голас акунуўся ў суцэльны гуд нездаволеных галасоў. Пацяроб канцом разьлютаваўся. Ён крычаў, махаў рукамі, лаяўся, пагражаў. Яму адказвалі ўсё сьмялейшым і мацнейшым гоманам, які гатоў быў перайсьці ў аднадушны крык абурэньня.

Карызна з трывогай сачыў за тым, што дзеецца на сходзе. Ён бачыў, што Пацяроб лішне загнуў, што ягоныя крыкі, пагрозы толькі адштурхаюць людзей, узьнімаюць агульнае нездаволеньне. Але разам з тым ён мімаволі спачуваў яму, працінаўся тымі самымі пачуцьцямі, у якіх кідаўся Пацяроб. Ён пачынаў дрыжэць у нястрымнай злосьці, пачынаў ненавідзець увесь гэты тупы разьюшаны натоўп, і кожнае вострае Пацяробава слова, кожная яго грубая лаянка давала яму нейкую зьвярыную асалоду. Ён разумеў, што трэба суняць Пацяроба, што ён праваліць усю справу, і разам з тым хацеў яшчэ больш паддаць духу яму, каб яшчэ сьмялей, яшчэ крапчэй лупіў ён упартую гурму.

— Нехта моцна таўхануў яго ў плячо. Ён азірнуўся і ўбачыў над сабой бледны касавокі твар Зелянюка.

— Траба спыніць яго,—ён разгоніць сход.

У Зелянюковым голасе была рашучая ўладная цьвёрдасьць. Карызну дзерганула гэта. Ён, блазьнюк, бярэ да яго мала не начальніцкі тон. І Карызна, хоць чуў поўную рацыю ў словах Зелянюка, хоць і сам разумеў немінучую патрэбу спыніць Пацяроба, але замест гэтага рэзка, зачэпліва адказаў:

— Я сам ведаю, што мне рабіць.

Пацяробу скончыць не далі. У залі ўзьняўся страшэнны гармідар, які скарыстоўвалі кулацкія паплечнікі, даючы яму патрэбны для іх кірунак. З агульнага тлуму вылучаліся асобныя галасы, у якіх чуваць былі сьвядома-варожыя злосныя заклікі.

Карызна схапіўся з месца. Ён мусіў неяк супакоіць сход, ён чуў адказнась сваю за гэта, бо фактычна-ж сам ён і спрычыніўся ўсяму гармідару—ён благаславіў Пацяроба на выступленьне.

Яму ня лёгка далося ўціхамірыць залю, каб можна было сказаць колькі слоў. Але-ткі нарэшце пацішэлі, і ён напружыў усе

свае сілы, каб быць спакойнаму, каб сказаць нешта роўнае, праканалае і лагоднае. У вочы яму кінулася некалькі чырвоных распараных твараў, на якіх тлуста блішчэла на момант зацятая, але праз тое яшчэ больш агідная зларадасьць. Яны глядзелі на яго з варожасьцю, яны чакалі толькі першых ягоных слоў, каб наладзіць яму такую-ж абструкцыю, як Пацяробу.

Тады Карызну прарвала. Уся яго развага, абачлівасьць, уся сіла волі разьляцелася ўпрах, асталася адна ўсеўладная дзікая злосьць, якая выходзіла далёка за межы гэтага тут непаразуменьня, у якую вылілiся ўсе яго ўструшэньні астатняга часу. Ён ненавідзеў гэтыя чырвоныя бліскучыя твары за ўсё: за няўдачы з колектывізацыяй, за свае страхі, сумненьні, за свае старыя грахі, за бацькоў сваіх, за свае пачуцьці, якія ён мусіў бязьлітасна ламаць у сабе, якія яго так жорстка мучылі, за жонку, за Зелянюка, за ўсё, што давала яму няпрыемнасьць, што атручвала яму жыцьцё.

Ён стаў крычаць. Ён стаў лаяцца. Ён стаў пагражаць. Ён ня помніў сам, не заўважаў сваіх слоў, бо яны вылятаді ў яго самахоць, выпхнутыя з нутра нясуладным зьвярыным шалам. Ён разышоўся яшчэ горш за самаго Пацяроба.

І вось вышла неспадзяванае: заднія рады публікі пачалі відочна радзець—абураны народ, пэўна не бяз удзелу тут кулацкае зграі, стаў дэманстрацыйна пакідаць сход, Карызна і не заўважыў-бы гэтага, каб раптам ня кінуўся з усіх капытоў туды Пацяроб, зароўшы на ўсё сваё неслабенькае горла:

— Куды гэта, га?.. Уцякаць? Уцякаць? Ня пушчу! Хто пойдзе са сходу—той вораг савецкае ўлады! Контр-рэволюцыянэры!..

Ён пачаў ваяваць ля дзьвярэй, затрымліваючы сялян, тлум узьняўся яшчэ мацнейшы, і Карызна кінуў гаварыць, пашоў на сваё месца змораны, пусты, бяздумны.

Сход ішоў далей. Тыя, што асталіся, сядзелі спакойна і слухалі ўважна. Выступалі яшчэ і Віктар, і Якуб Лакота, і іншыя актывістыя. Гаварыла яшчэ Тацяна, Вера Засуліч сказала некалькі слоў, ледзьве стрымліваючы сваё ўзрушэньне ад нядаўнага скандалу, сказала без запалу, без энэргіі, так дзеля-гадзіся. Прагаласавалі рэзалюцыю—рэзалюцыю ўхвалілі, хоць рук падымалі мала і неахвотна. Адкрылі тут-жа запіс у колгас, і запісалася дваццаць адзін чалавек—акурат столькі, сколькі налічваў Зелянюк у сваім актыве.

Па сходзе, як народ ужо лынуў у дзьверы, раптам ажывіўшыся, загаманіўшы, Зелянюк падышоў да Карызны і цьвёрда сказаў яму:

— Ну вось. . Ты сарваў сход. Ты праваліў колектывізацыю... Разумееш?

Карызна сабраў рэштку сваіх сіл і, грозна бліснуўшы вачмі на брыгадзіра, адчыкрыжыў:

— Ня твой клопат! За свае ўчынкі я буду адказваць сам!

Зелянюк усьміхнуўся.

# 15

Пацяроб, нязграбна боўтаючыся пад бокам, нахіляўся да яго і шаптаў яму ў самае вуха:

Ты ня бойся, Сымонка! Усё будзе як найлепей. Родненькі мой, я-ж іх ведаю навылёт. Не папужаўшы іх, нічога ня выйдзе. Вось памянеш маё слова—усе, як адзін запішуцца. Я за іх вазьмуся яшчэ! А гэты хлюсьцік думае, што яно так сабе... угаворчыкамі... Ня туды ён трапіў, галубок! Мы яго наўчым тут, як весьці лінію... Гэта мы да часу глядзелі—што з цябе выйдзе... Ха-ха!..

У гэты момант з другога боку ў Карызны нехта азваўся:

— Добрага гасу далі... Такога сходу, мусіць як Сівец стаіць, ня было...

Карызна здрыгануўся і прыглядзеўся ў цемру. Гэта ішоў побач з ім Андрэй Шыбянкоў. Упэўніўшыся, што Карызна пачуў яго, ён дадаў ужо сьмялей і выразьней:

— Раскулачыць яшчэ з пяток, дык будуць прасіцца, каб узялі ў калгас.

Карызну зрабілася прыкра. Гэтыя спачуваньні ня толькі не суцяшалі яго, а яшчэ ясьней падкрэсьлівалі дзікую недарэчнасьць яго сёняшніх паводзін. Ясная рэч, ён зрабіў памылку, вялікую памылку, якая мо' адаб'ецца на ўсім далейшым ходзе падзей. Але-ж гэты Зелянюк, падшывалец гэты? Што ён мае да яго? Чаго ён скрозь патыкаецца ў яго на дарозе? Што ён права мае нейкае над ім, ці што?

І жаль аб неразумным учынку сваім Карызна пераліває ў злосьць на Зелянюка, і яму робіцца значна лягчэй. Але Пацяроб з Андрэем, налязаючы з абодвых бакоў з сваімі спацяшэньнямі, ізноў аднаўляюць у поўнай гаркаце прыкрыя згрызоты.

Карызна адчуў глыбокае палягчэньне, як нарэшце разлучыўся з сваімі спадарожнікамі.

Ён падышоў да хаты. Вялізная камяніца сямігодкі паўстала з цемры чорная, няпрытульна-халодная, як вастрог. У адным акне—там, дзе яго кватэра—выблісnуў агенчык: прышла да хаты жонка. Як яна стрэне яго? Як яна паставілася да гэтага непаразуменьня на сходзе?

Карызна ведае: будуць яны сёньня, маўчаць, сьцерагчыся адзін аднаго, як ворагі. Яна будзе хадзіць каля яго чорным ценем—чужая, замкнёная, і прысутнасьць яе будзе балець яму, як старая незагойная рана.

А потым—доўгая пакутная ноч. Ён не засьне сёньня мабыць да раньня, бо будуць мучыць нявыказаныя, зьбітыя ў мулкую камлыгу пачуцьці. І найгорш, што ня будзе спаць і яна. Абое будуць прыкідвацца, што сьпяць, і з затоенай увагай прыслухвацца адзін да аднаго, ловячы кожны шолах. Гэта будзе нясьцерпная мука!

Карызна суняўся перад форткаю. Яму здавалася, што досыць адчыніць яе, пераступіць на двор—і адразу пачнецца тое цяжкое, жудаснае.

Не, ён ня пойдзе. Ён баіццаісьці, ён здрыгаецца ад аднае думкі пра гэтую ноч.

Каб хоць з кім пагаманіць, хоць колькі слоў сказаць—пра сёнешняе. І пачуць, што-небудзь—простае, шчырае. Хоць лаянку, ўсё роўна...

У яго зьявілася думка—пайсьці да каго-небудзь. Хай сабе позна ўжо, ноч. Ён разбудзіць, знойдзе якую прычыну, абы пачуць голас жывога чалавека. Каб пайсьці цяпер да Веры. Яна была на сходзе, яна пэўна яшчэ ня клалася спаць. Выдумаць штонебудзь, зайсьці на хвілінку. Сказаць, што затрымаўся на сходзе і ўбачыў, ідучы міма, сьвятло. Успомніў, што пільна трэба... Што-небудзь трэба—ён прыдумае.

І ўжо апошнія меркаваньні ён рабіў на хаду, пасьпешна, сігаючы пад пачатковую школу.

Сьвятло ў Верыным акне абудзіла ў ім палкую радасьць.

Каб хоць не пагасла раптам. Хутчэй!

І ён угрунь дабег да школы, але на ганак узыйшоў спахваля, нібы раздумляючы. Паляпаў. Заныла цягучая ціша за дзьвярмі, прыкра сьціснула сэрца. Потым—лёгкія крокі, ціхі ўстрывожаны голас:

— Хто гэта тут?

— Адчыні, Вера! Гэта я—на хвіліначку. Невялічкую справу маю.

— Карызна?

Гэтае слова яна крыкнула звонка—зьдзіўленая і ўзрадаваная.

— Я табе адчыню, але ты адразу ня йдзі, а хвілінку счакай. бо ведаеш... Адным словам, праз хвілінку ўваходзь да мяне.

У пакоі Верыным патхнула на Карызну чыстай ласкавай цяплінёй дзявочага прытулку, і яму стала нявымоўна добра тут, спакойна, у нутры ўзьнялася добра знаёмая яму, не адзін раз зазнаная хваля цудоўнай пяшчотнасьці, спаласнула нутро салодкай гарачынёй і заліла ўсе турботы, прыкрасьці. Ён з шчаснай палёгкай уздыхнуў і адкрыта, горача зірнуў на Веру, не хаваючы свайго захапленьня. Яна, прыемна сагрэтая гэтым поглядам, усьміхнулася яму, чароўна прыжмурыўшы свае вялікія—ня то цёмна-карыя, ня то зусім чорныя—вочы.

— Я ўжо клалася спаць, але ўсёроўна ня спала-б доўга. Ты добра зрабіў, што зайшоў да мяне.

Яна гаварыла зусім шчыра, і Карызна адчуў да яе глыбокую ўдзячнасьць. Ён прызнаўся:

— У мяне, Вера, няма ніякае справы, я проста так зайшоў

— Я ведаю.

І яна кінула на яго хітраваты гарэзьлівы погляд.

— Мне было цяжка аднаму... Пасьля гэтага... Я быў сёньня вялікі дурань... вялікі дурань...

Вера шырока расплюшчыла вочы, нібы перажываючы нанова свой ранейшы спалох.

— Які ты страшны быў, Карызна! Пачырванеў, вочы гараць, вусны калоцяцца. Я так спалохалася была, папраўдзе...

Карызна нейкі час сядзеў моўчкі, у задуменьні. Думалася цяпер зусім лёгка, не балела нутро ад думак, і ўсё паказвалася проста, ясна. Ён стаў аналізаваць свой настрой.

— Ведаеш, Вера, у мяне-ж няма да іх злосьці ці нянавісьці. Я жалею іх—нядобрай, гнілой жаласьцю, як ня трэба жалець. І мой сёнешні шал быў протэст супроць гэтае жаласьці. Цяпер я ўсё бачу, як на далоні—мне ўсё ясна. Я не апавядаў табе пра адно здарэньне на вёсцы? Я выпадкова натрапіў быў на селяніна, які разьвітваўся з сваёй шаўлюжкай перад тым, як здаваць яе ў колгас, Ён плакаў. І я, пачуўшы плач ягоны, ледзьве ўтрымаўся, каб не заплакаць самому. Гэта страшна...

Вера пасьпешна згадзілася з ім.

— Праўда. Я разумею цябе... Я добра разумею... Я...

Яна ледзьве не сказала, што сама прыблізна такое адчувала да маленькае молепадобнае жанчыны, але схапянулася. Мо' яшчэ рана пра гэта? Зірнула з апаскаю на Карызну, ці не заўважыў ён яе мімавольнага парываньня, але той быў захоплены сваім, і яна супакоілася.

А Карызна гаварыў далей—ня то ёй, ня то самому сабе.

— Я вырас у сялянскай сям'і, і ўсе дробязі сялянскага бытаваньня застралі ў нутры ў маім, як маленькія нявідныя стрэмкі. Часам яны баляць... не, не баляць, саднюць—шчымліва, салодка, і гэта зьнясільвае, адбірае волю. Я-ж ведаю добра, што маё дзяцінства прайшло ў абставінах дзікіх, ганебных для чалавека, і разам з тым успаміны аб ім цешаць маё сэрца глыбокай слодыччу... Мяне цешыць тое, супроць чаго я змагаюся, што трэба зьнішчыць, выкарчаваць, як дзікі жудасны перажытак! Ты разумееш, Вера, як гэта цяжка, як гэта ломіць усяго, як трэба напружваць сябе, каб ня ўдацца ў адну ці ў другую крайнасьць... А можа...

Ён закусіў губу, быццам стрымаўся, каб не сказаць лішняга, і зірнуў на Веру сьцеражліва-дапытлівым поглядам. Яна заўважыла гэты погляд, і на твары ў яе лёгкім ценем адбілася крыўда.

Карызна ўстаў, пахадзіў па пакою. Яму паказвалася новая няясная думка, якую ён мабыць яшчэ ня мог ці баяўся акрэсьліць у сваёй сьвядомасьці. Ён вагаўся.

Вера была нездаволена і, каб паказаць яму гэта, сказала з падкрэсьлена пакорнай ласкай:

— Ты не кажы, калі табе цяжка... Ты не зважай на мяне—я не пакрыўджуся за недаверлівасьць.

Ён парывчата махнуў рукой.

— Ня ў тым, Вера. Я проста сам яшчэ не разумею... Мне падумалася было, што можа, наогул мы ўжо лішнія ў гэтай рэволюцыі, мо' гэтая новая рёволюцыя, гэты новы этап яе—пойдзе бяз нас... Ты рязумееш, пра каго я кажу? Не? Я кажу пра тых, хто ўвайшоў у рэволюцыю праз стыхійны

мужычы бунт, каго штурхнула на рэволюцыйны шлях спрадвечная прагнасьць мужычая да зямлі, зьвярыны гнеў на памешчыка, свайго непасрэднага прыгнятальніка. Можа мы сваю ролю ўжо адыгралі, га? Вера? Разумееш? Можа мы органічна сталі чужыя ў далейшым поступе рэволюцыі, адсталі, вытхнуліся, страцілі свой дзейны запал?.. Можа мы цягнемся яшчэ пакуль што з інэрцыі да першага моцнага ўстрасеньня, калі адляцім, як лішнія атрофаваныя прыросткі... У мяне, Вера, толькі цяпер вось мільгнула гэтая думка. Мабыць, глупства гэта...

Вера троху ў штучнай бадзёрасьці засьмяялася.

— Ну, пэўна, што глупства. Тады-ж ладная частка ўсяе партыі, хто вышаў з сялянства, усе ўжо стануць гэтымі лішнімі? Гэта сьмешна, Карызна. Гэта ў цябе проста з нэрвовага ўзрушэньня.

— Магчыма. Але што ты кажаш—усе, дык гэта... Ведаеш, Вера, у партыі могуць быць чыноўнікі, якія будуць рабіць тое, што ім загадаюць, хоць душой, нутром і ня ўспрымаюць гэтага...

Ён зрабіў паузу, і ў яго поглядзе Вера зноў заўважыла тую крыўдную для яе сьцеражлівасьць, недаверлівасьць. Але ён перадолеў сябе і, падышоўшы блізка да яе, загаварыў ціха, асьцярожна, з нейкай дзіўнай марудлівасьцю ў голасе:

— Ведаеш, Вера... Тады, на першым этапе, было проста і ясна. Мы бачылі перад сабой адкрытага ворага, ненавідзелі яго непасрэднай, органічнай нянавісьцю, якую ўзгадавалі ў сабе з малых дзён. Я-ж памятаю, як я ставіўся да нашага пана, да ўсяго пышнага бляску яго, да раскошы жыцьця. Я захапляўся, зайздросьціў і ненавідзеў. Усё, кожная дробязь, кожны прадмет ягонага абыходу, кожная прыгожая аздоба—усё мне было чужое, ненавіснае. Я захапляўся хараством гэтага ўсяго і лятуцеў аб тым, каб як дапасьці ды ўсё гэта падрузгатаць, каб і духу-паху не асталося. А цяпер ня тое... Я ведаю, я ні на хвіліну не сумняваюся, што кулак яшчэ зласьнейшы эксплёататар, чымся вялікі пан, што эксплёатацыя яго самая дзікая, нялюдзкая, але...

Карызна яшчэ бліжэй нахіліўся да Веры, з незразумелым благаньнем зазірнуў ёй у вочы.

— Вера... Цяпер мой вораг—ведаеш, хто? Мой родны бацька...

І раптам зацяўся ў наўмыснай бязуважнасьці і з цалком спакойным выглядам зманіў:

— Майго бацьку раскулачылі і выслалі, як злоснага кулака. Ты спалохалася, Вера? Баішся? Пра гэта яшчэ ніхто ня ведае тут... Я ня хачу, каб ведалі... Ты ня скажаш?.. Праўда, Вера, ня скажаш?..

Вера сапраўды зьбялела і глядзела на яго шырокімі няўцямнымі вачмі. Яна, небарака, не ўяўляла сабе нічога страшнейшага, як соцыяльнае паходжаньне, бо гэта ў ея было самае балючае месца. Але яна ўбачыла, якой мукай адбіўся на ім яе інстынктыўны спалох, і ў нясьцерпным сораме затуліла далонямі твар.

— Я—не... я так сабе... Я не баюся...

І, канчаткова заблытаўшыся, ускочыла з месца, але зараз-жа села зноў, потым, у раптоўным парываньні схапіла яго за руку і крыкнула ў роспачы, са сьлязьмі на вачох:

— Карызна! Ня злуйся... Проста ты сказаў неяк раптам, такім голасам... Я не баюся... Чаго мне баяцца?..

І дадала наіўна-змоўніцкім тонам:

— Я нікому не скажу пра гэта... Ня трэба, каб ведалі тут...

Карызна моўчкі глядзеў на яе, усьміхаючыся ўдзячнай і разам з тым разгубленай, няпэўнай усьмешкай. На яго сышла цяпер глыбокая ціхасьць, у якой суняліся ўсе адчуваньні яго, сунялося ўсё жыцьцё, распусьцілася ў мяккім пявучым трымценьні нэрваў. Нічога ня турбуе, няма куды сьпяшацца, бо ў гэтай ціхасьці нешта спакойна-застылае, непазбыўнае.

Дзе зазнаў ён раней гэткі салодкі настрой?

Ён напружвае зьнясіленую памяць, але ніяк ня можа перамкнуцца туды—у блізка-знаёмае ды забытае. Яно лунае зусім вось тут, ля самага краю сьвядомасьці, зьвінуўшыся ў адзін няясны хімерны вобраз—у вобраз нейкага аднастайнага бязьмежна цягучага гуку. Ён выразна чуе гэты гук—ён зьвініць у вушшу тонкаю пчалінаю песьняй.

Ага! Гэта-ж пяе верацяно ў худых карабатых матчыных пальцах.

Цьмяная закураная хата... Лямпа, увабраная ў пажоўклую выразаную паперу... Аброслая копатам талерачка... Пануры бацька ў сваім глыбокім маўклівым адпачынку... Цёплая прытульная печка... кошка... тараканы...

І вечнае, неадступнае, ціха-пявучае верацяно...

Карызна зморшчыўся ад нутранага болю.

— Я не магу іх ненавідзець. Вера, чуеш? Я не магу іх ненавідзець...

Яго працяў пякучы жаль, на вочы накаціліся сьлёзы. Каб схаваць іх, ён узьлёгся локцямі на стол, паклаў галаву на далоні.

Вера ціха дакранулася рукой да яго валасоў і сьмешна, падзіцячаму суцяшала:

— Ня трэба так... Гэта ў кожнага бывае. Ведаеш, я-ж таксама шкадавала.. Да мяне прыходзіла Гвардыяніха—такая простая няшчасная жанчына. Яны-ж дык—ого, якія злосныя кулакі, а мне ўсё роўна шкода было яе... Папраўдзе... А ў цябе бацькі... Бацькоў заўсёды шкода бывае...

І яна дзелавіта ўздыхнула.

Карызна ўзьняў галаву, зірнуў на Веру бліскучымі вачмі. Яна стаяла над ім—дужа сур'ёзная, заклапочаная. Сашчэмленыя вусны, міла, падзяцінаму выпнуты наперад лоб, зморшчаны да немагпымасьці, аксамітныя броўкі спаўзьліся ўместа, затуліўшы вялікія ня то цёмна-карыя, ня то зусім чорныя вочы. І ўся яна празрыстачыстая, сьветлая, як крынічка.

Карызна ўзяў яе маленькую руку і нязграбна, у прагавітай пасьпешнасьці прыціснуў да сваіх вуснаў. Яе прыгожыя аксаміт-

ныя броўкі ўзьняліся ў ціхім зьдзіўленьні. Рукі яна не адбірала, а ўважна, з дзіўнай цікавасьцю глядзела, як цалуе яе Карызна. Потым на твары ў яе засьвяцілася сарамлівая давольнасьць і ласка— яна абшчапіла яго вольнай рукой за шыю і пяшчотна прытуліла да сваіх грудзей.

...Карызна ўсю тую ноч перабыў у Веры Засуліч і з прыёмнасьцю пёраканаўся, што ў гэтае разумнае, палітычна-сьвядомае, бадай што першае на ўвесь Сівец актывісткі ня менш, а можа і больш цёплае, простае жаноцкае ласкі, чымся ў іншае звычайнае жанчыны. А таксама ўбачыў ён і тое, што вочы ў Веры Засуліч зусім ня цёмна-карыя і ня чорныя, а цёмна-цёмна-сінія цудоўна-прыгожага, якога ён ніколі ня бачыў у жыцьці, колеру.

...І праз усю тую ноч стаяла, укленчыўшы на канапе, перад акном Марына Паўлаўна і глядзела ў чорную бязьлітасную цемру.

■

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

1

Хоць брыгадзір Зелянюк і паказваецца ў гэтым апавяданьні, як цалкам станоўчы, мала не ідэальны герой сучаснасьці, але і ён, як кожны жывы чалавек, меў свае слабасьці. Так, напрыклад, ён кахаў дзяўчыну. Кахаў пяшчотна, горача, прагавіта, як-ткі і кожны хлопец гадоў у дваццаць ці троху болей, што ня ўправіўся яшчэ марна растрэсьці жыватворчы агонь свайго маладога сэрца.

Дзяўчына Зелянюкова жыла ў горадзе і да падзей, што тут апісваюцца, мела толькі ўкосныя адносіны, але дзеля паўнейшае характарыстыкі самога Зелянюка ня шкодзіць сказаць колькі слоў і пра яго любую.

Зелянюку яна заўсёды ўспамінаецца такая, як ён яе ўпяршыню ўбачыў на заводзе сярод дакучлівае гурмы экскурсантаў.

Яна стаяла над ім трошку сьмешная ў сваім наіўным захапленьні. Яна нібы брала сама ўдзел у рабоце, памагала яму. Ці толькі прыкладаў ён да дрэва разец, з-пад яго празрыстым мярэжыстым касьнiком выпаўзала сьвежая стружка,—яна са шчырай турботай сачыла за пакручастым рухам гэтае стружкі. Яе тонкія бровы ўсё падымаліся і падымаліся, лоб старанна зьбіраўся ў густую сетку маршчынак, а напаўраскрытыя ружовыя губкі пацешна рухаліся ў тахт варштату. Як прымаў ён разец, — напружаньне ўраз зьлятала з яе твару, і яна аж уздыхала, небарака, у раптоўным палягчэньні. Потым—зноў.

Яна ўпэўнена была, што ён, заняты работай, ня бачыць яе, і ня мела патрэбы сачыць за сабой, за выразам свайго твару—яна памагала яму з поўным самазабыцьцём. Але ён упраўляўся ўсё-ткі кідаць у яе бок няпрыметныя погляды, ледзьве стрымліваў усьмешку.

Скрозь высокія з дробнымі шыбкамі вокны ў цэх зазірала рэдкае зімовае сонца і гуляла па стружках залатымі жвавымі зайчанятамі. Адзін зайчык скрозь трапятаўся ў яе на твары і надаваў яму дзіўную кволую празрыстасьць. Калі-ж ён, гарэза, ускочыў быў раптам у яе старанна раскрыты ружовы раток, Зелянюк ня вытрымаў, і, адхіснуўшыся ад варштату, голасна засьмяяўся. Яна зьдзіўлена паглядзела на яго.

— Чаго ты сьмяешся?

Ён ня ведаў, што адказаць, бо не хацеў пакрыўдзіць яе. Тады, каб парушыць няпрыемнае маўчаньне, яна запытала:

— Ты тут працуеш, у мадэльным?
— Не, я ў ліцейным.
— А што ты тут робіш?
Ён трошку падумаў, мяркуючы, мабыць, ці варта з ёй удавацца ў падрабязную гутарку, але зірнуў на яе шчыры, поўны сур'ёзнае ўвагі, твар і здаўся.
— Бачыш, я выхадны сёньня. А варштат гэты вольны. Я папрасіў дазволу папрацаваць на ім. Так, для сябе...
— А што ты робіш?
Ён трошку засароміўся.
— Я раблю модэль аднае машыны... новае машыны...
Дзяўчына працягнула з адкрытым зьдзіўленьнем і павагай:
— Ты вынаходца?
Ён скрывіў твар у пагардлівую грымасу (ат, якое там вынаходзтва!), і яна, падбадзёраная гэтай грымасай, па-свойску ўсьміхнулася і, жвава падміргнуўшы яму, папрасіла:
— Дай мне паспрабаваць... Я асьцярожна...
Ён адгарадзіў яе рукой ад варштату.
— Ня можна. Папсуеш.
— А можа і не папсую?
— У нас на „а можа“ ня робіцца.
Дзяўчына нездаволена скрывіла губкі. Яна пэўна і пайшла-б ад яго пасьля гэтага, але, мабыць, не хацела пакідаць па сабе няёмкае ўражаньне і таму, пільна паглядзеўшы на Зелянюка, запытала:
— Ты комсамолец?
— І партыец.
— О!..
Яна змоўчыла троху. Потым пахвалілася:
— Я таксама комсамолка. Ты ведаеш, што наша тэхнікумская ячэйка будзе з вашаю ў сутаварыстве? Будзем памагаць вам, а вы нам...
— Ведаю... А што?
— Нічога. Не дасі пакруціць?
— Ня дам.
Яна дакорліва паківала галавой і строга паглядзела на Зелянюка. Хацела яшчэ нешта сказаць, але яе гукнулі ад дзьвярэй:
— Стася! мы пайшлі далей!
Яна крутка завярнулася і пайшла ад яго шпаркай цьвёрдай хадою. Ён глядзеў ёй усьлед з спакойнай усьмешкай, а як дайшла яна да дзьвярэй, ён раптам чамусьці занепакоіўся і, нібы ўздумаўшы нешта, гукнуў яе:
— Стася!
Яна перш сунялася, не азіраючыся—разважала, ці варта адгукнуцца, ці мо' лепей не зьвярнуць увагі. Але ён ужо дагнаў яе, і яны пайшлі поплеч.
— Я пайду з табой па заводу, буду тлумачыць табе. Добра?
— А модэль?

— Дармо. Гэта ня пільнае.

...І вось ад таго часу мінуў цэлы год. Год гэты быў нязвычайны ў Зелянюковым жыцьці, бо ішоў ён паводле асаблівага дзівоснага календара, дзе было безьліч чырвоных дат, якія, каб дакладна расшыфраваць іх, далі-б надзвычайна стракатую номэнклятуру: супольны сход сутаварыскіх ячэек, сустрэча на вечары ў клюбе Карла Маркса, першы пацалунак, экскурсія ў тэхнікум, другі пацалунак, кіно, супольная паездка ў падшэфную вёску (і многа пацалункаў), даклад у тэхнікуме (ён дакладчык), вечар тэхнікуму на заводзе і, выпадковая сварка (усё кончана! усё! усё!), доўгі і палкі вечар прымірэньня, брыгада па ўзаемным азнаямленьні з бытам, гарадзкі сад, чаромхавая ноч і прыкрае непаразуменьне з тэхнікумаўскімі варотамі (выдумалі, замыкаць.), супольны політгурток (яны, вядома, самыя спраўныя сябры), супольны спэктакль (абое раптам—артысты) і г. д. Ды і наогул, хто можа прасачыць за гэтым дзівачным комсамольскім каханьнем, якое ўплятае чаромху ў тэзісы аб соцспаборніцтве, а ў слодыч першых пацалункаў улівае гаркавы прысмак тэорыі дадатковае вартасьці!

І вось сядзіць Зелянюк у глухіх Сівалапах, у хаце селяніна-серадняка Малаха Загароўскага і, апакаваны лютай пяшчотнасьцю, піша гарачы, бязладны ліст да свае каханае.

„Любая, мілая, слаўная, злосная, дрэнная Стаська!“

Пасьля клічніка ён становіць яшчэ адзін клічнік і, здаволены, уяўляе, як „слаўная, дрэнная Стаська“ ўзьніме зьдзіўлена бровы, прачытаўшы гэты ўступ, і раздумліва паківае галавой: „О!..“

> „Ты думаеш, што я цябе, свайго дарагога зайчыка, не ўспамінаю кожную хвіліну, кожную сэкунду, кожную... (ня ведаю, ці ёсьць яшчэ што меншае за сэкунду)? Ты думаеш, што я не абнімаю цябе ў думках, не цалую тваіх сярдзітых губак, тваіх зялёных, як у кошкі!—вочак? Ты думаеш, што калі рэдка пішу, дык я ўжо і забываюся на цябе? Ведаеш, мая...“

Але ці варта перачытваць сьмешную сэнтымэнтальную пісаніну маладога хлопца, які, працяты нястрыманым палам пяшчотнасьці, забываецца на ўсю сваю грамадзкую значнасьць і станавітасьць і пачынае вярзьці зусім нестасоўнае глупства!

Адылі другая палавіна Зелянюковага ліста мела зусім інакшы характар, варты ўвагі нават сур'ёзнага чалавека. Зелянюк пісаў пра савецкія справы.

> „...І мяне думка цешыць, што ты, Стаська, сур'ёзна (а я думаю,што сапраўды сур'ёзна) цікавішся гэтым. Дык вось... Пахваліцца асабліва няма чым. Той сход, пра які я табе пісаў, быў нам цэлая катастрофа. Праўда, што на наш актыў ён не зрабіў уплыву—мы працуем, як і раней, і расьцем. Па маіх падлічэньнях, мы маем цяпер блізка пяцьдзесят гаспадароў, якія зараз-жа гатовы пайсьці ў кол-

гас і будуць, аб гэтым я не сумняваюся, цьвёрдыя колгасьнікі. Але мы ўсё-ткі бяром устаноўку на агульны масавы зрух, і ў гэтым сэнсе той сход падцяў нам ногі. Ён сапсаваў перадачу. Ты-ж езьдзіш на вэлёсыпэдзе, дык ведаеш, што гэта значыць, калі не працуе перадача. Малое кола круціцца, як сьлед, а вялікага ня рушыць. Так пакуль што і мы. Ды мала таго—яшчэ спрабуюць яго, гэтае кола, крутнуць назад, бо сход той дужа паспрыяў кулацкай зграі, даў глебу для іхнай падкалоднай працы. У некаторых вёсках, дзе ўжо зарганізаваныя колектывы, павеяла халадком: сярод колгасьнікаў зьявіліся дрэнныя настроі. Але усяму гэтаму мы дамо рады. Энэргіі ў нас досыць, мэта ў нас ясная, будзем працаваць як мага—і свайго дойдзем. Праўда, Стаська, ці не?

Найбольш засмучаюць мяне нашы стасункі з сэкратаром ячэйкі. У нас яшчэ, здаецца, не дайшло да адкрытае сваркі, але сутычкі былі жорсткія. Як табе вядома, ён больш за ўсіх вінаваты ў правале таго славутага сходу, і вось я ніяк ня ўцямлю, ці ўсведамляе ён гэта як сьлед, ці падманьвае сябе шкоднай бравацыяй пад дудку старшыні сельсавету, з якім ён блізка таварышуе. Наогул мяне вельмі цікавіць гэты чалавек, і я да яго прыглядаюся можа троху больш, чым трэба. Здаецца, што ён прымячае гэта, і злуецца. Але я маю на гэта свае асаблівыя прычыны, аб якіх ён і не дагадваецца.

Я табе, Стаська, пісаў ужо неяк пра гэтага чалавека. Ён перажывае цяпер сямейную трагедыю, ці, праўдзівей, робіць яе, і гэта так шчытна ўплятаецца ўва ўсё ягонае жыцьцё, у тым ліку і ў грамадзкую працу, што нават цяжка азначыць, што на што робіць уплыў і што чаму спрычыняецца.

Я добра ведаю яго жонку. Гэта вельмі сымпатычная жанчына, больш глыбокая, чымся гэта можа здацца з першага погляду. Ён бязумоўна не даацэньвае глыбіні яе перажываньняў бо, каб ведаў ён пра ўсе захаваныя мучэньні яе, ён-бы, напэўна, прысьпяшыў які-небудзь канец. Яна ніколі ня скардзіцца, унікае ад усякіх гутарак на гэтую далікатную тэму (прынамсі, са мной), але я часам бачу ў яе ў вачох ціхую надзею на нейкую староньнюю дапамогу, на нейкі ратунак. Можа, я дрэнна раблю, што старанна трымаюся ўбаку ад іхных сямейных непаразуменьняў? Але я бачу па ім, што было-б горай. Ён мае хваравіты гонар, які ня дасьць яму спакойна сьцерпець чыйго-небудзь утыканьня ў ягоныя справы. Гэта больш толькі раздражніць яго і пагоршыць справу. Адно, што мы робім, гэта ўцягваем паступова яе ў грамадзкае жыцьцё (ёсьць тут на гэта адна надзвычай сымпатычная, разумная і спрытная жанчына) і маем посьпех у гэтым. Новае захапленьне патроху адводзіць яе ад пастаянных згрызот.

Ну, але я табе, Стаська, цэлы ўжо рапорт выпісаў, і, мабыць, добра табе надакучыў. Таму прашу прабачэньня і, каб разьвесяліць цябе, горача цалую тысячу разоў. Не адбівайся, усё роўна рады не дасі. Тысячу разоў—ня менш.

Пішы мне, любая, часьцей, нават калі не атрымліваеш лістоў ад мяне. Калі я і ня пішу, дык не таму, што ня хочу (мне-ж гэта—усё роўна, што пагаманіць з табой, мне пісаць табе—шчасьце), а таму, што літаральна няма на гэта паквольнай хвіліны.

Яшчэ раз моцна абнімаю і цалую бяз канца любую, слаўную сваю Стаську.

Твой Зелянюк.

Пішы мне, як і раней, на райком партыі—гэта больш пэўна".

Зелянюк цьвёрда становіць кропку і адрывае ад ліста лятуценна мяккі, зусім не стасоўны да яго погляд. Сапраўды, у яго адчуваньне, нібы пагутарыў ён з сваёй Стаськай, і гэтая гутарка пакінула ў яго добры, малады, бадзёры настрой. Высьвістваючы вясёленькі напеўчык, ён акуратна залепліваё конвэрт, піша адрас доўга, старанна, нібы мае з гэтага сабе асаблівае здавальненьне. Потым устае ад стала і, падтупваючы ў тахт вясёленькаму напеўчыку, выходзіць на гаспадарскую палавіну: яго раптам пацягнула да людзей.

У хаце адна Аўгінька. Яна стаіць і глядзіць нечага ў акно. Зелянюк падходзіць і закрывае ёй далонямі вочы:

— А ну-тку, адгадай, Аўгінька хто гэта?

Ён і голасу нават не зьмяніў, ды Аўгінька-ж і ведае, што апрача яго нікога ў хаце няма, але дзе-ж яна так проста скажа!

— Або... Хто-ж гэта такі? Ніяк не пазнаю... З голасу, дык нібыццам дзед Піліп. Ці ўгадала?

Зелянюк пераварачвае да сябе яе твар і грозна глядзіць на яе, вытрашчыўшы вочы.

— Дык гэта я—дзед? Я—дзед, га?

Аўгінька дробна сьмяецца, радая сваім жартам. Зелянюк сядае каля яе на лаўку.

— А я ведаю, Аўгінька, каго ты ў акне выглядала.

Яна чырванее і зараз-жа зраджае сябе:

— Думаеце, што Віктара? А во і не, да душы-ж не... Віктара і няма зусім...

— А дзе Віктар?

— Ён пайшоў...

Але зараз-жа схапянулася і ўзяла цалком бязуважны тон:

— Адкуль-жа я ведаю? Што я сьцерагу яго, ці што? Толькі таго і клопату...

Зелянюк устае і дзелавіта бурчыць сам сабе:

— Так, значыцца, і скажу яму... Ня маю, значыцца, клопату, ня цікавы ён мне, ня гэткіх бачыла, хай ідзе к ліхой долі, валацуга...

— А во і не казала так, няпраўда... Маніце! Маніце У, манюка!..

Зелянюк сьмяецца, цалкам здаволены. Ён дужа падабае Аўгіньку (можа таму, што, гледзячы на яе, успамінае сваю слаўную, дрэнную Стаську?) і дужа любіць дражніцца з ёй. Ён ведае, што іх з Віктарам вадой не разальлеш, і такое заўзятае каханьне яму вельмі імпонуе.

Але-ж яна, хітруньня, ведае добра, дзе цяпер Віктар, а ён патрэбен яму. І Зелянюк, лёгка зьмяніўшы тон, пытае:

— Скажы, папраўдзе, Аўгінька, куды пайшоў Віктар—мне трэба ўбачыцца з ім.

Аўгінька яшчэ з момант глядзіць недаверліва, каб ня было падкопу якога, адылі здаецца:

— Ён пайшоў у Сівец. Ён скора ўжо вернецца.

— І прыдзе сюды?

— Пэўна, што прыдзе.

Яе нават дзівіць гэтае пустое запытаньне!

— Як прыдзе, дык скажы яму, Аўгінька, што я ў Лакоты.

Аўгінька нездаволена крывіцца.

— І каб прышоў?

— Ну, дзе-ж ён адразу пойдзе! Ня кіне-ж ён цябе раптам... Ну, пагамоніце, памілуецеся троху...

— А йдзеце вы...

## 2

У Якуба Лакоты госьць—агроном Сініцкі. Старыя таварышы, удзельнікі аднаго партызанскага атраду. Разам, плячо ў плячо, прайшлі яны калісь праз страшныя, парытыя чорнымі каўдобінамі небясьпекі, гоні жыцьця, але вышлі з яго няроўныя. Побач з касьцяна-худым Якубавым тварам, нібы на скрозь прасьвідраваным глыбокімі ліхаманкавымі вачмі, шырокі, добрадушны твар агронома Сініцкага выдае можа троху і залішне рэзкім контрастам. Ён ужо лысы, але праз лысіну сьціпла зачосаны выстанкі рэдзенькіх валаскоў нявыразнага колеру. У яго слаўны целепаваты нос, і нечакана востранькія, жвавыя і разумныя вочкі. Барада шырока і густа абамшэла шызаю поўсьцю, але самая сярэдзіна, самы кончык голы—гладзенькім пятачком. Круглая, роўная галава Сініцкага дужа нагадвае недасьпелы гарбуз, на адкым баку ў якога сонца выграла сьветлую лысіну, ды яшчэ з другога боку спаміж лісьця вытыркнуўся быў на сонца і пабялеў пятачок, але ўвесь гарбуз цьмяны яшчэ, шыза-зялёны.

Якуб сустрэў Зелянюка з парыўчатай радасьцю. Нязграбным ад шчырасьці рухам ён схапіў яго за палу і пасадзіў пры сабе на лаўку. Ён відочна быў устурбаваны нечым, і ў замяшаньні шморгаўся на месцы.

— Дык вось, браточак... Глупства... Нікуды ня варты ўсе мае пляны... Вось Сініцкі, агроном. Вы-ж ня знаеце адзін аднаго? Пазнаёмцеся... Ды я і ведаў... От, так сабе, забаўка. Каб спэцыяльнасьць, практыка...

З Якубавага тону Зелянюк адразу пачуў, што гэта ён пакуль што яшчэ так сабе, ад сарамлівасьці, ці мо з перасьцярогі, каб загадзя падрыхтаваць лёгкі настрой на выпадак магчымай няўдачы.

Агроном Сініцкі з дзелавітай няўважнасьцю прывітаўся з Зелянюком і зноў схіліў свой добрадушны гарбуз над шырокімі Якубавымі аркушамі. Вочкі яго шныпарылі борзьдзенька, жвава, што мышаняткі, і ласкава-ласкава ўсьміхаліся. Раз-по-раз ён вымаў з бакавой кішэні „вечнае“ пяро, з спакойнай мэтодычнасьцю адкручваў яго, нешта дробненька поркаў у запісной кніжцы і зноў, старанна закруціўшы пяро, клаў яго на месца. Потым ён узьняў галаву, паглядзеў на столь, нібы шукаў там нейкае згубленае лічбіны, апусьціў назад галаву, аж упёрся ў грудзі сьпелым пятачком, і толькі тады ўжо лагодна, здаволена ўсьміхнуўся. Якуб раптам сьціх і зірнуў на яго з непакойным чаканьнем, але ён ні з таго, ні з сяго зьвярнуўся да Зелянюка:

— Цікавая гэта работа—складаць вытворчыя пляны для новых колгасаў. Я ўжо рабіў іх у некалькіх колгасах. Гэта зусім не мэханічная работа, ня простыя вырахункі. У нас ёсьць ужо узорныя пляны, але на іх пакладацца ніяк не выпадае. Гэтыя новыя гаспадаркі мы пакуль што лепім з усякае драбязы, з усякага, прабачайце, сьмецьця. І ў кожным выпадку прыходзіцца рабіць асобныя комбінацыі, выкручваць, перакручваць. Нават нормы выпрацоўкі, нормы высеву і тыя ня ўсюды даём роўныя...

Яго маленькія вочкі раптам мякка зазьзялі і яшчэ больш падрабнелі ад лятуценнасьці.

— Каб нам машыны ўсюды... Трактары... Каб нам хаця са два ці са тры трактары на першы абыход.

Зелянюк зацікавіўся.

— Хіба два ці тры трактары многа-б дапамаглі? Гэта-ж фактычна, дробязь?

— Хо-хо... Гэта ня дробязь. За нашымі ўмовамі тры трактары зробяць удзесяцера болей, чым яны могуць зрабіць...

І, здаволены сваёй няўмыснай загадкай, Сініцкі ўваткнуў зноў у грудзі пятачок і неяк дужа глыбока—жыватом толькі ды носам—засьмяяўся. Зелянюк таксама ўсьміхнуўся сьледам за ім (фактычна, цудоўны сьмех агронома яго насьмяшыў) і, каб зрабіць прыемнасьць яму, зьдзіўлена запытаў:

— Як гэта разумець?

Сініцкаму яго зьдзіўленьне ўпадабалася.

— Хэ-хэ... Удзесяцера болей...

І яшчэ дзеля важнасьці хэхэкнуўшы разы са два, ён растлумачыў:

— Псыхіка... Убачыўшы трактар, і конь удвая больш узарэ. Нам ня то, што ўсё на трактары перавесьці—нам хоць паказаць гэты трактар. Трэба, каб пачулі нешта новае, большае за таго,

што кожны меў у сваёй гаспадарцы... Два кані гэта—пэўна, што ня два кані, а троху болей, дзесяцера коняй разам зробяць блізка таго, што паасобку зробіць пятнаццаць. але селяніну гэтага мала, ён ня зьдзівіцца, убачыўшы ў колгасе свайго каня і свой плуг, хоць і будзе ісьці ён у чарадзе з суседзкім. А трактар ён паважае... ого!..

Зелянюк з настойнай цікавасьцю ўзіраўся ў гарбузаваты твар агронома Сініцкага, у яго вясёлыя і разумныя вочкі. Гэты чалавек яму падабаўся: у ім многа было прастаты і здаровае крэпкае кемкасьці. Зелянюк паспрабаваў уявіць яго ў рабоце і чамусьці, не ўважаючы на ягоную грубіню, целяпаватасьць, мог уявіць яго толькі рухавага, круткага, няўтомнага. Бадай што гэткі і быў агроном Сініцкі.

Тым часам небарака Якуб з ледзьве стрыманаю нецярплівасьцю чакаў свайго прысуду. Ён скрозь сачыў за Сініцкім, ня зводзячы з яго гарачых вачэй, як дзіця з марудлівага бацькі, што, прыехаўшы з кірмашу, ніяк не зьбярэцца паказаць прывезенага гасьцінца. Нарэшце ня вытрымаў ён і запытаў:

— Ну, як-жа гэта мая тлуманіна?

Ён як мага стараўся надаць свайму голасу і ўсьмешчы сваёй спакойную бязрупатнасьць, ды ня выходзіла: усё роўна чуваць было яго балючае ўзрушэньне. Агроном добрадушна засьмяяўся і палэпаў яго па плячы:

— Хэ-хэ.. Ты хочаш хлеб адбіць у мяне...Ды ці толькі ў мяне— тут і па будаўнічай лініі ці мала чаго намудравана...

Якуб глядзеў на яго, зьбянтэжаны яго жартаўлівым тонам. Тады Сініцкі сказаў зусім сур'ёзна:

— Во што, Якубе. Я-б гэткага пляну ня склаў, каб мне, скажам, прапанавалі зрабіць для вас... Праўду кажу. Бо ты-ж ведаеш тут кожны лапік зямлі, кожную, у каго якая ёсьць, шаўлюжку, і ўсё гэта ўзяў на ўвагу, падрахаваў, сплянаваў... Маладзец, Якуб...Гэта, ведаеце, праца дык праца...

Апошнія словы Сініцкі сказаў да Зелянюка—гэтым падкрэсьліў сур'ёзнасьць свае ацэнкі.

Якуб Лакота гарэў ад шчасьця. Значыць, праца ягоная была ня марная! Значыць, ён не дарма сядзеў начамі над гэтымі вялізнымі аркушамі, над гэтай цяжкой, новай, неабыклай для яго справай!

Раптам Якуб пыхнуў увесь, замітусіўся:

— Гэта-ж мы з Мікітам...мы ўдвох...

І—нібы гэта было пільна патрэбна, нібы бяз гэтага ня можна было й абыйсьціся—выбег з „габінэту“, гукнуў малога:

—Сьцёпка. Бяжы зараз пакліч Мікіту Лаўрынёнка. Скажы, каб як стой быў тут. Ну, смалі!..

Прышоў Мікіта—дужы хлапчына з масяндзовым тварам, троху сутулаваты, унурысты і маўклівы. Станавіта і нязграбна парукаўся з усімі і з паблажлівай усьмешкай стаў слухаць Якубавы радасныя тлумачэньні. І—нібы згаварыліся—сьледам за ім уперся ў хату камляваты, безнадзейна заблытаны ў густой паклычанай

барадзе дзядзька Тодар Малахаў, сваяк Зелянюковага гаспадара. Прыбег Віктар, бурна засопшыся ад бягні ці можа ад перарванае сустрэчы з Аўгінькай. За ім—яшчэ, і яшчэ, і сыйшліся няклікаdebatable, нечаканыя мала ня ўсе сівалапаўскія актывісты—на вялікую Зелянюкову радасьць і здаволеньне.

Аграном Сініцкі сядзеў сярод гурмы сялян пышна-распараны, тоўсты, як самавар, і, як ад самавара, расплывалася ад яго наўкола крэпкая гаспадарская цяплыня, саграваючы дзядзькоў ціхамірна-дзелавым настроем. Нічога не гаварыў ён вялікага, выдатнага—от, перабіраў усякую драбязу, распытваўся, тлумачыў. Але гэтая драбяза набірала ў яго асаблівае значнасьці, трываласьці і трапна ўкліньвалася ў агульную сыстэму новых, прынадных для мужычага розуму, меркаваньняў.

Зелянюк адпачываў. Яму давала надзвычайную прыемнасьць сачыць так за паступовым, але пэўным рухам колектыўнага настрою, якім з дасканалым умельствам кіраваў гэты тоўсьценькі гарбузаваты чалавек. Вось праца́ліся ўсе спакойнай развагай—пацíхлі, утупілі хто куды лятуценна застылыя вочы. Вось занялося лёгкае сумненьне—паўзьнімалі галовы, настаражыліся. Гэта—добра. Гэта наўмысьля ён, таўстун, дазволіў ім на нейкі час пасумнявацца—з сумненьня заўсёды родзіцца мацнейшае пераконаньне. Адно слова, адна нязначная драбязговая заўвага—і сумненьне абярнулася ў упэўнасьць—здаволена ўсьміхаюцца ўжо і пазіраюць адзін на аднаго з вясёлым зьдзіўленьнем (бач ты, як яно, га?). А вось пайшло ўжо глыбей, ужо лёгка-крытычны настрой цалком распускаецца ў прагнай цікавасьці, перарастае ў захапленьне. І ўжо дрыжыць на тварах творчая нецярплівасьць, ужо карціць кожнаму паспрабаваць, рызыкнуць, распачаць, нарэшце, нешта новае, неабыклае.

Зелянюк і ня прымеціў добра, як яно сталася, але скончылася на тым, што загарэлася раптам настойнае злоснае абурэньне на Сівец, на сівецкіх „чыстых“ гаспадароў, што марудзяць толькі, не бяруцца самі і іх, сівалапаўцаў, забаўляюць.

— Што на іх глядзець? Яны раздуроныя, яны адно глядзяць, каб як лучыць на лёгкі хлеб.

— Яны так і год будуць вілаводзіць, а пры іх і мы сядзім.

— Ня хочаш, дык ня трэба. І бяз іх абыйдземся!

Тут, вядома, значную ролю грала даўная ўзаемная варожасьць паміж Сіўцом і Сівалапамі. Можа з гэтага і пайшло, можа проста жаданьне казырнуць, падцерці нос фанабэрыстаму Сіўцу штурхнула іх на раптоўную рашучасьць, але загудзелі раптам сівалапаўскія актывісты, каб не чакаць Сіўца, не марудзіць, а ўзяць ды арганізаваць свой асобны сівалапаўскі колектыў.

— А тады хай хто хоча ідзе да нас, запісваецца.

— Ня ўсё-ж нам да іх хадзіць!

— Ды яшчэ паглядзім тады, каго возьмем, а каго і не!

Зелянюк раптам зьдзівіўся, як гэта дасюль ня прышла яму ў галаву такая простая і трапная думка. Праўда, што многа

ёсьць нездаровага і няпэўнага ў гэтым патрыётычна-задзёрыстым настроі, але ў груньце сваім ідэя правільная. Настрой створаны, глеба катова, марудзіць нельга, трэба сеяць, каб не спазьніцца, каб не ахаладзеў запал і рашучасьць. Будзе прыклад Сіўцу. Хай сабе і конкурэнцыя, гэта не пашкодзіць, а яшчэ паспрыяе агульнаму руху.

І Зелянюк цалком падтрымаў замер сівалапаўскіх актывістаў. Ён нават узяў самахоць на сябе абавязак абладзіць гэту справу з формальнага боку, каб ня было ніякіх затрымак.

Пасьля шумных гарачых размоў позна ўвечары разышліся з Якубавае хаты дзевятнаццаць чалавек сяброў новага Сівалапаўскага колгасу, які меў ужо нават, праўда, толькі ў проекце, гучную і троху прэтэнзійную назву „Наша перамога".

Калі Зелянюк, развітаўшыся з мужчынамі, узяўся ўжо быў за клямку свае форткі, нехта нязграбна і рвучка скубануў яго за палу. Ён інстынктыўна адшаснуўся ў бок і напружыўся, гатовы даць адпор невядомаму напасьніку, аж на вялікае сваё дзіва, замест сабакі ці яшчэ якой зьвярыны, убачыў каля сябе размятлашаную ў цемры фігуру чалавека. Чалавек стаяў, прыпёршыся да варот, цяжка варушыўся і мармытаў сабе нешта пад нос. Яго грамозднае мешкаватае тулава паказвала відочную тэндэнцыю асесьці на дол—ён быў бязьмеры п'яны.

— Хто тут?

Чалавек парыўчата таргануўся і на момант адлучыўся ад варот, але зараз-жа зноў узяў ранейшую паставу. Маляўнічым жэстам выставіў наперад руку і загаварыў інтымным шэптам:

— Таварыш...Я—п'яны... дадушы, п'яны...Я набраўся, як сьвіньня...

У голасе ў яко было поўна пакорнага трагізму і разам з тым задаваленьня. Ён нібы каяўся, што п'яны, і разам выхваляўся гэтым.

Зелянюк пазнаў Паўлюка Гвардыяна. Ён падышоў бліжэй да яго, спагадліва запытаў:

— Да хаты мусіць не патрапіце, дзядзька Паўлюк?

Той махнуў рукой з горкай безнадзейнасьцю:

Што мне хата? Таваршш...быр...быр...быр...

Ён сабраў усе сілы, каб змагчы наравістае слова, і раптам выгаварыў яго скоранька і выразна:

—...брыгадзір...

Тады сам зьдзівіўся сваёй удачы і паспрабаваў яшчэ раз сказаць, але нічога ня вышла. Зелянюк узяў яго пад пашку.

— Ну, пашлі, дзядзька Паўлюк. Я завяду вас да хаты. Ну-ну сьмялей...Вось так...вось так...

За крокаў дзесяць—пятнаццаць Паўлюк пайшоў больш-менш цьвёрда. Адылі раптам сунуўся, с нечаканай круткасьцю завярнуўся на месцы і стаў перад Зелянюком твар у твар.

— А я да цябе... да вас ішоў, таваршш...бр...я п'яны, але я сумленны чалавек...

Ён нахіліўся да Зелянюковага вуха, каб сказаць па сакрэту, і рыкнуў на ўсю вуліцу:

— Я ўсё скажу, таварыш...Мяне брат напаіў...родны брат... дабрадзей...с-сукін с-сын...

Роўнавага здрадзіла старому, і ён важка ўткнуўся тварам у Зелянюкова плячо. Зелянюк мякка, але рашуча ўзяў яго аберуч і надаў ягонаму тулаву належны кірунак.

Рушылі далей. Паўлюк жыў у канцы Сівалапаў, і дарога нібы троху ацьверазіла яго. Ён колькі раз памкнуўся быў вызваліцца ад староньняе апекі і пайсьці самастойна, але ня меў удачы. Тады, пакорна здаўшыся на волю Зелянюка, ён дробна сьмяяўся дурнаватым сьмяшком і мармытаў:

— Бач ты...хе-хе!..усё роўна, як п'яны...як п'яны, хе-хе-хе... Сам туды, а ногі сюды...сам сюды, а ногі туды...

Хата Паўлюкова была завалена з сярэдзіны сакрэтным завалам: гэтую прамудрасьць стары мусіў зрабіць, як прапіў быў неяк няўмысьля свой апошні замок. І хоць добра ведаў ён, што нідзе ў сьвеце ня знойдзецца чалавека, які-б пагаліўся на ягонае дабро, але ўсё роўна трымаў сакрэт свайго завалу ў строгай таямніцы. Нават цяпер—на што ўжо быў няпрытомны— а ня здрадзіў сябе. Падышоўшы да дзьвярэй, ён з хвіліну стаяў перад імі, нешта сам сабе сьціху мармочучы, а тады абярнуўся і бесцарамонна адпіхнуў Зелянюка ў бок.

Прабачайце...таварыш...замок з сакрэтам...Раз-два (гэтыя „раз-два" прайшлі ў яго ў доўгай маруднай шарпаніне недзе за вушаком)...раз-два...раз-два...і—гатова!

З пышнай ўрачыстасьцю ён расчыніў напята дзьверы і сам адкінуўся ў бок, саступаючы дарогу Зелянюку.

— Калі ласка! Паж-жаласта!..

Зелянюк стрымліваючы сьмех, сігануў у чорную дзірку дзьвярэй. На яго патхнула волкім кісьлявым пахам бруднага жытльля, і ён зразумеў, што сянец у Паўлюка няма, а дзьверы знадворку вядуць адразу ў жылую хату.

Стары зачыніў дзьверы і шамацеў недзе ў цемры, мабыць, шукаючы сярнічак. Зелянюк дастаў свае і запаліў. Цьмяны дрыготны агонь асьвятліў досыць раскошную хату—амаль пустую і страшэнна брудную. Чамусьці з асаблівай рэзкасьцю ўелася ў вочы страшная закарэлая шмотка ня стале і гнілы сноп саломы ў качарэжніку, пастаўлены туды няма ведама з якім прызначэньнем. Шмотка была, здаецца, адзіным прадстаўніком у гэтай хаце тканых вырабаў—хата ўрачыста блішчэла старою зашмальцаванаю гольлю.

Паўлюк нёс аднекуль з запечча маленькую ўбогую газовачку. Зелянюк хацеў быў узяць яе, каб запаліць, але стары таемна паківаў на яго пальцам.

— Я сам...Я яе ведаю ўжо навылет...Яна ў мяне кап...карп...

Ён безнадзейна заблытаўся ў слове, скрывіўся з патугі і нездаволеньня, адылі знайшоў выйсьце ў больш прасьцейшым:

— Дрэнь...Паршывая дрэнь...

І, поркаючыся над газоўкаю, ён ня спускаў з твару горкае міны, поўнае пагарды да „паршывае дрэні“.

Зелянюк сеў пры стале на калодку і ўзіраўся у старога. Яму ўспомніўся бачаны калісь у малыя гады малюнак страшнога чараўніка, які нешта рабіў, схіліўшыся над дзіво́сным начыньнем. Паўлюк быў падобны да таго чараўніка. Мігатлівы няслухмяны бляск газоўкі вырываў з цемры твар яго грубымі кавалкамі, якія ўяўленьне складала ў пачварнае нялюдзкае абліччa. Рэдкая нібы павыдзіраная барада, скрозь якую сьвяцілася друзлая карабатая скура, надавала твару злы д‘ябалскі выраз. І да гэтага— крукаватыя дрыжачыя рукі з набраклымі неўвароткімі пальцамі, панура скурчаная постаць, абвешаная жудаснымі лахманамі, што канчаткова страцілі свой першапачатковы выгляд.

Нарэшце газоўка сяк-так загарэлася, і стары скрывіўся ў здаволенай усьмешцы.

— Я яе знаю...Мы ўжо з ёй век зьвекавалі...хе-хе...Яна ў мяне кап...карп...

Зноў не сказалася слова, але цяпер стары бязуважна махнуў на яго рукой—ліха яго бяры!

Ён сеў на лаўку і млява пахіліў галаву. Зелянюку здалося, што ён хоча драмаць, і ён устаў ужо быў, каб ісьці, але Паўлюк раптам усхапіўся і затрымаў яго.

— Чакай...чакай...Ты ў мяне ў гасьцях, таварыш...быр...быр... Але частаваць няма чым...прабачай...Сядайце, паж-жаласта...

І сам сеў на месца, зноў пахіліў галаву. Потым загаварыў ціха і сьцеражліва, нібы адкрываў якую таямніцу.

— Я—п‘яны...Я ўчора піў і сягоньня піў...і заўтра...Брат паіў... Разумееш...свой брат...Цімахвей Міронавіч...А я—Павал Міронавіч...Паўлюк...п‘яніца...Я табе ўсё скажу. Чакай сядзі тут...

Ён нахіліўся да Зелянюка і зашаптаў:

— А чаму ён поіць мяне, га? Ня ведаеш?... А я ведаю...

І стары хітра падміргнуў Зелянюку.

— Ён разумненькі, ого!..Ён хоча, каб я рабіў, як яму трэба. Каб я слухаў усё ды яму пераказваў. Я—бедняк...разумееш? Мне ўсюды хады адкрыты...Я, калі хочаш, і на ячэйку пайду... і ў комуністы запішуся...Што, ня возьмеце? Га? Ня возьмеце?

Зелянюк супакоіў яго, і ён раптам упаў у сэнтымэнтальную ласку.

— Ты добры хлопец...дадушы, добры...Я шаную... люблю цябе... А ён ня любіць, баіцца...ха-ха... Сьвіньня ён, хоць і брат...Чуеш ты, таварыш... Ён-жа мяне са сьвету зьвёў, ён мяне загубіў... дадушы загубіў...Ты думаеш, гэта я так заўсёды? Думаеш, я ня быў гаспадаром?..Чакай, чакай...я пакажу табе зараз...

Важка баўтнуўшыся тулавам, ён рушыўся з лаўкі і патупаў па хаце. З нечаканым спрытам узьлез на печ і пачаў поркацца там. Зелянюк зірнуў сьледам за ім, і вока яго прыемна адпачыла ад нуднае хатняе пустаты: на печы было поўна ўсякага гаспадарчага гломазду. Там былі і ўбогія выстанкі калішняй адзежы,

павышчарблены гліняны посуд, і нейкая дзежачка, і нават худы рабраваты дзяркач. Відаць, там была ўласна Паўлюкова кватэра, а пустая хата служыла ёй толькі прыдзьвер'ем.

Паўлюк дастаў з печы нешта завінутае ў рудую шмотачку і, паднёсшы да стала, стаў асьцярожна раскручваць.

— Во што... Зірнеце, таварыш... га?...

Гэта была фотографія дзяўчынкі гадоў у пятнаццаць, апранутай у гімназыйную уніформу. Тлустыя плямы, якімі пакрыта была картка, надавалі бязьмежна пакрыўджаны выгляд мініятурнаму жаласна-наіўнаму, як у птушаняці, тварыку.

Стары шаптаў набожна і ціха, як пры нябожчыку:

— Дачка... Родная дачка.. У гімназыі вучыў... у пятай клясе... Такая была... такая..

Зелянюк чакаў, што ён заплача, і гэтыя раптоўныя сьлёзы былі яму зразумелыя. Але дужа дзіўна, не пазвычайнаму плакаў гэты стары. Ён не хаваў твару, не закрываўся рукамі, а толькі адхінуў у бок галаву, каб не запляміць сьлязьмі фотографіі, і зьлёгку нахіліўся—пэўна, каб латвей было сьлёзам сьцякаць па карабатым твары. І яны цяклі спорна, дружна, весела, даганяючы адна адну, абмінаючы, то хаваючыся ў глыбокіх разлогах зморшчак, то зноў выбягаючы на грубыя, хваравіта-набраклыя ўзгоркі. А ў гэты час стары Паўлюк пацешна чмыхаў сваім вялізным бульбаватым носам, і ў гэтым чмыханьні ня было ніякага падабенства плачу—больш падобна было да стрыманага нэрвовага сьмеху.

Адплакаўшыся, стары стаў амаль што цьвярозы. Ён спакойна закруціў у шмотку няшчасную фотографію, паклаў яе пры сабе на стол, сеў і стаў тлумачыць зусім складна, разважна:

— Памерла дачка. Даўно ўжо памерла. З гэтага і пайшло ўсё. Яна доўга хварэла, усё лячылі, думалі—палепшае. Многа грошай трэба было, а іх ня надта й было. У яго браў, у брата. А ён даваў—чаму не! Ён-жа дабрадзей такі. І распісачкі браў... Ну, а потым—стоп! Падрахаваліся... Ну, і вышла, што я ўвесь чыста ў яго руках...Хату, дзякуй яму, пакінуў. Во гэту самую... А больш нічога...усё забраў...Ня судзіліся мы—так, па-добраму, як браты...

— А дачцэ не далі рады?

Зелянюк зрабіў гэта запытаньне проста так, дзеля размовы, але старога яно чамусьці ўзяло за жывое. Ён сударгава схапіў Зелянюка за рукаў і, жаласна зазіраючы яму ў вочы, загаварыў з старым, ужо абыклым яму болем:

— Вылечылі-б... дадушы, вылечылі-б.. Не хапіла... Яшчэ каб якіх з паўсотні! Харчы трэба было добрыя даць. Ад харчоў, казалі, усё будзе...

— А ён больш ня даў?

Стары горка засьмяяўся.

— Ха-ха...Ня было больш рахубы даваць...Даваў, пакуль было пад што... Дабрадзей!..

У старых асьлізлых вачох у яго з-пад алкогольнага туману, з-пад старэчае бязуважнасьці бліснуў нарэшце востры агеғ ıык нянавісьці і дзівосным чынам зрабіў яго больш падобным да чалавека. Разам з нянавісьцю адрадзіўся і бледы цень чалавечага гонару, калупнуў старое нутро джгалам прыкрых згрызот.

— Прапашчы я чалавек, таварыш... Гарэлка губіць мяне... Як старая памёрла, дык я зачаў...Утрымкі ня маю...І да яго хаджу... зьдзекі цярплю. Ці-ж ён, думаеце, мяне як чалавека прымае? Як сабаку якому кіне костку дый патурыць вон... А яшчэ прымушае хадзіць усюды, выслухваць, што дзе пра яго гавораць, што дзе ладзяць супроць яго. Значыцца, нібы як за шпіёна ў яго служу...ха-ха...

Зелянюк халаднавата ўсьміхнуўся.

— Нашто ты гаворыш мне гэта, дзядзька Паўлюк?

Стары замятушыўся.

— Вось аб гэта-ж... Наўмысьля кажу... Даўно ўжо хацеў сказаць... Ня пускайце мяне нікуды, ганіце мяне, як сабаку... Усёроўна—прапашчы я чалавек...Свайму найгоршаму злосьніку падслужваюсь... Паганствам займаюся...Дык вось...ганіце мяне, як паршывага сабаку... ганіце адусюль...

Зелянюк устаў, ладзячыся ісьці. Падышоў да Паўлюка, паклаў яму руку на плячо.

— Во што, дзядзька Пайлюк. Ніхто цябе ніадкуль ня гнаў і гнаць ня будзе. Тое, што ты там пераказваеш каму, нас ані не абыходзіць. Мы, дзядзька, не хаваемся, робім усё наадкрыта. Наша справа не патрабуе ніякіх сакрэтаў, бо яна агульная, усіхная, яе робіць уся грамада. Разумееш? Ну, а што да цябе... Можа яшчэ паспрабуем як узяцца за справу, га? Можа яшчэ і ня ўсё прапала? У колгас-жа пойдзеш да нас? Ці мо яшчэ будзеш каля брата круціцца? Га? Дзядзька Паўлюк...

Паўлюк засьмяяўся сіпучым здушаным сьмехам. Яго сьлізкія вочы паплылі хісткім агнём ліслівай давольнасьці. Ён раптам схапіў Зелянюкову руку і гучна, мокра яе пацалаваў.

Зелянюк пасьпешна пайшоў з хаты, заціскаючы ў сабе мімавольнае пачуцьцё агіды.

З Галілеева „цыркулярная“ бяздымная печка цеперся ўжо стаіць занядбаная, кінутая сваім гаспадаром у самы рашучы момант, калі ўжо во-во гатова было канчаткова разьвязацца няпэўнае пытаньне яе жыцьця ці сьмерці. Галілею ня тое ў галаве. У Галілея пільнейшыя і важнейшыя клопаты: ён да гэтага часу яшчэ ніяк ня можа дайсьці глыбокага карэннага сэнсу падзей, што разьвінаюцца вакол яго з бурнай няўхільнай напорнасьцю.

Якая гэта ідзе рэволюцыя? Супроць каго яна йдзе? Хто мусіць быць яе ворагам і хто прыяцелем?

Дзіўны чалавек гэты Галілей! Яму мала таго, што чуе ён дзень у дзень на розных сходах ды мітынгах, яму мала таго, што

бачыць ён сам на свае ўласныя вочы ў Сіўцы—ён шукае яшчэ нечага агульнага і глыбокага, адзінага ў сваёй першаістотнай глыбіні. Ад людзей ён чакае не тлумачэньняў, ня інструкцый, не ўгавораў—ён хоча пачуць нейкае мудронае, менавіта мудронае, усеабдымнае слова, якое-б яснай маланкай асвяціла яму затуманены кругавід. А гэтага мудронага слова, як на тое ліха, ніхто яму ня хоча ці ня ўмее сказаць. І мардуецца стары ў нязбыўных турботах, блудзіць па глухім гушчары сумненьняў, калоціцца ад ліхога трывожнага страху.

Газэт і кніжок Галілей ня чытае. Кніжкі ён паважае толькі тэхнічныя, а ад усяго іншага друкаванага ўнікае з дзівочнаю палахлівасьцю: баіцца, каб не атлуміцца. Адылі паспрабаваў чытаць газэтку, дык уражаньне асталося такое, нібы ўхапіў за сярэдзіну, а да пачатку, як ні біўся, не патрапіў дапасьці. Тады кінуў. Пачаў завіхацца каля людзей, браў іх хітрыкамі, тонкай дыплёматыяй, вышукваў, вынюхваў, што хорт, і не знаходзіў таго, чаго шукаў.

І вось нарэшце адважыўся Галілей на апошнюю канчатковую акцыю: рашыў пайсьці напрасьцень, стаць адкрыта—твар у твар—перад людзьмі і вымагаць ад іх патрэбнага яму мудронага слова. Абмеркаваўшы дакладны плян і набраўшыся духу, рушыў стары мудрагель у цудоўную сваю экспэдыцыю!

Першы па чарзе быў слаўны кіраўнік драмгуртка і мястэчковы філёзоф-аптэкар Плакс.

Галілей уступіў у аптэку э рашуча-дзелавым заклапочаным выглядам, які нават зьдзівіў аптэкара.

Прывітаўся ён, праўда, як зазвычай, з адменнаю далікатнасьцю і назваў свайго прыяцеля „доктарам“, што заўсёды ўзьнімала ў аптэкаравым сэрцы мілоснае задавальненьне. Але, прывітаўшыся, ня стаў, як звычайна, разглядаць з набожнай павагаю таемна-бліскучыя шэрагі аптэчных прыладаў, не зрабіў ніводнага прасякнутага нясьмелай цікавасьцю запытаньня, а стаў ля парога і з відочнай нецярплівасьцю чакаў, пакуль выйдуць усе наведавальнікі.

Нешта дзядзька Галілей дужа сярдзіты сягоньня? Ці не зрабіў дзядзька Галілей якога новага вынаходзтва?

Галілей прыцюпаў да Плаксавае катэдры і схапіў з яе каранд аш.

— Вось карандаш? Ага... Карандаш?

— Бязумоўна, карандаш.

— Ты ведаеш, што гэта карандаш?

— Чаму-б я меў гэтага ня ведаць?

— І ты спакойны?

— Няма ніякай прычыны турбавацца...

— Ага... А вось каб ты бачыў і ня ведаў, што гэта... Га? Ці быў-бы спакойны тады?...

Аптэкар дамысна засьмяяўся.

— Хе-хе... Я разумею, Галілей, аб чым справа. У цябе ў нутры загарэліся творчыя шуканьні. Ты нешта бачыш і не разумееш, і таму ты неспакойны... Пакладзі карандаш, і мы зараз з табой памяркуем... Тэма?

Галілей троху спалохаўся.

— Ага... Што гэта, доктар, тэма?

— Гэта значыць— аб чым мы маем з табой гаманіць. Што цябе непакоіць?

Галілей сабраў ўсе свае сілы і адпаліў:

— Ня ведаю зусім, што цяпер дзеецца...

— Дзе?

— Усюды, доктар... ага ўсюды... Чаго яны, людзі, замятусіліся? Куды яны пнуцца?

Аптэкар Плакс няўцямна паварушыў правым плячом.

— Кажуць, што ў соцыялізм. Але дзе ён, той соцыялізм, я ня ведаю, Галілей. Гэта—не карандаш...

Галілей у раптоўнай злараднасьці затрос барадзёнкай.

— Ага, ня ведаеш? Ня ведаеш, доктар?... І я ня ведаю... нічога ня ведаю...

Плакс зразумеў, што троху схібіў, і, каб замацаваць свой аўторытэт, пусьціўся ў крайнюю філёзофію.

— Чуеш, Галілей... Вазьмі камок зямлі і шыбні яго куды хочаш. І вось ён ляціць... І што ты думаеш, на ім, гэтым камку, ня будзе жывога жыцьця? Ты думаеш, ня поўна там будзе ўсякага паскуднага стварэньня? А можа так і чалавек... Га, Галілей? Ляціць камок, пакуль ня бразьнецца аб нейкі дол, а людзі на ім капаюцца і думаюць, што гэта яны на сур'ёз... ха-ха...

Адылі на Галілея Плаксава філёзофія не зрабіла належнага ўражаньня: яна яму не ўпадабалася. Ён нахмурыўся і сказаў з сярдзітым дакорам:

— Ня любіш ты, доктар, людзей, калі так гаворыш. Людзі ўсё робяць насур'ёз. І зямля—не камок... ага... не камок...

Тады ўжо Плакс ня ведаў што і казаць яшчэ гэтаму нараві́стаму шукальніку. Паміж старых прыяцеляў павеяў нядобры халадок. Але Плакс быў пагадлівы чалавек, і праз нейкае глупства сварыцца з Галілеем ён не хацеў. Таму, скупіўшы ўсю сваю волю і ўвагу, ён паспрабаваў сур'ёзна ўзяцца за Галілеевы сумненьні, каб паказаць такім чынам сваю павагу да іх.

— Мне здаецца, Галілей, што ўсё яно робіцца стыхійна. А ўсё, што людзі робяць стыхійна, заўсёды на добрае пойдзе, бо гэта не яны робяць, а робіць прырода (гэтае слова ён сказаў з вялікай літары). Многа чаго яшчэ будзе разбурана, пакрышана, зьнішчана, але гэта будзе добра, бо гэта трэба. Перш чым сеяць, трэба падрыхтаваць глебу, трэба павыкарчоўваць старое карэньне...

Галілей ужо слухаў з напружанай увагай. Ён чуў у Плаксавых словах павеў нейкае далёкае праўды, і прагавіта лавіў яго. Але гэтая цьмяная праўда не магла задаволіць ягонае глыбока-практычнае істоты, і ён астаўся ў сумным расчараваньні. Падтакнуўшы

дзеля прылікі разоў колькі аптэкару Плаксу, ён пасьпешна з ім разьвітаўся і выбег з аптэкі, апанаваны яшчэ вастрэйшым, чым раней, непакоем.

Цяпер пацюпаў стары мудрагель у сеьскі савет—ці ня ўдасца зачарэпнусць чаго з мясцовае афіцыйнае крыніцы. У сельсавеце было пуста—сядзеў пры сваім стале адзін сакратар Цівунчык—маленькі дзядок, чалавек выразна пісьменнага выгляду, шашачны чампіён Сіўца і ваколіц. Галілей падышоў паціху да стала і стаў чакаць, пакуль Цівунчык скончыць сваю пісаніну. Дзядок вытрымаў належную паузу, потым адклаў пяро, прыгнуў галаву, каб лаўчэй было зірнуць паверх старых, на нітачцы, акуляраў і дабрадушна запытаў:

— Пагуляць, дзядзька Ахрэм, ці маеце справу?

Галілей старанна адкашляўся.

— Кхе... кхе... Цікаўлюся вось на старасьці... Хацеў даведацца, што гэта ў нас цяпер робіцца ўсюды? Ага... які ў ім самы сэнс, у гэтым ува ўсім?...

Дзядок перш зьдзіўлена вылупіў вочы, потым хацеў усьміхнуцца, але абдумаўся, і, замест гэтага, напусьціў на сябе дзелавы выгляд.

— Пра гэта трэба запытаць старшыню...

І рашуча ўзяўся зноў за пісаніну.

Галілей астаўся чакаць старшыню. Моўчкі стаяў і глядзеў, як з прыстаркаватай зухаватасьцю бегае па паперы Цівунчыкава пяро. Па колькіх хвілінах Цівунчык, узварушаны сьціплай цярплівасьцю Галілея, рашыў завесьці з ім гутарку і, сумніўна паківаўшы галавой, працягнуў:

— Мудроныя гэта штукі, дзядзька Ахрэм. Здаецца, паглядзеўшы, што там дужа такога ёсьць, тым часам—ого!

Галілей далікатна пацьвердзіў:

— Так-так..

Хоць і ня ведаў добра, якія „штукі“ мае на ўвазе стары сакратар. А Цівунчыку відаць пайшло на гумор—ён вальготна адкінуўся на сьпінку крэсла і бяз відочнай прычыны, але жвава, апэтытна засьмяяўся. Потым хітра прыжмурыўся, паманіў пальцам да сябе Галілея і паказаў яму лічыльнік.

— Умееце лічыць на іх, га?

Галілей з далікатнасьці сказаў, што ня ўмее.

— Ну, усё роўна. Вось... Як на вашу думку, колькі трэба часу, каб палічыць па адным усю суму, якая месьціцца на гэтых лічыльніках... га?

Галілей адказаў з робленай павагаю:

— Можа і з месяц будзеш лічыць... ага... Пэўна, што ня менш як месяц...

Дзядок расьцьвіў трыумфальнаю ўсьмешкай.

— Сорак лет.

Галілею гэта ўпадабалася. Нельга сказаць, каб ён сур'ёзна даў веры Цівунчыку, але самая думка аб магчымасьці такой

бязьмежна-доўгай маруднай і дзіка-бясплоднай работы зацікавіла яго. Ён узяў лічыльнікі і зачаў перакладаць па аднэй костцы на крайнім раду, нібы браўся праверыць гэтую цікавую практыку. Цівунчык уважна сачыў за ім, ня спускаючы з твару трыумфальна-здаволенае усьмешкі. На трэцім дзесятку шумна адчыніліся дзьверы, і ў сельсавет урынуўся Пацяроб.

Убачыўшы страшнога—даўгога і калматага старшыню сельсавету, Галілей падумаў быў аб тым, каб, пакуль ня позна, шмаргнуць за дзьверы, але яго выперадзіў Цівунчык, далажыўшы начальству пра сутнасьць справы.

— Вось пытаецца таварыш пра колектывізацыю... аб'ясьненьня, значыць, патрабуе...

Пацяроб сплюшчыў небараку Галілея напорыстым зьнішчальным поглядам.

— Аб'ясьненьняў патрабуе? Якія-ж табе, родненькі, аб'ясьненьні трэба? Ты што, ня згодзен з чым-небудзь, га?

Галілей закруціўся, як ашпараны. Адылі натужыўся ўвесь, натапырыўся і раптам крыкнуў з адчайнай сьмеласьцю, якая напалохала яго самога:

— Згодзен з усім. з усім чыста. Але ты мне растлумач па сэнсу... ага... па сэнсу!..

Пацяроб вылупіў вочы і зьнізіў тон.

— Што-ж табе, любачка, растлумачыць? Ты-ж кажы ясна, а ня то што...

Галілей ўжо дробненька тупаў у сваім звычайным палахліва-непакойным расьцярушэньні.

— Кхе-кхе... Таварыш старшыня... Цікаўлюся я... каб уцяміць усё гэта, значыцца... ага... што вось у жыцьцё цяпер праводзіцца .. у нас, і ўсюды... ага... усюды...

Пацяроб узяў важны аўторытэтны тон:

— Што праводзіцца, пытаеш? Праводзіцца колектывізацыя сельскае гаспадаркі і ліквідацыя кулацтва, як клясы. Разумееш?

Галілей у пасьпешнай гатоўнасьці заківаў галавой.

— Ага... разумею, таварыш старшыня... разумею...

— А можа не разумееш, га?

Спалоханы грознымі інтонацыямі, якія раптам зьявіліся ў старшынёвым голасе, Галілей падаўся пад дзьверы, але Пацяроб суняў яго вялічным рухам рукі.

— Чакай. А ці разумееш ты, мой даражэнькі, хто гэта ўсё праводзіць? Гэта праводзіць партыя і савецкая ўлада. Улада... разумееш? А хто ідзе насупроць—супроць каго ён ідзе, га? Супроць каго ён ідзе, мой даражэнькі?

Вытрымаўшы жудасную паузу, старшыня сельсавету агаласіў:

— Ён ідзе супроць савецкае ўлады, ён—клясавы вораг... праўда, Цівунчык?

Дзядок, не адрываючыся ад пісаніны, пацьвярджальна кіўнуў галавой. Галілей быў ужо за дзьвярыма. Няўдача ў сельсавеце

троху здэтанавала яго, але ні на каліва ня зьбіла ў ім ахвоты да далейшага працягу экспэдыцыі. Наступны на чарадзе быў брыгадзір Зелянюк. Галілей, ня доўга думаўшы, патрусіў у Сівалапы. Але, дабегшы да дома Цімахвея Міронавіча Гвардыяна, ён раптам абдумаўся і, сьцеражліва азірнуўшыся на бакі, цмыгнуў у Гвардыянаву фортку,

Цімахвей Міронавіч стаяў на двары і напышаным камандзірскім тонам аддаваў нейкі загад парабку Панасу. Убачыўшы Галілея , ён ня спыніў свае мовы, а з станавітай спакойнасьцю давёў яе да канца і толькі тады ўжо ветла кіўнуў Галілею.

— Дзень добры, Ахрэм Данілавіч! Ці ня воўк здох за гарой, што няўмысьля, будучы, да мяне залучылі? Заходзьце-ж у хату, прашу адалжэньня...

Галілей троху сумеўся: непарушная Гвардыянава ўпэўненасьць унесла яшчэ большую блытаніну ў нястройную сыстэму ягоных меркаваньняў. Ён чакаў сустрэць Гвардыяна троху ў інакшым настроі. Няўжо так спрытна прыкідваецца?

У сенцах натрапілі на невялічкую молепадобную жанчыну, і Цімахвей Міронавіч тым-жа камандзірскім тонам загадаў ёй:

— Матрёна! Нам з Ахрэмам Данілавічам самаварчык настаў: трэба, будучы, троху пагрэцца з марозу.

Ад слова „самаварчык“ Галілею зрабілася моташна—і ён пасьпешна, спуджана стаў адмаўляцца.

— Я не... Я чаю ня п'ю... Я на хвіліначку забег... ага... я зараз пайду,..

У Гвардыяна ў хаце ўсё было ў ранейшым парадку, ўсё стаяла на сваім, задаўна зазвычаеным месцы, усё паказвала на спакойную, зроўнаважаную праз доўгія гады сытую гаспадарлівасьць. Гэта канцом ашаламіла Галілея, і ён нават ня ўчыніў свае заўсядашняе дзівачнае дэмонстрацыі—не пабег адразу на покут, а астаўся стаяць у парозе.

— Сядайце, Ахрэм Данілавіч!

— Дзякую. Цімахвей Міронавіч...

Так і ня сеў, хоць як упрашаў яго Гвардыян. Памуліўся. патупаў на месцы, шукаючы на Гвардыяна якога хітрага спосабу, нарэшце запытаў:

— Ці няма ў вас газэткі, Цімахвей Міронавіч? Каб так пачытаць. Цікава пішуць цяпер...

Гвардыян настаражыўся, але адказаў усё-ткі з добра вытрыманаю бязуважнасьцю:

— Не, газэткі няма. Той месяц выпісваў, а на гэты неяк ня ўправіўся. А што там, будучы, пішуць такога цікавага?

— Ды ўсё пра кулакоў. Кажуць, што загад такі вышаў, каб усіх раскулачваць... ага ўсіх да аднаго.

І адпаліўшы сваё бесцырамоннае выдумства, Галілей чутка напяў вуха, чакаючы першага Гвардыянавага слова, а сам тым часам нібыта з глыбокай увагай разглядаў нешта ў качарэжніку.

Гвардыян раптам змоўк—не чакаў, мусіць, такога крутога ходу, і гэтае кароткае маўчаньне выдала яго Галілею: стары хітрун трыумфаваў у душы—ён адным вокам ужо бачыў Гвардыянаву слабасьць, якую той хаваў дасюль з адменным спрытам. Але Цімахвей Міроначіч ураз авалодаў сабой і разважаў ужо з ранейшай спакойнасьцю:

— Та-ак... раскулачваць... А што-ж яны, будучы, у каторага возьмуць? Думаюць, даўнейшых памешчыкаў маюць, га? Што яны возьмуць?

— Знойдзецца.

— Можа ў каго і знойдзецца... Ну, а скажам, вось хоць-бы сабе й мяне, будучы, узяць. То-ж у кулакі пішуць. Што ў мяне ёсьць супроць таго самага серадняка? Каня маю аднаго—праўда, што добрага, няма чаго богу грашыць...

— Жарабка...

І Галілей, няўзнак уставіўшы гэтае слова, кінуў на Гвардыяна пільны цікуючы погляд. Той адвярнуў у бок адзеравянелы раптам у тупой абыякасьці твар і загаварыў з падазронай пасьпешнасьцю, як завучанае:

— Калі тое было? Дзе твой жарабок? Яго даўно ўжо і званьня няма... Навошта я буду трымаць яго? Я і з адным канём будучы упраўлюся на сваёй гаспадарцы...

Галілей як не падскочыў з радасьці. Гвардыяна ён канчаткова ўжо меў у руках—уся знадворная яго амбіцыя разьляцелася ўдрузг. Няма жарабка—значыць прадаў. Прадае, хітрунец, размантачвае, пакуль ня позна. Дрыжыць, уецца, як пераціснуты гад. А з выгляду яшчэ харабруе!...

Галілей адчуваў ужо поўную перавагу над Гвардыянам. Настрой яго цалком зьмяніўся, і, не чакаючы запрашэньня, ён сьмела ператрусіўся цераз хату і сеў у пышнае крэсла на покуце.

— Кхе-кхе... А ў колгас кулакоў ня прымаюць... ага... і высяляюць каторых злосьнейшых каб значыцца не заміналі. Як вы ўважаеце, Цімахвей Міронавіч?

Цімахвей Міронавіч відочна траціў спакой. Ён напружваў усе свае сілы, каб трымаць на твары сваю тупую адзервянеласьць. Плоскія алавяныя вочы яго пачыналі трывожна шныпарыць па бакох, нібы шукаючы нейкае апоры.

Галілей наступаў.

— А ў нас Цімахвей Міронавіч, мусіць, ня будзе колгасу? Ага... Навошта ён нам? Што?

Адылі тут Гвардыян акрыяў. Надаўшы свайму пэргамінаваму твару адумысловы, відаць, загадзя нарыхтаваны на падобны выпадак выраз пакорнае добрамыснасьці, ён зважна растлумачыў:

— Колектывізацыю вядзе савецкая ўлада, супроць яе няможнаісьці. Хто супроць колгасу—той вораг савецкае ўлады...

Галілей успомніў Пяцяроба і ціхенька засьмяяўся: добрага знайшоў сабе суровы старшыня аднадумца! А Гвардыян паду-

маў, што Галілей сьмяецца з ягонае надмернае прыхільнасьці да савецкае ўлады, і троху нэрвова дадаў:

— Як загадае ўлада пайсьці ў колгас, дык і пойдуць усе. Каму гэта, будучы, захочацца перціся на ражон!

Ага! Вось яно якое тут аднадумства!

— А як не загадае? Га, Цімахвей Міронавіч? Як тады?

Гвардыян нехаця буркнуў:

— Як хто захоча... Вольнаму воля...

— А шалёнаму поле?..

І Галілей закхекаў у задушшы дзіўнага недарэчнага сьмеху. І, ня кідаючы сьмяяцца, схапіўся з крэсла, пасьпешна пабег да дзьвярэй.

Цімахвей Міронавіч Гвардыян, скрывіўшы твар у пачварную, шырока расьцягнутую, жабіную грымасу, праводзіў яго калючым ненавісным поглядам.

Галілей, вясёлы, зухаваты, дробна трусіўся ў Сівалапы.

У брыгадзіра Зелянюка ён засьпеў цэлую грамаду комсамольцаў. Яго сустрэлі з шумнай бязладнай прыветнасьцю.

— А, Галілей! Вялікі вынаходца зямлі савецкае! Ганаровы колгасьнік! Патомсьцьвены комсамолец! Просім да нас, у нашу компанію!..

Галілей строга зірнуў на іх і, абабраўшы сабе ў куточку зацішнае месца, зацяўся ў глухім суровым маўчаньні. Комсамольцы далі яму спакой і заняліся сваімі справамі. У іх мова ішла пра сівалапаўскі колгас, думка аб якім, зарадзіўшыся ўчора ўвечары ў хаце былога партызана і чырвонагвардзейца Якуба Лакоты, сёньня ўжо буяла пышнаю руньню, захапляючы ўсё большыя ды большыя колы сівалапаўскае грамадзкасьці. З напорнай юнацкай парыўчатасьцю хлопцы перасігнулі ўжо цераз парог першапачатковых організацыйных захадаў і лёталі быстрымі думкамі ў ружовых, але туманных яшчэ пэрспэктывах будучага росквіту. Яны ўжо мелі добра наладжаную гаспадарку, узьнятую на нябачаную вышыню дасягненьнямі агрономічнай навукі, спрэс абагуленая жывёла стаяла ўжо ў іх у новых, крэпкіх, як звон, стадолах, у спэцыяльна пабудаваным гаражы блішчэлі няўкорнай чысьцінёй і спраўнасьцю сельскагаспадарчыя машыны. А з паўвярсты ад Сівалапаў, на прыгожым вясёлым узгорку, над саменькай рэчкай Сіўцом, яны будавалі ўжо трох, а можа нават і чатырохпавярховы дом пад агульнае памяшканьне для колгасьнікаў...

... Дзе ты калі затрымаеш імклівую маладосьць у вузкім, сурова абмежаваным і часам нудна-шэрым коле надзеннае неабходнасьці! Вырвецца ўсё-роўна і паляціць на лёгкіх, хоць і няпэўных яшчэ крыльлях-лятунках, каб адразу спопрыску ўрынуцца ў самую яснату шчаснае будучыні!..

Галілей слухаў-слухаў, ды неўзаметку і пацюпаў дробненькім трухам за маладымі імклівымі крыльлямі ды—дарма, што стары!—а троху-па троху і перагнаў іх, і набудаваў у сваім за-

цішным куточку такіх дзівосаў, што пэўна-б сам памёр ад зьдзіўленьня і страху, каб раптам убачыў гэта ў сапраўднасьці. І ўжо ня чуў нічога, ня бачыў навакол сябе, ужо ня было яго тут, непакойнага Галілея—блукаў недзе сярод дзівосных сваіх пабудоў.

Такі ўжо сьмешны характар у гэтага чалавека, зусім не стасоўны да старых яго год!

— Дзядзька Ахрэм! Што-ж вы не адказваеце нічога?

— Га? Што?.. Ага... разумею... разумею...

Хлопцы закаціліся дружным рогатам.

— Дзядзька Ахрэм! З Сіўца вы першы запішацеся ў наш колектыў. Будзеце ў нас ганаровым колгасьнікам. Добра?..

Галілей спалоханы ўскочыў з лаўкі.

— Я з таварышам пагаманю... ага... з таварышам Зелянюком... Трэба памеркаваць...

Ён ніяк ня мог прыдумаць, што-б яшчэ сказаць, як адчапіцца ад назольлівых хлопцаў. Але яны ўжо разыходзіліся. Па колькіх хвілінах яны асталіся сам-на-сам з Зелянюком. Зелянюк ласкава запытаў яго:

— Пагаманіць прышлі, дзядзька Ахрэм? Даўно ўжо чакаю вас... папраўдзе... Мне чамусіці скрозь здавалася, што вы як-небудзь залучыце да мяне.

Галілей прапусьціў гэтае шчырае і ў сутнасьці прыемнае для яго прызнаньне з халоднай бязуважнасьцю: ён ня любіў інтымнасьці, баяўся яе. І ён парупіўся адразу зьмяніць гаворку:

— Спрытна хлопцы гэта вымудраюць.. ага... пацешна... А яно можна было-б і зрабіць так... Многа чаго можна зрабіць, каб гэта ахвота была ўва ўсіх... ага... Чалавеку дружнасьці бракуе, во яно што...

Зелянюк ледзь прыметна ўсьміхнуўся.

— Дык яно-ж і будзе рабіцца, дзядзька Ахрэм! Цяпер такі асаблівы час, што самыя сур'ёзныя замеры здаюцца дзівоснымі вымудрамі, бо зусім не падобны яны да таго, што мы прызвычаіліся бачыць каля сябе. Мы ўсё гэта будзем рабіць і ўсё зробім. Пабачыце!

Галілей мыркнуў у нявыразным тоне:

— Кхе-кхе... Маладосьць!..

А Зелянюк з радасьцю ўхапіўся за гэтае слова.

— Так-так, дзядзька Ахрэм, маладосьць... Вы казалі, што чалавеку бракуе дружнасьці. Праўда, дзядзька Ахрэм, шчырая праўда... Дружнасьці нам часам бракуе. А яшчэ—маладосьці. Не ў гадах, а ў натуры, ў нутры... На тую справу, што мы робім, многа, дужа многа трэба гэтае маладосьці. Без яе-б мы і кроку ступіць не патрапілі...

Галілею здалося, што самы зручны момант цяпер пагаманіць пра тое, за чым ён прышоў сюды.

— А што гэта... я вось ня ўцямлю ніяк... што гэта вы робіце... ага нашто гэта ўсё... супроць каго вы ўсе ідзіцё, га?..

Зелянюк успомніў, як калісьці гэтак сама пытала яго Таццяна. „Там гаворуць адразу ўсім. а ты так скажы, каб ўсё мне аднэй“...

Ён задуменна ўсьміхнуўся. Галілей злавіў гэтую ўсьмешку і спалохана замітусіўся.

— Я гэта бачу ўсё... ага... Вось Гвардыян наш, Цімахвей міронавіч... Ён сам чуе ўжо... ага... ён баіцца, ого як баіцца... Я разумею... Дык ці па гэтым усё? Ці толькі супроць яго?.. Растлумачце мне, калі ласка, таварыш...

І Галілей пастараўся зрабіць на сваім сухенькім твары далікатную ўпросьлівую ўсьмешку.

Зелянюк з шчырай ахвотай узяўся тлумачыць яму сутнасьць вялікай перабудовы жыцьця, якая разгортвалася ў Савецкім саюзе. Ён стараўся гаварыць найпрасьцейшымі, найзразумельшымі словамі, і ў гэтым была яго памылка. Ён ня ведаў, што Галілей ня любіць простых слоў, што ён шукае менавіта слова мудронага, якое-б захапіла яго ня так яснасьцю свайго значэньня, як спрытнай тэхнічнай дасканаласьцю, штукарскай прыточанасьцю адумысловай формы да глыбокага зьместу.

Галілей, відочна, быў нездаволены. Што далей гаварыў Зелянюк, то ўсё больш і больш бязуважны рабіўся ягоны твар, і маленькія вострыя вочкі самапасам разьбягаліся на бакі, шукаючы для сябе якой-небудзь новай спажывы. І ня ўправіўся Зелянюк скончыць свае тлумачэньні, як стары, насьпех адвітаўшыся, выбягаў ужо з хаты, палахліва стуліўшы хударлявую постаць сваю, нібы баючыся, каб не спасьцігнула яго нахаду яшчэ якое тлумачальнае слова.

Зелянюк стаяў асалапелы і, старанна перабіраючы свае, сказаныя Галілею, словы, марна дашукваўся ў іх таго, што магло-б яго пакрыўдзіць. Раптам новая думка асьвятліла яго, і ён рынуўся ўсьлед за старым.

На вуліцы, у дымных хвалях першага змроку, з лёгкай рытмічнай аднамернасьцю віхалася худая Галілеева сьпіна, закрытая старэнькім дзіравенькім кажушком.

Зелянюк крыкнуў усьлед яму:

— Да Якуба схадзі! Схадзі да Якуба! Галілей! Схадзі да Лакоты!..

Худая сьпіна на момант нібы сунялася і зараз-жа паскакала далей, затуляючыся змрокам.

А да Якуба Галілей ўсё-ткі зайшоў. і гэта быў апошні пункт у яго дзівачнай экспэдыцыі. Там сядзеў ён да позьняга вечару і ішоў адтуль вясёлы, прасьветлены, з новым агеньком у маленькіх востранькіх вочках.

Выходзіць, што спуціла была старога Галілея адна памылка ў пляне яго меркаваньняў: ён усю ўвагу сваю скупіў быў на пытаньні:—супроць каго?—і занядбаў другое, ня менш, а можа і больш, важнае:—за што? І гэта перашкаджала яму дайсьці глыбокага карэннага сэнсу „новае“ рэволюцыі.

4 Вера падыходзіць да люстэрка і, гледзячыся ў яго, распускае валасы. Вусны яе ціха кратае ледзьве прыкметная ўсьмешка. У Веры Засуліч цудоўныя пышныя валасы цёмна-каштанавага колеру-Яна ніколі ня стрыгла іх і здаволена гэтым, бо ведае, што яны ў яе надзвычайна прыгожыя. Яна ведае таксама, што валасы падабаюцца Карызну—таму і распусьціла іх і з лёгкім прыемным хваляваньнем чакае яго моцнае сьмешнае ласкі.

У распушчаных валасох яна становіцца Карызну новая—меншая і ціпэйшая. Яму здаецца тады, што ён кахае яе не як жанчыну, а як дзіцё. Ён рад тады ўзяць на рукі яе і насіць, закалыхваць, як калісьці закалыхваў сваю малую дачку.

Вера тады зьвінаецца ў клубочак і сапраўды адчувае сябе дзіцянём, і абшчапляе рукамі Карызнаву шыю моцна і нязграбна, з дзяцінай непасрэднай пяшчотнасьцю.

Карызна сядае на ложак і пакідае яе ў сябе на каленах. Скрозь мяккую лісьцінку кофтачкі рука яго адчувае яе тонкую сьпіну з цёплым равочкам пасярэдзіне, і гэтая кволая дзяцінная сьпіна абуджае ў ім дзіўную-даўную нейкую, сваяцкую пяшчотнасьць. Ён ня можа даць веры, што калісьці, два гады таму, не кахаў яе і ня знаў—яна, здаецца, была з ім заўсёды. І разам з гэтым найглыбейшым адчуваньнем яе блізкасьці ў яго, як у старога падазроннага скнары, зьяўляецца ні на чым не ўзгрунтаваная апаска, што нехта можа ўкрасьці, адабраць гэты многацэнны скарб, што ён можа згубіць яго. Гэтая апаска спадарожыць кожнаму наймацнейшаму ўздыму яго пачуцьця—яна дзівіць яго і турбуе.

Ён адхінае ад сябе яе твар, каб латвей было глядзець у цёмнасінія бяздонныя вочы, і глядзіць у іх доўга, настойна, з балючай, незразумелай самому дапытлівасьцю. Ён ужо робіць гэта сёньня каторы раз і абуджае ў ёй непакойную цікавасьць.

— Чаго ты глядзіш так на мяне?

Ён нічога не адказвае, бо ня мае чаго адказаць, і, каб адцягнуць увагу, доўга па чарзе цалуе яе любыя вочы.

Сёньня ў ягоным жыцьці адбылася падзея, якая павінна ўсьцешыць іх абаіх, бо канчаткова разьвязвае іхныя адносіны, і—дзіўная—рэч—праз цэлы вечар ён ніяк не адважыцца ёй пра гэта сказаць: кожны раз сунімае яго мімавольная, амаль інстынктыўная сьцеражлівасьць.

Сёньня ад яго пайшла Марына Паўлаўна.

Гэта сталася для яго зусім нечакана, бо ніколі дасюль ня было ў іх аб гэтым гутаркі. Яна пайшла раптам, па кароткай размове, ціхая прастата якой моцна ўзварушыла Карызну, пакінула ў ім глыбокую ўдзячнасьць да гэтай жанчыны, з якой прашоў ён поплеч праз дзевятнаццаць год жыцьця.

Яна наўмысьля чакала, пакуль яму час будзе ісьці на лекцыі, каб як мага скараціць няпрыемную сцэну. Ужо як пачаў ён

зьбіраць свае прылады, яна падышла да яго і сказала звычайным спакойным тонам, старанна ўнікаючы, праўда, сустрэчы з ягоным поглядам.

— Дык я пайду, Сымон. Я ўжо дамовілася—буду пакуль што жыць у Тацяны, там хопіць месца. А далей будзе відаць.

Ён з прыкрасьцю адчуў, як у нутры ў яго ўсплывае брудная давольнасьць. Ён ледзьве стрымаў сябе ў руках, ледзьве прымусіў сябе ўзяць зьдзіўлены заклапочаны тон.

— Што ты, Марына? Што ты надумала?

Яна горка ўсьміхнулася, бо пачула фальш у яго ў голасе, і мякка растлумачыла:

— Я ня толькі для цябе гэта раблю, а і для сябе. Мне будзе лягчэй...

Яна ўпяршыню ад невядома якога часу зірнула проста яму у твар, і ў вачох у яе, асьветленых раптоўным ажыўленьнем, Карызна ўбачыў смутную і надзіва маладую сарамлівасьць. Яна ціха дадала:

— Мне-ж таксама, Сымон, трэба жыць... яшчэ...

Тады Карызну стала лёгка зусім і весела. Ён зрабіў некалькі дробных запытаньняў і, узяўшы портфэль, рушыў да дзьвярэй.

Марына Паўлаўна стаяла ў нерашучым чаканьні. Карызна падумаў, што яна хоча, каб ён разьвітаўся з ёй, і з усьмешкай крыкнуў ад парога:

— Мы-ж з табой яшчэ ўбачымся мабыць?

Але яна ўсё-такі затрымала яго.

— Сымон! Я хацела яшчэ сказаць табе...

Ёй, відаць, трудна было знайсьці адпаведны тон—яна баялася, каб не раззлаваць яго...

— Гэта ня мой клопат... я ведаю... Ты ня злуйся, Сымон... Я-ж бачу ўсё... я разумею... Нашто ты мучыш сябе? Ты скажы ўсё... каму трэба... Табе-ж нічога ня будзе, ты-ж не вінават...

Іншым разам гэтыя словы ўвялі-б Карызну ў шалёную злосьць, а цяпер яны глыбока ўзрушылі яго. Ён вярнуўся і, падышоўшы да жонкі, моцна пацiснуў яе руку.

— Добра, Марынка... Добра, што сказала... Усё будзе добра... ты ня турбуйся... Я ўжо зусім спакойны...

І яму захацелася раптам сказаць ёй што-небудзь блізкае, цёплае, ад сэрца.

— Мы-ж, Марына, ўсёраўно ня будзем чужыя, праўда? У нас-жа яшчэ астаецца дачка?

Марына Паўлаўна цьмяна пераказала:

— У нас астаецца дачка.

І на гэтым скончылася іхная апошняя перад разлукай размова. Вярнуўшыся з заняткаў, Карызна ўжо не засьпеў у сваёй кватэры Марыны Паўлаўны: яна пайшла, забраўшы з сабой толькі самыя неабходныя рэчы.

У кватэры хоць і ўсе, здаецца, было паранейшаму, аднак адчувалася раптоўная, рэзка падкрэсьленая пустата. На Карызну

гэтая пустата зрабіла была адразу добры ўплыў; яна ўзьняла ў ім бадзёрую лёгкасьць, якая за-звычай бывае па пераезьдзе на новае месца. З усім, што было дасюль—і з добрым, і з дрэнным—скончана, можна сьмела распачынаць новае жыцьцё, вольнае ад усіх дакучных форм і ўмоўнасьцяй, у якіх уціснута яно было дагэтуль.

З такім лёгкім настроем ішоў Карызна да Веры Засуліч, рады тым, што можа сказаць ёй прыемную навіну. Яму ўсё выдавалася простым, ясным—ён быў упэўнены, што гэты вечар дасьць ім поўнае, яшчэ дасюль незазнанае адчуваньне блізкасьці, не расшчэпленай ніякімі сумненьнямі, недагаворкамі, блізкасьці законнай і непарушнай.

І вось ён пазірае раз-по-раз з трывожнай дапытлівасьцю ў яе цёмна-сінія вочы, нібы дасьледуючы чароўную іхную глыбіню, і ніяк не адважыцца сказаць ёй пра тое, што павінна ўсьцешыць іх абаіх. А яна бязрупатна песьціцца ў яго абнімках, забаўляецца, як чыстае бязьвіннае дзіця, якому невядомы ніякія прыкрасьці людзкіх стасункаў.

Карызна, вядомая рэч, зусім ня ведаў таго, што гэтае „чыстае бязьвіннае дзіця“ колькі дзён таму мела сур'ёзную гутарку з Марынай Паўлаўнай і што фактычна гэтая гутарка спрычынілася канчатковай пастанове Марыны Паўлаўны пра свой адыход. Трэба адразу сказаць, што тут ня было нічога падобнага да традыцыйнага, спарахнелага ў старых раманах, самазрачэньня, вялікадушнае ўступкі, самаахвярнасьці. Проста Марына Паўлаўна пераканалася, што ўсякае змаганьне будзе марнае, бо... ёй самой упадабалася Вера Засуліч.

Яны вымушаны былі сустрэцца ў сумятні грамадзкае працы, у якую самотная Марына Паўлаўна ўдавалася з парыўчатай імклівасьцю, аддаючы ёй увесь свой нязбыты запал і энэргію. Праз ладны час яны спрытна хаваліся адна ад аднае ў бабскім гармідары, адна адну не прымячалі. Пачуцьці, якія мелі яны ваўзаём, станавілі паміж іх непрабітны мур: у Марыны Паўлаўны цяжкім пластом ляжала на сэрцы глухая інстынктыўная варожасьць да разлучніцы, а Вера скрозь адчувала дакучны непазбыўны сорам і вінаватасьць. Было ў іх некалькі выпадковых сутычак, якіх не абмінуць за супольнаю справай, і ў іх заўсёды Вера старалася паказаць як найбольшую далікатнасьць і пашану да Марыны Паўлаўны: раз нешта яна падала ёй скінуты каранда́ш, другі раз дала ёй аднупільна патрэбную кніжку, аднойчы, як зьбіраліся ў яе ў школе, прынесла ёй вады. Гэтыя дробныя паслугі адно раздражнялі Марыну Паўлаўну, узмацнялі яе варожасьць: яна бачыла ў іх дрэнную ліхую падлыжнасьць.

Але выпала так, што даручылі ім дзьвюм скласьці нейкую заяву ці рэзолюцыю, і яны мусілі сыйсьціся вока-на вока. Яны ўмовіліся сустрэцца ў яе ў школе. Вядома, што у клясе, бо не магло быць і мовы аб тым, каб Марына Паўлаўна пайшла на кватэру да свае злосьніцы.

Абедзьве прачувалі, што гэтая сустрэча не абыйдзецца так, падзелавому, што яна ўзьніме, нарэшце, паміж іх інтымнае і напэўна дужа цяжкое, балючае. І таму прышлі яны абедзьве сьцеражліва напружаныя, зацятыя ў трывожным чаканьні. Марына Паўлаўна, ці толькі ўвайшла, адразу, з ненатуральнай пасьпешнасьцю прапанавала, ня гледзячы ў той бок, дзе стаяла Вера Засуліч:

— Ну, будзем пачынаць!

Яны селі за стол—адна супроць аднае—і заціхлі ў поўнай разгубленасьці, ня ведаючы, як пачаць, як сказаць першае слова. Нарэшце, Вера адважылася, і Марына Паўлаўна раптам—зусім неспадзявана—пачула ціхі пакорны голас:

— Вы мяне ненавідзіце?

Яна быстра амаль спалохана, зірнула на Веру, убачыла яе глыбокія, няўкорна чыстыя вочы і страсянулася ўся ў злосным абурэньні. Яна пачула, што сапраўды ненавідзіць гэту маленькую прыгожую гадзіну з аблудна-чыстымі атрутнымі вачмі. Бо яна-ж ані не сумнявалася, што Вера Засуліч толькі прыкідваецца, толькі грае з ёй подлую комэдыю. І яна адказала з неўласьцівай ёй грубасьцю:

— Вам гэта ўсё роўна.

У Веры на вочы набеглі сьлёзы, і Марына Паўлаўна гэтыя сьлёзы заўважыла.

Вера ўзяла карандаш.

— Як будзем пісаць?

Марына Паўлаўна адказала нешта нявыразнае, наўдачу, каб дужа стасоўнае да справы, і Вера схілілася над паперай—ціхая, смутная і старанная. Вялікі, панура загрузлы ў цьмяным сьвятле пакой атачыў іх шчытнай суровай цішой, якую страшна было парушыць нават лёгкім дыханьнем.

Марына Паўлаўна, карыстаючы з таго, што Вера шчыра ўдалася ў пісаньне, з прагавітай увагай разглядала яе схілены над паперай твар. Вера нібы зусім ужо забылася на нядаўную абразу і цалкам захапілася працаю. Увесь прыгожы твар яе праняўся глыбокаю заклапочанасьцю і вусны сьціха шавяліліся ў такт пісаньню сьмешнымі зварушліва-наіўнымі рухамі, надаючы ёй бяз меры мілы выраз.

Раптам Вера ўздыхнула. Уздыхнула парыўчата, глыбока-балесным усхліплівым уздыханьнем, як уздыхаюць пакрыўджаныя дзеці па доўгім плачы.

У Марыны Паўлаўны сьціснулася сэрца ад раптоўнага болю. Гэта простае дзяцінае ўздыханьне прыгняло яе нязносным цяжарам беспрасьветнае роспачы: яна зразумела, што памылялася, што падманьвала сябе марнымі ілюзіямі. Яна ўважала дасюль гэту жанчыну за нікчэмную інтрыгантку, якая living рознымі паскуднымі хітрыкамі прывабіла да сябе ашалелага пад старасьць мужчыну. Яе скрозь не пакідала надзея, што досыць мінуцца першаму чаду, і Сымон агледзіцца, зразумее сваю памылку, вер-

нецца да сям'і. Цяпер яна бачыла зусім іншае. Чыстыя, як крышталь, вочы не манілі, яна ня грала комэдыі. Яна ня можа маніць, гэтая ціхая мілая дзяўчынка!

Значыць—ня тое. Значыць—глыбейшае тут, мацнейшае.

Значыць—канец. Астаецца адно—сысьці з дарогі, не за мінаць, ня траціць сіл на бясплодную барацьбу.

І—дзіўная рэч!—разам з гэтымі цяжкімі балючымі думкамі, якія затулялі ў чорнае беспрасьвецьце ўсю яе будучыню, Марына Паўлаўна чула, як расте ў яе ў сэрцы ўсякая нянавісьць да шчасьлівае супраціўніцы. Яна нібы сама старалася абязьвініць яе, з увагі на чыстату яе і шчырасьць. У яе нават зьяўляўся добры матчынскі жаль да Веры—яна пачынала каяцца, што адштурхнула яе сваёй нястрыманай грубасьцю. І цяпер ужо Марына Паўлаўна сама жадала працягу зачатае Верай гутаркі—яе цягнула да гэтага роджанае роспаччу хваравітае прагненьне да душэўнага болю, да самакатаваньня. Скарыстаўшы момант, калі Вера адарвалася на момант ад свае работы, яна запытала яе:

— Чаму вы падумалі, што я ненавіджу вас?

У Веры твар ахінуўся жорсткім ценем самаасуджэньня.

— Вы павінны мяне ненавідзець... я сама ведаю... Я дрэнна раблю, я ня маю права гэтак рабіць...

У Марыны Паўлаўны занялася кволая нявыразная надзея. Ціхім дрыжачым голасам, які паказваў яе хваляваньне, яна запытала:

— Што вы думаеце рабіць далей?

Вера скрывіла твар у цяжкім балесным неўразуменьні.

— Я ня ведаю... Я не магу... Я сама не магу нічога зрабіць... Усё ад яго залежыць... Я не магу...

— Мы зьвязаны з ім... у нас ёсьць дачка...

І як гаварыла Марына Паўлаўна гэтыя жаласныя недарэчныя словы, чула сама сваё ўбогае прыніжэньне, але гаварыла, бо ў сэрцы гарэла яшчэ зманлівая надзея.

Вера пыхнула раптам ясным гарачым захапленьнем.

— Я знаю вашу дачку! Мы з ёй улетку хадзілі ў лес, купаліся разам. Яна такая добрая, слаўная, вясёлая... Мы з ёй умаўляліся нават перапісвацца, сапраўды, але неяк ня вышла... Яна такая прыгожая, такая разумная!..

У Марыны Паўлаўны апусьціліся рукі. Яна з ціхім болем глядзела на Веру і чула, што ня можа злаваць на яе, ня можа яе ненавідзець. Вера Засуліч падабалася ёй, як можа падабацца пекны, мастацкай работы штылет, выняты з глыбокае балючае раны.

Марына Паўлаўна ціха, сама сабе, шаптала:

— Што-ж... Я дам спакой... Я ня буду стаяць на дарозе... Мне больш няма чаго рабіць...

Вера пачула яе словы і крыкнула ў шчырым парываньні:

— Марына Паўлаўна! Ня трэба... не кажэце так... Я ня хачу... я ня хачу...

і залілася раптам горкімі нястрымнымі сьлязьмі.

Тады Марына Паўлаўна заклапочана перахілілася цераз стол і ціхенька пагладзіла яе цудоўныя цёмна-каштанавыя валасы.

Потым яны—прымiраныя, блізкія—з дружнай энэргіяй узяліся за сваю супольную работу.

Вера Засуліч ад тае гутаркі ведала ўжо, што Марына Паўлаўна гэтак і зробіць, што яна сама разьвяжа рукі свайму мужыку: яна загадзя адчувала да яе спакойную цёплую ўдзячнасьць. Але яна не спадзявалася, каб гэта здарылася так скора, і таму навіна, якую нарэшце наважыўся паведаміць ёй Карызна, адразу ашаламіла яе. Яна ня ўправілася схаваць свае раптоўнае радасьці, і гэта ўвяло яе ў палкі сорам. Каб не паказаць яго, яна парыўчата схавала свой твар на грудзёх у Карызны.

Карызна пяшчотна лашчыў яе і чакаў наплыву тае поўнае, нічым не парушанае, блізкасьці, на якую ўвесь час спадзяваўся.

Але блізкасьці ня было: на тым месцы, адкуль разам з жончыным адыходам адышоў цэлы комплекс перажываньняў, што глыбока ўскладнялі іхныя стасункі з Верай Засуліч, на тым месцы асталася глухая непраходная пустата.

## 5

Сымон Карызна хлусіў, як казаў жонцы, што ён ужо зусім спакойны. З кожным днём усё глыбей і глыбей угрузаў ён у нявылазную немарач блытаных, у значнай меры самім-жа ім створаных, супярэчнасьцяй, нібы аперазаў яго нехта шчытным непарыўным вязьмом і з бязьлітаснай павольнасьцю зацягвае яго, пакідаючы яму з кожным днём усё менш ды менш вольнае прасторы. Ён трапечыцца, напінаецца ў адчайных патугах, і яму часам нібы ўдаецца на момант расхінуць праклятае вязьмо, але з тым большаю сілай зьвінаецца яно ў наступную хвіліну.

Над усім складаным комплексам яго ўзбушлаваных пачуцьцяў дамінуе страх—прыкры, неадчэпны страх перад невядомай яму і нават дрэнна ўяўленай небясьпекай. Кожная няўдача, памылка, кожная нават зусім нязначная затрымка ў рабоце нагадвае яму пра грозныя навіслыя над ім грахі мінулага, пра цёмныя справы з сям'ёй і кідае яго ў ліхаманкавую гарачку. Тады з хваравітым імпэтам хапаецца ён за працу, гоніць яе, не разважаючы, не выбіраючы сродкаў, і з трывогай заўважае, што робіць новыя яшчэ большыя памылкі і яшчэ большыя мае няўдачы.

Загнаны напорнай разьюшанай зграяй жыцьцёвых нягод, Сымон Карызна з прагнай настойнасьцю шукаў сабе прытулку ў чым-небудзь блізкім спагадлівым сэрцы, бо жорсткая самота падваяла цяжар яго мятушэньняў, сьціскаючы іх у цесным катуху чорнае душнае абмежаванасьці, і ён прывык знаходзіць гэты прытулак у чулым сэрцы Веры Засуліч.

Вера Засуліч дрэнная была спацяшальніца, бо, выслухаўшы цяжкія прызнаньні Карызны, яна заўсёды страшэнна палохалася і яшчэ больш палохала яго самога. Адылі й баяцца ўдваіх было значна лягчэй.

Вера Засуліч—мілая, шчырая дзяўчына—шаптала яму, клапатліва зморшчыўшы лоб і зьвёўшы свае цудоўныя аксамітныя броўкі:

— Трэба старацца, трэба дужа старацца... каб усё было добра, усё-чысьценька, каб ніхто ні да чога ня мог прычапіцца... Праўда... Тады і спакойны будзеш, зусім спакойны...

І яна ў тахт сваіх слоў з навучальнай важнасьцю ківала слаўнай прыгожай галоўкай.

Карызну чамусьці здавалася, што ў Верыных словах ёсьць глыбокая жыцьцёвая мудрасьць, і ён бясконца захапляўся як самай гэтай мудрасьцю, так і цудоўнай формай, у якой яна вылівалася. І што далей, то ўсё глыбей і глыбей адкрываў ён Веры ўсе таямніцы свайго нутранага жыцьця, і што далей, то ўсё з большай увагай прыслухоўваўся да яе шчырых прасякнутых слушным практыцызмам парад.

Вера Засуліч была разумная дзяўчына. Разам з сваёй мілай дзяцінай наіўнасьцю яна мела вострую, мабыць, цалком інтуіцыйную праніклівасьць, злучаную з дасканалай здольнасьцю дапасавацца да ўсякіх, нават самых нечаканых, варункаў. І выходзіла так, што зусім неўзаметку, паступова, але станоўча яна ўваходзіла ў самае сэрца сівецкіх падзей і пэўна рабіла ўплыў на іх значна большы, чым гэта прыкметна было на першы погляд. У яе ціхім, прытульным пакойчыку памалу зьвіўся дружны цэнтр, які яднаў пэўную досыць значную і ўплывовую частку сівецкай грамадзкасьці. Апрача Карызны, частымі гасьцямі ў яе былі старшыня сельсавету Пацяроб, чорны і прыгожы Андрэй Шыбянкоў—Гвардыянаў фатальны вораг—яшчэ са два менш відныя партыйцы і аптэкар Плакс. Гэты, праўда, заўсёды займаў сваю асобную філёзофскую позыцыю і ў вузка палітычныя справы ня блытаўся. Яшчэ забягаў часам сгары Галілей, але выпадкова і не да рэчы. Ян зьяўляўся і зьнікаў неўзаметку, нікога не чапаючы, нікому не замінаючы, вядучы ў жыцьці нейкую сваю аднаму яму вядомую лінію.

Усіх гэтых людзей, апрача агульнае справы, зьвязвала яшчэ аднадушная сымпатыя да Веры Засуліч, якая, аднак, у кожнага мела сваё асобнае адменнае выяўленьне.

Даўгі, нязграбны Пацяроб, верны сабе ўва ўсім, з клясычнай нязграбнасьцю выяўляў і сваё гарачае замілаваньне да Веры. Хоць ён і называў яе зварушліва-пяшчотным імем „п'явачка", але скрозь адно цэліў зрабіць ёй якую-небудзь грубаватую і ня зусім прыстойную прыемнасьць: ушчыпнуць там, пацісnуць ці яшчэ што-якое. Веру страшэнна мучылі гэтыя прыемнасьці, але яна пакорна зносіла іх з павагі да мясцовае ўлады.

Андрэй Шыбянкоў кахаў моўчкі і здалёку, інтрыгуючы сваім да лютасьці палкім поглядам і рамантычным ценем глыбокае таямніцы на чорным прыгожым твары. Апрача таго, ён дужа лоўка іграў на гітары.

Аптэкар Плакс, даўны прыхільнік Веры Засуліч, кахаў яе шчыра, па-рыцарску—таемным, глыбока затуленым у нутры і нікому невядомым каханьнем.

Сама-ж Вера Засуліч ставілася да ўсіх з абсолютна роўнай ласкай і ветласьцю, зьлёгку, асьцярожна кокетавала з усімі, але трымала сябе на сталым, шчасьліва абраным пункце, які гарантаваў ёй ня толькі ўсіхную сымпатыю, а і ўсіхную павагу. Праўда, у глыбіні душы ёй бязумоўна найбольш імпонаваў Андрэй Шыбянкоў, але яна ні ў чым гэтага не выяўляла.

Такі быў склаўся шчыльны дружны гурток, засяроджаны ў прытульным пакойчыку Веры Засуліч, зьнітаваны яе цёплай чароўнай ветласьцю, і ў гэтым гуртку часам—неўзаметку, паміж іншага—абгаварваліся і вырашаліся справы Сівецкага сельсавету.

А справы гэтыя мелі наступны выгляд...

Па доўгіх, у большасьці бясплодных патугах удалося нарэшце правесьці колектывізацыю блізка ў палавіне ўсіх вёсак сельсавету. Але гэтая перамога была няпэўная—прынамсі, Сымона Карызну мала яна спацяшала, бо ён добра ведаў, што зьбітыя на скоры посьпех усякімі, часам ня зусім здаровымі, спосабамі колгасы ў кожную хвіліну могуць рассыпацца—і развал першага з іх пацягне за сабой агульнае разбурэньне ўсяе справы. Але ён ня мог, ня меў часу павесьці станоўчую глыбокую працу, бо ён мусіў сьпяшацца, ён мусіў першы ў раёне скончыць колектывізацыю свайго сельсавету. Кожная хвіліна забаўкі пакажа ягоны опортунізм і ўдзесяцярыць адказнасьць яго за старыя грахі.

Ува ўсім сельсавеце перад вядзе ўсё-ткі Сівец. А Сівец стаіць да гэтага часу цьвёрдаю, нязрушнаю цытадэльлю, за якою заселі ўсе цёмныя сілы—сьвядомыя і несьвядомыя—якія даюць апошні адпор пераможнаму наступу соцыялізму. У кожнай вёсцы, дзе толькі даводзілася Карызну праводзіць работу, яму з першага слова паказвалі на Сівец, і за гэтаю адгаворкай, як за спадзейнай сьцяной, сьмела хаваліся ўсе злосныя ворагі колектывізацыі.

— Сівец у вас пад рукамі. Чаму-ж ён дагэтуль яшчэ не пайшоў у колгас? А чаму гэта канечна мы першыя мусім ісьці?

У самым-жа ў Сіўцы пасьля таго славутага сходу ўжо ці мала разоў зьбіраліся, гаманілі, угаварвалі, пагражалі, і ўсё роўна не маглі даць ніякае рады. Зацятыя ў злоснай упартасьці сівецкія грамадзяне мелі таксама сваю адгаворку, якую пераказвалі з тупой непрабітнай настойнасьцю:

— Як загадаюць, дык пойдзем усе, як адзін. Раз савецкая ўлада робіць гэтую самую колектывізацыю, дык хай дасьць загад, каб, значыцца, ясна было...

Карызна добра ведаў, што гэта подлая провокацыя кулакоў. Кулацкая хэўра, часу не марнавала—яна выкарыстоўвала кожны момант, кожны зручны выпадак, каб умацаваць свае позыцыі, глыбей акапацца ў сваёй утульнай мярлозе. Але гэтая чорная работа валася такімі хітрымі няўлоўна-таемнымі спосабамі, што раскрыць яе, паказаць навочна ўсе яе шкодніцкія махінацыі

атлумленаму сівецкаму грамадзтву ня было ніякай магчымасьці. Толькі па асобных дробных прыметах можна было меркаваць, што галоўны пункт, з якога ідуць усе яе брудныя ніці, знаходзіцца ў вялікім чыстым доме Цімахвея Міронавіча Гвардыяна.

Ува ўсіх гэтых няўдачах Карызна бачыў ясныя сьляды першага няўдалага наступу, але аблудны гонар не даваў яму адкрыта прызнацца ў гэтым і крута зьмяніць далейшую тактыку. Ён перш нясьмела, паціху, а тады ўсё сьмялей ды галасьней стаў вінаваціць ува ўсім Зелянюка, яго марудлівае порканьне ў Сівалапах, яго слабыя тэмпы, хвасьцізм. А сам тым часам усё больш і больш пакладаўся на Пацяроба, на яго хоць і грубыя, жорсткія, але энэргічныя і пэўна што больш радыкальныя мэтоды. І толькі прысутнасьць Зелянюка стрымлівала яго ад таго, каб на ўсю шырыню і размах разгарнуць у Сіўцы рашучую пацяробаўшчыну.

Зелянюк зьвязваў яму рукі.

Пасьля таго, як сівалапаўскія актывісты, сышоўшыся выпадкова ў Якуба Лакоты, пастанавілі арганізаваць свой асобны колгас, назаўтрага ўвечары Карызна сустрэўся з Зелянюком у сельсавеце. Зелянюк у шумнай компаніі хлопцаў урынуўся ў сельсавет і, убачыўшы Карызну, яшчэ з парогу крыкнуў звонкім радасна-ўзрушаным голасам:

— Карызна! Можаш нас павіншаваць. У нас арганізуецца свой колектыў.

Карызна зірнуў на яго з халодным зьдзіўленьнем.

— Дзе гэта „ў нас"? Які колектыў?

— У Сівалапах. Ты падумай толькі, якая гэта шчасьлівая ідэя! Разумееш? Асобны сівалапаўскі колгас, складзены з выключна дружных перакананых энэргійных сяброў. Мы зробім так, што гэта будзе ўзорны колгас на цэлы раён. А галоўнае—падгонім Сівец. Гэта будзе выклік Сіўцу, разумееш? Тут можа разгарнуцца цэлае спаборніцтва...

Карызна перапыніў яго гарачыя тлумачэньні, адчыкрыжыўшы рэзкім нэрвова-напружаным голасам:

— Я гэтага не дапушчу. Гэта—партызаншчына.

Зелянюк на момант асалапеў, але зараз-жа ўзяў сябе ў рукі. Ад яго жвавага юнацкага ўзрушэньня не асталося і сьледу—ён быў ужо спакойны, стрыманы, і на бледым, рэзка акрэсьленым твары яго трымцела ўжо звычайная ўсьмешка. З нечаканай для ўсіх лагоднасьцю ён згадзіўся:

— Ты, Карызна, маеш рацыю. Гэта—партызаншчына. Я зрабіў вялікую памылку, што прыстаў на гэта, не памеркаваўшыся з ячэйкаю. Я цалком прызнаю сваю памылку і бяру на сябе поўную за яе адказнасьць.

Ён на момант суняўся і казаў далей ужо троху цьвярдзейшым тонам:

— Але-ж я думаю, што мая асабістая памылка не павінна адбіцца на агульнай справе. Арганізацыя ў Сівалапах свайго колгасу бясспрэчна правільная, карысная справа. Наш актыў, ды

ці толькі актыў—усе Сівалапы прыгатаваны да гэтага і чакаюць гэтага. Не пайсьці ім насустрэчу, значыць загубіць усё. Разумееш, Карызна?

Спакойны цьвёрды Зелянюкоў тон яшчэ больш раздражніў Карызну. Ён яшчэ раз з тэй-жа рэзкасьцю пераказаў:

— Я гэтага не дапушчу. Гэта зрыў усяе нашае працы.

Зелянюк спакойна глядзеў на яго і ўсьміхаўся.

— Ты, Карызна, гаворыш не таму, што ўпэўнены ў гэтым. Цябе кіруе пустая амбіцыя.

Гэтыя словы канцом разьлютавалі Карызну. З момант ён стаяў моўчкі, бо ня здольны быў вымавіць слова ад хваляваньня, толькі блішчэў на Зелянюка шалёна распаленымі вачмі. Адылі напружанаю патугаю волі здушыў свой шал і цяжка, ледзьве стрымліваючы ціхасьць у голасе, праказаў:

— Я таксама адказваю і за свае словы і за свае ўчынкі. Я сваю думку сказаў.

У Зенянюка зьбегла з твару ўсьмешка, і тонкія вусны яго задрыжэлі.

— Але-ж твая думка гэта яшчэ ня думка ўсяе арганізацыі?

— Мы паставім гэта пытаньне на ячэйцы.

І Карызна дэманстрацыйна адвярнуўся ў другі бок, паказваючы, што на гэтым гутарка скончана.

Гэта быў першы выпадак адкрытай сутычкі Карызны з Зелянюком, і ўсе, хто быў тут, зразумелі, што гэта толькі пачатак.

Як Зелянюк з сваімі хлопцамі пайшоў з сельсавету, Пацяроб зайшоўся ад сьмеху.

— Як ты яго, Сымоне... а-ха-ха.. Во, маладзец!... Во, гэта так... ха-ха-ха-ха!..

Ягоны сьмех, у якім ён віртуозна злучаў тонкі беспарадны віск з адчайным басовым грукатам, заражаў ужо аднэй сваёй дзівоснай музыкай, і Карызна мімаволі ўсьміхнуўся. Нібы выпраўдваючы сябе, ён прабурчэў:

— Яго ня стрымаўшы, дык няма ведама чаго тут наробіць. Занадта незалежна адчувае сябе.

Пацяроб зморшчыў твар у безнадзейна горкую міну.

— Што яму адыходзіць! Ён адбыў тут сваё, дый пырх, палянеў, а мне з табой, любачка, сядзі ды кукуй. Ведама, блазьнюк, што ты ад яго хочаш...

Гэты інцыдэнт пакінуў быў у Карызны бядзёрае ўзрушэньне. Ён ані ня каяўся ў сваім учынку—ён нават здаволены быў, што мае магчымасьць даць адкрыты бой Зелянюку, да якога здаўна ўжо адчуваў глухую варожасьць. І прадчуваньне гэтага бою ўзьнімала ў нутры ў яго вострую нецярплівасьць, узбурала ўсе яго сілы непакойнай энэргіяй. Ён быў загадзя пэўны ў сваёй перамозе і таму бадай зусім ня ўглыбляўся ў сэнс справы. якую разьвязаў такім пасьпешным, чыста афэктыўным спосабам. Як гэта ні дзіўна, але ў гэты момант самая справа менш за ўсё займала ягоную ўвагу.

Гэта было перад тым днём, як пайшла ад Карызны Марына Паўлаўна. Назаўтрага, цалкам захоплены неспадзяваным паваротам у сямейных справах, ён зусім забыўся быў на ўчорашняе здарэньне, як забыўся быў і на ўсе свае іншыя клопаты. І толькі тады, як, прышоўшы ад Веры, апынуўся ён раптам у бяздонным правале халоднай і варожай, зусім не падобнай да хатняе, цішыні— адзін, безнадзейна адзін!—тады апанавала яго ўсё разам: і старыя трывогі, і стары непазбыўны страх, і гэтае новае ўзрушэньне, якое яшчэ больш ускладняла і так балюча заблытанае кола яго перажываньняў. Тады тое, што ўчора здавалася простым, лёгкім і патрэбным, агарнулася раптам чорнаю сеткай сумненьняў.

Ці мае ён рацыю ў гэтай сваёй спрэчцы з Зелянюком, якая бязумоўна адыграе вялікую, можа вырашальную, ролю ў далейшым цягу падзей?

І зрабіўшы сабе гэтае запытаньне, Карызна адразу зразумеў, што адказ на яго ня будзе мець ніякага значэньня, што ён ня зробіць ніякага ўплыву на далейшае яго паводжаньне. Адступленьня ня можа быць—ды ён і ня хоча яго і не дапусьціць, хоць-бы нават убачыў поўную сваю несправядлівасьць.

Зелянюк зьвязвае яму рукі.

Гэта быў першы выпадак, калі Сымон Карызна цалкам сьвядома і ўпэўнена ішоў на ўчынак, які, можа са шкодаю для агульнае справы, здавальняў выключна яго асабістыя, ды й ня надта чыстыя імкненьні. І раптам ён сам зразумеў гэта і скалануўся ад страху, як злоўлены на месцы злачынства. Ён чуў, што гэта— новае ў ім, бо дасюль, ня гледзячы на памылкі свае і няўдачы, ён у адносінах да сучаснасьці меў абсолютна чыстае сумленьне і нават сваім шчырым безінтарэсоўным парываньнем да працы ў значнай меры выкупляў грахі мінулага. Цяпер-жа было зусім іншае—нядобрае, брыдкае, зладзейскае. Цяпер ён стаяў перад зрывам у прорву бруднага палітыканства, з адчайнаю рашучасьцю самагубцы памыкаючыся на чыстату ўласнага сумленьня, на дзейны злад свой з сучаснасьцю, абы дайсьці задавальненьня ўражанаму гонару.

Але-ж гэта яшчэ ня сталася? Яшчэ ня позна абмінуць, унікнуць гэтага? Сустрэцца заўтра з Зелянюком, весела, дабрадушна ўсьміхнуцца, па-сяброўску лэпнуць яго па плячы і сказаць:

— А ты, братка, усё-ткі маеш рацыю... Я добра абмеркаваў гэту справу і, ведаеш, цалкам з табой згодзен. Гэта я тады проста так, з дрэннага настрою... Смалі, браток, разварочвай...

Зелянюк зірне на яго добрым удзячным поглядам, з якога выразна будзе сьвіціцца шчырае захапленьне.

„Во, гэта па-бальшавіцку!“

А можа ён, трыумфуючы сваю перамогу, адно ўсьміхнецца на ягоныя словы сваёй паганай хітрай усьмешкай?

І з гэтай думкай урываецца ў нутро ў Карызнава бурная, пякучая злосьць, у якую пераліваюцца ўсе зазнаныя ім за астатні час прыкрасьці, усё яго балючае мятушэньне. І ён ужо цалкам

пэўны, што да ўсіх гэтых прыкрасьцяй, да ўсяго мятушэньня спрычыніўся ня іначай, як ён—гэты паскудны ўедлівы блазьнюк. Каб ня ён, зусім па-інакшаму пайшла-б у яго праца, і, пэўна. зусім інакшыя куды большыя былі-б удачы. Ён, бязумоўна ён, кладзе яму палкі ў кола!

Ага! Значыць-жа ён, Карызна, ня толькі з сваіх асабістых пабудак выступае супроць Зелянюка? Раз Зелянюк шкодзіць працы, значыць, інтарэсы працы патрабуюць, каб ушчуць яго, як мае быць? Значыць, Карызна робіць правільна, так, як трэба для справы, і ўся гэта хвілінная няўпэўнасьць проста—вынік яго рась- цярушаных нэрваў.

Каб канчаткова замацавацца на гэтым хісткім няпэўным шляху самаапраўданьня, Карызна з ліхаманкавай пасьпешнасьцю бярэцца за абмеркаваньне самае сутнасьці справы, якая мае стаяць на ячэйцы. Ясная рэч, што ўсё ў ёй паказвае не на Зелянюкову ка- рысьць. Пустыя дзяціныя вымудры, якія нічога, апрача шкоды, не дадуць. Злосная і бяспрынцыпная партызаншчына!

І Карызна з шчасьлівай упэўнасьцю констатуе, што і ў гэтай конкрэтнай справе ён мае цьвёрды грунт да барацьбы з назоль- лівым брыгадзірам. Цалком заспакоены сваімі слушнымі высно- вамі, ён бярэ лямпу і пераходзіць у спальню, поўны салодкага прачуваньня блізкага адпачынку.

У спальні на яго злосна вышчарыўся голымі чорнымі рэбрамі пусты жончын ложак. Ён стараецца не глядзець у той бок, і праз гэта яшчэ мацней—з нейкай нуднай шчымлівай настойнасьцю— прыцягвае змрочны куток ягоную ўвагу. Так у пусты халодны прахон адчыненых з хаты дзьвярэй цягне цёплае паветра, пакі- даючы ў хаце няпрытульную стыласьць.

Карызна пасьпешна разьдзяецца і гасіць лямпу. Кладучыся, ён заўважае на сваім ложку сьвежую чыстую бялізну: апошняя сямейная паслуга Марыны Паўлаўны.

Ён старанна ўкручваецца ў коўдру, каб як найхутчэй сагрэцца і заснуць. Ён рад, што хаця ў цемры ня відаць таго жудасна пустога ложка, які мулкім ражном застраў у яго ў ваччу. Але ўсё роўна, хоць ня бачыць, дык ён чуе яго. Ад таго боку, дзе стаіць ён—настарожана пільны ў сваёй імсьцівай злосьці за Марыну Паўлаўну,—адтуль скрозь патыхае ледзяны холад, пра- нікае ў самае нутро Карызну і не дае яму сагрэцца.

Нашто яна пакінула яго тут?

Яму здаецца, што ўся справа ў ложку, што, каб ня было яго, дык і ня было-б на сэрцы такога прыкрага адчуваньня наваколь- нае пустаты.

Ён уяўляе, як і дзе цяпер сьпіць—ня сьпіць, пэўна, а марду- ецца так, як і ён, Марына Паўлаўна, і яму ўся гэтая гісторыя раптам падаецца ў ненатуральна-штучным дзівачным сьвятле.

Няўжо гэта так і будзе? Гэта-ж проста нейкая недарэчная містыфікацыя. Напэўна, заўтра, прачнуўшыся, ён, як звычайна, пачуе мерныя спакойна-руплівыя крокі ў сталоўцы, песьню рань-

няга самавара і сьціплы дзелавіты трэскат у запаленай грубцы. Як звычайна, гэтыя гукі адродзяць у ім учарашняе і заўтрашняе, і леташняе, і залеташняе пачуцьцё дакучна-нязьменнае аднастайнасьці, у якім, выходзіць, ёсьць нешта нязбыўна патрэбнае чалавеку, калі з такой цяплынёй успамінаецца яно цяпер Карызну.

А ложак наступае—заядла, неадчэпна, як ліхі сабака. Здаецца, што ён ужо ня ў кутку, што ён зрушыўся з свайго даўнага абыклага месца і падышоў да самае Карызнавае пасьцелі. Вось зараз нахіліцца над ім, таўхане яго сваім худым шкілетным плячом.

— Гэй, глядзі—я-ж пусты, я-ж зусім пусты.

І Карызна ня бачыць, але чуе, востра чуе, што ён пусты, і гэта мёртвая пустата гняце яго нязносным цяжарам. У нэрвовых, сударгавых патугах варочаецца ён на ложку, напінае ўсю сваю волю, каб пазбыцца ўедліва-турботнага пачуцьця, але ня змога.

Тады ён кладзецца на сьпіну, шырока расплюшчвае вочы і ў цьвёрдай акамянелай цемры стараецца ўлавіць пекны збавіцельны вобраз.

Яна прыходзіць да яго з пяшчотным, міла заклапочаным тварам, з распушчанымі валасамі—і пакой раптам напаўняецца салодкай цяплынёй. Яна схіляецца над ім, і ягоны твар акунаецца ў пышныя араматныя хвалі яе валасоў. Яна горача шэпча яму ў самае вуха:

— Трэба, каб усё было добра... усё-чысьценька...

Карызна ў цудоўным радасным парываньні туліць яе да сваіх грудзей, бярэ яе, чароўна падатную, слухмяную, да сябе ў ложак. Палкім спакусьлівым шэптам шумацяць мяккія карункі яе бялізны. Скрозь бялізну рука яго адчувае тонкую дзіцячую сьпіну з цёплым раўчкам пасярэдзіне. .

Пусты ложак моўчкі стаіць, убіўшыся ў глухі куток,—недалужны, асаромлены—і шкілетныя рэбры яго прыхінуліся да сьцяны звычайнымі кавалкамі старога жалеза.

## 6

Вышаўшы з сельсавету, Зелянюк пайшоў быў разам з хлопцамі пад Сівалапы, але на краю мястэчка спыніўся і разьвітаўся з усімі.—Мне трэба забегчы яшчэ ў адно месца.

Звонку па Зелянюку зусім і ня відаць было, каб на яго асабліва моцны ўплыў зрабіла сутычка з Карызнам у сельсавеце. А тым часам яна ўзрушыла яго бадай ня менш, як самога Карызну. І як кожнаму чалавеку, Зелянюку захацелася, каб да гэтае яго новае і глыбокае няпрыемнасьці цёплым дотыкам дакранулася мяккая ласкавая рука.

...Тацяна была дома. Быў дома і Андрэй—ён стаяў апрануты, у шапцы перад сталом і пахмура грыз сухую скарынку. Зелянюк прывітаўся з ім і далікатна, але без асаблівае дружнасьці запытаў:

— Як маешся, Андрэй? Што парабляеш?

Андрэй адказаў ня то жартам, ня то сур‘ёзна:

— Бабы апанавалі. Не дадуць ні зьесьці па-людзку, ні адпачыць. Хоць ты з хаты ўцякай, дадушы.

— Тацяна навяла?

— Няўжо-ж. Ды каб хоць што людзкае, а то—старыя качэргі...

Тацяна, седзячы на прыпечку, пакрыўджана ўступілася за сваю чараду:

— А во й маніш... Ці мала ёсьць і маладых і харошых. Можа задзела, што ніякай увагі на цябе ня маюць?

Андрэй ня слухаў яе.

— Скажы ты мне на ласку, таварыш Зелянюк, чаму гэта бабы, калі ўжо завядзецца ў яе нейкі там асаблівы інтарэс, калі ўжо возьмуцца цацкацца з ёй, дык яна тады стане зусім не падобная да бабы. Напрыклад, возьмем нашу Тацяну. Ужо мала таго, што ў хаце ніколі ня мецена, абед не згатаваны,—ну, хай сабе, скажам так, роўнапраўнасьць, але-ж і не пагуляе, як даўней. Хоць бы якога задрыпанага кавалера падчапіла, ці што, а то—ані-ні. Проста, крыўда бярэ...

Тацяна ўразілася чамусьці не за нямеценую хату і не за абед, а за кавалераў.

— Брэшаш ты, Андрэй, дадушы, брэшаш. Як гуляла, так і гуляю, толькі што ўпотай, каб ня кпіў тады, ня высьмейваў.

Андрэй безнадзейна махнуў рукой і, не чакаючы адказу на сваё запытаньне, пайшоў з хаты. Зелянюка гэта бадай што ўзрадавала. Ня толькі затым, што хацеў пабыць сам-на-сам з Тацянай, а і наогул была ў іх з Андрэем нейкая бяспрычынная халадНаватасьць.

Тацяна, як пашоў Андрэй, пасьпешна загладзіла свае апошнія словы:

— Сьмяецца, што ня гуляю. Якая тут гульня? Ці тое ў галаве? На іншае часу бракуе...

І, гаворачы гэта, яна сарамліва заблішчэла вачмі, нібы за сваімі звычайнымі словамі хавала нешта іншае, таемнае, пра што нават сама ня важылася падумаць. Але Зелянюк гэтага не заўважыў—ён, цалком углыблёны ў сябе, хадзіў па хаце шпаркімі, зусім ня хатнімі крокамі.

Тацяна спыніла яго:

— Заморышся. Хадзі сядзь, пагрэйся.

Ён сеў поплеч з ёй на прыпечку і сапраўды прыемна сагрэўся—ня так, мабыць, ад печкі, як ад ня менш гарачае Тацянінае блізкасьці. І толькі цяпер, як разьвеялася яго напружаная самаўглыбленасьць, ён раптам заўважыў зьмену ў Тацянінай хаце. Адзін куток яе, старанна прыбраны, быў адвешаны палінялай, а калісьці, пэўна, квяцістай стрыкатай завесай. У гэтым невялічкім чыстым прытулку стаяў ложак, а ля ложка—маленькі столік, і на ім—плюгавенькі кавалачак пабітага люстэрка. Над ложкам у складзенай з чырвонай паперы асадцы вісеў портрэт правадыра.

Зелянюк пахваліў Тацяну.

— Ого, які прытульны куточак сабе зрабіла. Гэта—добра.

Яна засьмяялася.

Гэта-ж не сабе. Заўтра прыдзе да мяне кватарантка, Карызнава жонка. Кідае ўжо мужыка. На зусім.

Зелянюк яшчэ нічога ня ведаў пра гэта, і навіна зрабіла на яго надзіва моцнае ўражаньне. Ён доўга распытваў яе, даходзіў кожнай драбніцы, і нарэшце, запытаў з незразумелай трывогай у голасе:

— Скажы, Тацяна, іншага выйсьця няма? Можа, каб хто з ім пагаварыў, расказаў яму пра яе настрой... Ён-жа пэўна ня ведае, што яна так глыбока ўсё гэта бярэ да нутра?

Тацяна спакойна паківала галавой.

— Ня трэба гэтага. Хай пойдзе. Яна-ж не ў Амэрыку едзе. Калі абдумаецца ён, дык заўсёды ня позна сыйсьціся. Абы яна тады захацела...

Зелянюк доўга і напружана думаў аб нечым, потым, нібы прачнуўшыся, быстра зірнуў на Тацяну і сказаў у ненатуральнай троху пасьпешнасьці:

— Я пасварыўся сёньня з Карызнам... вось нядаўна, у сельсавеце. Добра паспрачаліся—на ячэйцы будзем разьбіраць, хто мае рацыю.

Тацяна ўсьміхнулася і ў вачох у яе мякка засьвіцілася ласкавае захапленьне.

— Маладзец...

Ён зьдзівіўся.

— Чаму—маладзец, Тацяна?

— Ён многа чаго робіць ня так, як трэба. Папраўдзе... Я хоць мала разумею ў гэтых справах, але мне здаецца, што ня ўсё ў яго правільна. Ён са злосьцю ўсё робіць, дадушы са злосьцю...

Зелянюк расказаў ёй падрабязна пра сваю гутарку з Карызнам. Ен і так быў цалком упэўнены ў сваёй справядлівасьці, у мэтазгоднасьці таго, за што ён стаяў, але Тацяніна шчырая ўхвала прыемна замацавала ў ім гэтую ўпэўненасьць. Тацяна была ў захапленьні.

— Як будзе ў вас колектыў, ды калі яшчэ будзе працаваць як сьлед, дык тады-ж сорам ужо будзе нам, сівецкім, ня мець свайго. Нашто там што, гэта-ж мы тады першыя з вашага прыкладу зробім свой колгас.

— Хто гэта—мы?

— Бабы!

І, убачыўшы лёгкую ўсьмешку на вуснах у Зелянюка, яна з запалам накінулася на яго:

— Ты ня сьмейся, я тут сур'ёзна кажу. Ты думаеш, у нас ня выйдзе? Мы-ж не адны бабы пойдзем... Кожная свайго забярэ.. Гэтулькі гаспадароў набярэцца, ого! Папраўдзе... Ты ня ведаеш нашых баб—яны раз захочуць, дык усё зробяць пасвойму, мужыкі толькі крактаць будуць ды чухаць патыліцу. У нас усе такія бабы сабраліся, што кожная свайго пад запяткам трымае...

Яна, нарэшце, і сама засьмяялася з сваіх апошніх слоў і, троху саромячыся бурнага свайго выбуху, дадала ўжо больш ціхамірна, але з ня меншай праканаласьцю:

— Я праўду кажу, Зелянюк. У гаспадарцы найчасьцей баба перад вядзе, хоць з выгляду, здаецца, усім гаспадар кіруе. Яна—так, няўпрыметку, збоку, але скрозь на сваім пастановіць. Можа, каб разумнейшыя былі, дык з баб і зачынаць трэба было ўсю гэтую разваруху...

Зелянюк шчыра сьмяяўся вясёлым, але ня крыўдным для Тацяны сьмехам.

— Ты ўжо, Тацяна, гатова цэлы тут бабскі пераварот зрабіць у Сіўцы?

— А што-ж ты думаў...

І Тацяна, распаленая сваім няўёмным бабскім задорам, раптам схапіла Зелянюка за валасы і раскудлычыла іх жорсткай, але разам з тым пяшчотнай рукой. У адказ на гэтую ласку Зелянюк жартам, ды шчыра, на ўсю сілу сьціснуў вышэй за локця яе поўную крамяную руку, і яна, пачуўшы яго мужчынскую сілу, абвяла і зьвінулася ў клубочак—пакорная і здаволеная.

Зелянюк устаў і зноў пачаў хадзіць па хаце. Тацяна сачыла за ім ціхімі і чамусьці сумнымі вачмі. Пахадзіўшы так колькі хвілін у маўклівым задуменьні, ён зноў падышоў да яе і загаварыў з ёй сур'ёзным даверлівым тонам:

— Ведаеш, Тацяна, што я надумаў... Я папраўдзе вялікую памылку зрабіў, што ўсю ўвагу аддаў сівалапаўскай беднаце. А тут, у Сіўцы, яна і да гэтага часу не організаваная... Праўда? Вось... Трэба, значыцца, узяцца тут за яе, пакуль ня позна. А пачаць я думаю з таго, што перайду сюды жыць. У Сівалапах абыйдуцца і без мяне. Ці так, Тацяна? Як ты думаеш?

Тацяна радасна ажывілася—ёй надзвычайна прыемна было, што Зелянюк ставіцца да яе з шчырай даверлівасьцю і нават радзіцца з ёй. Яна гэтую думку яго ўхваліла і тут-жа дадала з звычлівай гатоўнасьцю:

— Каб Марына Паўлаўна не пераходзіла, дык-бы ў нас мог і закватаравацца.

Зелянюк скоса зірнуў на яе і ўсьміхнуўся. Ад гэтае ўсьмешкі яна густа пачырванела.

— Ты мне во што скажы, Тацяна: дзе, у каго тут найлепш мне асяліцца? Ты-ж ведаеш усіх... Добра, каб быў асобны пакой... як там, у Малаха...

Яна хітравата ўсьміхнулася.

— У Гвардыяна?

Але зараз-ж перайшла на сур'ёзнае і пачала пералічаць сівецкія пяцісьценкі. Як памянула Прахора, Зелянюк суняў яе:

— Гэта той, што злы?

— Во-во, той самы...

— Я ў яго спынюся. Дзе ён жыве? Ведаеш, што, Тацяначка? Давай мы сходзім да яго. Зараз... Добра? Ты мне пакажаш, дзе ён жыве...

Яна рада была пайсьці з ім, але ўдавала, што лянуецца.

— Ой, прыдзецца падымаць старыя косьці...

І цяжка, па-старэчаму ўстаючы з прыпечка, яна кінула на Зелянюка малады гарэзьлівы погляд. Тады ён схапіў яе аберуч і адным махам перанёс на падлогу. Яна на момант з млявай падатнасьцю затрымалася ў яго ў абнімках і, зазіраючы ў твар яму гарачымі прамяністымі вачмі, прашаптала:

— У, які дужы! Дармо, што гарадзкі...

І абое весела засьмяяліся.

Знадворку Прахорава хата сапраўды мела цалкам прыстойны выгляд і нават сярод іншых вызначалася сваёй велічынёй і сьвежасьцю. Але досыць было пераступіць цераз парог, каб адразу зьнікла гэтае ўражаньне, бо ў сярэдзіне хата нагадвала даўнейшую курніцу: чорная земляная падлога, брудны і таксама чорны на ўсю хату пол, на якім упокат спала ўся немалая Прахорава сям'я, пад палом—парасяты, пад печкай—куры.

Ступіўшы ў хату, Зелянюк з несхаваным неўразуменьнем зірнуў на Тацяну, думаючы, ці не састроіла яна над ім нейкі жарт, але яна заспакойліва кіўнула яму галавой.

— Добры вечар, дзядзька Прахор!

Прахор сядзеў на калодцы ля полу і пры сьвятле убогай газовачкі, якую зазвычай завуць смаркачыкам, падплятаў атопак. Як убачыў чужых людзей, а злашча гарадзкога брыгадзіра, ён шыбчэй завінуўся каля атопка і белыя хваравітыя вусны яго ледзьве прыкметна задрыжэлі.

— Добры вечар, добры вечар... Заходзьце, калі ласка...

Ён вітаў такім тонам, за якім чуваць было прыблізна такое:

— А ну-ну, пабачым, чаго вас прынесла... Нас не абдурыце дужа, мы самі сёе-тое кумекаем...

Зелянюк прайшоў наперад і сеў ля стала на лаўку, а Тацяна асталася стаяць ля парога. Зелянюк пачаў:

— Што-ж гэта вы, дзядзька Прахор, лапаць падплятаеце, ды яшчэ атопак. Трэба боты насіць...

Прахору толькі гэтага й трэба было. Яго твар хваравіта скрывіўся, і вусны расьцягнуліся ў едкую грымасу, паказаўшы белыя, злосна бліскучыя зубы.

— А хто-ж мне даў тыя боты, скажэце вы мне? Я ўжо даўно, ужо пяты дзесятак гадоў чакаю, каб гэта хто прышоў вось, як вы, ды і сказаў:—дзядзька Прахор, ты цэлы век свой працуеш, корміш і сябе і другіх, а ня бачыш у жыцьці ніякай прасьветласьці. На табе, братачка, за гэта гамбурскія боты з шчыгрэневымі халявамі. На лепшае прабачай, дзядзька Прахор, іншым разам...

Ён на момант суняўся і запішчэў потым працятым дзікаю злосьцю, рэзкім, скігатлівым голасам:

— Ня ідуць, ліха на іх! Ня прыносяць! Праўда, што прыходзяць часам, але па іншае...

І скончыўшы многазначнай паўзай, ён з прагавітай лютасьцю хапіўся за няшчасны атопак.

Зелянюк з пільнай увагай глядзеў на яго і тонка ўсьміхаўся.

— А ці спрабавалі вы, дзядзька Прахор, самі хадзіць па гэтыя боты?

— Хадзіў... Чаму не хадзіў? Пяць год хадзіў, пяць гадочкаў... І з царом хадзіў і на цара... Далі... во сюды, во...

І ён у сударгавым парываньні торкаў сябе кулаком у бок, паказваючы, пэўна, на месца атрыманае калісьці раны.

— Слухайце, дзядзька Прахор, а Ґвардыян ці ў ботах ходзіць?

— Гвардыян? Што Гвардыян? Гвардыян усіх не набуе.

— А Кандрацёнак?

— І Кандрацёнак.

— А Сахацкі?

— І Сахацкі...

Тацяна, стоячы ля парогу, уставіла пацiху, з удаванай бязуважнасьцю:

— Сахацкі, пэўна, што не набуе. Але дзядзька Прахор Сахацкага дый бадай што набуў у добрыя боты? Ці мала некалі папарабіў на яго...

Гэты напамінак уцяў Прахора ў самае балючае месца, і ён, кінуўшы ўсякую палітыку, закрычаў раптам, як ашпараны:

— Што вы мне торкаеце іх? Што вы мне іх прыкладаеце? Яны мо' палавіну жыцьця ў мяне адабралі... Яны кроў маю пілі... Яны ў маіх ботах ходзяць... Яны ўсе ў маіх ботах ходзяць! Што яны? Гэта—зладзеі! Разбойнікі!..

— Так іх, так, дзядзька Прахор!

І распацешаны Зелянюк ня мог стрымаць мімавольнага сьмеху. У яго ўжо склалася наконт Прахора пэўная думка:

„Трэба будзе як сьлед узяцца за яго. Трэба закілзаць гэтую яго унівэрсальную злосьць, адкрыць ёй правільны шлях, і яна, як разьюшаныя ў бязладным імпэце рачныя парогі, можа абярнуцца ў здаровую дзейную сілу".

Ён перамяніў гамонку, падышоў бліжэй да справы.

— Што ў вас там, дзядзька Прахор, у тэй палавіне?

Прахор зноў настаражыўся.

— Як—што? Хата!

— Ці вы ня жывіцё ў ёй?

Прахор скрывіўся ў горкай грымасе агіднага рабскага самазгнібеньня.

— Дзе ўжо нам раскашавацца! Ня прывыкшы мы да чыстага жыцьця. Мужыкі былі, мужыкі ёсьць, мужыкі і будзем... Мужык,— што сьвіньня, яму ў гразі здаравей.

— Нашто-ж вы яе будавалі?

Ён паспрабаваў выкруціцца:

— Гэта-ж ня я будаваў. Майстры будавалі.

— Але-ж па вашым пляне?

Прахор троху памуліўся і злосна агрызнуўся:

— А ці мне ўжо, апошняму чалавеку, дык нічога і зрабіць па-людзку няможна?

Зелянюк яшчэ раз уважна азірнуў чорную Прахораву хату, і па сьпіне ў яго прабегла ледзяная дрыготка. Ён цяпер толькі ўгледзеў, што ў хаце дужа многа дзяцей, яле яны так замяшаліся ў агульным брудзе, што іх зусім ня відаць было, як тараканаў у чорных шчылінах сьцяны. Адно гарэлі жвавым агнём цікавыя палахлівыя вочы.

— Дзяцём тут нядобра, дзядзька Прахор. Дзяцём больш прасторы трэба, больш чыстаты...

Прахор дзіка зарагатаў:

— О-го-го!.. Аб гэтым жывы будуць, ліха ня возьме. Раздуры іх, дык яшчэ, чаго добрага, пазахочуць у ботах хадзіць!

З гэтых слоў павеяла на Зелянюка едкай задушлівай тхлінай сялянскае псыхікі, атручанае гангрэнознаю гнільлю старога ладу, і ў яго сьціснулася сэрца з жалю і агіды.

На запытаньне, ці пусьціць да сябе на кватэру, Прахор адказаў з сьцеражлівай стрыманасьцю:

— Чаму-ж не... Што мне, шкода, ці што?

Але зараз-жа дадаў, каб загладзіць сваю мімавольную стрыманасьць:

— Можа не ўпадабаецца вам? Ведама, мужыцкая хата. Трэба перш паглядзець, а тады ўжо—ці тое ці сёе.

Зелянюку здалося, нібы ў гэтых апошніх словах Прахоравых прагучэлі ноткі самадавольнай упэўненасьці, дзіўна не стасоўныя да яго характару. Гэта Зелянюка зацікавіла.

Тым часам Прахор запаліў большую лямпу і асьцярожна, з набожнай пашанай адчыніў дзьверы ў другую палавіну хаты.

— Ну, глядзіце сабе, як вам—упадабаецца, ці не ўпадабаецца.

Зелянюк пераступіў цераз парог і шырока расплюшчыў вочы ад зьдзіўленьня. Тут была абсолютна чыстая, старанна прыбраная сьвятліца—рэзкі контраст з чорнаю палавінаю хаты. Тут стаяла шафа, вялікі куфар, засланы белым абрусом стол і нават некалькі крэслаў. У кутку грамоздна асеў вялізарны нязграбны ложак з грудам падушак, пэўна нечапаны акурат з таго часу, як яго тут паставілі. Сьцены і падлога блішчэлі няўкорнай чыстатой, на вокнах віселі з выразанай паперы фіранкі.

Гэта было не багацьце, гэта было проста, як казаў сам Прахор, „па-людзку“. І ў гэты час ён сам з усёй сям'ёй, з усім нязьлічоным дзяцьвішчам туліўся ў бруднай яміне, разам з курмі, з парасятамі, без сьвятла, бяз вольнага паветра!

Што гэта: псыхоз, вар'яцтва, ці самая простая, самая звычайная „традыцыйная“ мужычая дурнота?

— Прахор бачыў ягонае зьдзіўленьне і, каб падмацаваць яго, гаварыў з фальшывай падлыжнай сьціпласьцю, хаваючы за ёй сваё здаволеньне:

— Ведама, мужыцкая хата. Вы там прывыклі іначай, па-гарадзкому...

Зелянюк сказаў, што хата яму цалкам падабаецца, і што ён пяройдзе ў яе. На гэтым і скончылі яны сваю гутарку.

Вышаўшы на вуліцу, Зелянюк вольна ўздыхнуў, нібы вырваўся з праклятае пасткі.

Тацяна троху насьмешліва запытала:

— Ну як?

Але ён не адказаў, бо ня чуў яе запытаньня—быў глыбока захоплены сваімі думкамі. Прайшоўшы так моўчкі крокаў з пятнаццаць, ён раптам суняўся, схапіў Тацяну за руку і, блізка нахіліўшыся да яе, загаварыў з гарачкавай парыўчатасьцю:

— Ну скажы ты мне, Тацяна, няўжо ты ня чуеш, не пачула тут, у гэтай яміне, што трэба перавярнуць гэта ўсё,ператрэсьці так, каб пад самае неба ўзьняліся хмары чорнага атрутнага пылу? Каб скаланулася ўсё да самага грунту, во!..

І ён, сударгава сьціснуўшы кулакі, выставіў іх наперад, нібы хацеў ужо зараз, доўга не чакаючы, скалануць гэтае „ўсё". Але ўраз стрымаў сябе і гаварыў далей больш спакойна:

— Тацяна, так-жа ня можа быць, разумееш ты гэта, ці не? Гэта-ж дзікі жах, гэта—абраза людзкасьці. Мы-ж трапілі былі з табой зараз—ведаеш куды?—у глыбіню цэлых стагодзьдзяў, у жудасную глуш сярэднявечча. Так-жа людзі жылі трыста год таму, калі ня больш...

Тацяна мякка перапыніла яго.

— Так жыве ў нас мо' больш, як палавіна гаспадароў... Але-ж ён сам ня хоча—мае гэткую добрую хату, а таўчэцца ў гразі...

Зелянюк зноў распаліўся.

— Дык-жа аб гэтым і справа, Тацяначка, што ня хоча! Ня ўмее хацець, адвучылі яго хацець... За тое-ж і ваюем мы, і б'ёмся за тое, каб ён захацеў лепшага жыцьця і пайшоў да яго. І дарогу яму паказваем, і вядзём яго...

— А ён упінаецца?

— Часам упінаецца, а часам трымаюць яго... А яшчэ трапляюцца і такія няўдалыя правадыры, што замест—паказаць дарогу, штурхаюць у каршэнь... Гэта нямінуча, Тацяна, без перашкод не абыйдземся. Бо ідзём-жа мы ўцэла, першы сьлед кладзём. Але дойдзем, усё роўна дойдзем! Сілы нам не пазычаць, і сілы, і энэргіі—гэтага хопіць! Праўда, Тацяна? Адно трэба ведаць цьвёрда, што дарогу ўзялі пэўную...

Тацяна з сьмяшлівым націскам пераказала яго калішнія словы:

— Нашто верыць, калі можна знаць...

Зелянюк гучна на ўсю вуліцу зарагатаў.

— Ах ты, шальмінка! Ты помніш? Дык-жа хай будзе так: і тое. і другое. Каб верыць—трэба знаць, а каб знаць—трэба верыць, Папраўдзе.. Гэта нібы як жарт, з тым часам у жыцьці скрозь так бывае...

Яны падыходзілі ўжо пад Тацяніну хату. Зелянюк узяў яе пад пашку і, пахіліўшыся да самага яе вуха з лёгкім сьмяшком запытаў:

— Дык ты помніш, Тацяна, той вечар?

— Чаму-ж ня помню... Добра помню...

І ў яе цягучым задумённым голасе Зелянюк пачуў ноткі незразумелага смутку.

— А помніш, як ты прасіла табе растлумачыць?

Яна можа і помніла добра, але хацелася ёй пачуць гэта з вуснаў Зелянюка, і таму яна запытала:

— Як?

— „Там гавораць усім, а ты так скажы, каб усё мне аднэй...“

Тацяна засьмяялася ціхім шчасьлівым сьмехам. Потым уздыхнула і прашаптала з балеснай, чыста жаночай турботай:

— Каб толькі ўсё на добрае пайшло...

І ў гэтых яе простых, нямудрых словах чуваць была поўная вера ў тое, пра што гаварыў ёй Зелянюк і за чым пайшла яна рашуча, беспаваротна.

На разьвітаньне ён так, як тады, у той вечар, цёпла, па-сяброўску абняў яе, і, як тады, яна з хвіліну стаяла на месцы і глядзела яму ўсьлед—зьбянтэжаная і радасная.

Як ужо ня чуваць стала яго размашыстых крокаў, Тацяна крыкнула ў цемру:

— Да Прахора ня пойдзеш?

І з цемры прыляцеў вясёлы ўпэўнены голас:

— Абавязкова пайду!

7 Галілей пяе. Дзіўна, нязвычайна пяе Галілей. Ён пяе зусім ня так, як пяюць за працай усе добрыя людзі: муркаюць сабе пад нос—нявыразна, лагодна, доўга. Галілей, калі раптам зьяўляецца ў яго патрэба запець, кідае сваю работу, становіцца нярухома і роўна, як на варце, лятуценна ўзіраецца ў якую-небудзь кропку і старанна выводзіць тоненькім птушыным галаском адзін—заўсёды толькі адзін куплет. Потым радасна страпянуўшыся, бярэцца з новай энэргіяй за працу.

Галілей пяе, як певень. І, як у пеўня, заўсёды адзін у яго музыкальны матыў—аднастайны і дзікі, мабыць, падобны да прымітыўнага сьпеву першабытнага чалавека. Затое словы заўсёды розныя. Словы ў Галілея свае—складныя і страшныя: іншакшых ён не пяе. Яны рэзка дысонуюць з ціхамірным слабенькім яго галаском і, мабыць, якраз гэтым сьмелым сваім дысонансам пацяшаюць Галілея, компэнсуючы заўсёдашнюю жыцьцёвую ціхасьць яго і палахлівасьць.

Галілей пяе надзвычайна рэдка, толькі ў хвіліны найясьнейшых вышуканьняў свайго дапытлівага розуму, у хвіліны, калі цалкам бывае сабою здаволены. У такія хвіліны Босы ўстрывожана вылазіць з свайго мэханізаванага логва, задуменна ўзіраецца ў гаспадара і з сумным зьдзіўленьнем слухае, як высьпеўвае той недарэчныя, нават для яго сабаччага вуха неабыклыя, словы.

...Мёртвых цел ляжаць пракосы,
Кроўю краскі зацьвілі...

Завыць Босы не ўпраўляецца, бо гаспадар заўсёды абмяжоўваецца адным кароткім куплетам.

Галілей пяе таму, што ніхто ня чуе яго: гэта ваяўнічы гымн яго творчае самоты. І каб ён раптам даведаўся, што хто-небудзь падслухаў яго, пэўна, зрабіў-бы, як у тысяча дзевяцьсот адзінаццатым годзе, мажджэру, набіў-бы яе поўную порахам і распарашыў-бы сябе на ўсе чатыры бакі, як калісьці свае два няшчасныя пальцы.

Не перажыў-бы стары гэткага сораму...

Галілей пяе цяпер таму, што робіць важную і цікавую рэч, якую трымае ў найвялікшай таямніцы, пра якую ня ведае ніводзін чалавек у сьвеце, нават Марына Паўлаўна. Каб які дапалдлівы выведнік і зазірнуў нават у яго мізэрную хацёнку, дык і то-б нічога ня ўцяміў. Адно-б зразумеў, што замысьлена тут нешта грандыёзнае, бо ўся хата старога майстра завалена была розным начыньнем і матар'яламі: тут было і дрэва, і гліна, і жалеза, і пясок, і салома—адным словам, усё, што толькі можна было знайсьці на ня лішне збытнай у натуральных багацьцях савецкай тэрыторыі.

„Цыркулярная" бяздымная печка стаяла занядбаная, загрузлая ў нетрах сумненьняў аб лёсе свайго жыцьця ці сьмерці.

Захоплены новаю працай Галілей праз цэлыя дні ня вылазіў з свае хацёнкі. Сваю ўбогую страву гатаваў ён на адумыславым апараце, які выяўляў з сябе надзвычай складаны мэханізм і мог апальвацца ўсімі гатункамі апалу, пачынаючы ад газы і канчаючы саломай. Процэс гатаваньня яды быў укладзены ў строгую сыстэму і па магчымасьці мэханізаваны. Так, напрыклад, у яго былі асобныя, досыць мудроныя прылады мыць крупы, лупіць бульбу, крышыць буракі ды інш. На дробныя паслугі—што-небудзь падаць, патрымаць, вынесьці сьмецьце на двор—ён карыстаў Босага. Босы наогул з усіх заняткаў гаспадаровых найбольш паважаў гатаваньне абеду і, ці толькі бразьне Галілей сваім дзіўным апаратам, спраўны кухцік ураз станавіўся на месца: з глыбока думнымвыразам морды сачыў ён за кожным рухам гаспадара і чакаў першага даручэньня, каб справіць яго з узорнай стараннасьцю і акуратнасьцю. Праўда, цяжка сказаць, што яго больш цікавіла: ці процэс гатаваньня яды, ці яго вынікі.

А былі такія выпадкі, калі Босы праз цэлы дзень ня чуў жаданага бразгату жыцьцядаўчай машыны, і тады ён з затуманенымі пакорным жалем вачмі доўга і ўпарта грыз сухую скарынку, пацяшаючы сябе тым, што і гаспадар дзеліць з ім яго няшчасную долю.

Часамі апаноўваў ўсё-ткі Галілея раптам магутны нястрымны пацяг да людзей. Тады ён кідаў работу, бег у аптэку і праз колькі хвілін вёў з аптэкарам Плаксам пасьпешную, надзвычай бязладную гутарку. З боку паглядзеўшы, можна было падумаць, што ў іх мова ідзе сама менш, дык пра цяжкую чыю хваробу, якая патрабуе найпільнейшае неадкладнае дапамогі. А папраўдзе

тэмы іхніх размоў былі абстрактныя і абсолютна няпільныя. Прыбяжыць уструшаны Галілей, насьпех прывітаецца ад парогу і—ня ўправіўся яшчэ дабегчы да Плаксавае катэдры—ужо з углыблёным заклапочаным выразам кідае свайму прыяцелю запытаньне:

— Ну вось.. ага... глядзець на прыроду... А што гэта, доктар, прырода?

Аптэкар Плакс ані ня дзівіцца Галілееваму раптоўнаму нападу. Спакойным, нават у значнай меры флегматычным тонам ён тлумачыць яму:

Прырода, гэта ўсё, што па-за чалавекам. Прырода, гэта—об'ект. Гэта—вялікая магутная стыхія, з якой вылузнулася паганенькая казяўка—чалавек, і ў якую яна хоця-ня-хоця вернецца.

Галілей гарачыцца.

— Ага... Значыць, трэба—як прырода? Значыць, трэ' як-ба, ваўкі, га?..

Плакс усьміхаецца глыбокадумна і пагардліва.

— Што там ваўкі? Ат. Галілей. Галілей... Няўжо ты—разумны чалавек—ня бачыш, што людзі ўсё-роўна жывуць ваўчынымі законамі? Яны толькі прыкідваюцца, што лепшыя ад ваўкоў. Яны хочуць пераступіць цераз прыроду, а яна трымае іх за полы...

Галілей задумляецца і па хвіліне запытвае троху палахлівым тонам:

— Ну, а тэхніка?..

— Ну, а ваўкі? Яны-ж таксама прымудраюцца неяк, каб латвей злавіць авечку? Ну, а ваўчыная тэхніка? Га? Што ты скажаш, Галілей?

Але на тэхніцы ўжо Галілей ня здасца. Ён цьвёрда верыць, што тэхніка зможа ўсё: і прыроду, і ваўкоў, і ваўчыныя законы. Праўда, ён ня ўмее давесьці гэтага, у яго слоў такіх выразных няма, і таму ён на Плаксавы блюзьнерскія выказы толькі сумна ўздыхае і з дакорам ківае сваёй барадзёнкай.

— Ня любіш ты, доктар, чалавека... Зусім ня любіш...

І так-жа раптоўна, як зьявіўся, кідае размову і зьнікае з аптэкі. Бяручыся зноў за перапыненую работу, ён увесь гарыць непакойным агнём энэргіі, ён захлынаецца проста ў прагным імкненьні давесьці неяк, паказаць увачавідкі, што Тэхніка зможа Прыроду.

Вечарамі Галілей ня робіць: ужо цеперся стаіць ціхае, як у вусе, надвор'е, і слаўны ветрачок яго ўпарта ня хоча даваць новых запасаў электрычнае энэргіі (Газы на асьвятленьне Галілей, з пашаны да тэхнікі, ня ўжывае прынцыпова).

Вечарамі Галілей адбывае свае звычайныя лятучыя рэйды. Паляжаўшы з якіх паўгадзіны на печы ці на сваіх мэханізаваных палацях і, мабыць, склаўшы за гэты час прыблізны плян чарговых налётаў, ён раптам, нібы сьпіхнуты якой нявіднай, але цалком бесцарамоннай рукой, скочваецца далоў і, гукнуўшы

перапалоханага Босага, бяжыць на мястэчка. Як лёгкі няпрыметны цень, зьяўляецца ён у розных канцох мястэчка (апошнім часам і Сівалапаў)—няпрошаны, нечаканы—муляецца нейкі час у парозе, тупае, кхэкае, зрэдку ўстаўляе якое дзіўнае, амаль нікому не зразумелае слова і пасьпешна, каб не спазьніцца, бяжыць у другое месца. Чаго ён шукае, чаго вынюхвае скрозь сваім дробненькім рухавым носікам, пра гэта ніхто ня ведае і гэтым ніхто ня цікавіцца. Сустракаюць яго бяз зьдзіўленьня і без асаблівае радасьці, але ўсюды ветла запрашаюць сесьці, добра ведаючы, што ён усёроўна ня сядзе.

Апрача гэткіх маланкавых налётаў, Галілей вечарамі наведваў сходы, да якіх у яго была прагная, амаль хваравітая цікавасьць. Яму ўсё-роўна было, які там сход, па якіх пытаньнях, хто зьбірае яго, каго на яго запрашаюць. Ён любіў усякі сход, любіў наогул, дзе многа людзей, бо ў людзкой масе ён умеў бачыць свайго ўлюбёнага „чалавека"—з яго сілай і слабасьцю, з яго добрымі і дрэннымі бакамі, і, самае галоўнае,—з яго своеасаблівай, як той Плакс кажа, „ваўчынай" жыцьцёвай тэхнікай. Седзячы дзе-небудзь у няпрыметным куточку, ён арудваў сваім чалавекам, як толькі хацеў, бо меў яго цалкам і поўнасьцю ў сваім распараджэньні. Ён разьбіраў яго да найменшага шрубчыка, разглядаў уважна, чым любаваўся здаволена, а чым засмучаўся, потым спрабаваў складваць яго на ўсе лады—па-новаму, па-свойму, і з творчай цікавасьцю глядзеў, што з гэтага выйдзе. Адылі ніколі нічога ў яго ня выходзіла путнага і ён, хоць і здаваў, але зусім слушна тлумачыў гэта бракам патрэбнага дасьвядчэньня і ня траціў надзіі, што некалі ён усё-ткі што-якое прымудрыць і ў гэтым кірунку.

Унадзіўся яшчэ стары Галілей хадзіць на бабскія сходы, ды й так, што—хай там хоць якая пільная справа—кіне ўсе, а сходу бабскага не праміне. За-звычай ён з усякае публікі быў там адзін хоць і стары, а ўсё-ткі мужчына, і вясёлыя бабы бязьлітасна скарыстоўвалі яго для сваіх, часам досыць фрывольных, жартаў. Ён не адбрэхваўся, не сьмяяўся, але й не сароміўся—глядзеў на іх з дзелавітаю строгасьцю, і некаторых, ня лішне сьмелых, гэтай строгасьцю нават адпужваў.

Сьмешны стары Галілей! Што яму трэба было на гэтых бабскіх сходах? Што ён меў там здабыць у тлумных бязладных крыках жанчын, асалапелых ад раптоўнага, яшчэ для самых іх няўцямнага, выйсьця ў грамадзкасьць, разьлютаваных позна ўсьвядомленымі нягодамі марна страчанага жыцьця?

Казаў аднойчы Галілей у інтымнай гутарцы сваёй з аптэкарам Плаксам:

— Калі хочаш ведаць, што думае мужчына, дык пагамані з бабай

Але наўдачу, каб кіраваўся ён гэтай, хоць і слушнай, але зьніяважлівай для жанчыны ісьцінай. Мабыць больш прыцягвала яго бабская грамада з боку загадкавае жыцьцёвае „тэхнікі", бо

убачыў ён тут нешта такое, што бяз меры зьдзівіла яго і да чаго доўгі час прызіраўся ён з падазронаю неймавернасьцю. Ён ўбачыў, што жанчыны ў справе перабудовы жыцьця, якая цеперся ўжо стукае ў глухія дзьверы абымшэлага сівецкага быту, куды перагналі мужчын—перш няўёмна злосным сваім абурэньнем, а тады й здаровай разважлівасьцю ды актыўнасьцю.

Сапраўды, невялічкі жаночы гурток, які з Зелянюковае прапозыцыі сяк-так зьбіла была Тацяна і ў які перш увайшлі былі адно „нікчэмныя" з пагляду пануючай сівецкай апініі жанчыны, з цягам часу акрыяў, разросься і ад пустога бабскага ляманту перайшоў да станоўчае сыстэматычнае працы. І ў той час, як большасьць сівецкіх гаспадароў з тупою ўпартасьцю чакалі праклямаванага кулацкай хэўрай „загаду", у жаночым гуртку абмяркоўваліся конкрэтныя пытаньні колгаснага будаўніцтва, і нават вяліся сякія-такія падрыхтоўкі па жаночай лініі да вясновых работ у колгасе, хоць колгасу самога яшчэ ня было.

Асяродкам усяго жаночага руху былі тры жанчыны, глыбока розныя адна ад аднае і дзівосна прыдатныя адна да аднае ў рабоце: Тацяна, Марына Паўлаўна і Вера Засуліч. Вясёлая, бязрупатная Тацяна была душой гуртка, яго настроем, яго эмоцыянальнай імкнёнасьцю, тым часам, як Марына Паўлаўна—ціхая, стрыманая—амаль неўзаметку і несьвядома праз нявідныя прахоны пералівала ў дружную бабскую грамаду свой здушаны гадамі чорнай самоты боль, паглыбляючы яшчэ няпэўнае рэчышча бабскіх імкненьняў. Шчырая, спраўная і палітычна чулая Вера Засуліч заўсёды ў пару і да рэчы давала трапныя палітычныя формулёўкі, якія акрэсьлівалі кірунак работы.

У прыватным жыцьці Тацяна з Марынай Паўлаўнай былыя неразлучныя сяброўкі, а з Верай Засуліч ня мелі нічога супольнага: Марына Паўлаўна праз доўгі час ненавідзела Веру, а Тацяна яе ня любіла.

Галілей бачыў, як з кожным днём аджывала Марына Паўлаўна, і гэта давала яму вялікую радасьць. Ён чуў, што не па доўгім часе—невядома, якім чынам, але мусіць разьвязацца яе цяжкая жыцьцёвая проблема, над якой і ён калісьці марна ламаў галаву.

Цяпер ён ня ўтыкаўся ў справу, а моўчкі прыглядаўся і чакаў.

Прачуваньне яго спраўдзілася. Яшчэ у той-дзень, як рабіў ён сваю дзівачную экспэдыцыю і, застраўшы ў Якуба Лакоты, нават спазьніўся на сход жаночага гуртка, чаго з ім ніколі яшчэ не траплялася, Марына Паўлаўна па канцы сходу падышла да яго і сказала:

— Заўтра, дзядзька Ахрэм, я пайду ад Карызны. Зусім ужо... Буду жыць адна... у Тацяны.

Голас у яе быў зусім спакойны, але ў вачох стаяла дзіўнае неўразуменьне, нібы яна сама яшчэ не магла даць веры таму, што гаворыць.

Галілей затупаў у радасным здаволеньні, але прыглядзеўся ў вочы ў яе, і сумеўся—разгублены шукаў, каб сказаць што, ды не знаходзіў.

— Кхе-кхе... ага... трэба памеркаваць... ага...

Яна ласкава ўсьміхнулася.

— Няма чаго ўжо меркаваць, дзядзька Ахрэм. Усё ўжо абдумана і перадумана. Прышло да канца—іначай няможна...

Яна заўважыла, што стары хоча запытаць нешта ды ня важыцца, і дагадалася.

— Ён ня ведае яшчэ нічога. Гэта я сама наважыла, ён мне ні слова пра гэта не гаварыў.

Галілей усё ня мог натрапіць на падходныя да гэтага моманту словы, і тады Марына Паўлаўна сама запытала яго:

— Ці добра я раблю, дзядзька Ахрэм? Вы-ж ведаеце ўсё, я-ж нікому апроч вас бадай і не гаварыла пра гэта пра наша...

Шчырыя чулыя ноткі ў яе голасе канчаткова зьбянтэжылі яго, і ён, замест—адказаць, не да рэчы запытаўся:

— А калі... ага... калі вы...

— Калі пайду? Заўтра ўраньні... Апошні раз выпраўлю яго на працу...

І Яна зноў вярнулася да свайго.

— Я ня ведаю... Здаецца, усё я абдумала, абмеркавала... Усё нібы паказвае на тое, што так трэба зрабіць... А можа не? Можа дрэнна так будзе?.. Я не пра сябе... Нават не пра яго... Я не ведаю, як будзе дачцэ...

Галілей нарэшце прывёў да ладу свае спалашоныя думкі і сказаў з рэдкаю для яго цьвёрдасьцю і катэгорычнасьцю:

— Так трэба... Так усім будзе лепей...

Марына Паўлаўна адразу павесялела і ўжо інакшым тонам, як звычайную цікавую навіну, паведаміла яму:

— Гэтымі днямі я гаварыла з ёй... Пра ўсё... Мне здалося, што яна добрая дзяўчына...

І толькі цяпер, у гэтай шчырай і цяжкой для яе хвале, вылілася ўся горкасьць, уся ахвярнасьць учынка Марыны Паўлаўны.

Галілей раптам страпянуўся і, узрушаны, загаварыў горача, амаль не пакрыўджана:

— Яна нядобрая... ага нядобрая яна...

Марына Паўлаўна зьдзіўлена паглядзела на яго.

— Чаму? дзядзька Ахрэм... Чаму вы так кажаце?..

Але стары толькі трос барадой у дзіўным, мабыць, зусім бяспрычынным абурэньні і не адказваў нічога. Марына Паўлаўна ўспомніла блізка, што гэткія самыя словы Тацяны, і зусім шчыра зьдзівілася: чаму яны абое ня любяць Веры Засуліч?

Праз усю тую ноч Босаму не давялося і вокам зьвесьці: не даваў спаць яго ўшчэнт рззматлашаны гаспадар. Усё нечага мітусіўся—то ўзьнімаецца на палацях, комчыцца там, пад стольлю, крэкчыць, варочаецца, то раптам таргане за вяровачку, спусьціцца долу, увамкне сьвятло (тады гарэла яшчэ электрычнасьць),

зачне бегаць, як шалёны, па хаце. Пасьля схопіць карандаш, піша нешта, рысуе, потым кіне — зноў бегае, зноў узьнімаецца пад столь, каб праз колькі хвілін спусьціцца назад. Босы пачынаў турбавацца. Праўда, яму не ўпяршыню было бачыць падобную мітусяніну гаспадара—пасьля яе звычайна ў яго сабаччым жыцьці наставалі цяжкія дні, у якія яму даводзілася карміцца сухой скарынкай. Але ніколі гаспадароў шал не дасягаў гэткіх страшэнных форм.

Босы меў рацыю. Але ён ня ведаў таго, што ў Галілеевым нутры, у якім звычайна магло мясьціцца толькі адно якое-небудзь захапленьне, у гэтую ноч білася два, як два крылы розных, ды роўна непакойных птушак: сёньня стары мудрагель даняў нарэшце даўно з упартай патугай шуканага „мудрага слова“ і сёньня-ж даведаўся ён пра разьвязаньне жыцьцёвае проблемы Марыны Паўлаўны, над якой пакутваў ён бадай ня менш за яе самае.

Назаўтрага, ці толькі Сымон Карызна вышаў з дзьвярэй свае кватэры, у іх ціхенька прасьлізнуў Галілей. З кухні ў пакоі дзьверы былі адчынены, і Галілей адразу ўбачыў Марыну Паўлаўну: яна па свойму аблюбёнаму звычаю стаяла, укленчыўшы, на канапе і глядзела ў абмерзлае непранікальнае для вока акно. На хаце ляжалі нарыхтаваныя клумкі.

Галілей асьцярожна кашлянуў, і Марына Паўлаўна, здрыгануўшыся, абярнулася да яго.

— А... гэта вы, дзядзька Ахрэм?.. Я ўжо й сабралася зусім, але вось нешта стала, задумалася.

Яна саскочыла з канапы і стала мітусіцца па хаце, зьбіраючы астатнія рэчы. Яна ўся была ва ўладзе тае трывожнае разгубленасьці, што бывае звычайна пры выезьдзе ў далёкую дарогу.

Раз-по-раз яна няўцямна спынялася перад якой-небудзь рэччу і беспарадна пытала ў Галілея, ці трэба яе браць, ці не. Галілей у адказ мармытаў нешта нявыразнае, і Марына Паўлаўна супакойвалася, упэўненая, што Галілей сапраўды разьвязаў яе неўразуменьне.

Напасьледак спынілася яна перад пісьмовым сталом Сымона Карызны, узяла з яго доччыну фотографію і доўга глядзела на яе, моцна сашчаміўшы дрыжачыя вусны. У вачох яе Галілей убачыў сьлёзы, і гэта ўвяло яго ў страшэннае замяшаньне: ён дужа баяўся людзкога плачу. Адылі Марына Паўлаўна не заплакала. Жаль яе зьмяніўся на турботнае ваганьне, ці пакінуць тут доччыну картку ці ўзяць з сабой. Яна некалькі разоў ставіла яе на стол, брала назад, зноў станавіла. Нарэшце запытала Галілея:

— Дзядзька Ахрэм! ці браць гэту картку? Мо' лепей пакінуць яму?

Галілей першы і адзінны раз адказаў цалкам выразна і з пераканаўньнем:

— Пакіньце... ага... пакіньце тут... хай ён глядзіць на яе...

І невядома, ці была ў гэтых апошніх Галілеевых словах злосная імсьцівая пагроза, ці спачуваньне да чалавека.

— Ну, здаецца ўсё...

І Марына Паўлаўна стала сярод хаты, недалужна раставіўшы рукі,—зморaная, бясьсільная, прыгбаная. Яна была ў гэтую хвіліну зусім старая, нібы адзін гэты дзень ўсклаў ёй на плечы лішні дзесятак гадоў. Яна так доўга стаяла—ня змога, відаць, была скрануцца, зрабіць першы крок за дзьверы старога, гадамі ўгрэтага гнязда. Нарэшце схілілася—паволі, бязуладна, як сомнамбулка, і ўзялася за першы, які трапіў пад руку, клумак.

— Ну, пойдзем, дзядзька Ахрэм?

Галілей падбег да яе і рашуча адабраў у яе клумак.

— Ды не, Марына Паўлаўна... Вы ідзеце... так... ага... Я ўсё перанясу сам... я сам...

Яна доўга няўцямна глядзела на яго, даходзячы нейкага асаблівага, важнага для яе сэнсу ягоных слоў. Раптам зразумела, і абвяла ўся, як падцятая.

Сорамна...

Яна цяпер толькі ўцяміла, што апроч усіх іншых прыкрасьцяй, злучаных з іхняй разлукай і добра абмеркаваных, прадуважаных ёю ў яе самотных думах, ёсьць яшчэ адна, можа, найбольшая прыкрасьць, якая чамусьці прайшла дасюль па-за межамі яе сьвядомасьці,—сорам. Хай сабе пусты, мяшчанскі, але яго ня мінуць. Праз доўгі час ён будзе валачыцца за ёй паскудным задрыпаным хвастом, зьвязваючы ёй вольныя рухі.

Яна ўявіла сабе: шырокая мястэчковая вуліца, уся адкрытая, жудасна адкрытая, уся апленeная цікавымі поглядамі людзей. І па гэтай вуліцы ідзе яна, Марына Паўлаўна, з убогімі клумкамі ў руках, ідзе ўпрочкі ад здрадніка мужа. Якая гэта радасная спажыва мястэчковым плеткаром і пляткаркам!

Марына Паўлаўна нэрвова здрыгаецца, нібы трапіла пад струмень сьцюдзёнае бруднае вады. Цягучая слабасьць працінае ўсё яе цела, і яна адыходзіцца ад клумкаў, сядае, зьнясіленая, на канапу. Устурбаваны Галілей назольліва лапоча ў яе над вухам:

— Вы ідзеце, Марына Паўлаўна, проста так... ага... Ідзеце сабе па вуліцы, не зважайце... А я ўсё перанясу... Я па загуменьню... ага... па загуменьню...

Марына Паўлаўна млява махае рукой.

Ідзеце, дзядзька Ахрэм, ідзеце... Я потым прыду...

Тады Галілей хапае клумкі і бяжыць наперад.

Тацяна ўжо чакае і, як увайшоў Галілей, адразу пытаецца:

— Ну, а дзе сама? Я ўжо ладзілася ісьці па яе, ды дасюль няўпраўка была...

Галілей сударгава хапае яе за руку, адводзіць у бок, хоць у хаце няма больш ніводнага чалавека, і шэпча:

— Ідзі, Тацяначка, ідзі... Сароміцца яна... ага... Ідзі скоранька... А я тут пабуду... ага...

Праз дзесяць хвілін шумна, шырока расчыняюцца дзьверы і Тацяна разам з двума клумкамі ўносіць у хату бліскучую трыумфальную ўсьмешку на сваім вечна-вясёлым твары.

— Ну вось, цяпер аж дзьве разводкі ў аднэй хаце.

Сьледам за ёй ціха ўваходзіць Марына Паўлаўна. Яна тож усьміхаецца—троху сарамліва, але заспакоена. Асьцярожна прычыніўшы за сабой дзьверы, яна з цікавасьцю азіраецца наўкола, нібы першы раз ступіла ў гэтую хату. Потым падыходзіць да лаўкі і сядае, не распранаючыся, і ўсё ўсьміхаецца сваёй сарамлівай сьветлай усьмешкай, усьмешкай чалавека, які па доўгай цяглай хваробе вышаў нарэшце на сьвет і бачыць новых—хоць і прыязных, але чужых яму людзей.

Тацяна ўпэўненымі гаспадарчымі рухамі ўпарадкавала небагатыя клумкі Марыны Паўлаўны і ўзялася за яе самую.

— Або ...ці-ж гэта ты ў госьці прышла, ці што? Ты-ж цяпер у сваёй хаце, поўная гаспадыня ...Тут ужо малімоніцца няма чаго, гэта табе не з мужыком...

І, амаль ня гвалтам распранаючы Марыну Паўлаўну, апавядала Галілею вольным бесцарамонным тонам, які троху датыкаў Марыне Паўлаўне, але разам з тым і ўводзіў яе у душэўную роўнавагу.

Прыходжу, а яна сядзіць, асалавеўшы, як няжывая ўсё-роўна. Дык я як узяла яе на рэмус, як узяла. Якая-ж ты к ліхой долі разводка, калі ты нос у гару не задзіраеш! Наша справа такая— плюём на ўсіх, на ўсякія там плёткі-шмоткі, ды жывём, як самі захочам. Ого, каб гэта я ды нейкі там сорам замела? Гэта—мой гонар, што я не захацела, як каторыя іншыя, век гараваць, ды дала сама сабе рады. А то—сядзіць...

Марына Паўлаўна заўважыла ў кутку хаты нарыхтаваны шчырай Тацянінай рукой невялічкі, але чысты прытулак і зразумела адразу, што гэта для яе, але разглядала яго з лёгкай цікавасьцю староньняга чалавека, нібы проста глядзела на якую нялішне мудроную забаўку. Тацяна заўважыла яе погляд і засаромілася.

— Гэта пакуль што, Марынка. Мы потым інача̂й зробім, мы цэлы пакой табе абсталюем тут. Вось і дзядзька Ахрэм нам паможа, ён-жа ў нас майстра знатны, хоць што прымудрыць.

Галілей радасна страпянуўся.

. Ага... Трэба памеркаваць... Мы зробім... Можна нават электрычнасьць... ага ветрачок...

Гэтыя галілеевы словы вырвалі Марыну Паўлаўну з яе млявае ацяжарнасьці. Яна засьмяялася.

— Кіньце вы, дзядзька Ахрэм. Якая вам тут электрычнасьць!

Потым цяжка ўстала з месца, перайшла цераз хату ў нарыхтаваны для яе куточак і—зьнямožаная—села на ложак. Адылі змора і душэўная напружанасьць узялі сваё—яна раптам уткнулася тварам у падушку і плечы яе сударгава затрэсьліся ад нястрыманага плачу.

Зьбянтэжаны Галілей тупаў каля Тацяны, сморгаў яе чамусьці за локаць і ўгаварваў:

— Гэта, Тацяначка, добрыя сьлёзы... ага... Хай плача, Тацяначка, хай плача... гэта добра...

Тацяна тым часам паказвала яму на мігі, каб ён пайшоў, кінуў іх адных, і ён, зразумеўшы нарэшце, аб чым тут клопат, кумільгам паляцеў да дзьвярэй і выбег з хаты з такой пасьпешнасьцю, нібы кожная сэкунда ягонае прысутнасьці тут магла выклікаць страшэнную катастрофу.

## 8

Аптэкар Плакс яшчэ так гаварыў пра людзей:—чалавек—што гузік. Ён тады толькі добра сябе адчувае, калі да чаго-небудзь прышыты. Гэта мудрае азначэньне савецкага філёзофа-мізантропа бадай спраўдзілася было на Марыне Паўлаўне. Адарваная ад старое, утульнае, але скрозь прадзіраўленае ўжо лахманіны сямейнага шчасьця, яна пэўна-б змарнела да шчэнту ў сваёй бязьдзейнай і бясплоднай адзіноце, каб ня „прышылася“ да новае—крэпкае, зларовае справы.

У сапраўдным жыцьці, а злашча ў романах мы бачым безьліч выпадкаў, калі чалавек пад уплывам сваіх асабістых перажываньняў з рэдкаю самаадданасьцю ўдаецца ў агульныя інтарэсы грамадзтва, ці, праўдзівей, пэўнае яго часткі, і ў змаганьні за іх робіць нават ці мала геройскіх учынкаў. Гэта бадай абярнулася ўжо ў стары зашмальцаваны трафарэт. Але, мне здаецца, ані ня страцілі і ніколі ня страцяць сваё глыбокае цікавасьці тыя таемныя, кожны раз новыя, сваясаблівыя шляхі, па якіх ідзе чалавек ад вузка-асабістых сваіх разломаў да поўнага расчыненьня сябе ў колектыве.

Марына Паўлаўна, поўная рэч, ніякіх геройскіх учынкаў не рабіла—яна выконвала маленькую нязначную ролю стараннае карпатлівае мурашкі, якая праз усё жыцьцё сваё можа тым толькі і пакажа сябе, што прыцягне ў мурашнік мізэрную жменьку ігліцы. Але гэту сваю мурашкавую працу рабіла Марына Паўлаўна з бясспрэчнаю самаадданасьцю і ўвайшла ў яе менавіта праз доўгія цяжкія свае цярпеньні.

Марына Паўлаўна пайшла ў грамаду ад свае самоты: у тлумным бабскім гармідары яна прагла разьвеяць здушаную атмосфэру сваіх перажываньняў. І калі яна сапраўды знайшла сабе там нейкае, хоць і з пачатку і слабенькае зусім спацяшэньне, яна палюбіла гэты гармідар, прывязалася да яго, пачала жыцьць яго агульнымі інтарэсамі, што ўжо памалу ляпіліся з прынесеных кожнай дробных цаглінак спрадвечнае бабскае крыўды. Што далей, то ўсё глыбей урастала яна ў свой новы колектыў, бо ўсё больш залежнай ад яго рабілася яе душэўная роўнавага, і, нарэшце, перарваўшы апошнія спарахнелыя ніткі шлюбнае сувязі, цалком перанесла ў колектыў і сваё шчасьце і свае клопаты. Перш гэта, вядомая рэч, была проста дружба пакрыўджаных доляй жанчын, зьвязаных амаль аднакавымі жыцьцёвымі

сытуацыямі, але адсюль ужо быў адзін крок да ўшчапленьня ва ўсю сыстэму новай грамадзкасьці, у якой—гэта выяўна чула Марына Паўлаўна—была нейкае, яшчэ няясная ёй, але спадзейная гарантыя ўсіхняга шчасьця.

Справу колектывізацыі Марына Паўлаўна прыняла была, як нешта законнае, патрэбнае, немінучае, яшчэ тады, як жыла ў Карызны. У гэтым, мабыць у астатні раз, выявілася была яе пакорная безапэляцыйная даверлівасьць да мужа, яе поўная адданасьць жыцьцёвым мужавым інтарэсам. Бо яна-ж прыняла так было калектывізацыю не таму, што ўвайшла ў яе глыбокую сутнасьць, а выключна таму, што гэтым жыў яе муж, што так глядзеў ён на гэта. І толькі тады, як насьмелілася, як ступіць самастойным крокам ў жыцьцёвую цаліну, калі палахліва, вагаючыся—збочыла нарэшце з жыцьцёвае пуціны Сымона Карызну, тады пачала яна напаўняць жывым цялесным зьместам узятую ад мужа гатовую формулу. І ў гэтую формулу ўлілось тады ўсё пражытае ёй, перадуманае, перацерпленае, насыціла яе жывою гарачаю кроўю.

У Марыны Паўлаўны вырасла такім чынам цьвёрдая непарушаная ўпэўненасьць, што тая цудоўная вялікая зьмена жыцьця, якую нясе колектывізацыя, зьменіць на лепшае і няшчасную жаночую долю.

Жыцьцё навучыла яе быць напружана пільнай і чулай—яна з дзіўнай празірлівасьцю адгадвала ў сваіх таварышак самы трагічны, самы таемны боль, пяшчотна, але рашуча даставала яго напаверх і праз гэты боль давала пачуць гаючае сьвятло новае будучыні.

Гэта была найлепшая, найглыбейшая прапаганда.

Так працавалі яны плячо ў плячо з разводкай Тацянай—тая вясёлым жартам, сьмелым бадзёрым настроем, а Марына Паўлаўна пяшчотным дотыкам да балючых незагоеных ран—і памалу, але станоўча зьбівалі навокал сябе дружны жаночы актыў, насычаны троху бязладнай яшчэ, але дзейнай энэргіяй. Ім памагала нязьменна шчырая, спраўная і старанная Вера Засуліч, а таксама ня спускаў іх ніколі з вока і Зелянюк, заўсёды гатовы даць патрэбную дапамогу.

За якіх колькі дзён па асяленьні Марыны Паўлаўны ў Тацянінай хаце ад яе смутнага няпэўнага настрою не засталося і сьледу.

Скрозь акружаная ветлай увагай усіх, хто блізка стыкаўся з ёй цяпер у жыцьці, яна адразу асвойталася з сваім новым станам, а бязупынная беганіна, вечныя клопаты па бабскіх справах ня давалі часу на доўгія развагі ці ўспаміны. І самае галоўнае—навучылася Марына Паўлаўна ад Тацяны адчуваць сьмелы гонар свайго незалежнага стану, і на ўсе залішне цікавыя погляды, усьмешкі, на ўсе паскудныя шэпты і плёткі яна вышэй падымала галаву і праходзіла паўз іх з пагардлівай бязуважнасьцю.

Так увайшла Марына Паўлаўна ў новае жыцьцё, у праўдзівае жыцьцё, пра якое даўно ўжо развучылася была і лятуцець.

Калі цяпер часам сярод работы траплялася ёй скінуць вокам ні апошнія дні свайго замужжа, усе гэтыя цяжкія нешчасьлівыя дні выдаваліся ёй адным чорным правалалам, з якога патыхаў жорстка ледзяны холад, абдаючы сэрца прыкраю зольлю. І толькі чамусьці з усіх гэтых, зьлітых у чорнае, дзён пачварна-яскравымі фантастычнымі фарбамі вылучаўся вечар, калі яна ў пяршыню гутарыла з Верай Засуліч, і страшныя, нясьцерпна пакутныя гадзіны пасьля тае гутаркі, якія прывялі яе да апошняе рашучае пастановы.

Яна вышла тады ад Веры Засуліч трагічна-прыміраная і амаль спакойная—бясьцветным спакоем чалавека, у якога раптам адкрылася ў нутры сухая нярухомая пустата,

Яшчэ ня вышаўшы са двара, яна сустрэла Сымона Карызну. Ён ішоў туды, да Веры—ішоў шпаркай, пасьпешнай хадою, нецярплівага палюбоўніка. Яны стыкнуліся твар ў твар, і Карызна спыніўся ў чыста інстыктыўным замяшаньні. Можа ў першую хвіліну, глыбока захоплены сваімі адчуваньнямі, ён нават і неўсьвядоміў быў добра, хто гэта зьявіўся перад ім, бо з момант глядзеў на Марыну Паўлаўну зьдзіўлена і няўцямна.

Стала і Марына Паўлаўна. Сэрца ў яе зайшлося пякучым болем. Нібы ўся тая бясьцветная пустата, якую вынесла яна ад Веры Засуліч, і якая падманьвала ілюзіяй жаданага спакою, толькі на тое была і адкрылася у ёй, каб даць больш месца бурнай навале цяжкіх пачуцьцяў, што апанавалі яе пры раптоўнай сустрэчы з мужам.

Дзіўная рэч! Штодня ішоў ён ад яе да Веры, штодня варачаўся назад позна ўначы—яна добра ведала, куды ён ідзе і адкуль прыходзіць—і ніколі не рабіла гэта на яе такога страшнага ўражаньня, як цяпер. Быў адзін момант, калі яна хацела кінуцца да яго, схапіць яго, павіснуць у яго на шыі і ня пускаць, ні за што ня пускаць да яе. Яна ледзьве стрымалася, каб ня крыкнуць яму ў дзікай роспачы:

— Ня ідзі... Вярніся... Ня ідзі хоць сягоньня... адзін толькі раз...

Але акурат у гэты момант ён азваўся спакойным, абыдзенным і да жудасьці чужым голасам:

— Ты ў школе была? Там які сход быў, ці што?

І яна ня толькі ня крыкнула яму сваіх, поўных адчайнага маленьня слоў, а не сабрала нават сілы, каб адказаць на яго простае запытаньне.

Тады ён моўчкі абмінуў яе і пайшоў сваёй дарогай. Яна праводзіла яго тупым адзервянелым поглядам і ціха, пахіліўшы галаву, вышла на вуліцу.

Прышоўшы да хаты, яна доўга і марна шукала сярнічак, каб запаліць сьвятло, шукала ня там, дзе яны зазвычай ляжаць, і што хвіліны забывалася зусім, чаго ёй уласна трэба. Калі-ж сярнічкі самі трапілі ёй пад руку, яна ўзяла іх і доўга бяз сэнсу бразгала імі, пакуль іхні гук, дайшоўшы нарэшце да сьвядомасьці, ня ўзбудзіў у ёй цьмянага разуменьня, што цяпер трэба

запаліць лямпу. Тады, узяўшы лямпу, з мэтодычнай павольнасьцю чысьціла шкло, папраўляла кнот і, запаліўшы бясконца ўкручвала і падкручвала, рэгулюючы агонь. Потым пайшла да канапы і ўкленчыла на ёй перад цёмным, шчытна прасланёным да ночы акном.

За акном тузаўся бяздомны вецер і ў злоснай забаве разгоўтваў пустую клетку: клетка сіратліва цыгала нейкай невядомай зімовай птушкай, выліваючы ў сваю дзіўную песьню ўсю чорную бяспрытульнасьць сьцюдзёнай начы.

Марыне Паўлаўне здавалася, што гэта цыгае яе азьнібелае сэрца і што сама яна, падхопленая бяздомным ветрам, круціцца недзе ў сьнегавой завірусе, як сьцятая з дрэва галінка, адна у пустым бяскрайным полі. Яна напружвала свой нутраны зрок, каб хаця ўявіць сабе знаёмыя абрысы блізкіх людзей, каб зьмякчыць нязноснае адчуваньне сваёй глыбокай пакінутасьці. Хто ў яе цяпер блізкія людзі? Хто паспагадае ёй у яе няшчасьці?

Блізкія людзі мітусяцца здалёку няпэўнымі віхлястымі плямамі—яны таксама нібы круцяцца ў сьнегавой завірусе і, што больш яна хоча паблізіць іх да сябе, прыгледзецца да іхных твараў, каб пазнаць на іх цёплае сабе спачуваньне, то ўсё далей адлятаюць яны, затуляючыся туманным радном завірухі.

Трасецца недзе далёка-далёка Галілеева разматлашаная барадзёнка—нібы заўзята скача ён дзівосны танец і, захоплены ім, не зьвяртае ўвагі ні на завіруху, ні на адзінотную, пакінутую ўсімі Марыну Паўлаўну.

Выглядае бокам, аднэй палавінай, як месяц з-за хмар, усьмешлівы твар Тацяны—таксама далёка, унікліва, і толькі ўдаецца згледзець Марыне Паўлаўне, што ўсьмешка ў яе халодная і бязуважная, нібы застылая на марозе.

Нават дачка—родная дарагая дачушка!—і яна мігціць толькі здалёку—маленькая зусім, як гадоў дзесяць таму, недалужная і так няпрыемна надобная да іншых дзяцей, нібы падмененая. Беднае, пакрыўджанае дзіця!..

Выблісквае раптам у нечаканай яснасьці прыгожы твар з чыстымі, поўнымі сьлёз, вачмі. Марына Паўлаўна напружана, жорстка ўзіраецца ў яго, і з злосным здаволеньнем бачыць, што сьлёз няма ўжо, яны сьцяклі з вачэй бруднымі ручаямі, і забруджаны імі твар хваравіта крывіцца, робіцца няпрыгожы, агідны.

О, як ненавідзе яна гэтую мілую шчырую дзяўчыну, якую цяпер, вось у гэту хвіліну, мабыць, цалуе Карызна, захоплены яе сьветлым хараством і анёльскай бязьвіннасьцю!

Скаланутая бурным прылівам нянавісьці Марына Паўлаўна варочаецца да прытомнасьці і, усьвядоміўшы праўдзівы агідны сэнс свайго новага пачуцьця, з усіх сіл стараецца здушыць яго ў сабе.

— Гэта—зайздрасьць. Паскудная, дзікая зайздрасьць. Яна-ж добрая, яна не вінавата...

Але гэтыя ўгаворы падліваюць масла ў агонь—нянавісьць разгараецца, ахапляе ўсю істоту, затуляе вочы чорным сьляпучым дымам, у якім пачварна крывіцца, скача ненавісны твар, даючы хваравітую асалоду сваімі агіднымі мардаваньнямі.

— Гэта—зайздрасьць. Сорамна... Дзіка... Паганае, брыдкае пачуцьцё...

Нянавісьць расьце, шырэе, запаўняе ўсё нутро, выліваецца праз берагі і залівае пакой, усё, усё-чыста, увесь сьвет. Побач з расшкуматаным вобразам Веры курчыцца ў недалужных грымасах твар Сымона Карызны—яна ненавідзе яго ня менш, як яе—здрадніка, ашуканца, згубніка—яна іх абаіх рада-б зьвесьці са сьвету.

Марына Паўлаўна, апанаваная непераможным пачуцьцем, зрываецца з канапы і пачынае гарачкава кідацца па пакою, не знаходзячы сабе месца. У яе зьяўляецца цёмная, нявыразная, але страшэнна настойная думка пра помсту. Гэтая думка краем чапляецца за другую—за думку пра самагубства, пра традыцыйную помсту пакінутае жанчыны.

— Атруціць ім жыцьцё... Запляміць давеку іхняе зьвярынае сумленьне.

І яна ўжо азіраецца па хаце, шукаючы якога спосабу, каб зараз-жа спраўдзіць свой вар'яцкі замер, кідаецца да стала, дзе часам ляжыць Карызнаў рэвольвар, і, натрапіўшы на фотографію дачкі, валіцца перад ёй на калені і агалашае пакой голасным прарэзьлівым плачам.

Гэта быў у Марыны Паўлаўны першы выбух сапраўднае жаночае зайздрасьці, які даў ёй больш душэўнае мукі, чымся ўсе яе доўгія ціхія цярпеньні.

Гэта быў і апошні выбух.

І зноў—цягучая слабасьць, шчымлівая журба, непазбыўная крыўда пакінутае ў жорсткай самоце істоты.

Хоць бы адзін чалавек! Хоць-бы сказаць каму некалькі слоў, усяго некалькі слоў! Так-жа хочацца выліць каму-небудзь свой нязносны боль, паказаць яго каму-небудзь!

Яна сядае за стол, нэрвова хапае кавалак паперы, асадку і пасьпешна, хапаючыся, піша ліст.

Дарагая мая дачушка!

Я маўчала дасюль, не казала табе ні слова, бо не хацела цябе турбаваць, баялася, каб не зрабіць табе няпрыемнасьці. Але далей не магу цярпець, няма маіх сіл. Дачушка мая, дзіцятачка маё роднае! Нікога няма ў мяне, апроч цябе, нікогачка, ніводнага чалавека. Няма з кім падзяліцца горам сваім, сваім няшчасьцем. Дык ведай, родная, што няма ў нас бацькі, здрадзіў ён нам, кінуў нас, знайшоў сабе другую сям'ю. Я ужо пайду ад яго, бо ня змога мая больш так цягнуць. Я ўсё думала, што можа пройдзе гэта, мінецца, усё спадзявалася на лепшае. Аж не, ня тое гэта, што я

думала. Бачыла я яе самую і гаварыла з ёй—ведаю, што не на жарт у іх завязалася. Дык чаго-ж я буду мучыць сябе і ім сьвет завязваць? Хай жывуць, хай пацяшаюцца. А я знайду сабе нейкае месца. Каб ня ты, маё дзетухна, дык-бы дала сабе рады іначай, але ня хочу кідаць цябе сіратою. Бацькі няма, дык няхай будзе хоць матка – хай сабе й дрэнная, але ўсёж матка. Дачушка мая родная, сонейка маё яснае! Ня злуйся ты на мяне, не праклінай сваю няшчасную матку за тое, што яна гэтак робіць, бо, каб сама ты бачыла, зразумела-б, што іначай ня можна. Я вось сяджу цяпер адна сярод начы, а ён там у яе, і няма ведама, калі адтуль прыдзе. І так кожны дзень, кожную ноч. Ужо цеперся, як ня скажа мне добрага слова, не паглядзіць ласкава на мяне. Дык хай ужо будзе, што будзе, а далей так жыць—толькі мучыць і яго і сябе. Пайду, паспрабую жыць адна. Дык даруй мне, дзіцятачка, і ня злуйся на мяне...“

На гэтым месцы Марына Паўлаўна сунялася і доўга думала аб нечым, а тады глыбока ўздыхнула і, узяўшы зноў пяро, прыпісала:

„...І на аго, дачушка, ня злуйся. Ці-ж гэта ён робіць з добрае волі? Азяліўся на старасьці, хапіла за сэрца І на яе таксама ня злуйся. Гэта—Вера Засуліч, наша настаўніца. Яна казала, што ведае цябе, што вы ўлетку хадзілі разам у лес, і дужа цябе хваліла. Дык бывай, мая родная, і яшчэ раз даруй сваёй няшчаснай матцы“.

Скончыўшы ліст, Марына Паўлаўна ўздыхнула ужо зусім заспакоена, і патрымаўшы ліст у руцэ, уважна разглядзеўшы яго з усіх бакоў, яна падышла да камоды, дастала адтуль чарапашкавую шкатулачку, у якой складзены былі розныя яе—патрэбныя і непатрэбныя—паперкі, і акуратненька склаўшы напісаны ліст, паклала яго ў шчукатулачку, бо добра ведала, што паслаць яго ў яе ўсё-ткі ня хопіць сілы.

Потым ціха, спакойна хадзіла па хаце, і як даўней, з лёгкай турботнасьцю чакала Карызну, нібы не пайшоў ён да свае каханкі, а забавіўся недзе на працы. Перайшла ў спальню, пачала рыхтаваць пасьцелю. Карызну слала пасьцель доўга, старанна і панура, як нябожчыку.

У тую ноч Карызна зусім ня прышоў быў да хаты, і гэта была аношняя кропка ў канчатковай пастанове Марыны Паўлаўны.

...Кінуўшы мужа, Марына Паўлаўна як мага старалася ўнікаць з ім сустрэчы—яна чамусьці баялася з ім сустракацца. Але варункі жыцьця і працы прымушалі іх часам зыходзіцца ў адным месцы—тады яны сьцеражліва пазіралі адзін на аднаго і абое, нібы з маўклівае змовы, стараліся трымацца на магчыма дальшай адлегласьці. Марыну Паўлаўну троху пацяшала гэта і нават разьвейвала рэшту яе смутных думак. Яна навучылася глядзець

на Карызну, як здаўна, ад дзявоцкіх дзён, не глядзела—збоку, чужымі вачмі, а часам, седзячы дзе на сходзе і цішком пазіраючы на яго, рабіла нават сабе сьмешнае дзівачнае запытаньне: ці падабаецца ён ёй, як мужчына? Адылі на гэтае запытаньне пэўнага адказу не знаходзілася.

У Марыны Паўлаўны асталіся былі грошы, якія даў ён на розныя гаспадарчыя патрэбы. У той-жа дзень, як перайшла да Тацяны, яна паслала іх яму. Ён грошы зараз-жа прыслаў назад і пры іх лякорічную пісульку.

„Калі ласка, Марына, ня крыўдзі мяне“.

Прачытаўшы пісульку, Марына Паўлаўна ўсьміхнулася прыблізна так, як усьміхалася, калі яшчэ дзяўчынаю атрымлівала яго сьмешныя мілосныя запіскі. Грошы яна падзяліла на дзьве роўныя часткі і адну пакінула сабе, а другую паслала дачцэ.

9 Бадай кожны дзень прыносіў Сымону Карызну ўсё новыя ды новыя прыкрасьці. Вязьмо заціскалася. Разлука з Марынай Паўлаўнай дала зусім неспадзяваныя вынікі; уся сівецкая грамадзкасьць сурова асудзіла яго, і, самае галоўнае, гэта сваё аднадушнае асуджэньне перанесла на усё яго жыцьцё, на ўсю яго працу, што глыбока адбылася на ягоным аўторытэце сярод насельніцтва. Ён адчўваў гэта на кожным кроку—гэта відаць было і ў недаверліва-настарожанай маўклівасьці сходаў пад час яго выступленьняў, і ў нахабным бляску вачэй, і ў няўлоўных гіранічна-зларадасных усьмешках, якія ён адгадваў у сабе за сьпіной. Ён перш сьмяяўся з гэтага заядлага наступу мяшчанскей маралі, потым ён стаў яму дадзяваць і, нарэшце, даводзіць да шалёнае злосьці.

Найгорш было тое, што гэты чыста асабісты, аднаго яго датычны факт адразу запісалі ў свой актыў варожыя элемэнты мэстэчка.

— Во, бачыце, як яны робяць?

І пад сьцягам фальшывага езуіцкага спачуваньня Марыне Паўлаўне яны спрытна мобілізоўвалі новых абаронцаў старых „чэсных“ звычаяў, асабліва сярод жаночае часткі жыхарства.

Карызна ведаў гэта, і яшчэ люцейшаю працінаўся злосьцю. Гэтая злосьць усё больш і больш брала агульны беспрадметны характар і адзначалася на ўсёй яго працы, накладаючы на яе пячатку хваравітай нэрвовасьці.

І ў гэту пару прышоў нарэшце ліст ад бацькоў, якога чакаў Карызна з таемным, старанна хаваным нават ад самога сябе, страхам. Толькі цяпер, атрымаўшы ліст, ён цалком здаў сабе справу з таго, як цяжка давіў яго гэты нямінучы, што хвіліны чаканы ліст, якую меў ён над ім нявідную бязьлітасна-жорсткую ўладу.

У лісьце пісалі бацькі, што іх раскулачылі, што адабралі усё чыста, не пакінуўшы нават з чаго жыць, і асьцярожна, нясьмела прасілі, каб прыслаў грошай.

Сымон Карызна, як і тады, падраў ліст на дробныя кавалачкі і як тады, перажыў у самоце, жудасныя хвіліны балючага мятушэньня. Зьвярыны страх мяшаўся з шчымлівым жалем да бацькоў, з прагным жаданьнем дапамагчы ім, вызваліць іх з бяды. Ён цяпер яшчэ больш, як тады, адчуваў сваю поўную віну ў іхных жыцьцёвых пертрусках і гэтае адчуваньне віны даводзіла яго да страшэнных згрызот, да душэўнага самакатаваньня.

Пытаньне аб дапамозе бацьком агарнула яго трывожным неўразуменьнем

Ці мае права ён дапамагчы ім цяпер, калі яны, фактычна, дзякуючы яму, апынуліся ў такім беспарадным стане? Мо гэта будзе зварот да старых грахоў, працяг ранейшае лініі? Мо, гэта будзе новая сувязь з тэй клясай, супроць якой змагаецца яго партыя, якую яна ліквідуе?

Пэўна, што так. Гэта будзе—здрада, ня йначай.

Але як-жа яно выходзіць? Ён даваў ім грошы, ён даваў ім парады, ён штурхнуў іх на гэты паскудны шлях кулацкага абжываньня, а цяпер, ратуючы сваю скуру, адвернецца ад іх, кіне іх—старых, нядужых—на волю невядомага лёсу? А ці-ж гэта таксама ня будзе подлая агідная здрада?..

Як пагадзіць гэтую дзікую супярэчнасьць? Няўжо яму няма ўжо выйсьця? Няўжо яму астаецца адно—ісьці далей па лініі бруднага ашуканства, падменьваць партыю, хаваць ад яе свае новыя злачынствы, як хаваў дасюль старыя грахі?

Ці можа лепей ашукаць бацькоў? Можна, напрыклад, ім напісаць, што яго пасылаюць на працу куды-небудзь у іншы раён Савецкага саюзу, што ён ня ведае яшчэ свайго новага адрасу і г. д. Абы пазбавіцца ад страшных гэтых лістоў, якія, бязумоўна, будуць і далей сыпацца на яго раптоўнымі ўдарамі, трымаючы яго скрозь пад лютай няўхільнай пагрозай. А хоць напісаць, што „я з вамі, кулакамі, ня маю нічога супольнага, ня лічыце мяне больш за сына так сама, як я ня лічу вас за бацькоў“...

Карызна здрыгаецца ад аднае думкі пра гэта.

Не, ён яшчэ не дайшоў да гэтага, у яго ня хопіць адвагі на такую подласьць, бо на подласьць, як і на геройства, трэба таксама адвага...

Так і не знайшоў быў Сымон Карызна ніякага выйсьця з цяжкого свайго неўразуменьня, адно заблытаўся яшчэ больш у чорнай немарачы глухіх супярэчнасьцяй.

З гэткім настроем прыждаў Карызна таго „гістарычнага“ ў Савецкім маштабе партыйнага сходу, на якім абмяркоўвалася пытаньне іхнае спрэчкі з Зелянюком.

Карызна скрозь удаваў, што ён не надае асаблівае значнасьці гэтаму пытаньню, нават не дазволіў склікаць дзеля яго спэцыяльнага пазачарговага сходу ячэйкі, і такім чынам ад іхнае гутаркі з Зелянюком да партыйнага сходу прайшло блізка тыдню. Праз гэты тыдзень ён, сам таго не ўсьведамляючы,

зьбіраў ў сабе ўсю сваю злосьць, усе свае прыкрасьці, чым-бы яны ні выклікаліся—стаўпляў іх у нутры, каб потым пераліць усё гэта—мо' несьвядома мо' супроць волі—у варожае пачуцьцё, да аднаго чалавека.

У практыцы партыйнае работы ў Сіўцы ня было яшчэ выпадку, каб сход ячэйкі сабраў быў навокал сябе такую пільную напружаную ўвагу ўсяго жыхарства. Гэтага сходу чакалі ўсе: і партыйныя і беспартыйныя, і прыяцелі партыі, і ворагі, і сур'ёзныя людзі, і скалазубы. Адны чакалі з шчырай турботай аб справе, другія—з пустым мяшчанскім цікаўствам, трэція—з варожай зларадасьцю. За выключэньнем апошніх, якіх больш радаваў самы факт спрэчкі сярод комуністаў, чымся яго вынікі, усе іншыя спачувалі Зелянюку, цягнулі яго руку, хоць часам і ня ведалі самае сутнасьці справы. Гэта была дэманстрацыя таго нездаволеньня, якое паволі але неадступна ўзьнімалася супроць Сымона Карызны.

Ён сам ведаў пра гэта і, сьціскаючы кулакі, пагражаў:

— Чакайце, даражэнькія. Яшчэ пабачым, хто чаго варты!

Напярэдадні сходу да Карызны прыходзіў Якуб Лакота. Ён доўга гаварыў сваім ціхім разьбітым голасам, тлумачыў, чаму яны наважылі зрабіць свой колектыў, якая з гэтага будзе карысьць. Як і Зелянюк тады, ён перасьцерагаў, што не дазволіць гэтага, значыць—загубіць усю справу. Ён намякнуў і на тое, што, як відаць па ўсім, уся гэтая звадка ня пойдзе на карысьць партыі, што яна дэзарыентуе ячэйку.

З пашаны да былога партызана і чырвонагвардзейца Карызна спакойна выслухаў яго да канца, але зразумеў так, што гэта яго падаслаў Зелянюк, ня йначай, і закіпеў яшчэ горшаю злосьцю. Якубу-ж адказаў далікатна, але вельмі суха, што ягоныя меркаваньні возьме на ўвагу.

Быў яшчэ адзін чалавек, які ледзьве стрымліваў у сабе настройнае жаданьне пайсьці да яго і ў гарачай шчырай размове адкрыць яму вочы, паказаць яму тое, чаго ён ня бачыць ці ня хоча бачыць, затрымаць яго на краю прорвы, куды ён ідзе з адчайнай рашучасьцю самагубцы.

Але чалавек гэты быў адцяты ад яго і ня мог да яго пайсьці, бо гэта была Марына Паўлаўна.

Сход быў закрыты: адны партыйцы ды комсамольцы. З беспартыйных прыскочыў быў Галілей, дык комсамолец Віктар адвёў яго ў бок і далікатненька растлумачыў, што яму тут быць ня можна. Стары—праўда, што неахвотна,—але бяз лішняе гамонкі пацюпаў да хаты.

Настрой ува ўсіх быў стрыманы і троху ўрачысты. Бадай ня было зусім звычайных—шумных, вясёлых перадсходавых гутарак—усе маўкліва чакалі пачатку.

Карызна прачытаў парадак дня, і ўсіх няпрыемна зьдзівіў нечаканы зварот справы. У парадку дня стаялі зусім іншыя,

не датычныя асноўнае справы пытаньні, а „асноўная“ справа стаяла сьціпла ў рубрыцы „Рознае“ і называлася так:

„Аб праявах партызаншчыны ў працы брыгадзіра т. Зелянюка“.

Усе дамысна перазірнуліся, а „брыгадзір т. Зелянюк“ напрыкметна ўсьміхнуўся—троху пагардліва, а троху балюча.

У панурым маўчаньні слухалі даклады па пытаньнах, вызначаных у парадку дня. Спрэчак было мала, і гэта ня дзівіла нікога—усе адчувалі, што гэтыя даклады лішнія сёньня, што яны пастаўлены выключна на тое, каб надаць справе Зелянюка адумыслова дробны асабісты характар,—усе чакалі „Рознага“. І, як яно падышло, усе застылі ў пільнай увазе.

Карызна зрабіў кароткую інформацыю: Брыгадзір Зелянюк цалком самстойна, без пагоджаньня з партыйнаю ячэйкаю, вырашыў пытаньне аб арганізацыі ў Сівалапах асобнага колгасу і—зноў-жа бяз ведама ячэйкі—абвясьціў пра гэта жыхарству і нават правёў папярэдні запіс. Зелянюк мусіў ведаць, што гэта цалком супярэчыць пляну колектывізацыі сельсавету, які быў зацьверджаны ячэйкаю, і такім чынам зусім сьвядома парушыў партыйную дысцыпліну, што асабліва злачынна ва ўмовах абвостранае клясавае барацьбы і напружанае працы па рэконструкцыі сельскае гаспадаркі. Што да самае справы арганізацыі ў Сівалапах асобнага колгасу, дык яна ніразу не абмяркоўвалася ў партыйных арганізацыях і ня мае актуальнага значэньня, бо цяпер вядзецца ўзмоцненымі тэмпамі работа па арганізацыі аднаго вялікага колгасу на ўвесь Сівец“.

— Хто хоча слова па гэтым пытаньні?

Усе мімаволі павялі вокам на Зелянюка, і ён устаў са свайго месца.

— Слова мае Зелянюк.

Хто сядзеў блізка да Зелянюка, той пэўна заўважыў, як страшна скасілася ў Зелянюка левае вока і як задрыжэлі яго тонкія рэзкія вусны. Загаварыў ён ціха, з глыбокай, што мімаволі даходзіла да нутра, шчырасьцю і праканаласьцю:

— Таварышы! Я цалкам згодзен з усім, што сказаў у сваёй кароткай інформацыі т. Карызна і кажу гэта не для фігураваньня, не для гульні ў прызнаньне памылак, а з праўдзівым адчуваньнем адказнасьці за свае цяперашнія словы, і за ўчынкі, якія сёньня тут абмяркоўваюцца. Я зрабіў вялікую злачынную памылку. Думка пра арганізацыю колектыва ў Сівалапах вынікла была цалком выпадкова, стыхійна, на неофіцыйнай сходцы ці, правільней, гутарцы. І замест таго, каб скарыстаць гэты стыхійны зрух, каб, узгодніўшы справу з ячэйкай, даць яму належны кірунак, я сам падаўся гэтай стыхійнасьці і, захоплены раптоўным проектам, санкцыянаваў яго і нават запэўніў, што сам зраблю ўсе неабходныя да гэтага формальнасьці... Я мушу з поўнай шчырасьцю сказаць тут і пра іншую сваю памылку, якая органічна зьвязана з гэтай. Гэтая памылка ў тым, што я ў сваёй працы бадай усю ўвагу аддаў Сівалапам, як асноўнай

базе сівецкае беднаты, а ў самым Сіўцы да гэтага часу бедната як сьлед не апрацавана і ў значнай частцы знаходзіцца пад кулацкімі ўплывамі. Я нядаўна толькі ў гэтым пераканаўся і раблю ўжо захады, каб як найхутчэй выправіць гэты свой—дый наогул наш усіхны—недагляд... Зноў кажу, таварышы, што я цалком усьведамляю ўсю глыбіню сваіх памылак, асабліва беручы на ўвагу тыя выключныя абставіны нашай сучаснай работы, пра якія гаварыў т. Карызна, і гатоў панесьці заслужаную кару...

Ен зрабіў кароценькую паузу, і гэтая пауза яшчэ больш напружыла жорсткую ўвагу сходу.

— Але, таварышы, я буду прасіць, я буду вымагаць таго, каб зараз-жа, на сёнешнім сходзе, пасьля таго, як вы абмяркуеце маю справу, паставіць пытаньне пра Сівалапаўскі колектыў і наогул пра справу колектывізацыі Сіўца. Я з поўнай адказнасьцю за свае словы заяўляю, што пытаньне гэта, насупар думцы т. Карызны, актуальнае, больш таго, яно неадкладнае, ад яго пільнага вырашэньня залежыць—быць ці ня быць Сіўцу у калектыве. Я заяўляю, што некаторыя таварышы—сьвядома ці несьвядома—бяруць у гэтай справе няправільную, шкодную лінію, што, калі так пакінуць далей, мы можам на доўгі час скомпромэтаваць у нашым сельсавеце ідэю колектывізацыі. Я маю на ўвазе т. Карызну і некаторых іншых. Калі будзе пастаўлена пытаньне, я выкажу больш стала, свой пагляд, а цяпер прашу толькі аднаго—не падумайце, што гэта гаворыць ўва мне голас нейкае асабістае варожасьці да Карызны ў сувязі з маёй справаю. Я супроць Карызны нічога ня маю і нават удзячны яму, што ён з бальшавіцкай рэзкасьцю ўшчуў мяне за мае памылкі. Я спадзяюся, што й сам т. Карызна падтрымае маю пропозыцыю, бо лепш мець поўную яснасьць у справе, чымся даваць прычыну да розных сумненьняў, якія, я гэта ведаю добра, ёсьць ня толькі ў аднаго мяне...

Як ён скончыў, глухое маўчаньне сходу набыло злавесную напружанасьць. Зелянюку ўсё роўна не далі веры, не ўважаючы на ўсю яго шчырасьць і праканаласьць—усё роўна чакалі ўсе злоснага бою паміж ім і Карызнам, і адны панура хмурыліся ў нездаволеньні, а іншыя дрыжэлі ў дрэннай цікавасьці, у прадчуваньні гучнага эксцэсу.

Маўчаньне раптам—з аднаго маху—перарваў тонкі, узьняты на недасяжную вышыню голас Пацяроба. Усе ведалі, што калі Пацяроб зачынае тонка, з вышыні, ды калі яшчэ ўвальле ў свой голас саладжава-мілоснага тону, значыць скажа ўжо нешта рэзкае, нахабнае, пацяробаўскае.

— Даражэнькі мой, любачка мая, які ты разумны... У цябе-ж так яно ўсё выходзіць добра, складна, што ніякі табе камар ня то, што носа, а і паўноса не падточыць... Ну пэўна, што няправільная лінія ў нас... Якая-ж гэта лінія? Мы-ж толькі камп.. камп... прымітуем...

Ён ня выгаварыў гэтага слова, бязумоўна, наўмысьля, з дэмагогічнаи мэтай, каб здабыць прыхільнасьць сваёй мужыкаватай прастатой і абсьмяшыць Зелянюкову гарадзкую „мудронасьць". І праўда—дзе-хто засьмяяўся з вясёлым спачуваньнем.

— А скажы ты мне, золатка, па-просту, па-нашаму: што ты гэта сабе думаеш? Чаго ты гэта тут завінуўся? Ці ты думаеш, што з гораду прыехаў, дык ты адзін толькі разумны тут, а мы ўсе набітыя дурні? Ну ты-ж падумай, родненькі мой, даражэнькі, гэта-ж ўсю ячэйку за нівошта становіш... Бо мы-ж ўсе тут разам робім, уся ячэйка, а не Карызна там, Пацяроб ці яшчэ хто... Праўда, што ты палітычна сьвядомы чалавек, рабочы, скажам так, пролетар. Але-ж можа хто яшчэ больш за цябе працаваў на фабрыцы—ты яшчэ пешай брыгадай пад стол тады лазіў—дык ужо ён не рабочы? Ён ужо цёмны чалавек, дурань?..

На гэтым ён скончыў сваё сяброўскае мілоснае ўшчуваньне Зелянюка і шырокім жэстам размахнуўся да ўсяе аўдыторыі.

— Ну вы-ж падумайце толькі, людцы добрыя... Набраў там дзесятак гаспадароў, дый думае, што ён ужо, барані божа, увесь сьвет колектывізаваў. Гатова ўжо, маеце цэлы колгас... А каго ён яшчэ набраў, я-б таксама запытаўся.

Тут ён паспрабаваў усьміхнуцца таямніча і хітра, але няслухмяныя фальбоны ягонага твару ўсё роўна склаліся ў звычайную яго безнадзейна-горкую міну. І голас, замест падазронна-дамыснага тону, набыў тон гіранічнай плаксівасьці.

— Можа палавіну з тваіх колгасьнікаў параскулачваць трэба, га? Ты, любачка, пра гэта мусіць ня думаў? Ня было часу падумаць? Трэба было глядзець, як робіць Карызна з Пацяробам?..

І нястрыманы Пацяроб з кожным словам усё больш і больш удаваўся ў грубы, адкрыта-дэмагогічны тон, аздоблены нязграбнымі, як сам ён, жартамі. А скончыў ён патэтычным заклікам да ячэйкі, каб яна не здавалася ні на якія шкадлівыя падходы выпадковых людзей (гэта азначала—Зелянюка) і захоўвала, як і дасюль, поўную згоду, дружнасьць і аднадушнасьць. Гэтыя словы, ёмка цаляныя ў мясцовы патрыётызм ячэйкі, ды яшчэ насычаныя такім гарачым імкненьнем да дружнае згоды, зрабілі належны ўплыў. Нават шмат хто з тых, каго абурала дзікая Пацяробаўская дэмагогія, нібы забыліся ў гэтую хвіліну на яе, і гатовы былі прыстаць на тое, каб сапраўды ня ўзьнімаць лішняга галасу. Ну, памыліўся хлопец, даць вымову яму, ці на від паставіць, ды і па тым.

Карызна чуў гэты настрой і ўжо загадзя трыумфаваў. Як скончыў Пацяроб і, апэтытна бразнуўшы аб бок наганам, сеў на свае месца, Карызна (ён сам вёў гэты сход) рэзюмаваў:

— Такім чынам, таварышы, справа ідзе аб тое, ці станавіць нам сёньня на парадак дню пытаньне аб пераглядзе пляну колектывізацыі, ці не. Я думаю, што патрабаваньне Зелянюка—хоць яно й сапраўды, як ён кажа, ня зьвязана з ягонаю справаю, але ўсероўна ня мае рацыі. Ды і часу на гэта пойдзе няма

ведама колькі, а сёньня ўжо позна. На наступным сходзе будзе справаздача бюро і тады сама па сябе ўсплыве напаверх і ўся гэтая справа. Адылі, каб ня было непаразуменьня, я прагаласую...

Ён неўзаметку кінуў погляд на Зелянюка, каб пабачыць, якое ўражаньне зрабіў на яго такі зварот справы, але выбраў на гэта ня зусім удалы момант, бо адразу натыркнуўся на востра ўпятыя ў яго калючыя Зелянюковы вочы і мімаволі пачырванеў ад незразумелага замяшаньня.

Няўжо яму сорамна стала перад гэтым блазьнюком? Няўжо ён прызнаўся перад ім у сваёй несправядлівасьці?

Зелянюк усьміхнуўся сваёй тонкай загадкавай усьмешкай.

Невялічкая пауза, якую Карызна вымушаны быў зрабіць, сустрэўшыся раптам з Зелянюковым поглядам, перайначыла ўвесь ход падзей. Яго хвілінная ледзьве прыметная няўпэўненасьць, як іскра кароткага замыканьня, разрадзіла агульны памысны для яго настрой, і, пакуль ён стараўся авалодаць сабой, каб цачаць галасаваньне, яго перасьцігнуў сьмелы выразны голас комсамольца Віктара:

— Галасаваньне тут не паможа... Прагаласаваць хіба, каб замазаць справу? Таварышы...

І ён, каб надаць больш вагі сваім словам, устаў з месца і нават ступіў два крокі наперад, як-ткі й належыць кожнаму сталаму прамоўцу.

— Ужо адно тое, што ўзьнялася тут на сходзе спрэчка паміж таварышамі і спрэчка досыць заўзятая, калі меркаваць па выступленьню Пацяроба, гаворыць за тое, што ў ячэйцы ня ўсё добра, што ў ёй ёсьць нейкая нутраная хвароба, па меншай меры нейкая недагаворанасьць. Дык ці гэта рахуба, калі мы возьмем ды загонім яшчэ глыбей гэтую хваробу, ня даўшы ёй рады? Што—позна? Часу мала? Сьмешна было-б і казаць пра гэта. А калі мы і цэлую ноч праседзім, каб разьвязаць пільную справу? Ці такі час цяпер, каб на гэта зважаць? Я, таварышы, у процесе комсамольскай работы штодня стыкаюся з усімі тымі справамі, аб якіх тут ідзе гамонка, і я павінен сказаць, што цалком згодзен з усім тым, што казаў Зелянюк, і падтрымліваю ягоную пропозыцыю...

Віктар—дармо, што малады—а ўмеў сказаць з вялікім сэнсам, і караценькая, але трапная прамова яго зрабіла ўражаньне. Дружным хорам падтрымалі яго вясковыя комсамольцы, наракаючы на тое, што затрымка з колектывізацыяй Сіўца зьвязвае ім рукі ў іхнай працы па вёсках. Комсамольцаў падтрымалі вясковыя партыйцы, і троху-па-троху ўвесь сход прыстаў на тое, што трэба канечна зараз і як найглыбей разабраць сівецкія справы, што пакідаць іх у гэткім стане, як цяпер,—злачынства супроць партыі.

Карызна чуў, як усё нутро ў яго гарыць у пякучым агні шалёнае злосьці. Ён быў упэўнены, што ўсё гэта ён, Зелянюк, падстроіў, што ўжо загадзя было ў іх умоўлена—не здарма-ж усьміхаўся ён сваёй нялюбай самаўпэўненай усьмешкай.

Дык-жа ты гэтак? Ты яшчэ трапечышся? Ты яшчэ біцца лезеш? Думаеш, падгаварыў хлопцаў, навухрыў іх, дык ужо і твая сіла? Чакай-жа, мой даражэнькі, ня так яно будзе, як ты думаеш!..

Зларадасная ўпэўненасьць у нямінучым правале Зелянюка дае Карызну сілу стрымаць да пары сваё абурэньне, і толькі едкая ўсьмешка, мімаволі расьцягваючы вусны, троху здраджае яго. Ён зварочваецца да Зелянюка з адменнай далікатнасьцю:

— Калі ласка! Слова даецца т. Зелянюку...

Але Зелянюк ад слова адмаўляецца—ён гаворыць, што ўсе матэрыялы, датычныя Сівалапаўскага колгасу, мае пры сабе Якуб Лакота, дык яму і латвей гаварыць пра гэта.

— Слова мае т. Лапота.

І Карызна моўчкі сьціскае зубы. Гэты Зелянюк хітрэйшы, чымся ён думаў. Ведае, што Якуба Лакоту ўсе шануюць, што ён мае ў ячэйцы бясспрэчны аўтарытэт, дык наўмысьля выставіў яго на гэтую справу. Добра, пабачым, што будзе далей...

Якуб Лакота вышаў да стала, бо трэба было дзе раскласьці паперы, асьцярожна—відаць, што балела—адкашляўся і ціха ўсьміхнуўся сваёй мілай, па-дзяцінаму нясьмелай, нібы беспараднай усьмешкай. На худых запалых шчоках у яго зацьвіла ліхаманкавая чырвань, а вочы заблішчэлі ясным чыстым агнём.

— Я перш-на-перш павінен выказаць шчырае зьдзіўленьне з таго, што ў нашай Сівалапаўскай справе чамусьці вінавацяць аднаго Зелянюка, а пра мяне, напрыклад, не сказалі ніводнага слова. А я можа нават раней за яго згадзіўся на організацыю асобнага колгасу і таксама бяз ведама ячэйкі. Віна мая роўная з Зелянюковай, і я, як і ён, цалком прызнаю яе і патрабую сабе гэткага самага, як і яму, пакараньня... А цяпер пра самы наш колгас... Я раскажу пра тое, што ў нас ёсьць, з чым мы ўзяліся за яго організацыю.

І ён спакойна, дзелавіта пералічыў, колькі ўжо запісалася на папярэднім запісе, колькі яшчэ напэўна запішацца, дакладна азначыў соцыяльны стан будучых колгасьнікаў, пры чым настойліва запытаў у Пацяроба, каго ён мае на ўвазе з іх раскулачыць, і ўвёў таго ў досыць прыкрае замяшаньне. Апісаў яскравымі фарбамі, які быў настрой у сівалапаўцаў, калі паўстала пытаньне пра асобны колгас, і як нядобра адбілася на гэтым настроі раптоўная затрымка. І ў заключэньні даў простыя, ясныя довады таго, што ўтварэньне сівалапаўскага колгасу зрушыць з месца ўсю справу колектывізацыі ня толькі ў Сіўцы, а і ўва ўсім сельсавеце.

Карызна сачыў за сходам і бачыў, як Якубавы спакойныя разважныя словы кляліся на застылыя ў глыбокай увазе твары партыйцаў праблескам новага яснага пераконаньня. Ён чуў, што вельмі цяжка, бадай немагчыма будзе разьбіць гэтае пераконаньне, што яно паўстае супроць яго нязрушнай і непрабітнай сьцяной, гатовае затуліць ненавіснага Зелянюка ад ўсіх яго ўдараў.

І ў Карызны да злосьці і нянавісьці памалу далучалася няясная трывога, а сьледам за ей ледзяным цурочкам тачыўся ўжо ў сэрца яго неразлучны спадарожнік апошніх дзён—грозны няўхільны страх. Ён разумеў, што Зелянюкова перамога—гэта моцны ўдар па ім, па ягоным аўторытэце, што яна нямінуча выкрые яго драбязговыя асабістыя інтарэсы ў гэтай справе, або, што ані ня лепей, пакажа поўнае яго неразуменьне справы, яго тупое заперачэньне відочна правільнаму карыснаму мерапрыемству.

Адылі ён яшчэ ня думаў здавацца. Галава яго ліхаманкава працавала над адшуканьнем якога-небудзь новага спосабу, якога-небудзь новага ўдару—з таго боку, адкуль яго ніяк не чакаюць. Ён ведаў ужо, што звычайнымі спрэчкамі, звычайнымі довадамі ня ймеш, што ратаваць яго можа толькі спрытны, шпаркі ход, які-б, зваліўшыся зьнячэўку на галовы яго супрацоўнікаў, перавярнуў адразу ўсю справу дагары нагамі. І тут у яго зьявілася сьмелая, адчайная думка, якая зараз-жа абярнулася ў цьвёрды замер.

Ледзьве дачакаўшыся, пакуль скончыць сваю прамову Лакота, Сымон Карызна ўстаў і заявіў дрыжачым ад узрушэньня голасам, які адразу даў усім зразумець, што мова ідзе пра нешта надзвычай важнае, экстраордынарнае, чаго можа ніколі ня чула яшчэ сівецкая партыйная ячэйка. Усе замерлі ў чаканьні.

— Таварышы! Перш чым весьці далейшае абмеркаваньне гэтае справы, я, як сакратар ячэйкі, павінен зрабіць адну вельмі важную заяву. Сёнешні сход, а таксама і шмат іншых выпадкаў, з якімі мне давялося стыкнуцца за апошні час, пераканаў мяне, што ў нашай ячэйцы ёсьць сакрэтная групоўка, якая злачыннымі мэтодамі фракцыйнай работы праводзіць сваю асобную лінію. На сёнешнім сходзе мы мелі арганізаванае выступленьне гэтае групоўкі, накіраванае на тое, каб скомпромэтаваць бюро ячэйкі і яго лінію ў рабоце, а значыць і лінію ўсяе ячэйкі, а таксама сарваць плян колектывізацыі сельсавету, які ўхвалены ячэйкаю і ўзмоцненымі тэмпамі праводзіцца ў жыцьцё. На чале гэтае групоўкі стаіць Зелянюк. Ня трэба асабліва пільнасьці, каб заўважыць, што ўся сёняшняя атака вяцзецца па загадзя абмеркаванаму пляну, выпрацаванаму на спэцыяльным фракцыйным сходзе, на якім таксама разьмеркаваны паасобныя ролі. Як сакратар ячэйкі, я катэгорычна вымагаю таго, каб зараз-жа спыніць далейшы разгляд справы і даручыць бюро або спэцыяльнай комісіі ў найпільнейшым парадку дасьледваць пытаньне аб фракцыйнай рабоце Зелянюка і іншых, каб ужыць адпаведныя арганізацыйныя захады.

Сэнсацыйная заява Сымона Карызны зрабіла ўражаньне раптоўнага аглушлівага выбуху. З хвіліну ўсё разгублена маўчалі, ашаломленыя неспадзеўкаю, ніхто ня важыўся першы парушыць гэтае прыкрае цяжкое маўчаньне. І калі раптам яго прарэзаў працяглы адумыслова-выразьлівы сьвіст, амаль усе здрыгануліся і спалохана азірнуліся, шукаючы крыніцы дзікага, цалком нечаканага да моманту, гуку.

Гэта сьвіснуў, вядомая рэч, Пацяроб. І зараз-жа, сьледам за сьвістам, грымнуў яго бесцарамонны голас, разарваўшы ў мэтлухі ўсю тую змрочную трывожную цішыню:

— Дык вось яно што? А-га-га-га!.. Галубочкі мае, родненькія... Дык вы ўжо фракцыі рабіць панаўчыліся? Як той, ня тут кажучы, Троцкі? Я гляджу, што ўсё гэта ў іх як па нотах. Аж бачыш ты іх! Груповачкі, фракцыйкі... Ого-го-го!.. Здорава. любачкі! Малайцы, красачкі! Даражэнькія мае!..

Ён быў страшэнна рад, гэты дзівак Пацяроб, і ня мог схаваць свае нядобрае злоснае радасьці. Ягоная радасьць зрабіла на сход дрэннае ўражаньне, і нават нехта ня лішне далікатна суняў яго разьюшаны лямант:

— Сьціхні ты ўжо! Чаго галёкаеш, як у лесе!

Але дзе ты яго Пацяроба ўгамуеш, як раскрычыцца! Такі ўжо бязладны, разгойданы чалавек...

Сход ажывіўся. Троху-па-троху ўзьнялася жвавая гамонка, якая нарэшце перайшла ў тлумны гармідар. Слова ніхто не прасіў—мабыць ніхто ня важыўся першы выступіць у гэтай надзвычай далікатнай і палітычнай справе—усе гаварылі разам, адзін аднаму ці ўсім адразу, а не, дык проста самому сабе, і нельга было разабраць, у які бок фактычна схіляецца агульная думка сходу. Карызна тлуму не сунімаў, не заклікаў да парадку—ён чуў, што гэты тлум яму на карысьць.

Тады ўстаў са свайго месца бледы, зацяты ў цьвёрдай, як крэмень, сур'ёзнасьці, Зелянюк. І ці толькі ўзьняўся ён над усім тым бязладным гармідарам—стрыманы, роўны—ураз апала шумнае ажыўленьне, і занялося зноў цяжка балюча напятае маўчаньне.

— Я думаю, што ўсе зразумелі, якое глыбокае абвінавачаньне ўзьняў супроць мяне сакратар ячэйкі т. Карызна. Я ня буду цяпер ні выпраўдвацца, ні ў сваю чаргу а абвінавачваць т. Карызну. Я цалком далучаюся да ягонае пропозыцыі—у найпільнейшым парадку дасьледваць гэтую справу. Але я катэгорычна протэстую супроць другой яго пропозыцыі, каб спыніць далейшы разгляд пытаньня пра сівалапаўскі колгас і колектывізацыю Сіўца. Я ўпэўнены, што ў гэтым падтрымаюць мяне і іншыя таварышы, бо пытаньне гэта вынікае ня толькі з мае нібыта фракцыйнае работы, а з агульнага стану колектывізацыі ў сельсавеце. Мне здаецца, што і сам т. Карызна ня будзе дужа супярэчыць, бо іначай ён ясна пакажа, што ўсю гэтую гісторыю з фракцыйнасьцю ён узьняў выключна затым, каб затрымаць абмеркаваньне таго пытаньня, якое ён з нейкіх невядомых прычын упарта не хацеў паставіць у парадак дня... Я прапаную весьці далейшае абгаварэньне распачатае справы...

Зелянюкову пропозыцыю ўхвалілі аднагодна, і на сходзе зноў запанаваў спакойны дзелавы настрой.

Карызна і сапраўды не супярэчыў: Зелянюк спрытнай заўвагай зьвязаў яму рукі. Пад час далейшых спрэчак ён сядзеў

хмуры, злосна затулены ў сабе і нават мала слухаў таго, што гаварылі прамоўцы. Яго агарнула цяжкая апатыя—яму хацелася аднаго: скончыць як найхутчэй гэты няўдалы сход і адпачыць. Ён зусім аўтоматычна даваў слова прамоўцам, станавіў на галасаваньне пропозыцыі, заклікаў, як трэба было, да парадку.

Па доўгіх жвавых спрэчках у протоколе сходу ячэйкі запісалі наступнае:

„1. Паставіць на від т. т. Зелянюку і Лакоту іхную недысцыплінаванасьць, якая выявілася ў тым, што яны бяз ведама ячэйкі разьвязалі пытаньне пра організацыю ў Сівалапах асобнага колгасу.

2. Самы факт організацыі ў Сівалапах самастойнага колектыву ўважыць за мэтазгодны і колектыў організаваць з тым, аднак, каб пасьля ўтварэньня колгасу ў Сіўцы гэтыя два колгасы злучыць у адзін.

3. Зьвярнуць асабліву ўвагу на работу сярод савецкае беднаты—пашырыць яе і ўглыбіць, выкарыстаўшы дзеля гэтага ў грунце сваім правільную практыку работы з беднатой ў Сівалапах.

4. Прыняць да ведама заяву сакратара ячэйкі т. Карызны пра тое, што ў ячэйцы існуе сакрэтная групоўка на чале з т. Зелянюком. Даручыць бюро ячэйкі дакладна высьветліць гэтую справу і ўсе матэрыялы падаць на наступны агульны сход ячэйкі“.

Па зачыненьні сходу, калі Карызна—хмуры і разгублены—варочаўся да хаты, яго дагнаў неадменны Пацяроб і, нахіліўшыся пад самае Карызнава вуха, прасіпеў з поўнай бадзёрасьцю:

— Ня бойся, Сымонка! Плюнь ды яшчэ й разатры... Ня тое бачылі... Цьфу!..

## 10

Назаўтрага з самага раньня Сымон Карызна паехаў у раён. Раён знаходзіўся вёрст за пятнаццаць ад Сіўца ў ладным мястэчку, якое мясцовыя жыхары зусім сур'ёзна звалі горадам.

Дык гэты самы горад у пару, якая апісваецца ў нашым апаваданьні, меў на сабе хоць з выгляду можа й мала прыметны, але глыбокі, востра адчувальны адбітак бурнай эпохі. Усё было звычайнае, даўнейшае, але над усім лунаў дух агульнай напружанасьці, трывожнага чаканьня.

На шырокім рынкавым пляцу, акурат пасярод мястэчка, было паўнютка сялянскіх вазоў, але прадавалася чаго дужа мала. Прыяжджалі паслухаць навін, пагаманіць, улавіць настроі новага дня, каб распастрыць яго нявідныя кволыя ніці па ўсёй тэрыторыі раёну. Сыходзіліся сям-там невялічкімі расплыўчастымі купкамі сьцеражлівыя, цікавыя—і хціва лавілі адзін у аднаго новыя словы. Купкі раставалі, зьбіраліся зноў, зноў раставалі, аж пакуль ня ўліваліся жвавай энэргійнай патокай у ветлыя

дзьверы піўніцы. Там новыя словы перакладаліся на грамоздкую распараную алкоголем мужыцкую мову.

Дзе-ні-дзе ліпелі яшчэ дробныя прыватныя крамкі, але гандляры, як ня было купцоў, не сядзелі ў шчаснай лятуценнасьці за непахіснаю стойкай, а выходзілі і стаялі перад дзьвярмі— маркотныя і палахлівыя. Дамысны цырульнік вывесіў на дзьвярох сьвежую нязграбнай рукой намаляваную табліцу—„колектыў цырульнікаў Грынберг“—і мабыць адчуваў сябе за ёй у поўнай забясьпецы.

Апрача піўніцы людзі зьбіраліся яшчэ каля коопэрацыйнай сталоўкі і каля дзяржаўных устаноў. Установы абярнуліся ў людзкія зборні, куды разам з бруднымі лужынамі сьнегавой вады наносілі мужыкі цэлае мора сваіх пільных і няпільных, вялікіх і малых, цяжкіх і лёгкіх клопатаў. Многа хто заходзіў так сабе—паслухаць, пагрэцца, паглядзець, як злуюць на назольлівых наведнікаў, а злашча на пустых разявак запараныя супрацоўнікі. А іншыя прыходзілі з важным, жыцьцёвым, балю чым— тыя або істэрычна крычалі, дамагаючыся свайго, або беспарадна вадзілі наўкола ціхімі вачмі, поўнымі пакорнага неўразуменьня.

У тую пару раённым працаўніком ня было ані хвілінкі адхлану.

Сымон Карызна часта наяжджаў у раён—ён любіў туды езьдзіць, бо кожнага разу там узьнімала яго лёгкі настрой тое добрае, бадзёрае ўзрушэньне, якое загарэлася было ў ім—ды ці толькі ў ім?—на гістарычным пленуме райкому, што паклаў быў пачатак шырокай разгорнутай працы па социялістычнай перабудове раёну.

Тут, у сэрцы раёну, усё тое, чым жыла вёска, уся яе новая творчая сумятня нібы абстрагавалася, вылузвалася са шкарлупы конкрэтнае дакучнае абыдзёншчыны і набывала сьвежую романтычную прывабнасьць. Таму Карызна, пераехаўшы цераз гнілаваты, складзены з дзіўна рухавага бярвеньня, масток і мінуўшы шэрую порхаўку-кузьню, першы слаўны будынак слаўнага гораду, заўсёды з асалодаю адчуваў, што ўсе яго трывогі, страх, уся яго мітусяніна мякка затуляецца завесай цудоўнай далячыні (нібы ад'ехаў за тысячу вёрст), і ў нутры бурныя ўзымаецца разгонная, задорная імклівасьць.

Карызна жыва, усім нутром адчуваў тады вялікі зьмест лаконічных слоў, што пераможна зьзялі на старонках тагочасных газэт:

— Рэспубліка на паходзе!

Уступіўшы на парог РВК, Карызна адразу пачуў зычны раскоцісты голас старшыні Рачкоўскага, які сьмелай камандай разьлягаўся на ўсе чатыры пакоі райвыканкому, працінаючы ўсіх супрацоўнікаў, усіх наведнікаў і, здавалася, усю, якая была тут, убогую зашмальцаваную мэблю, усе замлелыя ў тлустай неўвароткасьці груды папер—працінаючы ўсё гэта імпэтнай напорнай пасьпешнасьцю. І здавалася, што ўсё тут—і жывое і ня жывое— гаварыла бяз слоў—выразам твараў, рухамі, паставамі—адзін кароткі адцяты сказ:

— Нам некалі!

Знаёмы прыемны голас Рачкоўскага яшчэ больш узьбіў у нутры ў Сымома Карызны бадзёрае ўзрушэньне—ён наскрозь прасякнуўся тым агульным, што панаваў тут, імпэтам, той нястрымнай пасьпешнасьцю і раптам пачуў, што і яму таксама страшэнна некалі, і хацеў таксама сьпяшацца, хацеў крычаць зычным раскоцістым голасам—ня крычаць, а камандваць.

Ён увайшоў у габінэт нечаканым для самога сябе цьвёрдым, адрыўчастым крокам вайсковага чалавека.

У габінэце было, як у піўніцы: людна, тлумна, накурана. Сярод рухавага натоўпу, у якім Карызна знайшоў, як і кожнага разу, ці мала новых, зусім незнаёмых твараў, крэпкім спружыністым камлюком круціўся Рачкоўскі і, здавалася, крычаў адразу прынамсі пяцём чалавекам—аднаго пытаючы, другому адказваючы, трэцяга некуды пасылаючы, чацьвертага проста лаючы моцнымі, але чамусьці зусім някрыўднымі словамі. Як убачыў Карызну, ён адразу кінуў усіх і праз усіхныя галовы галасіў:

— Прэзыдэнту сівецкай рэспублікі шанаваньне! Што-ж ты, сукін сын, ня прыехаў на нараду, а прыслаў гэтага свайго Расьцяроба! Даражэнькі мой—тут партыйная нарада і нам трэба сакратар ячэйкі,а не Падцяроб. Гайдук, давай нагонку па сваёй лініі...

Побач з Рачкоўскім пры стале сядзеў спакойны, глыбока стрыманы сакратар райкому. Карызну кінулася ў вочы, што ён—і так мізэрны, чэзлы—цяпер яшчэ больш змізарнеў, і ягоны,—хоць і вялікі, але ня надта паважны нос зайстрыўся да немагчымасьці.

Ціха і трошку хваравіта ўсьміхаючыся, Гайдук замест прывітаньня запытаў такім тонам, нібы яны толькі вось перапынілі былі сваю гутарку:

— Дык пяцьдзесят працантаў? Глядзі, каб гэта стала, бо ў Мікуліне палавіна разьбеглася. Як Сівец?

— Яшчэ ня зрушыўся, браце. Але гэтымі днямі нешта будзе. За тыдзень, спадзяюся, будуць у колектыве.

І—дзіўная рэч!—Сымон Карызна быў цалком упэўнены, што ён гаворыць шчырую праўду, што ў яго сапраўды ўсё нарыхтавана, усё на-пагатове. Яшчэ колькі дзён—і ўсё станецца такі, як лепш і ня трэба.

— Зелянюк памагае?

Карызна скрывіўся і ўнікліва махнуў рукой:

— Потым пагамонім...

Гэтым адразу даў зразумець, што ён Зелянюком нездаволен.

Рачкоўскі выбраў зручны момант і неўзаметку ад усіх шапарнуў яму:

— У мяне будзеш абедаць... я сёньня вольны... больш-менш... Разумееш?

Карызна зразумеў і здаволена ўсьміхнуўся: у сямейных абставінах, за невялічкай дружнай чаркай найлепей будзе пагаварыць аб усіх справах.

Карызна прыехаў з пэўным рашучым замерам: ён наважыўся нарэшце пагаварыць на-чыста з Рачкоўскім, адкрыць яму ўсе свае сумненьні, увесьці яго ў заблытанае кола сваіх згрызот і мятушэньняў. Пасьля ўчорашняга сходу ён зразумеў, што далей так цягнуцца ня можа, што яму ня ў змогу ўжо жыць так і працаваць, скрозь, адчуваючы над сабой дамоклаў меч небясьпекі.

Хай будзе, што будзе, а ён адкрые ўсё да апошняга каліва— перш яму, Рачкоўскаму, а тады, калі трэба, і ўсім.

Каму гэта ўсім, Карызна пакуль што яшчэ як мае быць не ўяўляў—ён чакаў, што гэта само па сабе высьветліцца ў гутарцы з Рачкоўскім).

...Пакуль гаспадыня завіхалася каля стала, рыхтуючы полудзень, Рачкоўскі і Карызна сноўдаліся па пакою, абодва працятыя нецярплівасьцю: Рачкоўскі—каб хутчэй дапасьці да яды' а Карызна—каб хутчэй зачаць сваю шчырую споведзь. Але-ткі Карызна ня сьцерпеў—пахваліўся звонку нібы-та спакойна, бязуважна, але з прытоеным у нутры трапятаньнем?

— Ты ведаеш, што я з жонкаю разышоўся?

Рачкоўскі запытаў бяз жаднага зьдзіўленьня:

— Ужо?

І весела падміргнуўшы Карызну, засьмяяўся нізкім юрлівым сьмехам:

— Верачку падчапіў? Ну й зух! Смак маеш, няма чаго казаць... Бач ты, падла старая... га?..

Потым ён праказаў нібыта сур'ёзна і наўмысьля гучным голасам, каб пачула жонка:

— Думаю кінуць і я сваю. Надакучыла ўжо, абрыдзела... Хачу пашукаць дзе маладзейшую, харашэйшую.

Жонка—маладзенькая, сьвежая і пульхненькая, як перапечка, увайшла ў пакой з троху сарамлівай, але поўнай адчуваньня свае жаноцкае сілы ўсьмешкай і, праходзячы паўз мужа, нібы нясумысьля зачапіла яго сваім крутым пышным клубам. Ён з грубаватай бесцарамоннасьцю лэпнуў яе па неасьцярожнаму месцу і здаволена зарагатаў сьмехам упэўненага ў сабе самца.

Гэта была ў Рачкоўскага ня то трэцяя, ня то чацьвертая жонка, і ён, як відаць, перажываў яшчэ з ёй пару першага ўзаемнага захапленьня—не абсыпанага, праўда, лішне барвістымі краскамі зманлівае романтыкі, затое здаровага і шчасьлівага. У яго да жанчын быў надзіва лёгкі, незамутнёна-спакойны характар, і ягонага шчасьця ані не парушала тое, што чарада папярэдніц сьвежае пульхненькае жанчыны часам у досыць катэгорычнай форме напаміналі пра існаваньне ня толькі свае, а і цэлае плоймы малых Рачкоўскіх. Ён улагоджваў свае сямейныя справы з такім дыплёматычным спрытам, што—канцы з канцамі—усе зацікаўленыя бакі былі хоць матэрыяльна і ня зусім задаволеныя, але моральна цалком уціхаміраныя. Досыць сказаць, што да судоў у яго справа яшчэ не даходзіла ні разу.

Лёгкі вясёлы падыход Рачкоўскага да сямейнай трагедыі Карызны перш няпрыемна ўкалоў яго, але больш ад гэтага трываў адну караценькую хвілінку. Потым стала і самому лёгка ды весела, нібы Рачкоўскага грубыя словы, а злашча ягоныя ўласныя стасункі да жанчын, нейкім чынам абязьвіньвалі ці, прынамсі, меншылі віну яго перад Марынай Паўлаўнай.

Адным словам, Сымон Карызна сеў за стол у добрым гуморы.

Перакуліўшы першую чарку і з цудоўным апэтытам накінуўшыся на селядца, Рачкоўскі агаласіў:

— Ну, кажы, Сымоне, як там што...

Карызна пачаў здалёку—нібы выпадкова, няўмысьля ўспомніў пра сваю і Рачкоўскага працу ў ранейшым раёне, пра лінію, якую яны там вялі. Гэта была ў яго—сьвядомая ці мо' несьвядомая хітрасьць: гэтым ён з першага кроку аднаўляў паміж сабой і Рачкоўскім ніці даўнае блізкасьці, каб гарантаваць большую чуласьць яго і спагаду да сваіх сучасных нягод.

Рачкоўскі зусім неспадзявана для Карызны павесялеў:

А праўда, Сымоне, слаўна жылося там, га? Эх, каб цяпер туды... Ну й запішчэлі-б у мяне кулачкі... Расхутарызаваў-бы іх так, што й не агледзеліся-б...

Карызна нясьмела напамянуў, не хаваючы свайго неўразуменьня:

— Але-ж мы, браце, самі праводзілі там гэтую, на яе ліха, хутарызацыю?

— Правільна... Верна... Праводзілі...

З цьвёрдага рашучага тону Рачкоўскага Карызна зразумеў, што ён ужо перадумаў і пераварыў у сабе гэтае пытаньне і што ён мае ўжо нейкае пэўнае разьвязаньне яго. Ён пільна настаражыўся, чакаючы дальшых слоў.

Правільна... Праводзілі... Значыць, што? Рабілі памылковую справу... Так... Ну, а потым?

Ён зрабіў паўзу, каб выпіць чарговую чарку, і казаў далей, мерна выстаўляючы слова па слове:

— Дрэнны той майстар, што, зрабіўшы якую няўдалую шкодную рэч—ці ў памылцы, ці праз недасканалае ўмельства свае,— будзе калаціцца над ёй, будзе ахаць, охаць, енчыць, стагнаць... Добры майстра возьме і адным махам—без аніякага жалю—разаб'е, ці разламае тую рэч і зробіць гэта з большай рашучасьцю і нават злосьцю менавіта таму, што гэта, ягоная рэч, зробленая ягонаю рукою... Ты мяне зразумеў, Сымоне?

Карызна ня мог здаць сабе справы з таго, што гэта ёсьць: ці хітры софізм, ці праўдзівая жыцьцёвая лёгіка? Адно чуў, што яно разьвязвае проблему, якая столькі часу гняла яго, і дае магутны стымул да далейшае працы, да вырабу новых, ужо правільных, дасканалых рэчаў.

Рачкоўскі пагадліва палэпаў яго па плячы.

— Калі цябе гэта турбуе, Сымоне, кінь усе сумненьні—справа ясная. Галоўнае, браце мой, зразумець, пераканацца, што ты

сапраўды дрэнна рабіў. А раз ты ўпэўнены ў гэтым, дык сама рука падымецца, каб разбурыць тое няўдала зробленае, каб перарабіць на новае... Бі, Сымоне, варушы ўсё да грунту, пераварачвай, і канец...

Карызна ня выходзіў з трывожнага задуменьня. Рачкоўскі наліў яму новую чарку.

— Ну, чаго нос павесіў? Пагонім яшчэ па аднэй, успомнім даўніну..

Карызна нясьмела павёў далей:

— У мяне ня толькі гэта, Рачкоўскі... У мяне—сямейныя справы...

— Жонка?

І Рачкоўскі нават зьдзівіўся, як гэта можна мардаваць сябе гэткай драбязой.

Карызна ў замяшаньні паківаў галавой.

— Ня ў тым... Я ня ведаю... Як табе сказаць... Ну, бачыш, мне пішуць бацькі, што іх раскулачылі. Гэта—адно... А самая тут закаклюка, што кулакамі яны сталі ўласна за маёй дапамогаю—я ім і грошы даваў на гаспадарку, і парады адпаведныя... Ведаеш сам, які настрой быў тады ..

Рачкоўскі ўстаў ад стала і звычайнай сваёй пругкай, развальнай хадою прайшоўся па хаце.

— Хм... так... заблытаўся ты, браце мой, залез у нерат... Выходзіць, што цябе раскулачылі? Ха ха-ха..-

І ён раптам зайшоўся ад гомэрычнага сьмеху. Карызна глядзеў на яго разгублены: ён ня ведаў, ці радавацца яму гэтым сьмехам, ці трывожыцца.

Рачкоўскі падышоў і энэргійна рэзка выцяў кулаком аб стол.

— Вось... На ўсё гэта ёсьць адна толькі рада. Калі сілы хопіць—адным ўдарам... разумееш? адным ударам усё перацяць...

— Адмовіцца ад бацькоў?

Рачкоўскі раззлаваўся.

— Што ты мне прэш сваю дурную інтэлігеншчыну, га?... Адмовіцца, напісаць трагічны ліст—бывайце, дарагія бацькі, мне з вамі не па дарозе... Цьфу, каб ты згарэў... Не аб гэтым справа, я табе кажу... Чуеш ты, ці не?

— Аб чым-жа?

— Во тут, во-во... у сабе. Тут трэба перацяць... Плюнуць трэба на ўсё, выкінуць усё к чортавай матары... Калі ты—сьцерва, скажам, дык гэта яшчэ паўбяды. А калі ты сьцерва ды яшчэ кожную хвіліну думаеш пра тое, што ты сьцерва, смакуеш гэта, упіваешся гэтым, дык ты тады—дзьве сьцервы... Чуў?.. Забудзься на ўсё чыста, я табе кажу.. Сам забудзься, што ты сьцерва, дык і людзі забудуцца. Працуй, як сьлед, пераварачвай жыцьцё, дык і сам перавернешся... Разумееш, ці не?

І зноў Карызна ня ведаў, ці гэта—хітры езуіцкі манэўр, ці простая праўдзівая дарога наперад. Але зноў чуў у гэтых словах магчымасьць шчасьлівага выйсьця з сваіх цяжкіх неўразуменьняў.

Раптам ён успомніў пра апошні бацькаўскі ліст.

— Яны просяць, каб прыслаў ім грошай.

Пры слове „грошы“ Рачкоўскі дасадліва пачухаў патыліцу і, з апаскай азірнуўшыся наўкола,—ці няма дзе паблізу жонкі?— пракрактаў:

— Грошы... каб на іх ліхалецьце... У мяне ўсе жонкі, як адна, просяць грошай... былыя жонкі, вядома... Проста рады не дасі...

Ён зноў раззлаваўся і закрычаў:

— Што ты—грошы? Чаго ты лезеш з грашмі? Сьцерва ты, калі хочаш... Кажу—забудзься на ўсё... Адным ударам... рраз... перасячы ўсё, разумееш? Тады сам убачыш, што рабіць з грашмі... Само пакажа тады... Во тут, во-во... тут самае галоўнае...

І ён бяз лішняе далікатнасьці тыркануў Карызну ў грудзі. Яму, відаць, надакучыла гэтая гутарка, і ён, сеўшы зноў за стол, запытаўся:

— Ну, што ў цябе там у Сіўцы?

Тады Карызна—ужо зусім з лёгкім вальготным настроем— стаў апавядаць пра сівецкія падзеі. Ён гаварыў усё да найменшай драбніцы, не хаваючы ні сваіх удач, ні сваіх памылак. Ён стараўся асьвятляць усё шчыра і па магчымасьці об'ектыўна—нават і прыкры інцыдэнт з Зелянюком, і апошні бурны сход ячэйкі, і свой ганебны правал. Але такая ўжо мабыць людзкая ўрода, што трудна бывае чалавеку ўстрымацца, каб не зрабіць сабе ў зручным выпадку некаторае—можа і мімавольнае—протэкцыі. Таму і выходзіла так, што Сымон Карызна, сакратар ячэйкі, усе свае сілы кладзе на тое, каб наладзіць як сьлед работу, часам, пэўная рэч, і памыляецца, але ў грунце вядзе цалкам пэўную правільную лінію, а Зелянюк, скажам, хоць і ня дрэнны хлопец, але малады, гарачы, заядлы—дык ён усё-ткі шкодзіць у рабоце і заводзіць спрэчкі, зьвягі, раскладае ячэйку... Але Сымон Карызна пераможа ўсе гэтыя перашкоды і ў сваім сельсавеце не па доўгім часе правядзе поўную стопроцантную колектывізацыю.

Рачкоўскі слухаў, утупіўшы нос у талерку, і паціху муркаў сабе пад нос нешта нявыразнае.

## 11

Палазы рыпелі з такой ціхамірнай спакойнасьцю, што зусім зьнікала ўсякае адчуваньне шпаркага руху і пачынала здавацца, нібы санкі даўно ўжо стаяць, загрузнуўшы ў цемры, недзе пасярод шырокага сьнегавога поля і адно пад напорам ветру млява калышуцца на месцы і сьціху пакрэктваюць ад натугі—нездаволеныя, але добрадушныя.

Сымону Карызну давала цудоўную асалоду гэтае адчуваньне. Руху ў яго досыць было ў сярэдзіне,—лёгкага, салодка-павеўнага—і глыбокі навакольны спакой, мякка атуляючы гэты рух, не даваў разьлятацца яму ў прасторы, стаўпляў яго ў нутры, абарачаючы ў пругкую сакавітую радасьць.

У прыемна абвеенай хмелем галаве бясконцым плаўным калаўротам перасувалася чарада парваных і ў сьмешным бязладзьдзі прыточаных адзін да аднаго вобразаў: вобразы людзей

чаргаваліся з вобразамі слоў, з вобразамі зусім абстрактных, але цяпер дзіўна жывых, рэальных уяўленьняў. За сарамлівай усьмешкай сьвежае пульхненькае жанчыны непасрэдна ішоў раскоцісты голас Рачкоўскага, з-за якога вызірала, дражліва падміргваючы, подлая грымаса хутарызацыі. Потым усё гэта адкідаў некуды ў бок хмуры ўдар кулаком аб стол і сьледам, за ім, як па сыгналу, ішло настойнае, неадступнае, халодна-бліскучае—„адным ударам". І ўсё разам—і добрае і дрэннае, і прыемнае і прыкрае—было цяпер роўна ахінута тонкім барвістым туманам, і роўна цешыла сэрца чароўнай цеплю.

Гэта ня было звычайнае ап'яненьне—гэта быў поўны бяздонны адпачынак усяе змардаванае жорсткімі нягодамі жыцьця істоты, якая нарэшце знайшла сабе жаданы супакой. Гэта была поўная бязумоўная пагоджанасьць з усім, што дасюль паўставала на жыцьцёвым шляху востра-варожымі супярэчнасьцямі.

Сапраўды, у гэтыя часіны Сымону Карызну ўсё падавалася ў ружовым сьвятле ціхамірнае згоды: усе нядаўныя спрэчкі, калатня, уся яго дзікая злосьць, усе балючыя трывогі і страх—усё гэта абуджала цяпер адну гіронічна-пагадлівую ўсьмешку, як пустыя дзіцячыя забаўкі, як выкліканыя імі мімалётныя лёгкія крыўды. Усё гэта расплывалася наперадзе, зьнікала ў ружовых яснотах яшчэ ня зусім выразнае, але прывабнае будучыні.

Раз-по-раз лёгкаю патугаю волі Карызна сунімаў млявую плынь цудоўна-пераблытаных барвістых вобразаў, каб у скупчанай на момант сьвядомасьці перабраць нізку думак, на якіх грунтавалася яго новае незамутнёна-чыстае самаадчуваньне. Ён рабіў гэта не таму, што былі ў яго якія-небудзь сумненьні, няўпэўненасьць, не—ён хацеў лішні раз адчуць законную непахісную моц свайго жыцьцёвага апраўданьня. Так упэўнены ў сваім багацьці скнара раз-по-раз перабірае свае поўныя скрыні, каб лішні раз адчуць сваю багатырскую сілу.

Усё, вядомая рэч, было ў належным парадку. Строгая непадкупная лёгіка даводзіла поўную рацыю выказаў Рачкоўскага.

Галоўнае—у самім сабе. Трэба перш-на-перш адным ударам пераццяць у сабе ў нутры ўсе сувязі з старым—трэба вызваліцца ад яго моральна. І тады само-па-сабе разьвяжацца ўсё. Адным ударам...

І Сымону Карызну здаецца, што ён ўжо зрабіў гэты „адзін удар", што ён ужо перарваў у сабе ўсе ніці, якія вязалі яго з мінулым, тое праклятае вязьмо, што з бязьлітаснай павольнасьцю сьціскала яго ў сваім шчытным непарыўным коле. Пэўна, што так, бо адкуль-жа была-б у ім гэтая ўздымная лёгкасьць, гэтая свабода, гэтае даўно ўжо згубленае ім у жыцьці адчуваньне поўнае волі, поўнае моральнае незалежнасьці?

Каб канчаткова пераканаць сябе, Карызна кідае мысьлёвы погляд назад, у мінулае—і яно выглядае з далечы туманнае няяснае, чужое, і, замест сябе, ён бачыць у ім зусім іншага, малазнаёмага чалавека—дурнога і агіднага.

Тады, цалком упэўнены і заспакоены, Карызна бязрупатна кідае свае разважаньні і акунаецца ў мякка-калыхлівую плынь бяздумнага сузіраньня.

Палазы рыпяць з глыбокай ціхамірнай спакойнасьцю, і загрузлыя ў цемры санкі стаяць недзе сярод бязьмежнага поля, пакрэктваючы пад напорам ветру — нездаволена, але добрадушна. Карызна ўпікае ў мяккую цемру нявідушчы застылы погляд і ўяўляе сабе—як любіў рабіць калісьці ў дзяцінстве—далёкую бясконцую дарогу, якая вядзе яго, самотнага падарожніка, у невядомы чароўны край, у невядомае казачнае жыцьцё. Ён пачынае сьмешна, па-дзяцінаму лятуцець, паволі акунаючыся ў ліпучую дрэму.

За вярсту перад Сіўцом возьнік абудзіў яго гучным звонкім ад марозу воклікам:

— А зараз ужо і Сівец!

І з гэтым воклікам скончыўся поўны, бяздонны адпачынак Сымона Карызны.

Сівец уварваўся ў нутро ў яго надзіва вясёлым радасным уздымам. Карызна здаволена канстатаваў, што ўжо даўно не ўяжджаў з такім добрым настроем у свой глухі няпрыветны Сівец.

Ён уяжджаў сёньня ў Сівец, як пераможца. І гэта адчуваньне свае перамогі (над сабой, над мінулым, над сучаснымі нягодамі) узбаламуцілі яго глыбокі чысты спакой. У ваччу ў яго замігцелі яскравыя спакусьлівыя карціны доўга-чаканага трыумфу. Ён быў упэўнены ў сабе, ён чуў сваю сілу, і гэтая сіла патрабавала сваіх законных праў, напамінала пра сваё законнае задавальненьне.

Што бліжэй пад'яжджалі да Сіўца, то ўсё гусьцейшым натоўпам абкружалі Карызну вобразы сівецкае абыдзеншчыны. І цяпер ужо яны ня пужалі яго, ня кідалі ў чорнае беспрасьветнае мятушэньне—ён адчуваў сябе сярод іх, як гаспадар у сваёй гаспадарцы, як камандзір сярод вернага слухмянага войска. Яго дзівіла цяпер тая нерашучасьць, нясьмеласьць, з якой ён абарачаўся дасюль у блытаным коле сівецкіх падзей, ён сароміўся свае мімавольнае мяккасьці і падатнасьці. І гэтай дрэннай мяккасьцю пачынаў ён тлумачыць усе няўдачы, што апошнім часам спасьцігалі яго на кожным кроку ягонай работы.

— Трэба ўсё павярнуць на інакшы лад.

І ў меру таго, як вылятали з нутра ў Карызны апошнія рэшткі яго нядаўнае пагоджанасьці з вострымі супярэчнасьцямі жыцьця, яго гіранічна-пагадлівага погляду на ўсе тыя спрэчкі, на ўсю калатню, на бязладзьдзе,—да яго пэўнай уладнай ступою варочалася яго старая, на хвіліну прыціхлая, злосьць, вядучы з сабой новага ня менш заядлага свайго таварыша—прагнае жаданьне помсты. Гэтая злосьць была страшнейшая, чымся была дасюль, бо за ёй стаяла цяпер адчуваньне сілы, упэўненасьць у ёй.

Такі вярнуўся быў Сымон Карызна з свае паездкі ў раён.

Была ўжо мабыць дзесятая ці нават адзінаццатая гадзіна, як яны ўехалі ў Сівец. Праяжджаючы паўз пачатковую школу, Карызна ўбачыў у знаёмым акне прыветны агеньчык і спыніў возьніка:

— Чакай, я тут зьлезу. Едзь сабе да хаты.

Возьнік спыніўся з такой гатоўнасьцю, нібы і сам так меркаваў, што тут трэба зьлезьці, і Карызну чамусьці гэта ўпадабалася.

У Веры Засуліч дзьверы былі не завалены—нехта яшчэ быў у яе. З кухні пачуў Карызна гамзатае брынканьне гітары і скрывіўся ў лёгкім нездаволеньні. Ён скінуў на кухні сваю вялікую ездавую хутру, і паляпаў у дзьверы. Звонкі, чысты, як крышталь, галасок Веры Засуліч працяў нутро яго цёплай радасьцю.

— Калі ласка! Заходзьце!

Адчыняючы дзьверы, Карызна чамусьці ўспомніў грубыя словы Рачкоўскага:

— Верачку падчапіў? Ну й зух! Смак маеш, няма чаго казаць...

І, успомніўшы гэтыя словы, здаволена ўсьміхнуўся.

У Веры быў Андрэй Шыбянкоў. Ён сядзеў ля грубкі, эфэктна заклаўшы нагу за нагу, нядбайна, зьнехаця перабіраў струны гітары і таямніча блішчэў у куток сваімі чорнымі загадкавымі вачмі.

Здаецца, ня было нічога асаблівага ў тым, што Андрэй сядзеў у Веры Засуліч, брынкаў на гітары і блішчэў вачмі, тым часам Карызна адразу адчуў мімавольную няёмкасьць. Яна яшчэ больш замацавалася ў ім, як па ягоным уваходзе Андрэй, мабыць, з простае далікатнасьці—адразу пайшоў, каб пакінуць іх з Верай адных. Карызну здалася гэтая далікатнасьць занадта пасьпешнай, падкрэсьленай.

Вера пайшла зачыніць за ім дзьверы і зараз-жа, вярнуўшыся назад, падыйшла да Карызны, з дзелавітай стараннасьцю прыгатаваўшы вусны да пацалунка, і з разгону павісла ў яго на шыі.

Карызна ў бурныя пяшчоты пераліваў сваё, прывезенае з раёну, узрушэньне. Яна ўважна прыгледзелася да яго, міла прыжмурыла свае цёмныя бяздонныя вочы і запытала з прыемным зьдзіўленьнем:

— Ты вясёлы?

Яму хацелася адразу, у адным слове выліць ёй усё, што бушавала ў яго ў нутры, што ірвалася з нутра нястрымана-напорным імпэтам Але, як пачаў шукаць гэтага слова, дык раптам убачыў, што ў яго фактычна няма пра што й гаварыць. Нічога-ж і ня было такога выдатнага, асаблівага. Наогул, нічога ня было. Што ён гутарыў з Рачкоўскім? Што той супакоіў яго? Дык такое-ж самае супакаеньне мог ён знайсьці кожны дзень і тут, ня езьдзіўшы нават у раён. Праўда, гэта ані не зьмяншае яго радаснага ўздыму, яго новае ўпэўненасьці ў сабе. Але як ёй растлумачыць гэта? Пра што расказаць ёй?

Каб схаваць сваё мімавольнае замяшаньне, ён запытаў яе ў наўмысна вясёлым бязрупатным тоне:

— Ну, што ў вас тут было цікавага за гэты дзень?

Яна дражліва прыцмокнула языком.

— Ого... Было... Ды яшчэ якое цікавае... Сказаць ці не сказаць?

І, вытрымаўшы паузу, каб распаліць у ім большую цікавасьць, нарэшце пахвалілася:

— У нас быў сёньня жаночы сход... І ведаеш, што мы пастанавілі? Організаваць колгас...

Карызна папраўдзе зьдзівіўся.

— Хто гэта „мы“?

— Ну, мы...

— Бабы?

І Карызна з кплівай грубасьцю зарагатаў. Вера прыкінулася, што злуецца.

— Сьмяецца... А мы напраўду. І не адны бабы, а ў нас і мужчыны будуць. Ужо больш як дваццаць гаспадароў згодны пайсьці разам з сваімі кабетамі... Во...

Карызна ўраз суняў свои сьмех.

— Я ведаю, гэта зноў Зелянюкова работа.

Вера таксама кінула сваю ўдаваную злосьць і зашаптала з змоўніцкай таемнасацю:

— Яго ня было там, але гэта, праўда, што ён. Я ўжо ведаю... Гэта Таццяна Шыбянкова надумала, а яна ўсё чыста робіць, што ён ей скажа. І Андрэй казаў, што ён кожнага дня ходзіць да яе—усё згаварваюцца аб нечым. І наогул яны...

Але тут яна засаромілася і, кінуўшы на Карызну быстры выразьлівы погляд, надзвычай міла пачырванела.

Карызна цьвёрдымі рашучымі крокамі хадзіў па пакою.

— Гэтага ўжо больш ня будзе. Досыць...

Вера з хвіліну глядзела на яго поўнымі нясьмелай павагі вачмі, а тады раптам насупіла броўкі, сабрала вусны ў нездаволеную грымасу і загаварыла пакрыўджаным голасам:

— Праўда што... Робіць усё, што хоча, нібы ён тут начальнік нейкі... Раз ён прысланы пад твой загад, ён павінен усё рабіць так, як ты яму скажаш...

Карызну зноў закарцела выліць ёй свой новы настрой, растлумачыць ёй, што цяпер ужо будзе іначай, што ён зусім ня так, як дасюль, паставіць сябе, што ён цяпер пэўны і сьмелы, што ён не баіцца нікога. І зноў ня было адпаведных слоў, зноў ня мог знайсьці нічога конкрэтнага, рэальнага, з чаго можна было павесьці гаворку.

Ён адчуваў, што Вера ня ўпэўнена ў ягонай рашучасьці, сумняваецца ў ёй. І ён чуў таксама, што ёй гэта няпрыемна, крыўдна, што яна хоча, каб ён быў інакшы—сьмелы, рашучы, мужны, каб ён быў хоць трошку герой.

Яму стала страшна. А што, калі ен, сапраўды не такі, якога яна хоча, калі ён ня можа, ня здольны зрабіцца такім? Ці будзе яна кахаць яго—слабога, нерашучага, палахлівага? Ці будзе яна кахаць яго зломленага, пераможанага жыцьцём?

І тут упяршыню паўстала перад ім ува ўсёй сваёй жорсткай няўхільнай прастаце пытаньне: ці кахае яна яго наогул? Ён толькі цяпер уздумаў, што яны дасюль яшчэ не сказалі адзін аднаму гэтага традыцыйнага, задрыпанага і ўсё-ткі такога патрэбнага, неабходнага слова—„кахаю".

Чамусьці ўсплыў у ваччу прыгожы таямніча-загадкавы і надзіва самаўпэўнены твар Андрэя Шыбянкова, і яму здалося, што на гэтым твары акурат ляжыць пячатка таго геройства, якога шукае Вера і якога няма ды й пэўна ня будзе ў яго самога.

У нутры ў Карызны займалася хмара новага дасюль нязнанага неспакою.

Вера Засуліч з шчырай трывогай сачыла за ягоным настроем. Яе чулы жаночы інстынкт падказаў ёй найзручнейшы момант, калі прысьці на дапамогу яму з сваёй мілай салодкай ласкай. І як-раз тады, як занялося ў ім гэтае новае прыкрае пачуцьце, яна кінулася да яго, моцна, па-дзяцінаму абшчапіла рукамі і, прытуліўшыся да яго ўсім сваім маленькім стройным целам, прашаптала:

— Ня трэба! Ня сумуй!..

Ён узяў у абедзьве рукі яе галаву і, адхіліўшы ад сябе, глядзеў ёй у твар настойным праніклым поглядам.

— Ты кахаеш, ці не?.. Ты папраўдзе кахаеш?.. Скажы, кахаеш?..

Яна ўпяршыню бачыла яго такога моцнага, трагічна-жорсткага, і ён ёй упадабаўся. Таму яна зусім шчыра, з чыстым сумленьнем адказала яму:

— Ну, кахаю-ж, вядома, кахаю... Ці ты ня бачыш сам?

І, вырваўшы з ягоных рук сваю галаву, яна парыўчата схавала на грудзёх у яго апалены раптоўнай чырваньню твар.

Цяжка сказаць, ці знайшоў Карызна сабе жаданае заспакаеньне ў гэтым Верыным прызнаньні. Праз увесь той вечар ён з нейкай надрыўнай прагнасьцю шукаў яе ласкі, быў дзіўна настойлівы, ненасытны, быццам няўпэўнены ў заўтрашнім дні, сьпяшаўся як мага болей зазнаць поўнага неабмежаванага шчасьця.

Галілей ткі праўду казаў некалі Марыне Паўлаўне, што стары дурней за маладога хлопца кахае...

Астаўшыся нарэшце адна, Вера Засуліч—дарма, што была позная пара—яшчэ доўга сядзела ў глыбокай задуме. На яе прыгожым твары, яшчэ хвіліну таму насычаным гарачай пяшчотай, цяпер ляжаў выраз сухой халоднай заклапочанасьці, нібы разьвязвала яна трудную і страшэнна дакучную задачу. Потым пакорна ўздыхнуўшы, яна з нязьменнай сваёй рупнасьцю і стараннасьцю ўзялася парадкаваць у хаце і доўга з цёплым замілаваньнем ладзіла начач сваю сьвежую непарушна-чыстую, як сама яна, пасьцелю.

Ужо напоўразьдзетая яна падышла да люстэрка і з хвіліну разглядала сябе ўважлівым дапытлівым вокам. Сьветлая ўсьмешка, якая мякка кранула яе чароўныя вусны, паказала, што Вера Засуліч сабой цалком здаволена.

# 12

Праз два дні пасьля гэтага брыгадзір Зелянюк атрымаў з раёну паперку, у якой яму прапанавалі зараз-жа пераехаць на працу ў другі сельвавет. У той самы дзень позна ўвечары, адбыўшы ўсе свае ня вельмі багатыя перадвыездныя клопаты, Зелянюк зачыніўся ў сваім пакоі, у чыстай палавіне хаты сівалапаўскага селяніна-серадняка Малаха Загароўскага, і пісаў ліст у горад, да свае дзяўчыны, адкрываючы ў ім усю глыбіню свайго новага настрою.

Вось гэты ліст.

„Любая мая, дарагая Стася!

Уяві сабе стан чалавека, які разам з іншымі працуе на пабудове новага цудоўна-прыгожага, яшчэ нідзе нябачанага дасюль будынку і якога акурат у той момант, як з шэрае масы матэрыялу пачынаюць ужо вырысоўвацца так доўга, так напружана чаканыя формы, забіраюць з гэтае работы, адрываючы ад найцікавейшага моманту яе творчага завяршэньня.

Такі прыблізна стан цяпер ў мяне. Але—ты ведаеш Стася—не ў маім характары наракаць, енчыць, выказваць нездаволеньне. Я проста констатую факт.

Мяне ў самым гарцы работы, у момант яе бясспрэчнага наладжваньня перакідаюць у другі сельсавет. Гэта—справа нашага сакратара ячэйкі, яго сяброўская мне паслуга...

Нашыя стасункі з гэтым чалавекам, пра якога я пішу табе бадай у кожным лісьце, дайшлі да свайго крайняга пункту. У нас з ім выбухнуў адкрыты конфлікт, у выніку якога ён кінуў мне рэзкае абвінавачваньне ў групоўшчыне, фракцыйнасьці, пагражаючы „організацыйнымі вывадамі". Але мабыць трапіўся яму пад руку лягчэйшы і прасьцейшы, спосаб пазбыцца мяне—і вось яго вынік. Я, шчыра сказаўшы, чакаў такога канца, бо бачыў, што я замінаю яму, што мая прысутнасьць чамусьці цяжарыць яго, нібы зьвязвае яму рукі. Я чакаў, што ён захоча вызваліцца ад мяне, але ня думаў, што гэта будзе так раптам і так проста.

Дзіўны гэта, Стаська, чалавек, папраўдзе... Ён больш цікавіць мяне, чым абурае. Я упэўнены, што ў яго ёсьць у нутры нейкі захаваны гнёт. І гэты гнёт неадступна мучыць яго вострым ражном укліняецца ўва ўсё ягонае жыцьцё. Я перш думаў, што гэта—сямейная трагедыя (з жонкай ён ужо разышоўся і гэтым, я ўважаю, зрабіў ёй вялікую паслугу), потым я упэўніўся, што і сямейныя ягоныя справы, калі не цалком, дык прынамсі ў значнай меры—вынік яго захаваных згрызот.

Я наўмысьля пайшоў быў сёньня да яго разьвітацца. Ён сустрэў мяне з хмурай суровасьцю, за якой ня зусім умела схаваў сваё замяшаньне, калі не сказаць—сорам. Я паказаў яму паперку з раёну, і ён памкнуўся быў зьдзівіцца, але ў яго гэта ня вышла. Я мімаволі засьмяяўся

і страшэнна раззлаваў яго гэтым, але ён зараз-жа авалодаў сабой і нават павесялеў. Мы ў шчырым сяброўскім тоне пагаварылі пра далейшы лёс тутэйшых спраў і на разьвітаньне ён, не хаваючы свае радасьці, зычыў мне ўсяго найлепшага і прасіў не парываць сувязі з іхнай ячэйкай, хоць на твары ў яго была шчасьлівая ўпэўненасьць, што ён больш мяне ня ўбачыць. Ён, небарака, ня ведае таго, што, і працуючы ў другім сельсавеце, я ўсё роўна ня буду спускаць яго з вока, што я маю на гэта пэўныя свае прычыны...

Чакай, Стаська, во што яшчэ... Ты магла падумаць, што я еду з такім спакойным сэрцам таму, што сапраўды адчуваю сябн вінаватым, што я ўцякаю ад пакараньня. Любая Стася, калі ты гэтак падумала ўжо, дык глыбока мяне пакрыўдзіла. Я, праўда, рабіў некаторыя і немалыя—памылкі ў рабоце, але каб я чуў хоць найменшую рацыю ў тых па праўдзе жудасных абвінавачваньнях, якія узьвёў супроць мяне сакратар ячэйкі, я-б, дай веры, не паехаў адсюль да высьвятленьвя справы. Я еду таму, што ўважаю гэта за нясур'ёзнае, за вынік яго гарачага і, праўду сказаць, ня зусім законнага гневу, выкліканага тым, што на партыйным сходзе прайшла не яго, а мая пропозыцыя. Я, вядомая рэч, мог-бы протэставаць, мог-бы узьняць цэлы гармідар—у мяне адзін момант і была такая думка, але потым я рашуча адкінуў яе і пастанавіў ехаць. Усё-ткі справа гэта не прынцыповая—траціць на яе энэргію ў такі напружаны момант неразумна і нават злачынна. Апошні—да рэчы сказаць, надзвычайны, непатутэйшаму бурны—сход нашае ячэйкі гарантуе правільны шлях у далейшай рабоце, а хто яе будзе весьці—ці-ж гэта ня ўсё роўна?

Так, гэта, вядомая рэч, усё роўна, і я мушу ехаць бяз доўгай развагі і думаць адно пра тое, як брацца за новую—бязумоўна ня менш цікавую і-пладатворную, чымся тут, работу.

Так я разважыў і так пастанавіў. Заўтра я еду... Вось, напісаўшы гэтыя словы, я паспрабаваў прыслухацца да сябе, да сваіх адчуваньняў і—нашто маніць?—я пачуў, што мне цяжка, нявымоўна цяжка ехаць адсюль. Я палічыў сёньня дні, колькі перабыў я ў гэтым мястэчку, і надзвычайна зьдзівіўся, калі вышла, што я жыву тут усяго адзін месяц. Я так шчытна уплёўся ў тутэйшае жыцьцё, што мне здаецца, нібы я тут і радзіўся. А, ведаеш, Стася, чаму гэта? Па-першае, таму, што наогул час цяпер поўна насычаны зьместам, што дзень пераварачаецца ў месяц, а месяц у год. А па-другое,—гэты месяц быў мне новым праясьненьнем, новай—глыбокай і напружана-дзейнай жыцьцёвай школай. А ты ведаеш, як прывязваецца чалавек да таго месца, да таго асяродзьдзя, у якім праходзяць хвіліны яго найбуйнейшага росту?

Слаўная, любая Стаська! Ты ня можаш сабе ўявіць, як я рад, што мне давялося сюды паехаць, што перад маімі вачмі і з маім непасрэдным удзелам праходзіць гэты вялікі гістарычны рух, які будуць некалі мо' ўспамінаць нароўне найвыдатнейшымі старонкамі людзкой гісторыі, нароўне з найслаўнейшымі і наймагутнейшымі рэвалюцыйнымі штурмамі! Я рад, што ўбачыў самае нутро, самую глыбіню гэтага цудоўнага процэсу пераробкі нашае дзікае, чорнае, бязглуздае вёскі. Я ня толькі пазнаў—я адчуў тут усім нутром з агнёва-яснай выразнасьцю ўсю неабходнасьць гэтае пераробкі і нямінучасьць яе. Апрача таго—і можа за тым—мне асабліва цяжка адсюль выяжджаць: я тут спазнаўся з праўдзівымі героямі гэтае новае рэволюцыі—з простымі звычайнымі людзьмі, якія сваёй сьціплай няпрыметнай адданасьцю новай справе даводзяць яе органічную зросласьць з бядняцкаю масаю вёскі. Я ня маю цябе, Стаська, агітаваць за колектывізацыю, але мне хочацца толькі адзначыць, што насупар усякім варожым плёткам, усё лепшае, прогрэсыўнае ў вёсцы, што не атручана да грунту тупымі уласьніцкімі інстынктамі ці не абдурана кулакамі, ідзе за намі. Гэтыя людзі ня ходзяць з чырвонымі сьцягамі і ня крычаць— „Даёш суцельную колектывізацыю!"—іншы, пагаварыўшы з ім, дык зусім пакажа нібыта поўную бязуважнасьць ці недаверлівасьць. Але гэта—надворнае. Досыць разварушыць троху яго, раскатурхаць, узьняць заляжалую, зацьвілую ўжо, але багатую ў сваёй натуры творчую яго ініцыятыву, і ён пакажа дзівосы.

Заняліся ў мяне тут, Стаська, і асабліва блізкія прыяцелі, з якімі я пэўна і па ад'езьдзе ня спыню сяброўскіх стасункаў. Іх трое, і ўсе абсалютна розныя людзі. Першы— былы партызан і чырвонагвардзеец, трагічна разьбіты змаганьнем, хворы. але з дзіўна сьвежым пачуцьцём і чыстым імклівым розумам. Другі—комсамолец, мілы хлапчук, паюнацкаму непасрэдны, просты і шчыры. І нарэшце трэці... адна жанчына...

Каб ты, хітрая, дрэнная Стаська, хоць трошачку менш была ўпэўнена у маім каханьні, ты магла-б зайздросьціць да гэтай жанчыны. Я яе „выкапаў" выпадкова і магу з законным гонарам пахваліцца, што з маіх рук яна стала сьвядомым грамадзкім чалавекам.

Яна досыць прыгожая, па-жаноцку прыемная, вабная, але, апрача таго, разумная і надзвычай чулая. Тое, да чаго мне даводзіцца прыходзіць праз цэлы гушчар лёгічных разважаньняў, яна бярэ сваім вострым інстынктам і рэдка калі памыляецца. Яна глыбока ведае вёску ці, правільней, адчувае яе, асабліва яе жаночую палавіну. З яе будзе—ды й ужо ёсьць—добрая грамадзкая працаўніца.

Я ня ведаю, ў якой меры гэта можна, як кажуць, запісаць у актыў майго мужчынскага гонару, але трэба сказаць, што ад'езд мой зрабіў на яе чамусьці асабліва цяжкое ўражаньне. Яна—ці толькі прачула пра гэтую навіну—адразу прыбегла да мяне—зьдзіўленая, ашаломленая—і запытала з крыўдай у голасе:

— Ты нас пакідаеш?

Я паспрабаваў неяк пажартаваць, пасьмяшыць яе, але гэта не зрабіла на яе ніякага ўплыву. Яна з хмурай ўпэўненасьцю, скрозь якую прабіваўся балючы дакор, заявіла:

— Цяпер у нас нічога ня выйдзе.

Я зноў сьмяяўся, кпіў з яе змрочнага вешчаваньня, з яе бязьверыцы, і нарэшце раззлаваў яе. Яна з едкай горкасьцю ўпікнула мяне:

— Табе пэўна, што сьмешкі... Ты паехаў—і ўсё тут, а што у нас тут будзе цяпер...

І, каб паказаць, што гэта ў яе ня пустыя бабскія прадчуваньні, яна аўтарытэтна дадала:

— Я ўжо добра знаю сваіх людзей... Нічога ня будзе... Усё скуламесіцца...

Яна супакоілася толькі тады, як мы ўмовіліся, што будзем з ёй перапісвацца і што я, як і дасюль, буду з пільнай увагай сачыць за тутэйшымі справамі.

На разьвітаньне—злуйся, ці ня злуйся, Стаська,—а мы з ёй шчыра, па-сяброўску пацалаваліся.

Гэта была апошняя мая акцыя ў гэтым мястэчку.

Цяпер ужо глухая позная ноч. У мяне ўсё гатова, і праз якіх колькі гадзін пад'едзе падвода. Я наўмысьля сказаў, каб прыехаў досьвіта, каб ня ехаць к відну—гэта мая паблажлівая уступка сваёй слабасьці.

Я ня ведаю, ці патраплю хоць з гадзіну заснуць, бо ў нутры ні на момант не спадае нэрвовае ўзрушэньне, у якім, цяжка сказаць, што пераважае: ці жаль па мінулым, ці радасьць сустрэчы з новым, невядомым і цудоўна-прывабным?

Але мне й ня хочацца спаць. Гэтыя апошнія ціхія, засланёныя глухой ноччу, гадзіны я перабуду з табой, бо я так жыва, так горача адчуваю цябе, нібы ты й сапраўды прышла да мяне, мая дарагая, родная, да немагчымасьці любая Стаська"...

Далей у лісьце ішло ўжо рознае нестасоўнае глупства, якое толькі можа вярзьці хлопец у дваццаць ці троху болей год, горача, прагавіта закаханы ў сваю дзяўчыну. Бо Зелянюк, хоць і паказваецца ў гэтым апавяданьні, як цалком станоўчы, мала не ідэальны герой сучаснасьці, але і ён, як кожны жывы чалавек, меў свае слабасьці.

# Частка трэцяя

1

Цімахвей Міронавіч Гвардыян сядзіць на сваім адумысловым троне і маленькаю чарачкаю п'е нарзан. Яшчэ з найясьнейшае пары свайго перабываньня на пасадзе кур'ера высачайшай комісіі па такіх-та і такіх-та справах абсмакаваў Цімахвей Міронавіч гэты цудоўны шляхетны трунак і ўжывае яго ў хвіліны найвялікшых уструшэньняў свае чулае далікатнае душы. Мабыць з асаблівае пашаны свае да гэтага трунку ён заве яго не „нарзан“, а больш гучнаю і романтычнаю назваю—„тарзан“ і, глыбока ўпэўнены ў яго жыватворнай моцы, п'е яго, як гарэлку—размашыста, зухавата—і адчувае пасьля яго лёгкае прыемнае ап'яненьне.

Але сёньня чамусьці „тарзан“ не бярэ сілы. Цімахвей Міронавіч выпівае ўжо пятую ці шостую чарку і адно чуе, як цудадзейны трунак асядае ў жываце халодным нязрушным цяжарам, не даючы нутру жаданага разгарачэньня. Такі зварот справы Цімахвея Міронавіча нават пужае, і ён з падазронай уважлівасьцю разглядае пляшку, шукаючы ў ёй прычыны дзіўнага зьявішча. Ён успамінае, што гэтая пляшка адкаркована з тыдзень таму, калі не болей, што яна магла дасюль вычхацца, пасьля доўгіх ваганьняў, здаўшыся на тое, што сёньня выключны па сваёй трывожнасьці дзень, адважваецца на рашучы, блізкі да самаахвярнасьці учынак: не дапіўшы пачатае пляшкі, распачаць новую.

Як за-звычай, Цімахвей Міронавіч устае з свайго трону з наўмыснай млявай цяжарнасьцю, якая на яго думку дае чалавеку асабліва станавіты выгляд, але раптам чуе, што яму і сапраўды цяжка устаць з крэсла. Тады ён сядае назад і ўстае ўдругае—ужо скоранька, без станавітасьці. Здаецца нішто... Троху заспакоіўшыся, ён бярэ недапітую пляшку „тарзану“ і падаецца да дзьвярэй у чорную палавіну хаты, але па дарозе няўмысьля трапляе вокам у вялікае люстра ў кутку і, зьбянтэжаны, сунімаецца на паўкроку.

З люстэрка на яго глядзеў мізэрны, змардаваны і—што асабліва ўразіла яго—перапалоханы чалавечак. Голы пэргамінавы твар пасінеў, зайстрыўся і выцягнуўся ня проста ўдаўжыню, як-ткі й належыць у падобных выпадках людзкому твару, а наўскасяк, накшталт старой, перахіленай на бок, драбіны. Усё было крывое: вострая барада драпежна накіроўвала ў бок сваю дзюбку

тонкія апруцянелыя вусны разыйшліся туга сашчэмленымі куточкамі—адным угару, другім уніз, вока адно было куды меншае за другога, і нават касьцяны гузаваты лоб і той нібыта блішчэў адным сваім гузам ясьней і сіней, чым другім.

Твар быў жудасна няпрыгожы і страшны.

Цімахвей Міронавіч доўга ўзіраўся ў люстэрка з тупым неўразуменьнем, пакуль ня суняўся разьбеглымі думкамі на зуспакойлівым тлумачэньні:

— Ужо другую ноч вокам ня зьвёў.

Ён паціху абмацаў рукою твар, нібы хацеў паправіць яго, надаць яму звычайную форму. Потым паспрабаваў сам сябе усьміхнуцца і, калі усьмешка вышла досыць прыстойная, ён пачуў, што сякая-такая сіла ўсё-ткі ў ім ёсьць. Яму закарцела тады як-небудзь паказаць гэтую сваю сілу—зараз-жа неадкладна праверыць дзейнасьнасьць яе на якім-небузь об‘екце. Замест таго, каб ісьці па нарзан у чорную хату, ён вярнуўся назад, зважна асеў у сваё пышнае крэсла і, цішком адкашляўшыся, кракнуў гучна і валадарна.

— Матрёна!

На яго вялікае дзіва адказу не пачулася. Ён ведаў, што жонка ў хаце—толькі вось чуў ён яе гаспадарчую там мітусяніну—і ён крыкнуў яшчэ больш гучна і валадарна, дадаўшы ў голас пэўную дозу законнага гневу:

— Матрёна!

Зноў ані гуку.

Цімахвей Міронавіч з хвіліну сядзеў нярухома, з глыбокім зьдзіўленьнем і трывогаю ўслухваючыся ў зманлівую цішыню.

Няўжо ён не пачуў, як яна вышла?

Гэта ня можа быць. Ён ня мог не пачуць. Ён латвей мог прапусьціць міма вуха гук раптоўнага стрэлу ці нязвычайны сярод зімы удар перуна , чымся хоць найцішэйшы бразгат дзьвярэй. Бо-ж ён ужо трэція суткі з нечалавечай напружанасьцю чакае гэтага страшнога фатальна-нямінучага бразгату. Ён чакае яго так, як чакае асуджаны на сьмяротную кару злавеснага скогату іржавага турэмнага замка.

Цімахвей Міронавіч яшчэ раз—ужо ня так сьмела і ўпэўнена—цаклікаў жонку і, яшчэ раз не пачуўшы адказу, парыўчата усхапіўся з крэсла і, працяты незразумелым страхам, кінуўся ў чорную палавіну хаты.

Маленькая молепадобная жанчына стаяла нездалёка ад качарэжніка, прыхінуўшыся худзенькім плячом да сьцяны і застыўшы ў маляўніча-журботнай і таму дужа сьмешнай паставе. Як увайшоў муж, яна страсянулася усім сваім дробным целам, але на яго не азірнулася.

Цімахвей Міронавіч грозна застыў на парозе.

— Матрёна! Ты чула, як я цябе гукаў, ці не?

„Матрёна“ набрала духу і прапішчэла з трагічнай рашучасьцю:

— Чула...

— Ну?

Ён лічыў, што гэтага „ну“ зусім будзе досыць, каб ачуліць жонку і вярнуць яе да ранейшай пакорнасьці, аж памыліўся— маленькая молепадобная жанчына не зварухнулася з месца.

Гнеў ў Цімахвея Міронавіча зьмяшаўся з няўцямнасьцю, і ён запытаў без асаблівай жорсткасьці, нават з прыкметным ваганьнем у голасе.

— Матрёна! Ты, будучы, чуеш, што я кажу?

Замест адказу яна зрабіла так, як рабілі ў падобных выпадках усе героіні чытаных ёй калісьці романаў: заламіла болесна рукі і, утаропіўшы ў печку поўныя беспрасьветнае роспачы вочы, гучна прашаптала:

— О, божа! Калі гэта кончыцца ўсё!..

Цімахвей Міронавіч асалапеў. Ен ня ведаў, як далей ставіцца да жонкі, бо яшчэ ня ўпэўнены быў, што яна звар'яцела. Каб не зрабіць часам непапраўнае памылкі, ён ўсё-ткі рашыў абыходзіцца з ёй пакуль што, як з прытомнай. Ступіўшы некалькі крокаў наперад, ён сьціснуўся увесь у цьвёрдай каменнай злосьці і выдушыў з сябе жудасна-ціхім перажабленым голасам:

— Матрёна! Падумай, будучы, што ты робіш?

І з яшчэ большай гразой перапытаў:

— Што ты робіш?

Маленькая молепадобная жанчына зноў страсянулася ўсім сваім дробненькім целам—і зноў не паддалася. Ламаючы рукі і з роспачу гледзячы ў печ, яна войкала і стагнала:

— О, божа! За што гэтыя мукі? За што я пагубіла жыцьцё сваё? За што я страціла сваю прасьветлую маладосьць? Што я бачыла ў гэтым жыцьці? Што я мела з гэтага праклятага багацьця, якое выпіла з мяне ўсю маю гарачую кроў?.. Куды я пайду цяпер? Дзе я дзенуся, няшчасная? Хто прытуліць мяне? Выпіў кроў маю, высушыў мяне, згубіў маю прасьветлую маладосьць! О, божа мой, божа!

Цімахвей Міронавіч перажываў страшныя хвіліны. Ён зразумеў, што жонка не звар'яцела, і гэта спужала яго больш, чымся магло-б спужаць яе праўдзівае вар'яцтва. Найцяжэй было адчуваць, што ён ня мае над ёй абсолютна ніякай улады, што ён ня можа нават суняць гэтых яе жорсткіх пякучых дакораў. Увесь непахісны аўторытэт яго, увесь страх, які яна скрозь адчувала да яго, уся яе трапятлівая пакора—усё гэта трымалася на няпэўным груньце яго пустой надманай вялічнасьці, і ўсё гэта ўраз разьляцелася, ці толькі калыхнулася гнілая будыніна яго добрабыту.

Дзе-ж яго сіла? Дзе-ж яго воля над гэтай ціхай вечна слухмянай жанчынай, якая дасюль ня важылася зірнуць яму ў вочы, ня важылася сказаць яму лішняга слова? Няўжо ён ня здольны скарыць яе, вярнуць да ранейшае ціхасьці?

Яму здаецца, што ад тага, ці патрапіць ён зараз даць рады сваёй ўзбаламучанай жонцы, залежыць лёс цэлага яго жыцьця,

і ён гатоў пайсьці на ўсё, гатоў ужыць які-хоця спосаб, абы ўціхамірыць яе, паказаць сваю сілу над ёй, сваю перавагу. І тут яго раптам асьвятляе цудоўна-простая і ясная думка: ён-жа—што-б там ні было,— а ўсё-ткі мужчына, ён фізычна дужэйшы за яе, ён можа сьцерці ў порах гэтую нікчэмную паскудную гадзіну!

І сьціснутая ў нутры злосьць Цімахвея Міронавіча, знайшоўшы выйсьце, ураз абарачваецца ў шалёнае парываньне. З тонкім нечалавечым віскам кідаецца ён у качарэжнік, хапае там нейкі ражон і замахваецца ім на жонку.

Але жонкі ў гэты момант пад рукой не знайшлося. Убачыўшы нечаканы і цалком выразны замер свайго грознага мужа, яна пырхнула ад качарэжніка і, беспарадна махаючы рукамі, як падбітая перапёлка крыльлямі, борзьденька пераляцела ў другі куток хаты. Там забілася за вялізны дубовы стол і шырока лыпала вачыма, асалапелая ад страху. Адылі ўбачыла, што Цімахвей Міронавіч нерашуча суняўся, зьбянтэжаны, пэўна, сваёй абмашкай, і зноў вярнулася да свайго маляўнічага трагізму. Набраўшы поўныя грудзі паветра, яна з апошняю адвагаю чалавека, які ў роспачы кідаецца ў вір галавой пляснула аб стол рукамі і, парыўчата схіліўшы на іх галаву, забілася ў істэрычным плачы.

Цімахвей Міронавіч, пэўна ўзяўшы на ўвагу, што ляжачага ня б'юць, прайшоў паўз яе ў хмурым пагардлівым маўчаньні і дэманстрацыйна ляпнуў дзьвярмі ў чыстую палавіну хаты. Усьлед яму ляцела мэлёдычнае рыданьне асьмялелае жонкі, скрозь якое прабіваліся горкія балючыя нараканьні:

— Божа мой, божа! За што я такая няшчасная? Дзе мая доля, дзе маё шчасьце? А я-ж была маладая, а я-ж была прыгожая... У гімназіі вучылася... Дзе маладосьць мая? Дзе маё хараство? Хто згубіў мяне, хто ссушыў мяне, ня даў мне ўбачыць у жыцьці яснага сонца? О, божа мілы! Калі гэта кончыцца ўсё?...

Гэта быў першы і апошні бунт маленькае молепадобнае жанчыны супроць грубой волі свайго суровага мужа. Памалу рыданьні яе заціхалі, пераходзячы ў ціхае жаласнае хліпаньне. Нарэшце яна ўзьняла са стала галаву, шырокім жэстам прыклала да цемя руку і, прыжмурыўшы вочы, як у забыцьці, прашаптала:

— Гэта—кашмар... чэснае слова...

У гэты момант з чыстае палавіны пачуўся абыклы, штодзённы глыбока ўрослы ў нутро ў яе воклік:

— Матрёна!

І трагічная героіня старых напоўзабытых раманаў, борзьдзенька абцёршы кулачком астатнія сьлёзы, дробна патупала да свайго мужа—бязьмежна ціхая і пакорная.

Цімахвей Міронавіч сядзеў на сваім троне горды, але літасьлівы. У руцэ ён як кляйноды ўлады трымаў спопрыску ўхопленую ў качарэжніку чапялу. Ён убачыў жончыну пакору і зьвяр-

нуўся да яе тонам у меру строгім, але такім, які даваў разумець, што ён занядбаў яе нядаўнюю дурасьць і ўсё ідзе па-ранейшаму,

— Матрёна! Прынясі мне сьвежую бутэльку тарзану!..

„Матрёна“ неўзаметку ўздыхнула, але пайшла выконваць загад ахвотна. Яна, як і яе муж, любіла нарзан, хоць ніколі ня піла яго,—любіла за тое, што ён менавіта „тарзан“, а не нарзан, бо ад гэтага романтычнага імя на яе патыхала чароўнай парой яе неверагоднае маладосьці.

Шчасьліва разьвязаны інцыдэнт з жонкаю і сьвежы нарзан падмацавалі троху Цімахвея Міронавіча Гвардыяна, і ён вальготна адкінуўся на сьпінку свайго трону, глыбока ўбіраючы ў сябе чароўную слодыч збавіцельнага спакою. Ён да таго асьмялеў, што адважыўся нават—хоць і з патаемным трапятаньнем у сэрцы—зрабіць сабе нібыта спакойнае зусім, нібыта зусім бястурботнае запытаньне:

Чаго ён уласна баіцца?

Адылі зрабіўшы гэтае запытаньне, ён доўга ў тупой, наўмысна нагнанай на сябе, бяздумнасьці стаіць перад чорнай заслонай глухога нявыразнага страху, што затуляе ад ягоных вачэй пэрспэктыву, і доўга ня важыцца адхіліць хоць маленечкі крайчык гэтае заслоны, хоць адным вокам зазірнуць за яе. Каб падрыхтаваць сябе да страшнога відовішча, ён пачынае блукаць сьцеражлівымі думкамі па абходных сьцежках меркаваньняў, якія аднак пры ўсіх сваіх сьмелых прыпушчэньнях ўсёроўна не даюць ані найменшага ўяўленьня аб тым, што сунецца на яго за дымавой заслонай чорнага страху.

...Адбяруць каня.. Кароў... Усіх, ці не?

...Можа накладуць які штраф... Колькі? За вошта?

...Няўжо і збожжа таксама возьмуць

...Мо‘ які вялікі непадужны падатак?

Цімахвей Міронавіч сам разумее добра, што ўсе гэтыя меркаваньні—прытульныя, але няпэўныя закутачкі, у якіх да пары хаваецца яго палахлівая сьвядомасьць. Ён, праўда, ведае і тое, што большага быць ня можа—прынамсі, цяпер, пакуль што—што ён нарыхтаваў сябе да найгоршага, і разам з тым чуе, што страхі ня ў гэтым, што страх зусім ня мае нічога супольнага з гэтым яго папушчэньнямі—страх ідзе асобна, сьледам за імі, большы за іх і глыбейшы...

Чаго-ж ён уласна баіцца?..

Нарэшце Цімахвей Міронавіч Гвардыян упяршыню за двое сутак свайго мардаваньня набіраецца адвагі, каб блізка, усутыч падыйсьці да свайго непазбыўнага страху, сьмела прыглядзецца да яго, абмацаць яго рукамі. Ён нарэшце бярэцца за крайчык заклятае таемнае заслоны і сьцеражліва, з апаскаю падымае яго.

За заслонаю—зіркатая насьмешлівая пустата.

Цімахвей Міронавіч дагадваецца, што гэта проста гульня, што гэта страх строіць з ім хітрыя свавольныя штукі. Выходзіць, што няма чаго й баяцца? Выходзіць, што ён дарма толькі мардуе сябе?

Ён добра ведае, што гэта—самаспадман, што страх яго быў недарэмны. Ого! Цімахвей Міронавіч Гвардыян ня будзе дарма баяцца! Але самая думка аб магчымай бязгрунтоўнасьці ўсяго ягонага страху дужа пацяшае яго, і ён, напружана перагнуўшыся наперад, нібы ў яго раптам закалола ў жывот, пачынае сьмяяцца дробным сакатлівым сьмехам—першым сьмехам за ўвесь час, як пайшла па сьвеце гэтая страшная згубная замятуха.

У меру насьмяяўшыся, ён хоча нарэшце суняць свой сьмех і з жахам пераконваецца, што ня можа, ня мае сілы гэта зрабіць. Яго сьмех нібы адлучыўся ад яго, абярнуўся ў цалком самастойную істоту, якая жыве сваім асобным жыцьцём, маючы на яго нейкую сваю, зусім незалежную ад Цімахвея Міронавіча, падставу. Во Цімахвею Міронавічу ані ня сьмешна—наадварот, кожны гук гэтага дзікага сьмеху-сакатаньня аблівае яго лядовай хваляй жудасьці

У Цімахвея Міронавіча маланкай бліскае страшная думка, што ён звар'яцеў. Гэтая думка пераходзіць ува ўпэўненасьць, калі раптам ён заўважвае, як сьмех яго дзіўна сплятаецца з густым гоманам нявіднага натоўпу, з цэлым хорам людзкіх галасоў, што няма ведама адкуль наляцелі і атачылі яго блытаным карагодам.

Адкуль гэты гоман? Адкуль гэтыя галасы?

Ага! Гэта—адтуль... Надышло ўжо... Падступіла

Чаму-ж ня бразнулі клямкаю, а загаманілі там, за акном? Ён-жа двое сутак, ня спаўшы, ня еўшы, чакаў гэтага раптоўнага рэзкага, пякучага бразгату, ён-жа так прывык да яго ў гэтым напружаным чаканьні, што інача́й ня мог уявіць сабе першага сыгнальнага гуку небясьпекі.

Замест—бразнуць клямкаю, загаманілі за акном!

Гэта дык ужо папраўдзе сьмешна, гэта можа ўвесьці і ня ў гэткі рогат.

Замест клямкі—загаманілі...

І Цімахвей Міронавіч аж кладзецца ад вясёлага нястрымнага сьмеху, які нарэшце знайшоў сабе такое поўнае, такое слушнае апраўданьне.

...Як увайшлі ў чыстую палавіну, Цімахвей Міронавіч Гвардыян ужо перамог свой дзікі істэрычны сьмех. Ён стаяў перад люстэркам, трымаючы ў аднэй руцэ чарку нарзану, а ў другой—чапялу. Убачыўшы людзей, ён адышоўся да акна, асьцярожна паставіў на ім чарку, потым перайшоў да свайго трону і чамусьці паставіў чапялу на самае сядзеньне, а тады стаў проста перад людзьмі і ўпяў свой атупелы погляд у адну кропку, якая адразу забрала ўсю ягоную ўвагу.

За гэтую кропку быў прыгожы чарнявы твар Андрэя Шыбянкова. Усім здалося, што Цімахвей Міронавіч вельмі спакойны і стрыманы, і ў іншых нават зьявілася да яго мімавольная павага—але гэта было чыстае непаразуменьне: Цімахвей Міронавіч проста асалапеў.

Што больш глядзеў ён у загадкова-усьмешлівыя вочы Андрэя Шыбянкова, то ўсё шырэй і шырэй расхіналася перад ім чорная заслона ягонага страху.

За заслонай стаяла—ня больш ня менш, як яго ўласнае Гвардыянскае жыцьцё.

Гэта ня былі згрызоты раптам ачуленага сумленьня, гэта ня было познае каяньне,—гэта было больш страшое і балючае: адчуваньне поўнае беспаваротнае марнасьці ўсіх нязьлічоных дзён яго нібыта добрага сытага жыцьця. Гэтыя дні грозна паўсталі на яго, парваўшы спарахнелыя ніткі аблуднага шчасьця, якімі ён маніўся злучыць іх у нейкае законнае адзінства, і прыдушылі яго нязносным цяжарам свае ганебнае пустаты. Было падобна да таго, што чалавек цэлы век зьбіраў адусюль розны гломазд—цаглінкі, каменчыкі, чарапкі, усё, што траплялa пад руку, што дзе няпэўна ляжала—і ляпіў з яго пачварную, брыдкую, але мілую яго сэрцу будыніну. А ляпіў ён яе ня цэмантам, ня вапнай, а мокрым пясочкам, які сяк-так трымаўся, покуль быў мокры. Павеяў жорсткі ядраны вецер, і ўраз рассыпаўся абсушаны пясочак і грымнуў увесь той недарэчны гломазд, заваліўшы сабой чалавека.

Урачыста скрывіўшыся і ёмка прыплюшчыўшы вока, чытаў Пацяроб протокол. У яго цудоўна напышаным голасе ня было цяпер ні злосьці, ні нянавісьці, ні нават асаблівай строгасьці—адно вясёлае задавальненьне: ён страшэнна любіў такія важныя сэнсацыйныя справы.

Цімахвей Міронавіч ня чуў ані слова з таго протоколу. Ён неадступна ўзіраўся ў трыумфальны твар Андрэя Шыбянкова—нават не са страхам, а з нейкай дзіўнай адзервянелай цікавасьцю. Скрозь чорныя насьмешлівыя Андрэевы вочы на яго глядзела насьмешка бязьлітаснага жыцьця, што так жорстка, так балюча яго ашукала. Як скрозь шкло перавернутага бінокля, ён бачыў неспадзявана адкрыты вобраз свайго добрабыту—пачварна-маленькі, убогенькі, сабраны ў адну плаксіва скрыўленую грымасу. І гэта ўсё было так асобна, так незалежна ад самога Андрэя, ад яго фатальнай варожасьці, перад якой цеперся дрыжэў Цімахвей Міронавіч, што пачынала здавацца, нібы паміж іх зусім няма ніякае злосьці, нібы ўсе тыя цёмныя справы былі ў Цімахвея Міронавіча з некім іншым, а Андрэй Шыбянкоў проста быў выпадковы, незацікаўлены і нават цалком бязуважны сьведка. І цяпер ён прышоў сюды не спаганяць сваю застарэлую крыўду, а от проста так—пацікавіцца, можа пасьмяяцца троху з яго няшчасьлівай прыгоды.

Цімахвею Міронавічу страшэнна хацелася, каб гэта было менавіта так, каб страшны „злaдзюга Шыбянкоў абмінуў яго сваёй помстаю, і ён з прыдуркаватай наіўнасьцю асалапелага ад страху злачынца памкнуўся перад ім апраўдацца. Як кончылі чытаць протокол і настала хвіліна вельмі цяжкага маўчаньня,

ён раптам загаварыў да Шыбянкова, сьмешна ківаючы галавой і дзеля большай пераканаласьці трымаючы перад носам палец:

— Я ня злодзей... Я ня ўкраў у вас, будучы, не адабраў.. Я не абрабаваў вас... не... Я—па закону...

Усе застылі ў глыбокай цікавасьці, усе нецярпліва чакалі, як паставіцца да гэтага Шыбянкоў.

Андрэй раптам зьмяніўся ў твары. Трыумфальна-самадаволь-ная ўсьмешка яго абярнулася ў драпежную, зларадасную міну, твар скрывіўся ўвесь, скуксіўся, стаў меншы і няпрыгожы. Ні слова не гаворачы, ён пачаў наступаць на Гвардыяна ў грознай павольнасьці, працінаючы яго вострым жудасна-бліскучым зіркам.

Цімахвей Міронавіч, увесь калоцячыся, адступаў дробнень-кім расьцярушаным крокам у глыб пакою. Нібы загіпнатызаваны страшным поглядам Шыбянкова, ён ня мог адарваць ад яго сваіх вачэй, шырока расплюшчаных, нярухомых, працятых халодным жахам.

І вышла так, што акурат у гэты момант Пацяроб, мабыць' затым, каб перапыніць гэтую прыкрую сцэну, з усёй, на якую ён здольны быў, дабрадушнасьцю лэпнуў Гвардыяна па плячы.

— Эх, ты любачка!

Раптоўны—ды й ня надта слабенькі— удар даляцеў да Гвар-дыянавай сьвядомасьці раней, чымся вясёлыя Пацяробавы словы, і, злучыўшыся з агульным комплексам яго перажываньняў, выклікаў маланкавае-быстрае пякучае адчуваньне:

„Б'юць"!

І Цімахвей Міронавіч у інстынктыўным парываньні да сама-абароны сьмешным нязграбным рухам затуліў галаву рукамі і крыкнуў дзікім фальцэтам:

Ай-яй!

Гэта было так неспадзявана і так не стасоўна да агульнага настрою, што ўсе, хто быў у хаце, зайшліся ад вясёлага сьмеху.

Андрэй Шыбянкоў, цяжка аддыхваючыся, вярнуўся назад з пах-мурным выглядам чалавека, якому перашкодзілі зрабіць хоць і жорсткі, але высока справядлівы ўчынак.

Цімахвей Міронавіч зразумеў сваю памылку. Яму было пэўна дужа сорамна, каб не перамагло ў ім другое, больш актуальнае пачуцьцё—паганенькая зьвярыная радасьць шчасьлівага ратунку ад небясьпекі. І ён недалужна сьмяяўся разам з усімі, пазіраючы то на аднаго, то на другога поўзкім ліслівым поглядам.

У яго так і астаўся гэты разгублена-прыбітымі саладжавы настрой. Нават калі ўгледзеў ён сярод людзей чырвоны карабаты твар свайго брата, нават калі Паўлюк, мабыць упадабаўшы эфэк-тнае выступленьне Шыбянкова, таксама падступіў да яго і з усіх сіл пяўся зрабіць перад ім як найстрашнейшую міну (яна ніяк у яго ня выходзіла, бо быў залішне п'яны), нават і тады Цімахвей Міронавіч Гвардыян не вярнуўся да свае ранейшае станавітасьці і ня кры-кнуў па-ранейшаму на браша-пагардліва, як на сабаку,—а ўсьміх-нуўся і яму і запытаў зусім нечаканай ад яго добразлівасьцю:

— Ужо набраўся, га? Хе-хе... Выпіў сабе троху?..

Зьбянтэжаны такім абаротам Паўлюк доўга бурчэў сабе пад нос нешта нявыразнае.

Але быў яшчэ адзін момант, што Цімафей Міронавіч Гвардыян стаў зноў Цімахвеем Міронавічам Гвардыянам у поўнай велічы свае грознае жорсткае натуры.

Гэта было ўжо на двары.

Цімахвей Міронавіч вышаў з хаты з пакорнай слухмянасьцю чалавека, які з мілай ахвотаю зробіць усё, што ад яго патрабуюць. Зьнімаючы з крука ключы (яны спрадвеку віселі там у сьвятой незачэпнасьці, і ніхто, апроч гаспадара, не заважыўся да іх дакрануцца)—зьнімаючы з круга ключы, ён ласкава гукнуў жонку, якая была зашыўшыся недзе ў зацішны куточак:

— Матрёша! Пойдзем!

І гэтым словам „Матрёша“, сказаным бадай упяршыню за ўсё іхняе сумеснае жыцьцё, ён увёў маленькую молепадобную жанчыну ня ў меншае замяшаньне, як і брата Паўлюка.

На двары былі яшчэ людзі, цэлы натоўп—яны, відаць, даўно ўжо сышліся тут і з нецярпялівасьцю чакалі пачатку цікавае процэдуры.

Цімахвею Міронавічу гэта была неспадзеўка, і, стаўшы на ганку, ён з хвіліну ўзіраўся ў натоўп ня то са страхам, ня то з задзіўленьнем, ня то проста з цікавасьцю. І вось тут, мабыць у апошні раз, абудзіўся ў ім сапраўдны Цімахвей Міронавіч Гвардыян, суровы гаспадар і былы кур‘ер высачайшай комісіі па такіх-та і такіх-та справах.

Паперадзе ўсяго натоўпу стаяў Галілей. Ён тупаў на месцы ад холаду, дробна кхекаў і, здалося Гвардыяну, падміргваў яму хітра і насьмешліва.

Цімахвей Міронавіч увесь страсянуўся. Невядома, ці ўжо дужа датклівае было Галілеева падміргваньне, ці можа проста пачуў Гвардыян па сваёй сіле чалавека, але ўся яго зьвярыная злосьць, прыдушаная знадворнаю, роджанаю інстынктам самаабароны, падрыжнасьцю, раптам скінула з сябе вымушаную заслону і паўстала ў поўнай сваёй натуральнай сіле. Ён дзіка напружыўся, рукі ў яго сударгава сашчаміліся ў кулакі, а твар акасьцянеў у драпежнай корці. Саступіўшы з ганку, ён паволі, так, як там, у хаце, Андрэй Шыбянкоў, пасунуўся на Галілея.

Стары дзівак падпусьціў яго крокаў на два да сябе і зрабіў сьмешнае, недарэчнае, зусім нестасоўнае да сталага чалавека: ён паказаў Цімахвею Міронавічу Гвардыяну язык. І гэта было так неспадзявана, што Гвардыян зьбянтэжыўся і спыніўся, ня ведаючы, што яму рабіць далей. Пакуль ён ахамянуўся, там, дзе стаяў Галілей, асталося адно пустое месца.

Дружны бязьлітасна-глумлівы рогат прыгбаў апошні выбух суровага гаспадара і былога кур‘ера высачайшай комісіі па такіх-та і такіх-та справах, і ён, пакорна схіліўшы галаву, пайшоў адмыкаць свае адрыны і сьвірны.

2 У Сівалапах дагараў у шчасьлівым запале новае цудоўнае працы старшыня колгасу „Наша перамога“ Якуб Лакота. Ён доўга і настойна адмаўляўся ад гэтае пасады—не таму, што не хацеў, а што ня пэўны быў у сваіх фізычных сілах. Яго ўгаварвалі з цёплай сваяцкай ласкай, абяцалі поўную ад усіх дапамогу, і ён, нарэшце згадзіўся. На сакратара колгасу з яго пропозыцыі выбралі Мікіту Лаўрынёнка, маладога кемкага гаспадара, што спрабаваў некалі ўчыцца на агранома.

У Якуба Лакоты ад першага таго сходу асталося ўражаньне радаснага зьдзіўленьня, блізкага да неймавернасьці. Сапраўды, цяжка было даць веры, што гарачыя сьмелыя яго імкненьні, якія часьцяком самому яму здаваліся недасягальнымі лятункамі, сталі раптам на парозе свайго зьдзяйсьненьня. І сам ён будзе ня толькі браць чынны ўдзел у гэтай казачна-новай будоўлі, а нават будзе ёю кіраваць.

Для Якуба Лакоты канчаткова згінулі хвіліны спакойнага адпачынку—і дні і ночы абярнуліся яму ў бязупыннае напружанае гарэньне. Трагічны разлад паміж яго маладым нязгасным запалам і ўбогімі рэшткамі глыбока паверад жонага здароўя дасягнуў найвышэйшага пункту. Гэта, ён чуў, не вяшчуе яму нічога добрага, але не задумляўся дужа над гэтым, бо наогул на сваё фізычнае здароўе глядзеў з спакойнаю абыклаю безнадзейнасьцю.

У маладым колгасе адразу занялося жвавае бадзёрае жыцьцё. Першыя праблескі яго—дзіўна-сьвежыя, яскравыя атулены былі вясёлым, чыста сьвяточным уздымам. Якуб Лакота добра разумеў, што колектыў тады толькі адчуе сваю дзейную злучнасьць і сваё значэньне, калі возьмецца супольна за якую конкрэтную жывую работу, і таму з першых-жа дзён зачаў шукаць такое работы.

Пастанавілі адразу пачаць падрыхтоўку да колгаснага будаўніцтва, і на першую чаргу назначылі будоўлю вялікае стадолы на ўсю, якая мела быць абагулена, жывёлу. Дасталі дазвол на вывазку лесу, і з вяселых масавых выездаў па яго зрабілі праўдзівую дэмонстрацыю свае дружнае сілы і энэргіі.

Якуб Лакота здабыў аднекуль будаўнічага тэхніка, і некалькі вечароў узапар зьбіраліся ў яго ў „габінэце“ самарослыя сівалапаўскія архітэктары, каб разам з тэхнікам абмяркоўваць плян новае будоўлі. Гэта былі дзівосныя незабыўныя гадзіны, калі з непраходна-дзікіх зарасьляў цёмнай мужыцкай сьвядомасьці, аплеценых атрутным хмелем спрадвечнага чмуру, раптам завязваўся і паволі расьцьвітаў пышны квет колектыўнай творчай фантазіі, імклівага домыслу і ініцыятывы. Забываліся на ўсё—на позны час, на змору, на нямінучыя турботы заўтрашняга дня—і ў шчыльна зьбітым гарачай дружнасьцю гуртку ламалі галовы над найдрабнейшымі дэталямі складаных будаўнічых конструкцый.

Гэта была першая брыгада колгасу „Наша перамога“. Вынікі яе працы—яшчэ хісткія, няпэўныя, проблематычныя—разыхо-

зіліся па ўсіх Сівалапах і залучалі ў кола далейшых меркаваньняў амаль усіх колгасьнікаў, а часам і аднаасобных гаспадароў. Бо што-ж можа з такой сілай захапіць знудзелую ў тупой абыдзеншчыне сьвядомасьць земляроба, як ня сьмелыя пляны хоць яшчэ і неверагоднага, але конкрэтна-ўяўленага ўжо добрабыту!

Так пачынаў жыць колгас новымі супольнымі інтарэсамі, так завязвалася новая творчая сувязь паміж яго сябрамі.

Тым часам старшыня колгасу меў яшчэ свой асаблівы клопат, якому аддаваў ён пазасталыя ад штодзённых турбот часіны: ён перарабляў свае вялікія, з такой стараннасьцю і з такім цяжарам складзеныя пляны. Фактычна, гэта была не пераробка, а скарачэньне, звужэньне да сьціслых меж сівалапаўскае рэчаістасьці. І праца гэта была Якубу Лакоту бадай не лягчэйшая, чымся першапачатковае іх складаньне. Гэта была вельмі балючая праца, бо выпадала з бязьлітаснай жорсткасьцю абцінаць пышныя квяцістыя галіны таго дрэва новага жыцьця, якое стварыў быў ён у сваім творчым парываньні. Яго стан быў падобны да стану мастака-разьбяра, які, стварыўшы бязьмежна-прыгожы вобраз, прымушаны быў-бы груба абсеч яго чароўныя формы, каб мог ён зьмясьціцца ў прызначанай яму нішы. Але вострае адчуваньне плодатворнасьці свае працы, упэўненасьць у блізкім зьдзяйсьненьні сваіх новых хоць і меншых, і хоць ня гэткіх яскравых плянаў компэнсавала яму вымушанае самаабмежаваньне, і ён працаваў з даўнейшым запалам, з даўнейшай фанатычнай адданасьцю справе.

Часамі траплялася, што ў сваёй заложнай рабоце сярод глухой маўклівай ночы ён натыкаўся раптам на нечаканую перашкоду, на брак якіх-небудзь конкрэтных матэрыялаў, пра расплянаваньне колгаснага поля, пра разьмяшчэньне тых ці іншых дзялянак, якія мог ён здабыць толькі непасрэдна пабыўшы на месцы. Тады адкладаў ён справу да раньня, і да раньня ня зводзіў вокам, да раньня кавэнчыўся на сваім мулкім ложку, пазіраючы штохвіліны, ці ня сівее ўжо акно марудлівым зімовым золкам.

Нарэшце ў скрозь пракалупанай нецярплівымі вачмі цемры азначаўся хісткі квадрат акна, і Якуб Лакота зрываўся з абрыдзелага, абмуленага непакойнымі бакамі ложка. Насьпех апрануўшыся, ён наўмысна млявай разьмякчонай сном хадою праходзіў цераз агульную хату і, абмінаючы старую матку, якая поркалася ўжо каля печы, пазяхаў з такой заразьлівай слодыччу, што той і ў думцы ня было, каб гэта ён куды выбіраўся з гэткай пары на работу. Так з наіўнай дзяцінай хітрасьцю падманьваў ён пільчотную чуйнасьць маткі, якая з балючай трывогай сачыла за няўхільным згасаньнем свайго каханага сына.

У сенцах цішком, па-зладзейску намацаваў ён старыя лыжы— рэшткі свайго калішняга маладога раздольля—і, ухапіўшы іх пад паху, выбягаў за двор, сьцеражліва азіраючыся, каб часам не злавіла яго на месцы злачынства руплівая маці.

Па полю хадзіў сінімі халоднымі хвалямі апошні перадранішні змрок. Поле дрымала лядовай дрымотай—глыбока самотнае і чулае ў сваёй сіратлівай закінутасьці. Працавіты шоргат лыж працінаў маркотна-застылую цішыню з жорсткай нахабнай рэзкасьцю, нібы, прынёсшы з сабой сьмелы водгалас няспынёнага людзкога жыцьця, дражніўся з санлівай зьмярцьвеласьці зімовага поля.

Якуб Лакота з гоні ішоў шпарка, размашыста, успамінаючы свой калішні спрыт і падманьваючы самога сябе гарачкавым выбухам свае астатняе сілы. Потым сунімаўся, зьняможаны, і, хваравіта аддыхваючыся, усьміхаўся пакорнай вінаватай усьмешкай.

Адылі радасна было і раздольна апынуцца аднаму ў пустым засьнежаным полі, дзе бяскрайная самота давала чароўна зманлівую магчымасьць забыцца на сваю няўздольнасьць і пачуць у сабе былога, поўнага нязбытых сіл, чалавека. Абкружэньне здаровых людзей заўсёды падкрэсьлівае слабасьць хворага, даючы яму відочную, неабмыльную мерку ягонае немачы, і толькі пазбыўшыся гэтых хадзячых узбораў фізычнае дасканаласьці, можа ён пацешыць сябе мімалётнымі бліскамі збавіцельнага самаспадману.

Прайшоўшы з чвэртку вярсты павольным ужо, спакойным крокам, Якуб Лакота з глыбокім здаволеньнем адзначаў, што ён амаль зусім яшчэ ня чуе зморы, і пачынаў старанна вымяркоўваць, колькі б ён здолеў прайсьці за гадзіну, за дзьве, за тры— вядомая рэч, з адпачынкамі, спакваля, не сьпяшаючыся, бо чаго-ж яму канечна ляцець, як няпрытомнаму? Выходзіла, што дужа многа, і тады на паружавелым ад хады і марозу твары ў яго грала бясконца-шчасьлівая радасная ўсьмешка. Яму здавалася, што ён зусім яшчэ здаровы чалавек. І, неўзаметку для самога сябе, ён зноў пераходзіў на шпаркі размашысты рух, каб, з гоні прайшоўшы, зноў спыніцца, задыхаўшыся і закашляўшыся.

Згарнуўшы з сябе астатнія косы ночнага змроку, зімовае поле ў раптоўнай яснасьці паказвала свае прасторы. Гонка, імкліва разьбягаліся ў розныя бакі белыя прытульныя далі, хаваючыся за шызыя драцяністыя хмызьнякі, за гладкія пукатыя ўзгоркі. Навакол—куды ні зірні—паўставалі ў ваччу з дзяцінства знаёмыя куточкі, дзіўныя і інакшыя ў сваім зімовым убраньні. Якуб Лакота бесцарамонна зрываў з іх гэтае пышнае вялічнае ўбраньне і апранаў іх у лёгкія квяцістыя шаты залатога лета. І нейкую часіну жыў ён тады жыцьцём даўно прамінулым, сьветлым, прамяніста-прыгожым...

Успаміны пацешна пераблытваліся, зводзячы ўместа далёкія адзін ад аднаго і дзіўна розныя моманты жыцьця.

Вось засыпанае сьнегам глыбокае глінішча вытыркнула абвеяны ветрам кавалак свайго стромкага звалу. У чорнай адубелай гліне відаць цэлая сыстэма пячурак, што дзеля забаўкі пакапалі, пасьвячы коняй, сялянскія хлапчукі. Напэўна, дзе-не-будзь яшчэ

захавалася такая пячурка, выкапаная калісьці даўно-даўно ягонымі рукамі. Што яна мела тады выбражаць у тых чароўных казкахгульнях сонечнага дзяцінства? Можа якую хату, можа печку сапраўдную, зусім такую, як у хаце, нават можна паліць яе і пячы ў ёй бульбу, можа таемнае логва якога-небудь дужа страшнага зьвера?

Якуб Лакота з усьмешкай успамінае, што ягоная і ўсіхныя пячуркі выяўлялі тады, як абстрэльвалі яны з гэтага глінішча атрад белапалякаў. З гэтых пячурак слаўныя вышлі былі байніцы!

Успамін далёкага дзяцінства шчытна сплятаецца з пякучаяскравымі карцінамі партызаншчыны. І цяжка азначыць, што мілей успамінаецца: тое ці тое?

А вунь далёка леваруч паўстае густая сьцяна лесу. Гэты лес завуць Ганьніна пушча, і пра романтычна-таемную Ганну блукае па ўсёй акрузе ці мала страшных і прыгожых легенд, якія калісь былі і яму глыбейшай сапраўднасьцю, чымся тое, што ён бачыў наўкола на свае вочы.

Якуб Лакота ўспамінае, што яму якраз і трэба да гэтае пушчы, і збочвае туды з вялікай ахвотай.

Тут зноў ружовыя карціны дзяцінства (грыбы, ягады, арэхі, лісавы норы), і праз кволую іх ружовасьць гарачай чырваньню выступаюць нязводныя плямы першага пачуцьця—магутнага і дурнога, дзівачнага і бяз меры прыгожага, яснага.

Ён зварачае ў лес па вузкім, абвешаным сьнегавым сарпантынам прахоне, які астаўся на месцы летняй дарогі. З ціхім зьдзіўленьцем прыглядаецца ён да знаёмых мясьцінак, што пахаваліся ад яго пад белай маскай зімы, вышуквае іх, выцягвае вокам з-за сьнегавой заслоны. Ад яго не схаваешся, не!

Вось пад гэтым дубам—ня йначай, як пад гэтым—знайшоў ён некалі дваццаць баравікоў за адзін раз. Як марудна расьце гэты дуб! Ён амаль астаўся такі, як тады, колькі дзесяткаў год таму. А можа гэта зьмяніўся маштаб ягоных вачэй, і тое, што ўдвая ці ўтрая пабольшала, яму выдае гэткім самым?

А вось тут трэба зьвярнуць з дарожкі і пашукаць аднаго дужа патаемнага і дужа зацішнага месца. Да яго ня лёгка дапасьці—тут і ўлетку цяжка прайсьці, а ўзімку, на лыжах, і пагатове. Але дзе-ж ён, быўшы тут, абміне той чароўны куточак, што некалі цьвіў у яго сэрцы адзінымі непаўторнымі ў чалавечым жыцьці красками?

Пяць прысядзістых шырокіх дубоў абсталі маленечкі лапік—палянку. Папраўдзе, тут улетку павінна быць дужа прыгожа. Жывы шацёр.

Але як не падобна тут цяпер да таго, што было! Урослыя ў сьнег дубы паніжэлі, адрузьлі, сталі старыя і няпрыязныя. Замест прытульнае палянкі—крывы сумёт жорсткаг сьнегу.

На вуснах у Якуба Лакоты стыне маркотная балючая ўсьмешка. Ён няўцямна азірае палянку, потым узьнімае вочы ўгору—мо' там асталося што ад ранейшага хараства?—і бачыць жудасна

пакарожаныя чорныя рэбры, а на іх дзе-ні-дзе, як лахманы на брудным целе старога жабрака, чмарае, трупехлае лісьце.

Ён зноў пераводзіць погляд на паляну і спрабуе ўявіць на ей далёкі напоўзбыты вобраз. Ён бачыць яе—самотную, беспарадную—яна плача і працягвае да яго свае рукі, як тады, у астатні раз. З сэрца ў яго цяжка выціскаецца кропля даўнае, рэдкае, вадзяністае пяшчотнасьці. І разам з тым, як падае з сэрца гэтая ўбогая кропля, ураз зьнікае і той смутны перабалелы ў нутры ў яго вобраз.

Іхнае каханьне скончылася пасьля таго, як дзікая белагвардзейская экзэкуцыя абярнула яго ў недалужныя руіны былога чалавека. Вобраз яе смутнае, з сьлязьмі ў вачох, з выцянутымі да яго рукамі—гэта апошняя сустрэча іх на гэтым вось месцы перад тым, як ішоў ён на страшную рызыкоўную справу.

Якуб Лакота ўсьміхаецца ўжо бяз смуткі і болю.

Пакуль ён праз колькі год лячыўся, зьбіваў сяк-так абломкі свайго разьбітага цела, яна вышла замуж. Як ён нарэшце вярнуўся ў Сівалапы і сустрэў яе, яна пастаралася была зірнуць на яго з ранейшай пяшчотнасьцю і балюча абразіла яго сваім вымушаным поглядам.

Яна і цяпер жыве тут—з яе вышла грубая зьвяглівая баба. Якуб Лакота часам думае: якая была-б яна, каб іначай тады, у другі бок павярнулася было іхнае жыцьцё?

І тады ўсьміхаецца бяз смутку і болю...

Аддаляючыся ад знаёмага куточка і ўглыбляючыся ў нетры лесу, Якуб Лакота адначасна аддаляецца думкамі ад сацьмелых вобразаў таго чароўнага часу і ўглыбляецца ў густыя нетры далейшага свайго жыцьця. Сьмешна і сумна: у гэтым жыцьці ня было ў яго больш жанчын. Думка аб гэтым уводзіць яго ў сарамлівае зьдзіўленьне, за якім цішком хаваецца настойлівая нязбыўная прагнасьць да непазнаных уцех, якую ён за-звычай бязьлітасна душыў у сабе цьвёрдай сьвядомасьцю свайго няўздольнага стану.

Сёньня ён адчувае сябе паўнамоцным чалавекам, і сёньня злачынная прагнасьць бярэ ў ім сваю законную неабмежаваную сілу і абарачаецца ў шчымліва-журботнае імкненьне.

Няўжо ён, ня жыўшы, пражыў ужо ўсё сваё мужчынскае жыцьцё? Няўжо ён ня можа знайсьці сабе—хай ня зусім поўнага, хай палавіннага, але сапраўднага чалавечага шчасьця?

З раптоўнай сьмеласьцю і задорам ён пачынае перабіраць сівецкіх жанчын, успамінае свае мімалётныя сустрэчы з імі і ператлумачвае ў пэўны кірунак іхную сяброўскую ад яго прыязнасьць і ласку. З асаблівай упартасьцю бязульная думка яго сунімаецца на Тацяне Шыбянковай.

Тацяна ад таго часу, як паехаў Зелянюк і як утварыўся сівалапаўскі колгас, часта прыходзіць да яго. Яна не баіцца, не бярэ жаднае ўвагі на тое, што гэтыя прыходы могуць выклікаць якія-небудзь нядобрыя дзейкі, могуць набыць сабе ў гра-

мадзе непажаданае тлумачэньне. Ці гэта добра яму ці дрэнна? Можа яна проста ня мае яго за мужчыну і таму так спакойна ідзе да яго, часам нават позна зусім, амаль уначы?

Яна прыходзіць і заўсёды з спакойнаю, трошачку сарамліваю ўсьмешкай пытаецца:

— Я не перашкоджу табе, Якубе?

Потым сядае і пачынае распытваць пра колгас, пра ўсе драбніцы яго маладога жыцьця і ў адказ на ягонае захапленьне радуецца ціха і проста, з мяккай жаночай стрыманасьцю. Неадменна пытаецца кожны раз пра Зелянюка, ці няма ад яго якой весткі, і заўсёды пахваліцца, калі атрымала ад яго ліст, нават троху-па-троху перакажа ўвесь яго зьмест. Яна заўсёды глядзіць на яго, на Якуба Лакоту, з яснай, але зноў-жа трошачку сарамлівай ласкай, нібы хавае ў сабе нейкае сваё бабскае замяшаньне.

Можа гэты мяккі надзвычай прыемны погляд яе тоіць у сабе незразумелае яму салодкае абяцаньне? Можа яе прыходы—гэта выяўленьне яе асаблівага да яго пачуцьця?

Сэрца ў Якуба Лакоты ад гэтае думкі пачынае тукаць у хворых грудзёх з недазвольнай заўзятасьцю і зьбівае навакол сябе клубок даўкага болю, які прымушае спыніцца і аддыхацца. Разам з гэтым і спыняюцца сьмелыя, ня ў меру гарэзныя яго думкі-лятункі, з разгону наткнуўшыся на адчуваньне безнадзейнае фізычнае немачы.

Канчаецца лес, і разам з ім канчаецца кароткі экскурс Якуба Лакоты ў цьмяна ружовы край яго пачуцьцевага раньня, і асядаюць жорстка—стрыножаныя лятункі яго пра нязбытнае (а можа ўжо і непатрэбнае?) шчасьце.

Адгарадзіўшыся ад свае хвіліннае слабасьці сьцяной бязьмернае дзелавітасьці, ён бярэцца за патрэбныя яму выгляданьні і робіць іх перш з хмураю напружанасьцю, з халоднай увагай. Адылі твар яго распагоджваецца, чыстыя вочы загараюцца сьветлым іскрыстым агнём і вусны шукаюць абыклае радасна-шчасьлівае ўсьмешкі.

Ён зноў удаецца ў палкія нястрымныя лятуценьні. Гэтыя лятуценьні—законныя, поўнапраўныя, і ён ня толькі ня гоніць іх ад сябе, а старанна песьціць у сваім сэрцы, бо-ж у іх, у гэтых сьмелых і разам з тым такіх блізкіх, такіх дасягальных лятунках—праўдзівае неад'емнае ягонае шчасьце!

Пустое бязьмежнае сьнегавае поле—ці ёсьць дзе большая прастора вольным разьлётам гарачай фантазіі чалавека? Тут нічога ня трэба бурыць ці перайначваць, пераабражаць—на чыстым шырокім раздольлі можна сьмела ўзнасіць якія-хоця гмахі, можна разводзіць пышныя райскія сады, можна стварыць зусім новы сьвет, ня зьвязаны абыклымі формамі сучаснасьці.

Ён стварыў сабе такі сьвет. Хто яго ведае?—можа сьвет гэты зусім аблудны, няўжытачны чалавеку, можа ён адно сьмешны ў сваёй наіўнай нязграбнасьці? Пра гэты сьвет ён нікому не гаварыў і ня скажа—ён рабіў яго для сябе, каб аздобіць сваю

жыцьцёвую дарогу ясным хараством далёкае мэты. Ён рабіў яго здаўна, складаў яго па маленькім кавалачку—і таму ў ім дзівосна памяшаліся кволыя краскі дзяціных лятункаў з цаглінамі сталых вымеркаваньняў дарослага чалавека.

Ён стаіць сярод самотнага поля і, пільна ўзіраючыся ў сьнегавую даль, бачыць там абрысы збудаванага ім сьвету. Яны—перш нявыразныя бледныя—набіраюць з кожнай хвілінай усё большае лёгкасьці, яны відавочна ружавеюць і, сагрэтыя гэтай ружовасьцю, яшчэ большую маюць прывабнасьць.

І яшчэ больш яскравеюць фарбы, празрыстае ружовасьць насычаецца новаю сілай, пыхае новым агнём—і ўжо гарыць, паланее гордая пераможная чырвань!

Гэта ўзышло нарэшце познае зімовае сонца. Яно вынырнула з пульхнае белі сьнягоў, як з белых пухавых падушак вясёлы тварык дзіцяці, і з шчырай цікавасьцю зірнула на дзівачную будоўлю апантанага чалавека. І, глыбока расчуленае нечаканым хараством, з цёплаю ласкай пагладзіла яго сваімі мяккімі косамі.

Якуб Лакота сьпяшаўся да дому, да тлумных шчасьлівых турбот, у якіх дагарала яго паверанджонае здароўе і сіла.

# 3

На комсамольца Віктара ад'езд Зелянюка зрабіў глыбокае ўражаньне. Праз доўгі час ён ня мог быў пазбыцца дакучлівага пачуцьця сіратлівай журбы, нібы спасьцігнула яго ў жыцьці вялікая беззваротная згуба. Ды яно так і было, бо яго шчырая дружба з Зелянюком, яго пяшчотная адданасьць гэтаму чалавеку стала для яго адным з найглыбейшых рухаў маладой неспакушонай натуры. У ягоным жыцьці сапраўды адкрылася балюча пустое месца.

У такіх выпадках заўсёды горкасьць пераажываньня знаходзіць сабе нейкі асобны, часам нават малазначны пункт для свае фіксацыі (можа гэтым чалавек інстыктыўна хаваецца ад уяўленьня ўсяе велічы страты?)—і ў Віктара за гэты пункт была дробная выпадковая акалічнасьць: ён не разьвітаўся з Зелянюком. Увесь свой смутак концэнтраваў ён на гэтым малазначным пункце, і смутак пераліваўся тады ў едкую шчымлівую крыўду.

Ён ведаў, што Зелянюк паедзе ўраньні, але ня думаў, што гэтак рана. Яшчэ досьвіта прыбег ён да Малахавае хаты і, убачыўшы, што ў чыстай палавіне гарыць сьвятло, увайшоў здаволены, рады, што не спазьніўся, што яшчэ засьпеў перад ад'ездам свайго прыяцеля. Яго крыху зьдзівіла, што ў гаспадаровай палавіне зусім цёмна, але ён доўга аб гэтым не разважаў і адразу падаўся да Зелянюка.

Зелянюка ўжо ня было. У ягоным пакоі няпрыемна кінулася ў вочы халоднае бязладзьдзе, якое, астаючыся па ад'езьдзе чалавека, заўсёды наганяе на блізкіх схутак і нездаволеньне.

Па падлозе рассыпаны былі падраныя паперы, а на стале ляжаў грудок кніг—можа забытых, а можа наўмысьля пакінутых тут. Над кніжкамі схілілася ў глыбокай цікавасьці Аўгінька.

Як увайшоў Віктар, яна спужана адскочыла ад іх, адылі раззлавалася на свой няўмысны спалох і пачала спаганяць злосьць на небараку Віктару.

— Ага, паехаў? Што, спазьніўся? Ага?

У яе ў голасе поўна было праўдзівае, блізкае да сьлёз, злосьці, але прычына тэй злосьці была, бязумоўна, ня ў тым, што Віктар так нахабна яе патурбаваў: Аўгінька такім спосабам вылівала сваё нездаваленьне ад'ездам Зелянюка, бо і яна глыбока была да яго прывязалася і прывыкла бачыць у ім свайго блізкага чалавека.

Віктар дзеля прылікі запытаў, ці даўно паехаў, і панура сеў на зэдлік, што нядбайна высунуты быў на сярэдзіну хаты.

Аўгінька дражнілася далей, толькі ўжо троху ў іншым кірунку.

— Ага, цяпер ня будзеш хадзіць? То дык на дні па дваццаць разоў, а цяпер дык ня тое ўжо? Ага, нахадзіўся?

Віктар скоса зірнуў на яе і зрабіў трагічнае вока.

— А ты што, дужа рада?

Тут Аўгінька злавіла сама сябе на тым, што гэта яна можа больш сабе дапякае, чымся яму, і заціхла ў раптоўнай смутнай сур'ёзнасьці. Віктару гэта ўпадабалася, і ён як мага разьвіваў свой пакорна-пакрыўджаны тон.

— Табе, мусіць, абрыдла, што я хажу сюды? Ты толькі і чакала таго, каб як адчапіцца? Ня ўсьпеў ён паехаць, як ты ўжо з хаты гоніш, ужо загадзя кажаш, каб ня прыходзіў. Добра, я ня прыду... Я магу ня прыходзіць, калі табе гэтага хочацца.

Яна адвярнулася, каб схаваць свае сьлёзы, і прашаптала з пяшчотным дакорам:

— Віця!..

Яны абое ледзьве трымаліся, каб не заплакаць, і абое глыбока ўпэўнены былі, што гэта—з крыўды за ўзаемныя незаслужоныя дакоры.

Але-ткі Віктар і папраўдзе падумаў, як гэта будзе яму цяпер сустракацца с Аўгінькай, ці выпадае цяпер прыходзіць да яе бяз дай прычыны. Яшчэ каб былі яны ў колгасе, тады-б можа і нішто, часам можна было-б залучыць. А так—ніякай грамадзкай сувязі.

І ён, занядбаўшы сваю крыўду, дзелавіта пытаецца ў Аўгінькі:

— Ці пойдзе твой бацька ў колгас?

Яна добра разумее, да чаго гэта імкне, і таксама забываецца на сваю крыўду.

— Хто яго разьбярэ... Маўчыць усё, нават і гаворкі пра гэта не даводзіць. Ён скрозь так—будзе маўчаць, ні слова ня скажа, аж пакуль не даўміцца да чаго.

Віктар зважна ківае галавой і надмеру салідным тонам канстатуе:

— Гэта дрэнна... Няма чаго чакаць... Час ужо абдумаць усё, абмеркаваць... Час ужо... так...

Гэты Віктараў тон, а злашча яго палітыка (ён-жа наўмысьля так, каб не паказаць, на што ён уласна пытаўся пра колгас) страшэнна злуе Аўгіньку, і яна рэзка перапыняе яго:

— Дык пагавары з ім сам, калі хочаш... Што ты мне гэта тлумачыш...

Ён нейкі час маўчыць, а тады пытаецца ўжо іншым тонам:

— Нічога мне не казаў?

Аўгінька разумее, што гэта не пра бацьку, а пра Зелянюка, і выкарыстоўвае зручны выпадак для помсты.

— Ані нічога... Нават і не ўспамінаў... Вясёлы быў такі, усё песьні пеў сам сабе... папраўдзе...

Яна лучае вельмі трапна, бо Віктара гэта коле ў самае сэрца.

„Нават ня ўспомніў. Нават не пераказаў яму ніводнага слова... Не разьвітаўся“...

І яго ахапляе такая моцная крыўда, што Аўгінька, заўважыўшы яе, працінаецца глыбокім да яго жалем і напружана вышуквае якога спосабу, каб паказаць яму сваю ласку. Не знайшоўшы нічога больш складанага, яна проста падыходзіць да яго і асьцярожна датыкаецца да яго рукой, што мае азначыць яе пяшчотнае абыйманьне.

— Дык ты, Віцька, больш ня прыдзеш да нас? Ня прыдзеш?

І яна, сьмешна схіліўшыся да яго твару, зазірае з настойлівай дапытлівасьцю яму ў вочы.

— Ты толькі да яго прыходзіў? Больш табе тут нікога ня трэба?

На гэтым у іх адбываецца вельмі гарачае і досыць неасьцярожнае прымірэньне, бо гэты час у пакой уваходзіць бацька і замалым не засьпявае іх на месцы злачынства...

...Ад таго дня ў жыцьці комсамольца Віктара адбылася значная зьмена, якая ў сутнасьці рэчы пайшла яму на карысьць. Ён стаў больш сур'ёзны, у яго зьявілася новая рыска ў характары—упэўненасьць у тым, што ён робіць, адчуваньне свайго пэўнага месца ў агульнай рабоце. Адсутнасьць Зелянюка, бязьмежны аўторытэт якога амаль цалкам паглынаў дасюль яго дзейную ініцыятыву, прыўчыла яго да самастойнасьці ў жыцьці і працы, да пачуцьця поўнае адказнасьці за свае ўчынкі.

Як і ўсе сівалапаўскія актывісты, Віктар глыбока захапіўся працаю організаванага нарэшце колгасу і стаў аддаваць яму больш часу і энэргіі, чымся гэта дазвалялі асноўныя яго абавязкі, як сакратара комсамольскай ячэйкі, і гэта прывяло яго да рэзкае сутычкі з Сымонам Карызнам. Помнячы паводзіны ў гэтых выпадках Зелянюка і цьвёрда насьледуючы ім,ён скарыў свой юнацкі задор і шчыра згадзіўся з справядліваю заўвагай сакратара партыйнай ячэйі. Яму адно страшэнна не ўпадабалася, калі Карызна з зусім не дзелавой і не таварыскай злосьцю крыкнуў быў на канчатак:

— Я пакажу вам гэту зелянюкоўшчыну!

І вочы ў сакратара ячэйкі гарэлі ў той момант агнём дужа дрэннай нянавісьці.

Гэта было не выпадкова. З таго часу бадай штодня даводзілася Віктару зазнаць на сабе часам справядлівы, а больш не-

справядлівы гнеў Сымона Карызны, адчуць бяспрычынную да сябе яго нянавісьць. Ён зразумеў, што гэта Карызна перанёс на яго ўвесь комплекс пачуцьцяў, якія раней меў да Зелянюка. Ён стрымліваў сябе і маўчаў. Нават у сваіх лістох да Зелянюка старанна абмінаў усё, што датыкалася стасункаў яго з Карызнам, і рабіў гэта з двух меркаваньняў: па-першае, баяўся, каб не падумаў Зелянюк, што ён скардзіцца, намаўляе на Карызну, а па-другое, ён наогул стараўся менш пісаць пра адмоўнае, а больш пра станоўчае, бо хацеў паказаць свайму прыяцелю, што па яго ад'езьдзе з Сіўца ўсё ідзе тут добра—бадай ня горш, як пры ім. Ён адчуваў перад Зелянюком нейкую асаблівую адказнасьць сваю за сівецкія справы, нібы і сапраўды перайшла на яго па Зелянюку ня толькі зацятая варожасьць Сымона Карызны, а і ўся грамадзкая місія непакойнага брыгадзіра.

Трэба сказаць, што Віктарава крыўда на Зелянюка трывала была да першага ліста, які ён атрымаў праз два ці тры дні па ад'езьдзе прыяцеля. У гэтым першым лісьце Зелянюк выказаў шчыры жаль, што не давялося ад'яжджаючы ўбачыцца з ім і ў назвычай цёплым ласкавым тоне напамінаў пра іхную ўмову весьці на далей сваё сяброўства і перапісвацца. Віктар як не ашалеў быў з радасьці і цэлую ноч пісаў ня міласэрна вялікі і бяз меры гарачы адказ, сьледам за якім на бедную Зелянюкову галаву меўся пасыпацца цэлы дождж частых і ня меншых за першага лістоў, на якія шчодра аддаваў палкі юнак свае кароткія маланкава-быстрыя ночы.

Усе лісты, атрыманыя ад Зелянюка, Віктар перачытваў няма ведама па колькі разоў і гарліва складаў іх адзін да аднаго ў сваю запаветную хлапецкую скрынку побач з іншымі сувэнірамі накшталт абгрызеных алоўкаў, сьцірак, сьпісаных пёрак ды інш. Але стакроць перачытаныя і запакаваныя ў запаветнай скрынцы лісты ўсёроўна не давалі спакою—яны стаўпляліся ў нутры назольліва трубо́тным узрушэньнем, і гэта ўзрушэньне балюча расьпінала Віктарава сэрца, настойна патрабуючы выйсьця. Віктар стаў шукаць чалавека, з якім-бы можна было дзяліцца сваімі перажываньнямі, і больш прыдатнага да гэтае мэты чалавека, як Тацяна Шыбянкова, вядомая рэч, знайсьці ня мог. У іх завялося сьмешнае зайздросьлівае спаборніцтва, кожны атрыманы каторы ліст ад Зелянюка выклікаў у атрымальніка па-дзяцінаму непасрэдны эгоістычны трыумф, які адпаведным чынам ўводзіў другі бок у старанна хаванае, але непаражнае засмучэньне. Адылі гэтыя жорстка розныя пачуцьці дзівосна перамешваліся адно з адным пад час неадменных супольных чытаньняў ліста, і сынтэзам іх была слаўная дружба, якая з кожным днём усё мацней і мацней зьвязвала спаборнікаў. Дружба гэта не асталася ў баку ад дапаплівае ўвагі савецкай публікі і ўпляла небараку Тацяну ў чарговую зласьлівую інсынуацыю, міма якой яна, як за-звычай, прайшла з горда ўзьнятай галавой незалежнай жанчыны-грамадзяніна.

Віктару-ж гэта каштавала цэлае вельмі дакліваe сцэны з Аўгінькай, якая аднак скончылася для яго зусім не спадзяванай радасьцю.

Было гэта так...

Дзеля таго, што бацька Аўгіньчын, сівалапаўскі селянін-серадняк Малах Тодараў Загароўскі ўпарта ня пісаўся ў калгас, і комсамолец Віктар абвясьціў яму за гэта індывідуальны бойкот,— небарака Аўгінька, як даўней, кожнага надвячорку—толькі-толькі сядзе за Сівец гультаяватае зімовае сонца—выбягала на вуліцу (трэба-ж даведацца ў суседак, ці зьбіраюцца сёньня ў супрадкі, а хоць гагы зазычыць, а хоць малых паглядзець, каб дзе не патапіліся на каўзялі!), станавілася перад форткай, схаваўшы рукі ў рукаўкі свайго чырвоненькага з чорнай смушковай аблямоўкай кажушка, і пільна ўзіралася пад Сівец, зусім у другі бок, ня туды, адкуль будзе ісьці пунктуальны комсамолец Віктар. І зноў, як даўней, яны ішлі разам аж да млына (гэта-ж ня менш, як гоняў з пяцера!) і, вышаўшы за Сівалапы ды клапатліва азірнуўшыся наўкола, ён зноў неўзаметку, нахаду абнімаў яе аднэй рукой і пяшчотна туліў да сябе і нібыта чуў праз халодную паверхню кажушка мяккую цяплыню яе ўтульна схаванага цела...

І вось неяк так падыходзячы надвячоркам пад Малахаву хату, поўны лёгкай хлапецкай бадзёрасьці і мілоснага трапятаньня, комсамолец Віктар з вялікім зьдзіўленьнем заўважыў, што Аўгінька, стоячы ля свае форткі, ня ўзіраецца, як за-звычай, у процілеглы бок, а з цалкам адкрытай нецярплівасьцю чакае яго і, угледзеўшы, нават ступіла крокаў са два яму насустрач. У голасе, якім зьвярнулася яна да яго, гучэла гарачая рашучасьць і настойная, нават жаласьлівая троху просьба.

— Віця! У нас нікога ў хаце німа... Бацька з маткай паехалі, а малыя недзе гуляюць... Зойдзем да нас... Добра?

Віктар як мага сьціснуў у сабе раптоўную радасьць і прыжмурыў вочы ў страшэнна дзелавітай развазе.

— Хто яго... У мяне зараз невялічкае пасяджэньне... Пакуль зьбяруцца хіба?..

Аўгінька сьціху, не мадымаючы рукі, паціснула яго за кончыкі пальцаў і, зазірнуўшы ў вочы яму сваім асаблівым блізкім, шукальным поглядам, прашаптала:

— Пойдзем, Віця... Ну, пойдзем...

Віктар азірнуўся на бакі і рашуча сігануў у фортку—бадзе, сёньня няма ніякага пасяджэньня, і ён блізка што зусім вольны.

Аўгінька, увайшоўшы ў хату, адразу села на лаўку і насупілася. Віктар памкнуўся абняць яе—дык яна нездаволена адпіхнула яго і адвярнулася. Гэта было ўжо троху ня так, як там, на дварэ, і Віктар здэтанаваўся. Ён падумаў быў, што яна жартуе і сілком павярнуў яе да сябе, аж на вялікае сваё дзіва ўбачыў, што ў вачох у яе бліскаюць сьлёзы.

— Аўгінька! ты на мяне злуешся, ці што?

Замёст адказу Аўгінька, ледзьве стрымліваючы сьлёзы, але жорстка і суха загаварыла:

— Да цябе справы маю... Прынясі мне кніжак пачытаць... вот што... Я таксама пісьменная і ня дурная якая...

Тут Віктар ужо проста асалапеў.

— Якіх табе кніжак, Аўгінька?

— Усіх... Пра ўсе гэтыя вашыя справы...

— Пра комсамол?

— І пра комсамол. А што-ж...

Тут голас у Аўгінькі задрыжэў, і яна яшчэ больш адвярнулася, хаваючы сьлёзы. Віктар праз нейкі час ламаў галаву, шукаючы тлумачэньня такому дзіўнаму яе паводжаньню, але марна. Тады ён асьцярожна крануў яе за плячо і папрасіў ціхім, поўным жалю і пяшчотнасьці голасам:

— Аўгінька... Ты скажы проста, аб чым тут справа. За што ты крыўдзішся на мяне?..

Аўгінька крута абярнулася да яго і, ужо не хаваючы сьлёз, гаварыла ў злосным узрушэньні, якое што хвіліны гатова было сарвацца на горкую роспач:

— Я можа хачу так, як яны... Што я—не чалавек, ці што? Яны і ў нардом, і на сходы і усюды, усюды... Дзіва, што яны разумныя... А з намі, як з дурніцамі якімі... З намі і пагаварыць няможна, нам толькі маніць ды ашукваць нас... А я ня хочу так... Я ня хочу!

Апошнія словы яе, поўныя капрыснага гневу, выбіліся з плачу не спадзявана-цьвёрдымі ноткамі, у якіх гучэла зусім выразная пагроза ў адрас Віктара. Але зараз-жа тон яе недалужна апаў, і яна заплакала ціха і пакорна-звычайнымі дзявочымі сьлязьмі, якія на неспрактыкаванага ды яшчэ такога шчырага хлопца, як Віктар, рабілі акрутнае ўражаньне.

Зьбянтэжаны Віктар разумеў, што „яны“ ў Аўгінькі—гэта Тацяна Шыбянкова і што „мы“ страшэнна раззлаваліся за частыя сустрэчы і дружбу яго, Віктара, з прыгожай, разумнай маладзіцаю. Але гэта толькі ўскладняла сытуацыю, і Віктар яшчэ больш ня ведаў, што рабіць, чым суцешыць расплаканую Аўгіньку. Не даўміўшыся ні да чога больш, ён раптам прапанаваў Аўгінцы такім урачыстым тонам, нібы сапраўды гэта было няма ведама якое шчасьце:

— Я прынясу табе ўсе лісты ад Зелянюка, і мы разам перачытаем іх... Добра?

Аўгінька адным вокам, ды і то з-пад ілба зірнула на яго і, глыбока хліпнуўшы, перапытала:

— Што?

Тут Віктар ужо зусім спанталычыўся, бо і сам ня ведаў, на што ён уласна гэта прапанаваў.

— Бачыш, Аўгінька... Мы заўсёды іх з Тацянай чытаем... Яна мне—свае, а я ёй—свае...

Аўгінька слухала яго з строгім пахмурным чаканьнем, нібыта не разумеючы, да чаго ён гэта вядзе.

— Там і пра цябе ёсьць, Аўгінька... Я табе не казаў? Добра так напісана...

Аўгінька троху ўціхамірана прашаптала:

— Маніш...

— Дадушы, не маню... Каб ты ведала, як ён прыгожа ўмее пісаць—ніякая табе кніжка таго не дакажа. Вось пабачыш...

Аўгінька схапіла яго за руку і рвучкім капрысным рухам прыцягнула бліжэй да сябе, што было знакам поўнага канчатковага прымірэньня. Яшчэ напасьледак хліпнуўшы раз, яна загаварыла аднатонна ласкавым і ўжо зусім спакойным голасам;

— Я па праўдзе, Віця, кажу... Што я—адно сяджу ў хаце ды смакчу гэту няшчасную кудзелю... Ані чалавека жывога ня ўбачыш, не пагаворыш ні з кім... І ты ня прыходзіш ніколі... А каб я хадзіла ўсюды ды аціралася так сярод людзей, дык мо' яшчэ разумнейшая была-б за яе за каторую... Во што...

Віктар нарэшце пачуў пад нагамі цьвёрды дол і, з законнай сьмеласьцю абнімаючы Аўгіньку, выгаварыў ёй дзелавіта і строга:

— А я-ж табе даўно гэта казаў, Аўгінька. Колькі разоў я гукаў цябе—пойдзем, Аўгінька, у нардом, пойдзем, Аўгінька, на сход ці яшчэ там куды... А ты што, пайшла хоць калі? пайшла?

— А што-б татка сказаў?!!

— Ну вось бачыш? Тут ужо і татка... А якія мае адносіны татка да палітычна-асьветнай працы? Ніякіх... Вось сёньня таткі няма, а ў Сіўцы жаночая сходка... Ну, гайда са мной?..

Аўгінька бялесна ўздыхнула.

—Хату неяк кінуць адну, а то-б да душы пайшла... Ды і малых нешта няма—гэта-ж ужо цёмна зусім...

Тут пунктуальны комсамолец Віктар мусіў успомніць, што ён забег сюды толькі „пакуль зьбяруцца", і, хоць ніхто там сёньня і ня думаў зьбірацца, а тут надзвычай цёпла блішчэлі яму пасьля сьлёз любыя Аўгіньчыны вочы, але ні за якія вочы ня мог аддаць комсамолец Віктар свайго прэстыжу сталага чалавека і грамадзкага працаўніка. Таму, сьціснуўшы зубы, мусіў ён пераказаць сваю мімавольную і абсалютна не сваячасовую ману:

— Ну, Аўгінька, мяне чакаюць там... Я прынясу табе заўтра кніжак, і мы аб усім пагамонім...

Праводзячы яго, Аўгінька нібы выпадкова зусім успомніла:

— Заўтра па абедзе татка зноў паедзе да дзядзькі...

І дамысны Віктар узяў гэта, вядомая рэч, пад увагу.

Вышаўшы з хаты, ён горда узьняў галаву і пасігаў у Сівец размашыстым, бадзёрым крокам чалавека, якому ў жыцьці адкрываюцца бязьмежна шырокія і квяцістыя пэрспэктывы.

4 Скончыўшы раскулачваньне ўсіх прызначаных да гэтае мэты сівецкіх гаспадароў, Пацяроб з шляхэтнай сьціпласьцю і лагоднасьцю далажыў Сымону Карызну.

— Раскудлычыў, Сымонка. . Цяпер будзем у колгас запісваць...

Паглядзеўшы на яго жаласна скрыўленую фізыёномію, можна было падумаць, што ён ня толькі ня пышыцца сваімі баявымі ўдачамі, а, наадварот, цяжарыцца імі і гатоў вялікадушна перакласьці іх на гонар каго другога. Але гэтая знадворная сьціпласьць была толькі асаблівым выяўленьнем яго бязьмежнай амбіцыі, бо ў глыбіні душы ён перажываў цяпер часіны найясьнейшага, якога даўно ня знаў ён, трыумфу.

Ён коратка, але надзвычай ясна выклаў Карызну свой геніяльны плян правядзеньня запісу ў колгас, і Карызна цалкам з ім згадзіўся.

Плян быў просты і радыкальны.

Назаўтра зранку Пацяроб разам з дзядком Цівунчыкам і яшчэ некалькі добраахвотнікамі пачаў з хаты ў хату абхадзіць мястэчка. Што ён рабіў, зайшоўшы ў каторую хату, якія ужываў мэтоды агітацыі і пропаганды, гэта аставалася на яго шчырым пацяробаўскім сумленьні, але выходзіў ён адусюль з гордым выглядам пераможцы і нядбайна кідаў свайму сакратару кароткую многазначную фразу:

— Станоў, Цівунчык, чарговы нумар...

У сёмай хаце ня было дома гаспадара. У восьмай таксама. І тое самае ў дзевятай.

Пацяроб зразумеў, што гэта значыць. Нават ня міргнуўшы вокам, ён перайшоў на другі канец мястэчка і зачаў ад першае хаты. Усё пайшло ў належным парадку.

А прыблізна ў сёмай хаце ня было дома гаспадара.

Пацяроб вышаў на вуліцу і нейкі час стаяў, глыбокадумна раскірэчыўшы ногі і абмяркоўваючы неспадзяваную сытуацыю Па якой хвіліне ён размашыста стукнуў далоньню ў лоб, што адзначала ў перакладзе на старагрэцкую мову:

— Эўрыка!

І павёў свой наступ інакшай тактыкай. Ён браў хаты ня ўрад, адну па аднэй, а ўроскідзь, нечакана зьяўляючыся то ў тым, то ў другім канцы мястэчка. Гэта давала больш працы яго бясконца- даўгім цыбатым нагам, але гарантавала прынамсі пяцьдзесят процантаў удачы.

Па мястэчку пайшоў дзівосны рух. Гаспадары пераходзілі з хаты ў хату, ад суседа да суседа, ад сваяка да сваяка, туляючыся, каб ня трапіць на вострае вока страшнага колектывізатара.

Пацяроб быў настойны і неадступны, як цень. У адказ на хітрыя манэўры дамыснага жыхарства ён то-ж пачаў ужываць стратэгічныя спосабы, якія-б зрабілі гонар не абы-якому камандзіру. Ён пачаў практыкаваць тонкія дывэрсыі: намеціўшы пункт

этакі, дэмонстрацыйна абмінаў яго, падаючыся зусім у іншы бок, а тады раптам варочаўся і, як каршун на высачаную згары ахвяру, кідаўся на няшчасную халупу. Потым ён завёў сыстэму папярэдняй выведкі, скарыстаўшы на гэтую мэту пару спрытных, дэтэктыўна настроеных падшывальцаў, якія рэгулярна даносілі яму, у якой хаце былі сабраўшыяся гаспадары.

Так выяваў адважны няўломны Пацяроб, і ўрачысты дзядок Цівунчык справна выстаўляў у сваім сьпіску трофэяў „чарговыя нумары".

Як праходзілі паўз недарэчную сядзібу старага Галілея, Пацяроб суняўся і скоса згары ўніз зірнуў на ўгрузлую ў сьнег халупку. Потым ўзьняў адно вока і, як певень на воблака, паглядзеў на сьціплы Галілееў ветрачок, які ў гэты час круціўся з пакорнай і цалкам добрамыснай павольнасьцю. Усьміхнуўшыся троху пагардліва, а троху добрадушна, Пацяроб збочыў на вузенькую у адну ступню—Галілееву сьцежку, прыемна адчуваючы свой годны хвалы дэмократызм, які ня грэбуе нават такімі нікчэмнымі, ні да чаго ня прыдатнымі людзьмі, як Галілей.

Дзьверы ў Галілеевай хацёнцы былі завалены з сярэдзіны. Пацяроб уладарна грукнуў у іх і праз хвіліну паўтарыў свой задзірыста-грозны сыгнал, бо з хаты ня чуваць было жаданага гуку. Тады Пацяроб паляпаў, даўжэй і больш настойліва, але вынік быў той самы.

Гэта была відочная абраза яму, як прадстаўніку мясцовае ўлады, бо Галілей быў, ясная рэч, у двара—нават пачуўся быў з хаты стрымана-перасьцярагальны брэх ягонага сабакі. Каб канчаткова ўпэўніцца ў зламыснай дэмонстрацыі старога дзівака, Пацяроб сігануў у сумёт і, схіліўшы твар да маленькага і нізкага ваконца, азірнуў усё нутро Галілеевае хацёнкі. Пышнае бязладзьдзе, якое панавала ў хацёнцы, затрымала на сябе ягоную ўвагу і распацешыла яго. Каб ён загадаў усяму свайму сельсавету зьнесьці ў адну хату па каліву ўсякага, якое толькі ёсьць на сьвеце, гломазду, дык бы ня вышла таго адменнага сьметніка, які быў ў Галілеевай хаце. Тут было усё, апрача самога гаспадара.

І Пацяроб усьміхнуўся з вялікадушнай паблажлівасьцю. Ён ужо не злаваў на Галілея, хоць можа той і схаваўшыся быў дзе-небудзь у прытульным куточку, бо што ты возьмеш з такога вар'ята? І каб сказаў яму хто-небудзь, што кожнае каліва з Галілеева сьметніка мае сваё адмысловае прызначэньне, што ўсё гэта—матэрыял да яго новай надзвычай важнай работы, ён-бы плюнуў таму ў вочы і назваў-бы яго таксама вар'ятам.

Так і астаўся стары Галілей неколектывізаваны.

А каб вялічны Пецяроб у залішняй пагардлівасьці ня схіляўся да самага нізу і так нявысокага Галілеева акна, ён можа-б і заўважыў у верхнім куточку верхняе шыбы клок Галілеевае барадзёнкі і пранікліваe Галілеева вока, якое праз увесь час нярухома глядзела на яго бяз страху, бяз трывогі, і нават бяз зьдзіўленьня—з адным незамутнёна-спакойным чаканьнем.

Увечары таго-ж дня змораны, але ваяўнiча настроены Пацяроб прышоў да Сымона Карызны і, нічога не гаворачы, урачыста-шырокім жэстам паклаў перад ім протокол пра арганізацыю ў Сіўцы колектыўнае гаспадаркі, на якім стаялі подпісы большай палавіны Сівецкіх гаспадароў.

Сымон Карызна, прагледзеўшы паперы, весела зірнуў на сьціпла замамыленую Пацяробаву фізыономію і з шчырым захапленьнем крыкнуў:

— І гатова ужо га? Пацяроб! Гатова?..

Пацяроб, учыніўшы на твары сваю жаласна-пагардлівую міну далікатна махнуў рукой.

— Пфэ!..

І ў гэты надзвычай выразьлівы гук уклаў ён увесь свой пераможна-самадзейны настрой, сваю каменную ўпэўненасьць у тым што каб адно далі яму поўную волю, дык ня то што Сівец, а ўся акруга ў яго пішчом бы палезла ў колгас.

Карызна дужа не распытваўся, якім спасабам дасягнуў Пацяроб такой бліскучай удачы, ён нават стараўся як найменш і думаць пра гэта. Ён быў шчасьліва задаволены добрым вынікам, і ў гэтым задавальненьні бясьследна распускаліся цені сумненьняў, што такі спрабавалі цішком улазіць у ягоную сьвядомасьць.

Карызна трыўмфаваў. Ён быў наіўна ўпэўнены, што гэтае дасягненьне—вынік той новай цьвёрдай і пэўнай лініі, якую ён павёў па Зелянюковым ад'езьдзе. Ён меў поўнае права зларадавацца і кпіць у думках з сваіх праціўнікаў якія за адсутнасьцю Зелянюка ўвасабляліся цяпер у рахманай і цярплівай асобе камсамольца Віктара.

— Я пакажу вам гэту зелянюкоўшчыну!

У яго ўжо быў ясны, конкрэтны плян далейшай работы.

Заўтра-ж паводле пастановы агульнага сходу ячэйкі распускае сівапалаўскі колгас, бо яго організацыя была дапушчана, як часовы захад, толькі да ўтварэньня ў Сіўцы агульнага колектыву.

Ніводнага з тых баламутаў ён не дапусьціць да кіраўніцтва ў новым колгасе. Досыць ужо, накіраваліся!

Каго-ж толькі вызначыць за старшыню?

У Пацяроба ёсьць ужо пэўная кандыдатура: Андрэй Шыбянкоў.

Напамінак пра Андрэя Шыбянкова троху зацямрае Карызнаў настрой, але гэта чыста асабістае, да справы неналежнае. Можа нават і лепей будзе, як возьмецца ён за сталую сур'ёзную працу. Менш будзе брынкаць на гэтай нялюбай гамзатай гітары.

Так, кандыдатура падходная.

— Ты з ім яшчэ не гаварыў пра гэта?

— Не гаварыў, любачка... Як-жа я, ня ўзгодніўшы з табой, буду вырашаць такія проблемы. Ён мне памагаў троху—пайшоў цяпер, здаецца, туды, да Веры Міхайлаўны...

Карызна, сам таго не прымячаючы, пачынае раптам сьпяшацца.

— Я таксама меўся iсьцi туды. Пойдзем можа? Там i пагамонiм...

— Пойдзем сабе...

Карызна упэўнены, што гэта ў яго выходзiць зусiм проста, натуральна, што нiкому i на думку ня можа ўзыйсьцi, каб там у яго затачылася ў нутры нейкае дурное едкае пачуцьце. А тым часам Пацяроб, адвярнуўшыся з далiкатнасьцi ў бок, прыплюшчыў вока ня толькi дамысна, а ў значнай меры i насьмешлiва.

...Стары дурней за маладога хлопца кахае...

Фактычна Карызна ня меў нiякай падставы да зайздросьцi, бо апрача iгры на гiтары ён ня бачыў з боку Андрэя Шыбянкова нiякiх асаблiвых падходаў да Веры Засулiч. Але ў гэтых выпадках мова здаровае лёгiкi бывае надта непраканалая, i Сымон Карызна, ня гледзячы на ўсе довады розуму, нiяк не мог пазбыцца iнстынктыўнага пачуцьця апаскi, цi нават боязьнi, якое абуджалi ў iм частыя вiзыты Андрэя Шыбянкова да Веры.

А Пацяроб пэўна глядзеў на ўсе гэтыя рэчы больш проста i вульгарна. Ды такi з боку яно i вiдней, а таму яго кплiвае прыплюшчаньне вока магчыма i мела сякую-такую слушнасьць.

Яны абодвы пайшлi да Веры Засулiч.

Вера сустрэла iх з шумнай радасьцю, пры чым зрабiла парыўчаты i вельмi мiлы рух да Сымона Карызны, адначасна абмiнуўшы з лёгкай сьцеражлiвасьцю Пацяроба, бо той ужо памкнуўся быў да яе з страшэнна мiлоснаю мiнай на твары, якая не вешчавала нiчога добрага.

— П'явачка!

Тым часам „п'явачка", кiнуўшы на Андрэя Шыбянкова змоўна-вясёлы погляд, зашчабятала:

— А я ўжо ведаю ўсё, усё чысьценька. Малайцы, хлопцы! Значыць, у нас у Сiўцы ўжо колгас... А мы яшчэ свой, бабскi хацелi былi рабiць... Сьмех адзiн толькi!..

Андрэй Шыбянкоў, як за-звычай сядзеў, фарсiста закiнуўшы нагу за нагу i брынкаў на вечнай сваёй гiтары. Ен слухаў Верына шчабятаньне з паблажлiвай i, як за-звычай, загадкавай усьмешкай, якая мела дзiўную нахабна-блiзкую сувязь з узьнятым настроем Веры Засулiч. Так прынамсi здалося Карызну.

Карызна адчуваў у гэту хвiлiну да Андрэя вострую варожасьць, якая яму не падабалася самому i ад якой усё-такi ня мог ён нiяк пазбавiцца. Каб гвалтам сьцiснуць яе, прыдушыць, ён у наругу сабе зьвярнуўся да Андрэя ў адменна прыязным тоне:

— Ну, браток Андрэй, прыдзецца цябе запрэгчы. Мы вось з Пацяробам наважылi зрабiць цябе - ведаеш кiм?

Ён зрабiў паўзу, каб пабачыць Андрэеву нецярплiвасьць, але той глядзеў на яго з гордай стрыманасьцю, нiбы гаварыў яму сваiмi чорнымi уедлiвымi вачмi:

— Што-б ні сказаў ты, браце мой, дык усё роўна мяне ня зьдзівіш. Ня тое бачылі...

І Карызна скончыў мову сваю значна сушэй:

— Хочам цябе паставіць за старшыню Сівецкага калгасу.

Андрэй і вокам ня міргнуў—па ранейшаму стрымана ўсьміхаўся і глядзеў на Карызну мала ня з той самай паблажлівасьцю, як на Веру. Нібы не яму гэтым гонар рабілі, а, наадварот, чакалі ягонае ласкі згадзіцца на гэта.

Затое Карызнава цропозыцыя выклікала гарачае захапленьне Веры Засуліч. Яна бліскучымі вачмі глядзела на Андрэя, пляскала ў ладкі і радасна, можа нават троху праз меру радасна, шчабятала:

Ого! Во, хто будзе за старшыню... Старшыня... Старшыня... У, якое начальства...

Карызна раззлаваўся і перапыніў яе наўмысна-сухім дзелавым працягам гутаркі:

— Гэта работа вельмі адказная. Колгас будзе вялікі—адзін на ўвесь Сівец і Сівалапы. Ты добра абдумай, абмяркуй гэтую справу, а заўтра пагутарым...

Андрэй стаў на момант сур'ёзны і дзелавіта адказаў:

— Добра, я падумаю...

Гэта гутарка сапсавала Карызну настрой. Ён злаваў на Андрэя, на Веру і нават на Пацяроба—за вульгарна-дамысную ўсьмешку, якую той кідаў сяды-тады то на яго, то на Веру, то на Андрэя. Ён напінаў усе свае сілы, каб ня зьбіцца з вясёлага прыяцельскага тону, і з гарачаю нецярплівасьцю чакаў, калі нарэшце даўмяцца яны пайсьці і дадуць яму магчымасьць як мае быць пагаманіць з Верай. Ён не ўкладаў у гэтае як мае быць пакуль што ніякага пэўнага зьместу, але чакаў ад гутаркі з Верай нейкага асаблівага задавальненьня.

Вера прыцішэла і амаль ня ўтыкалася ў гутарку. Яна раз-пораз узьнімала на Карызну свае чыстыя, як крышталь, вочы і ўпарта глядзела на яго ня то з маўклівым запытаньнем, ня то з цяжкай развагаю. Карызна чуў на сабе гэтыя погляды, і яны чамусьці яшчэ больш распалялі ягоную злосьць, дадавалі да яе едкае пачуцьцё помсты.

Як Пацяроб з Андрэем нарэшце зладзіліся ісьці, Карызна раптам адмяніў свой замер і замест таго, каб астацца пагутарыць „як мае быць", стаў сьціснуўшы зубы разьвітвацца. Ён быў упэўнены, што яго раптоўны, ніякім чынам не прадуважаны іхным любоўным рэглямантам адыход, зробіць ёй такі самы боль, як і яму.

Вера пайшла, каб зашчапіць за імі дзьверы. У цёмных сенцах яна знайшла Карызнаву руку і сьціснула яе так, што, апрача пяшчотнасьці, ён пачуў у гэтым поціску і ладную, зусім нечаканую ад яе, сілу. Ён крыкнуў хлопцам, што дагоніць, а сам астаўся цалкам здаволены такім канчаткам.

Яна прывяла яго за руку назад, у свой пакой, там абшчапіла моцна за шыю і, зазірнуўшы ў твар яму бліскучымі ад сьлёз вачмі, запытала:

— За что злуешся?

Гэта вышла ў яе так шчыра і так прыгожа, што ў яго ад злосьці не асталася і сьледу. Глыбока расчулены, ён прытуліў яе да сябе і, пяшчотна гладзячы яе валасы, загаварыў у балючым узрушэньні:

— Ты не кахаеш мяне... Ты маніш мне... Можа і сабе маніш таксама... Ты стараешся бачыць ува мне не таго, кім я ёсьць, ты не такога мяне кахаеш...

Ён зачаў быў гаварыць гэта проста, каб расчуліць яе, каб выклікаць яе на прызнаньні, і раптам заўважыў, што сказаў нешта большае за таго, што меўся сказаць, нешта блізкае да страшнай нямінучай праўды, якую ён інстыктыўна хаваў дасюль ад самаго сябе.

Вера маўчала.

Спалоханы сваімі ўласнымі словамі, ён з сударгавай парывчатасьцю сьціскаў яе у сваіх руках, нібы хто вырываў яе ад яго, і шаптаў гарачым бязладным шэптам:

— Што мне рабіць? Вяруська, родная мая... што мне рабіць? Я кахаю цябе бязьмежна—я баюся... мне цяжка, надзвычайна цяжка... Ну, ці кахаеш ты?.. ці кахаеш?..

Яна гэядзела на яго з пякучым жалем, яна ледзьве ня плакала, бачачы яго болеснае мятушэньне. І ён быў нявымоўна рад гэтым, бо ня ведаў, ці можа забыўся ў тую хвіліну, што жаль— гэта яшчэ ня зусім каханьне.

...Стары дурней за маладога хлопца кахае...

## 5

Ізноў выходзіў за Сівец стары спрадвечны пастух Аніська і, стаўшы на ўзгорку ў гордай рыцарскай паставе, задорнай песьняй сваё берасьцянае трубы клікаў на сход маўклівыя Сівалапы.

Сівалапаўскія колгасьнікі ішлі панўрай марудлівай грамадой. Скасаваньне іхнага маладога, але вельмі дружнага, заўзятага колектыву прыгняло іх неспадзяваным цяжарам і атруціла ўсім ім настрой. Дакладна пільнуючыся пастановы агульнага сходу ячэйкі, Якуб Лакота і іншыя сівалапаўскія комуністы, як станавілі пытаньне пра ўваход у агульны сівецкі колектыў, доўга і ўпарта тлумачылі, чаму гэта патрэбна, даводзілі карысьць такога злучэньня, і колгасьнікі нібы-та згадзіліся. А тым часам у кожнага асталося ў нутры глухое нездавольненьне, бо ўсе бачылі як складаўся сівецкі колгас, і чулі, што такі пачатак не вяшчуе нічога добрага.

Рады былі страшэнна тыя, хто зусім не хацеў колгасу. Ворагі колектывізацыі не абмінулі гэтага выпадаку, не скарыстаўшы яго для сваё злоснае агітацыі. Колгасьнікаў атачылі насьмешкамі, кпінамі, дадзявалі ім кароткавечнасьцю іхнага гаспадарваньня.

— Нядоўга паколгасілі, яшчэ ў самы смак не ўвайшлі... Без пяці мінут комунары!

— Яшчэ, дзякуй богу, ня ўправіліся кашуль пазьдзяваць?

— Ці добра ў сацыялізьме?

— От вам сівецкія цяпер пакажуць социялізм!..

Зьявіўся нават настрой зусім больш няісьці ў колектыў, і некаторыя, пачуўшы зычны голас Аніськавае трубы, неўзаметку плявалі і цішком залазілі на печ, строга наказваючы сваім дамоўцам, што, калі хто будзе пытаць, дык іх няма дома. Але большасьць ўсё-ткі пайшлі паспытаць шчасьця ў новым колгасе.

Сход прайшоў млява, маўкліва. Наўрад, каб сышлося там хоць палавіна ўсіх, хто быў запісаны ў колектыў. А і тыя, што прышлі, адчувалі сябе няўпэўнена і скрозь пазіралі адзін на аднаго з адным бясслоўным запытаньнем у вачох:

— Што з гэтага ўсяго будзе?

Карызна адчуваў настрой сходу, яго стрыманы холад, і лёгкая бадзёрая весялосьць, якую ён выяўляў з наўмыснай гучнасьцю, мела ў значнай меры штучны, дэмонстрацыйны характар. Гэтую весялосьць уласна падтрымліваў у ім бадзёры, неўлякліві Пацяроб, праўдзівы герой гэтага дня.

Пацяроб трыумфаваў. Ён пахаджаў па сцэне нардому з такім аплёмбам, што нават той, чые вочы добра прызвычаіліся да яго даўгалыгай фігуры, мог падзіваваць з яе асаблівай, фэномэнальнай нязграбнасьці. Ён што хвіліны зьлёгку торгаў рукой падвешаны на раменчыку цераз плячо наган і з асалодай прыслухваўся да апэтытнага парыпваньня сьвежай скураной похвы. Гэта была прымета яго добрага гумору і філёзофскае самаўглыблёнасьці.

Пацяроб напрасіўся, каб яму дазволілі сёньня зрабіць невялічкі даклад, і чакаў адчыненьня сходу з гордай упэўненасьцю ў грымучым эфэкце свае програмнае прамовы.

Яго выступленьне маўклівая заля сустрэла яшчэ большым, яшчэ халаднейшым маўчаньнем, і гэта яму ўпадабалася, бо ён лічыў, што пачцівае маўчаньне масы перад прамоўцам ёсьць найвышэйшы пункт справядлівай, цалком заслужонай ім пашаны. У яго была дзівосная здольнасьць —гаварыць, не зважаючы на аўдыторыю, і таму прамова яго па праўдзе вышла эфэктная. Ён крычаў, жудасна жэстыкуляваў, нападаў, адбіваўся, жартаваў, нават сьмяяўся—усё гэта перад маўклівым, як лёд, натоўпам. На канчатак ён агаласіў цэлую чараду „хай жыве“ і, зрабіўшы заключны надзвычайна вялічны жэст, першы запляскаў у ладкі, напамінаючы публіцы пра элемэнтарную далікатнасьць.

Заля падтрымала яго рэдкімі вымушанымі воплескамі, і ён пайшоў да свайго месца ў прэзыдыі глыбока сабой задаволены.

Троху ажывіў быў сход Якуб Лакота. Ён гаварыў доўга і праканала, горача пераживаючы кожны сказ свае прамовы, і тупа застылая ўвага натоўпу зачынала ўжо віхраваць сьвежымі

павевамі цікавасьці і ажыўленьня. Як гэта ні дзіўна, але Якуб Лакота—мабыць адзін з усіх сівалапаўскіх колгасьнікаў—быў цалкам здаволены лёсам свайго колектыву. Ён неяк зусім быў забыўся падумаць пра тое, што гэты новы зварот справы кратае яго асабіста, што гэта—як ні кажы—а ўсё-ткі ладны ўдар і па ягоным гонары. Таму і ня было ў ім ні каліва тае мімавольнае прыкрае няёмкасьці, што за-звычай зьвязвае працаўніка, якога чаму-небудзь адставілі ад спраўленай ім работы. Якуб Лакота быў шчыра рады тым, што распачатая імі справа выходзіць на шырэйшую прастору і разам з гэтым набліжаецца да маштабу яго першапачатковых, балюча выпешчаных ім плянаў. А хто будзе праводзіць іх у жыцьцё, хіба ня ўсё роўна яму?

Сваю гэту радасьць і свой творчы запал выліваў Якуб Лакота перад панура-маўклівай, прыбітай Пяцяробаўскім энтузыязмам масай сялян, і маса шавалілася памаленьку, настарожвалася ў яшчэ нясьмелай гатоўнасьці да цяжкага зруху свае закаржавелае сьвядомасьці, да неабыклага разварушэньня сваіх зацьвілых ад доўгага няўжываньня думак. Яшчэ ня ўправіўся скончыць ён прамовы, як з публікі плоймай пасыпаліся да яго запытаньні. Адылі ўстаў з свайго месца монумэнтальны Пацяроб і ўладна супакоіў публіку:

— На запытаньні адкажа ў заключным слове таварыш дакладчык.

Якуб Лакота зірнуў на яго сваімі чыстымі, поўнымі шчырай няўцямнасьці, вачмі і, троху разгублены, пасьпешна скончыў прамову.

Заля застыла зноў у хмурай нязрушнай маўклівасьці.

Абралі на тым сходзе новую ўправу колгасу—усе галасавалі з пакорнай дружнасьцю за выстаўленых кандыдатаў. Адно сівалапаўцы патрабавалі ўвесьці яшчэ ў склад управы Якуба Лакоту і, насупар гвалтоўным заперэчаньням Пацяроба, дамагліся таго, што яго абралі за кандыдата. З такім-жа аднадушшам ухвалілі гучную велягурыстую рэзолюцыю, укладзеную новым старшынём колгасу Андрэем Шыбянковым.

Пад канец сходу Пацяроб многазначна тауханув у бок Карызну і, падміргнуўшы яму, пахваліўся:

— Ну, як, Сымонка, здорава, га?

Карызна зьдзіўлена зірнуў на свайго прыяцеля і, пры ўсёй прыязнасьці да яго, з трывогай падумаў:

— Ці ён сапраўды такі дурань, ці толькі прыкідваецца?

Сымон Карызна добра разумеў, што ўсё гэта ня так, як трэба, ён з шчымлівым болем адчуваў глыбокі фальш пацяробаўскага трыумфу, але яму ўжо ня ў змогу было суняць ход падзей, надаць ім іншы кірунак, бо гэтага іншага кірунку ён ужо ня бачыў і сам. Ашалоплены магутным рухам бурна разгойданага жыцьцёвага мора ён, каб ня захлынуцца ў грозных хвалях яго здаўся на першую, якая трапілася яму, плынь, і гэтая лёгкая павярхоўная плынь паслужна несла яго ў цьмяную далеч, падманьваючы аблудна-ружовымі надзеямі.

Гэта была астатняя стаўка Сымона Карызны.

З таго панурага сходу разышліся былі ўсе з адчуваньнем глыбокага неўразуменьня, няпэўнасьці ў пэрспэктыве заўтрашняга дня, і толькі два чалавекі, найбольш углыблёныя ў сябе, у свой нутраны, цьвёрда збудаваны імі сьвет, былі зусім спакойныя і бадзёрыя: Гэта былі—Пацяроб і Якуб Лакота. Лакоту, праўда, быў устарбаваў троху неўгамонны Галілей, але сваімі загадкавымі выразамі ён узьняў у ім больш няўцямнасьці, чымся сумненьня.

Галілей зьявіўся побач з Якубам, як той выходзіў ужо з мястэчка. Якуб ня зьдзівіўся, угледзеўшы ў цёмры яго хімерна скурчаны цень, і адразу запытаў цёплым прыяцельскім тонам:

— Вы—да мяне, дзядзька Ахрэм?

Галілей замест адказу завёў адразу свае мудраваньні:

Кхе-кхе... Хто яго ведае... Можа і няма ніякае рэволюцыі... ага... можа адно папужалі... Ня ведаю я... ага... нічога ня ведаю.

У ціхім далёкім Галілеевым голасе адчувалася напружаная, прасякнутая глыбокім смуткам, развага. Ён відочна зьбянтэжаны быў гэтым сходам, і дзіўны непакой яго распаліўся новым трывожным агнём.

Хто яго ведае... ага... Як рэволюцыя, дык тлум бывае вялікі ага... ага крычаць людзі... мятушацца... А вось нашы маўчаць... Ён крычыць дык бяз сэнсу... Ён ня так крычыць, як трэба... Няправільна!..

І ў астатніх словах старога дзівака раптам празьвінеў зусім не стасоўны да яго—цьвёрды рашучы гнеў. Якуб Лакота, узварушаны Галілеевай шчырасьцю, азваўся з пяшчотнай ласкай у голасе:

— Вы, дзядзька Ахрэм, усё да сэрца бярыцё, дык і турбуецеся вечна...

Галілей буркнуў зусім ціха, нібы сам сабе:

— Сэрцам больш імеш, чымся розумам...

І троху сьмялей, выразьней дадаў:

— А бяз сэрца чалавеку няможна... ага... зусім няможна... Бяз сэрца розум высыхне ў чалавека...

Якуб Лакота хітравата ўсьміхнуўся сам сабе ў цёмры.

— А рэволюцыя, дзьдзька Ахрэм, бяз сэрца. Яна ня мае жалю, дык значыць ня мае і сэрца...

Галілей настаўбурчыўся.

— Няпраўда! Ёсьць жаль... ага... ёсьць сэрца. Рэволюцыя ад сэрца ідзе... Яна любіць людзей і шкадуе іх... ага... Б'ючы, шкадуе... вось...

Тут стары заўважыў сваё няўмыснае ўзрушэньне і, засароміўшыся яго, стуліўся ў шкарупу звычайнай замкнёнасьці.

Галілей часьцяком хадзіў цяпер да Якуба Лакоты, і яны добрыя гадзіны праседжвалі ўдвух, зашчапіўшыся ў Якубавым „габінэце" і абмяркоўваючы нейкія свае, вядомыя толькі ім дваім, справы. За-звычай па гэткіх гутарках Галілей асабліва пасьпешна

трусіўся да свае замеценае сьнегам хацёнкі і з нецярплівым імпэтам браўся за сваю таемную работу.

Аднак у гэты раз Галілеева візыта была вельмі кароткая. У ім відаць моцна засела ўзьнятае сходам абурэньне і скрозь мардавала яго назольлівай непакойнай турботай, ад якой стары ня ведаў сам куды дзецца. Ці толькі ўвайшлі яны ў Якубаў „габінэт“ і гаспадар узяўся ладзіць сваю мізэрную—пяты нумар—газовачку, Галілей падскочыў да яго і, бесцарамонна замінаючы яму закулдыячыў:

— А вось гэта яшчэ... Жыў быў цар... ага... цар Ляксандр... А ў яго быў праціўнік Гардзей... Гардзей той завязаў быў дужа мудроны вузел і ў наругу цару Ляксандру—на, кажа, разьвяжы, калі ты разумней за мяне... ага... Дык цар, не патрапіўшы, ага... выняў меч і—раз... перасек той вузел... ага... перасек...

Галілеева гістарычная недакладнасьць троху расьсьмяшыла Якуба Лакоту, але ён з далікатнасьці зацяў сваю ўсьмешку і ў тон старому запытаў:

— Ну і што-ж , дзьдзька Ахрэм, хто разумнейшы быў: цар Ляксандар, ці той самы Гардзей?

Галілей гарачкава зацярушыўся на месцы і затрос барадзёнкай.

Дурны быў цар... ага... Дурны Ляксандар... Сячы кожны патрапіць... І гэты... але... і гэты сячэ... А хай разьвяжа, ага... хай разьвяжа?

Якуб зразумеў, што стары гаворыць пра Пацяроба і, каб яшчэ больш падвухрыць яго, спакойна зазначыў:

— Што-ж, бываюць такія моманты, калі трэба дзейнічаць рашуча і сьмела... Ці-ж ня праўда, дзядзька Ахрэм?

Тут ужо стары дзівак зусім распаліўся.

Няпраўда! Няпраўда!.. Не рашучы ён... ага... Ня сьмелы ён... Ён—рызыкант!.. Ён бурыць... ага... ён разбурае... усё разбурае...

Якуб наўмысьля трымаў далей свой жартліва-супярэчлівы тон—яму цікава было разгарнуць да самага нутра Галілеева дзівоснае ўзрушэньне.

— А ведаеш, дзьдзька Ахрэм, і гэта-ж таксама трэба... У жыцьці скрозь працуюць дзьве сілы: адна разбурае, а другая будуе... Вось ён, скажам, разбурае, а вы, дзьдзька Ахрэм, сёе-тое будуеце... Можа для таго, што вы будуеце, ён месца цярэбіць, га?..

Галілей страшэнна спалохаўся гэтага параўнаньня.

— Ён і маё разбурыць... ага... ён разбурыць... Ён глядзеў у вакно... Ён сьмяяўся... ага... сьмяяўся...

І стары раптам кінуўся да дзьвярэй, нібы і па-праўдзе баяўся, што там, у мізэрнай яго хацёнцы, страшны Пацяроб у гэту хвіліну бязьлітасна разбурае ўсю яго таемную цудоўную пабудову.

Якуб памкнуўся суняць яго.

— Куды вы, дзьдзька Ахрэм? Чакайце, пагамонім яшчэ...

Галілей на хвіліну суняўся ў дзьвярох, але гэта ўжо быў звычайны штодзённы Галілей—ціхі, маўклівы, стрыманы. Бур-

